Аляксандр Краўцэвіч

# ПАЧАТКІ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА




Гародня 2025

Аляксандр Краўцэвіч,
доктар гіст. навук

Пачаткі Вялікага Княства Літоўскага
(навучальны дапаможнік)

Рэцэнзенты:
Валянцін Голубеў, доктар гіст. навук
Алесь Смалянчук, доктар гіст. навук

Сістэматызаваны выклад крыніц, гістарыяграфіі па ўзнікненні і пачатковай гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Апісанне перадумоваў, чыннікаў і хады працэсу дзяржаваўтварэння. Шматлікія цытаты з важнейшых крыніц, аб'ёмная бібліяграфія маюць аблегчыць прыгатаванне лекцый і заняткаў для выкладчыкаў ВНУ, а таксама самастойнае вывучэнне праблемы генезісу Вялікага Княства Літоўскага. Артыкулы, рэцэнзіі, дыскусіі ў Дадатках дэталізуюць важныя аспекты праблемы і паказваюць звязаныя з ёй супярэчнасці не толькі навуковага характару. Дапаможнік створаны на аснове манаграфій аўтара "Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага" і "Гісторыя Вялікага Княства Літоўскага 1248–1377 г."

На вокладцы змешчаны малюнак-рэканструкцыя Наваградка 13–14 ст. Паўла Татарнікава

Афармленне: © Міхаліна Краўцэвіч

ISBN 978-5-00076-061-1

Аляксандр Краўцэвіч

# ПАЧАТКІ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА

(НАВУЧАЛЬНЫ ДАПАМОЖНІК)

Гародня 2025

# ЗМЕСТ

# ДАДАТКІ . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 256



# КАРТЫ . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 376



# ТЭСТЫ . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 380

# ТЛУМАЧЭННЕ КАРЫСТАЛЬНІКАМ

Дапаможнік скіраваны выкладчыкам і настаўнікам для падрыхтоўкі і выкладання курсу пачатковай гісторыі (генезісу) Вялікага Княства Літоўскага (далей ВКЛ). Структура дапаможніка разлічаная на розныя па аб'ёму курсы: як пашыраны для гісторыкаў, так і больш кароткі для студэнтаў/навучэнцаў іншых спецыяльнасцей і школьнікаў.

Карыстальнік можа выбраць:

– сціслую інфармацыю для кароткага курсу (ці нават аднаго занятку)

– пашыраную версію,

– спецыяльныя артыкулы з дэталізацыяй пэўных аспектаў тэмы;

– адмыслова падабраныя важнейшыя фрагменты (цытаты) крыніц.

Для асабліва зацікаўленых – дадаткі: спецыяльныя артыкулы па розных аспектах тэмы, дэталёвы спіс літаратуры, кантрольныя практыкаванні-тэсты.

**Галоўная мэта:** аблегчыць і паскорыць падрыхтоўку розных па аб'ёму курсаў па тэматыцы генезісу ВКЛ, прызначаных як для студэнтаў спецыяльнасці "гісторыя", так і іншых спецыяльнасцяў у ВНУ, а таксама для навучэнцаў і школьнікаў.

# ПРАДМОВА

**Утварэнне Вялікага Княства Літоўскага** – адна з важнейшых тэмаў у вывучэнні гісторыі Беларусі, бо ў гэтай дзяржаве сфармаваўся беларускі народ. Аднак працяглы час, менавіта два апошнія стагоддзі, беларуская гістарычная навука не магла выпрацаваць уласны погляд на генезіс ВКЛ па палітычных прычынах.

Паколькі беларусы ў 19–20 ст. не мелі ўласнай нацыянальнай дзяржавы, гісторыю ВКЛ, і ў першую чаргу яго пачаткі, ім выкладалі ў расейскай, польскай і летувіскай інтэрпрэтацыі. ВКЛ залічвалася ў спадчыну названых народаў, а беларусам адводзілася другарадная роля пасіўных аб'ектаў заваёвы і эксплуатацыі.

У кароткія перыяды актывізацыі беларускага нацыянальнага руху ў царскай Расеі ў 1906–1917 г. і яшчэ менш працяглай бальшавіцкай палітыкі беларусізацыі ў 1924–1929 г. удалося толькі запачаткаваць уласную гістарычную навуку. Маладыя кадры нацыянальных гісторыкаў былі фізічна вынішчаныя сталінскімі рэпрэсіямі і на франтах Другой усясветнай вайны.

Пасля вайны ў БССР вывучэнне палітычнай гісторыі ВКЛ не дазвалялася. Такая магчымасць з'явілася толькі ў сярэдзіне 80-х гадоў 20 ст. падчас частковай лібералізацыі камуністычнага рэжыму ў выглядзе г.зв. "перабудовы". Пасля здабыцця Беларуссю незалежнасці, ВКЛ намаганнямі айчынных гісторыкаў уключана ў нацыянальную гістарычную спадчыну. Аднак адзінай канцэпцыі гісторыі ВКЛ, у тым ліку яго пачаткаў, пакуль не выпрацавана.

# Уводзіны

## Дэфініцыя дзяржавы

У святовай навуцы распаўсюджана ўніверсальная класічная – т.зв. трохкампанентная дэфініцыя паняцця “дзяржава”, паводле якой для дзяржавы неабходна наяўнасць **насельніцтва, тэрыторыі, публічнай улады.** Яна сфармулявана нямецкім прафесарам-прававедам Георгам Еллінекам у 19 ст.: “Як прававое паняцце дзяржава ёсць, такім чынам, *карпарацыя, насяляючага пэўную тэрыторыю народа, якая валодае першаснай вярхоўнай уладай*, ці, ужываючы пашыраны ў навейшы час тэрмін, *тэрытарыяльная карпарацыя, якая валодае першаснай уладай*”[1].

А вось разгорнутая дэфініцыя:

Дзяржава – гэта палітычная, прымусовая, тэрытарыяльная, забяспечаная спецыяльным апаратам арганізацыя, якая ахоплівае ўсё грамадства і выконвае акрэсленыя функцыі: унутраную – падтрыманне прававога парадку і знешнюю – абарона перад небяспекай звонку[2].

Гэтая арганізацыя канцэнтруецца на кіраванні грамадствам, таму яна – **палітычная**; прымае рашэнні і выконвае іх, ужываючы пры неабходнасці апарат прымусу, адсюль яна **прымусовая;** валодае пэўнай тэрыторыяй **(тэрытарыяльная);** забяспечана **спецыяльным апаратам,** створаным з людзей, якія прафесійна займаюцца кіраваннем і ўжываннем прымусу.

1 Еллинек Г. Право современного государства. Т. 1. Общее учение о государстве. Санкт-Петербург, 190. С. 114; гл. таксама: Jellinek G. Ogólna nauka o państwe. Warszawa, 1921. S. 19-20. Еллинек Г. Общее учение о государстве / Вступительная статья докт. юрид. наук, проф. И. Ю. Козлихина. Санкт-Петербург, 2004. С. 193.

2 Bohdanowicz J., Dzięcielski M. Zarys geografii historycznej i politycznej cywilizacji. Gdańsk, 1994. S. 42-46.

# ПЕРЫЯДЫЗАЦЫЯ ГІСТОРЫІ ВКЛ ЭПОХІ САМАСТОЙНАСЦІ (1248–1569 Г.)

Гісторыя ВКЛ да ўваходу яго ў Рэч Паспалітую (праз заключэнне Люблінскай уніі з Польскім каралеўствам 1.07.1569 г.) падзяляецца, паводле крытэрыю значнасці пераменаў, на чатыры этапы:

**I этап:** **1248–1315 г.**

**Стварэнне і станаўленне ВКЛ.**

Працягваўся ад узнікнення дзяржавы пры Міндоўгу да канца гаспадарання Віценя. Праходзіў у дзве фазы: нараджэння дзяржавы і змагання за выжыванне.

Гаспадарства імкнулася выжыць ва ўмовах войнаў з Галіцка-Валынскім княствам і Інфлянцкім (Лівонскім) ордэнам; потым – унутранага крызісу, выкліканага забойствам Міндоўга; пазней – у супрацьстаянні з аб'яднаным Тэўтонскім ордэнам. Адносная стабілізацыя была дасягнутая пры Трайдэне, наступных за ім, невядомых па імёнах гаспадарах, потым пры Пукуверы і Віцені. З пачатковым ядром дзяржавы – гістарычнай Літвой, паступова "зліваліся" палітычна і адміністрацыйна Тураўская, Пінская і Берасцейская землі.

**II этап:** **1316–1422 г.**

**Тэрытарыяльны і палітычны рост.**

Распачаўся ад гаспадарання Гедыміна, закончыўся з далучэннем Жамойці. Кіраванне Гедыміна стала пераломным у гісторыі дзяржавы. Пры ім непасрэдная тэрыторыя ВКЛ павялічылася

больш чым утрая; яшчэ шырэй сягнула зона палітычнага ўплыву – на Пскоўскую, Смаленскую, Кіеўскую землі, Севершчыну, Вярхоўскія княствы. Дуумвірат Альгерд-Кейстут аб'яднаў беларускія землі (за выключэннем часткі Смаленшчыны), далучыў Кіеўскую,Чарнігаўскую, Ноўгарад-Северскую землі.

Вітаўт Кейстутавіч далучыў Смаленскую зямлю і Жамойць, ажыццявіў цэнтралізацыю дзяржавы шляхам ліквідацыі буйных удзелаў князёў Гедымінавічаў; пры ім ВКЛ дасягнула зеніту палітычнай моцы, стаўшы гегемонам Усходняй Еўропы. Агульную тэндэнцыю ўздыму істотна не парушыў часовы падзел краіны Гедымінам між сынамі, гэтаксама, як змаганне за вярхоўную ўладу між Вітаўтам і Ягайлам (1380–1392 г.) ды часовая г.зв. персанальная унія з Польскім каралеўствам (Крэўская – 1385–1392 г.).

**III этап:** **1422–1492 г.**

**Стабілізацыя і стагнацыя.**

Працягваўся ад далучэння Жамойці да першай буйной вайны з Маскоўскай дзяржавай.

Пасля непрацяглых унутраных звадаў, звязаных з барацьбой за ўладу паміж Свідрыгайлам Альгердавічам і Жыгімонтам Кейстутавічам, наступіў доўгі спакойны перыяд унутранай стабілізацыі і спаду актыўнасці ў міжнароднай палітыцы. Пры гаспадаранні Казіміра Ягайлавіча (1440–1492 г.) стабілізацыя перайшла ў стагнацыю, ВКЛ пастутова страціла дамінуючую пазіцыю ва Усходняй Еўропе на карысць Масквы. Змену гегемона ў рэгіёне зацвердзілі вынікі першага буйнога маскоўска-ліцвінскага збройнага

сутыкнення – вайны 1492–1494 г., распачатай Маскоўскай дзяржавай.

**IV этап: 1492–1569 (1582) г.**
**Супрацьстаянне з Маскоўскай дзяржавай.**

Пачаўся ад першай буйной вайны з Масквой, закончыўся Люблінскай уніяй з Польскім каралеўствам. Таксама ў канцы 1560-х гадоў была дасягнутая раўнавага сілаў у Інфлянцкай вайне, якая закончылася ў 1582 г. паразай Масквы.

Дамінантай палітычнага жыцця краіны стала арганізацыя абароны перад маскоўскай агрэсіяй. Серыя войнаў, пры агульнай перавазе Масквы, прывяла да вымушанай уніі з Польскім каралеўствам, у выніку якой ВКЛ страціла Украіну і Падляшша, а таксама значную частку дзяржаўнага суверэнітэту.

* * *

Як звычайна бывае ў гісторыі, палітычная храналогія не тоесная перыядызацыі эканамічнага і культурнага жыцця. Напрыклад, у адрэзак часу паміж 1240 г. (разбурэнне манголамі Кіева) і 1385 г. (Крэўская унія) адбывалася пераарыентацыя земляў Украіны, Беларусі і Летувы з візантыйскай на заходнееўрапейскую цывілізацыю[3]. Найперш змены сталі заўважнымі ў матэрыяльнай культуры (будаўніцтва гатычных абарончых вежаў, з'яўленне новых еўрапейскіх катэгорый матэрыяльнай культуры: узораў узбраення, кафлі, дахоўкі, манеты), потым – у ідэалогіі (хрышчэнне ў каталіцтва першага гаспадара ВКЛ Міндоўга, дэкларацыя прынаяцця каталіцтва Віценем, Гедымінам, Альгердам, урэшце – хрышчэнне і дзяржаўная пратэкцыя каталіцтву Ягайлы з 1387 г.).

3 Кравцевич А., Смоленчук А., Токть С. Белорусы: нация Пограничья. Вильнюс, 2011. С. 33 – 52.

У другой палове 14 – першай палове 15 ст. у Еўропе разгортваўся буйны дэмаграфічны крызіс (эпідэмія бубоннай чумы – “Чорная смерць”, спад вытворчасці сельскай гаспадаркі), які не абмінуўі земляў ВКЛ. З матэрыялаў археалагічных даследаванняў вядома пра істотнае змяншэнне колькасці сельскіх паселішчаў (напрыклад, на Беларусі выяўлена вельмі мала селішчаў 14 ст.) і значна меншую інтэнсіўнасць гарадскога жыцця[4].

У 16 ст. на культурнае і мастацкае жыццё істотна паўплывалі Рэфармацыя і Контррэфармацыя (з канца стагоддзя), а на гаспадарку – аграрная рэформа – Валочная памера.

Важным рубяжом не толькі ў рэлігійным жыцці краіны, але і ў іншых сферах грамадскай дзейнасці стала Берасцейская царкоўная унія 1596 г.

У першай палове 16 ст., калі дзяржава перажывала крызіс, звязаны з маскоўскімі войнамі, гаспадарка і культура знаходзіліся на стадыі ўздыму, што дазволіла сучасным даследчыкам залічыць 16 ст. да “залатога веку” Беларусі.

Толькі пазней, у сярэдзіне 17 ст., крызіс стаў усеагульным – ахапіў усе сферы грамадскага жыцця (знішчальныя войны з казакамі, Масквой, Швецыяй, Турцыяй, контррэфармацыя, дэградацыя палітычнай сістэмы “шляхецкай дэмакратыі” і фальварачна-паншчыннай гаспадаркі, узмоцненая ваеннымі спусташэннямі, паланізацыя сацыяльных вярхоў), працягнуўся праз усё 18 ст., давёўшы краіну да пагібелі.

## Фазы дзяржаваўтварэння

Працэс **стварэння** дзяржавы праходзіць дзве фазы: 1. **узнікненне**/нараджэнне і 2. **станаўленне**/змаганне за выжыванне. Спробаў стварэння дзяржаў у гісторыі адна-

4 Соболь В.Е. О хронологии культурного слоя Минска позднефеодального периода [в:] Древнерусское государство и славяне. Мн., 1983. С. 75; Краўцэвіч А.К. Гарады і замкі Беларускага Панямоння 14 – 18 стст.: планіроўка, культурны слой. Мн., 1991. С. 149.

тавана безліч, але толькі адзінкі змаглі перажыць другую фазу.

Нараджэнне дзяржавы – даволі кароткі працэс, займае жыццё аднаго пакалення, часам яшчэ менш. Выжыванне, г.зн. супрацьстаянне спробам іншых міжнародных суб'ектаў зліквідаваць новую дзяржаву і дасягненне міжнароднага прызнання de facto і de jure займае звычайна нашмат больш часу.

**СТВАРЭННЕ** (узнікненне і барацьба за выжыванне) ВКЛ адбылося ў другой палове 13 – пачатку 14 ст. (1248–1315 г.)

Першая фаза: **узнікненне дзяржавы**. Пачалася каля 1248 г. і заняла некалькі месяцаў.

Пачаткам ВКЛ быў палітычны саюз паміж двумя галоўнымі сіламі Гістарычнай Літвы: багацейшым горадам Панямоння Наваградкам і адным з мацнейшых балцкіх кунігасаў Міндоўгам.

Другая фаза: **станаўленне** (барацьба за выжыванне) – дзяржава праз дыпламатыю і сілай зброі даводзіла варожым суседзям сваю жыццяздольнасць. Працягвалася некалькі дзесяцігоддзяў да стабілізацыі ў пачатку 90-х гадоў 13 ст., калі краінай пачаў кіраваць дынастычны род, вядомы як дынастыя Гедыміна.

Працэс **СТВАРЭННЯ** дзяржавы закончыўся пад гаспадараннем вялікага князя Віценя (1295–1315 г.) Сімвалічным актам яго завяршэння стала прыняцце Віценем дзяржаўнага герба "Пагоня" (дакладная дата невядомая).

Пры кіраванні Віценя адпалі сумненні ў жыццяздольнасці панямонскай дзяржавы, а пры ягоным наступніку Гедыміне пачаўся яе актыўны тэрытарыяльны рост.

# ТЭРМІНАЛАГІЧНЫЯ ЗАЎВАГІ

Адным з наступстваў “нацыяналізацыі” (прысваення рознымі народамі) спадчыны ВКЛ стала пэўная тэрміналагічная блытаніна. Галоўнае непаразуменне – неадэкватнае выкарыстанне паняцця “**Літва**”, менавіта, неправамернае атаясамленне гэтага гістарычнага тэрміна з сучаснай краінай – паўночнай суседкай Беларусі, якая мае саманазву Летува (Lietuva). Па розных ненавуковых, найчасцей ідэалагічных, прычынах, усе згадкі ў гістарычных крыніцах тэрміна “Літва” часта адносяць да сучаснай Летувы, хоць у большасці выпадкаў яны датычыліся этнічных беларускіх (а часткова і ўкраінскіх) земляў. Адпаведна, гісторыя даўняй Літвы, як і ўсяго ВКЛ, часам разглядаецца як выключна летувіская гістарычная спадчына, што не адпавядае рэчаіснасці. (Дадатак 9. Дыскусія А.Краўцэвіча з Эльмантасам Мейлусам)

Насамрэч, летувісы ў ВКЛ складалі каля 15% ад агульнай колькасці насельніцтва краіны, летувіская мова не мела дзяржаўнага ці рэгіянальнага адміністрацыйнага статусу і не ведала пісьменнасці да 16 ст. Летувіская арыстакратыя ў Гістарычнай Літве і пры вялікакняскім двары хутка абеларушвалася, а пасля Люблінскай уніі гэтаксама актыўна пераймала польскую мову і культуру.

Каб пазбегнуць тэрміналагічнай блытаніны і забяспечыць адэкватнае ўспрыманне гістарычнай інфармацыі, у гэтай працы прынятыя тэрміны:

| | |
|---|---|
| літоўцы | адносіцца выключна да прадстаўнікоў сярэднявечнага балцкага племя 12 – 13 ст. (летапісная “літва”, у нямецкіх хроніках – “littowen”); |

| | |
|---|---|
| ліцвіны (літвіны) | гістарычная назва жыхароў цэнтральнай вобласці ВКЛ, а таксама ўсіх насельнікаў дзяржавы, незалежна ад іх этнічнага паходжання; |
| русіны | жыхары ўсходнеславянскіх земляў ВКЛ, а таксама праваслаўныя ва ўсёй дзяржаве; |
| летувісы (lietuviai) іх краіна – Летува (Lietuva) | адпаведнік аўтаэтноніма (саманазвы[5]) гістарычных нашчадкаў сярэднявечных літоўцаў, сучасных паўночных суседзяў беларусаў. |

Апошнія паняцці, як і сучасныя тэрміны **“беларусы”, “Беларусь”** ужываюцца таксама ў выпадку іх праекцыі на папярэднія эпохі (напрыклад, “летувіскія/беларускія землі ў сярэднявеччы”).

Паралельна выкарыстоўваюцца тэрміны “Лівонія” і “Інфлянты”. Першы перайшоў да нас з расейскай гістарыяграфіі, другі ўжываўся ў летапісах і дакументах ВКЛ і сёння прысутнічае ў спецыяльных працах.

У дакументах ВКЛ ужываўся тэрмін “гаспадар” як тытул вялікага князя літоўскага. Ад тытулу “гаспадар” паходзяць тэрміны: “гаспадарства”, “гаспадарскія землі”, “гаспадарскія замкі”. Яны з’яўляюцца сінонімамі паняццяў “дзяржава”, “дзяржаўныя” і выкарыстоўваюцца ў гэтай працы.

5 “Сучасныя Л. называюць сваю краіну Летувай, а сябе – летувісамі, і гэтыя назвы з’яўляюцца больш дакладнымі і гістарычна апраўданымі, чым “Літва” і “літоўцы”, якія на працягу некалькіх вякоў ужываліся ў адносінах да Беларусі” – Народная культура Беларусі: Энцыкл. даведнік. Мн., 2002. С. 222.

## ТЭМА I

# КРЫНІЦЫ

Вывучэнне працэсу ўтварэння ВКЛ ускладняецца адносна невялікай колькасцю захаваных аўтэнтычных **пісьмовых крыніц** з 13–14 ст. Іх дапаўняюць **археалагічныя, мовазнаўчыя і этнаграфічныя** матэрыялы. Сітуацыя з малалікасцю сярэднявечных пісьмовых крыніц увогуле характэрная для нашага рэгіёну ў адрозненне ад Заходняй Еўропы, пераняўшай багатую антычную традыцыю пісьмовай культуры. Істотнае павелічэнне колькасці разнастайных пісьмовых дакументаў у ВКЛ адбылося толькі ў другой палове 16 ст. Адсюль і даследаванні беларускіх гісторыкаў ВКЛ рэдка сягаюць раней за сярэдзіну гэтага стагоддзя.

Археалагічныя матэрыялы дапамагаюць вывучыць этнічную сітуацыю ў Панямонні пад час дзеі, наяўнасць і характар паселішчаў, узровень эканамічнага і культурнага развіцця мясцовых гарадоў і інш.

Мовазнаўцы даследуюць тапаніміку рэгіёна – назвы паселішчаў, водных аб'ектаў, урочышчаў і інш., што дае магчымасць высвятлення этнічнай сітуацыі, менавіта развіцця працэсу славяна-балцкіх кантактаў і яго ўплыву на генезіс дзяржавы.

Праз этнаграфічныя матэрыялы рэтраспектыўна разглядаюцца і ацэньваюцца балта-славянскія кантакты і роля ў іх ВКЛ. Этнаграфія дапамагае таксама адказаць на пытанне пра этнічны характар ВКЛ (ведаючы вынік працэсу, можна меркаваць пра яго развіццё).

Комплекснае вывучэнне крыніц дазваляе рэканструяваць агульную ходу працэсу стварэння ВКЛ. Пры гэтым нека-

торыя дэталі застаюцца няпэўнымі ці зусім невядомымі. Напрыклад, нідзе ў пісьмовых крыніцах не сустракаецца назва першай сталіцы дзяржавы, навукоўцам даводзіцца вызначаць яе па ўскосных даных, што выклікае дыскусіі і нават спекуляцыі палітычнага характару.

Толькі прыблізна па адрыўкавых і ўскосных звестках вызначаныя даты кіравання некаторых гаспадароў. Напрыклад, вялікі князь Трайдэн пачаў кіраваць каля 1270 г., а на падставе запісу ў Галіцка-Валынскім летапісе, што жыў яшчэ 12 гадоў, прынятая прыблізная дата канца гаспадарання – 1282 г. Зусім невядомыя імёны вялікіх князёў (а можа быў адзін вялікі князь), якія кіравалі пасля Трайдэна да 90-х гадоў 13 ст.

Такая нявызначанасць найбольш непакоіць летувіскіх гісторыкаў па прычыне асаблівага месца спадчыны ВКЛ у гістарычнай палітыцы Рэспублікі Летува. У летувіскай нацыянальна-дзяржаўнай ідэалогіі ВКЛ адведзена надзвычай важная роля як меркаванаму доказу гістарычнай велічы летувіскай нацыі. Таму белыя плямы ў афіцыйнай гісторыі гэтай дзяржавы лічацца недапушчальнымі і павінны быць ліквідаваныя любым коштам. Летувіскія гісторыкі пад ідэалагічным ціскам вымушана запаўняюць прабелы ў шэрагу вялікіх князёў літоўскіх з 13 ст. імёнамі асобаў, якія ўзгаданыя ў крыніцах з тытулам “князь” (раздзел 7.2). Ці былі яны вялікімі князямі літоўскімі, невядома. Зразумела, што з навукай такія дзеянні маюць аддаленую сувязь.

## 1.1. Пісьмовыя крыніцы

У распараджэнні гісторыкаў маюцца **наратыўныя** крыніцы (летапісы, хронікі), **актавыя матэрыялы** і некалькі **эпісталярных тэкстаў** (лістоў-булаў папы рымскага).

## 1.1.1. Наратыўныя (апавядальныя) крыніцы

Уласна беларускія летапісы з 11–13 ст. да нас не дайшлі (вядомыя нам летапісы ВКЛ пачалі стварацца ў 15 ст.). Гісторыкі лічаць, што летапісанне ў 11–13 ст. вялося ў Полацку (з гістарыяграфіі 19 ст. вядомыя згадкі і нават цытаты з полацкага летапісу), а таксама ў Наваградку ды Гародні. Іх адкрыццё яшчэ магчымае, хоць і малаверагоднае.

Асноўныя звесткі пра дзяржаваторчы працэс у Панямонні паходзяць са створаных у канцы 13 – пачатку 14 ст. летапісаў і хронік суседніх краінаў: Галіцка-Валынскага княства, нямецкіх анклаваў у Прыбалтыцы – Лівоніі (Інфлянтаў) і Прусіі, Ноўгарадскай і Пскоўскай рэспублік. Гісторыкі карыстаюцца таксама больш познімі наратыўнымі творамі, у якія ўключаныя фрагменты ранейшых, не захаваных да нашага часу.

Самая важная крыніца па пачатковай гісторыі ВКЛ – Галіцка-Валынскі летапіс. Яго дапаўняе Старэйшая Лівонская рыфмаваная хроніка. Абодва творы ўзніклі ў канцы 13 ст. незалежна адзін ад другога, таму іхнія звесткі ўзаемна верыфікуюцца.

## Галіцка-Валынскі летапіс

Самай каштоўнай крыніцай па генезісу ВКЛ з'яўляецца трэцяя частка Іпацьеўскага летапісу[6], якая ўяўляе сабой галіцка-валынскі звод і вядзе аповяд аб падзеях ад пачатку да канца 13 ст.[7] Гэты звод быў складзены ў канцы 13-га[8] ці на "зыходзе 80-х – пачатку 90-х гадоў 13 ст."[9]

6 Падзел Д. С. Ліхачова. Гл.: Лихачев Д.С. Русские летописи. Москва-Ленинград, 1947. С. 432-433.
7 ПСРЛ. Санкт-Петербург, 1843. Т. 2. С. 155-227. Наступныя расійскія выданні 2-га тома ў 1871, 1908,1923 і 1962 гг. Маюцца некалькі ўкраінскіх выданняў: 1936, 1989, 2020 г. і польскае 2017 г.
8 Лихачев Д.С. Русские летописи. С. 432.
9 Насонов А.Н. История русского летописания 11 - начала 18 века. Москва, 1969. С. 243.

і дайшоў да нас у пазнейшых копіях. Дзьмітры Ліхачоў у асцярожнай форме выказаў меркаванне пра магчымае ўключэнне ў гэты звод пінскіх летапісаў апошняй чвэрці 13 ст.[10] Арсень Насонаў, аналізуючы помнік, заўважыў, што апошнія артыкулы Іпацьеўскага летапісу адносяцца не да галіцка-валынскіх князёў, а да турава-пінскіх, да таго ж у самім тэксце ёсць "некаторыя ўказанні" на пінскія ўстаўкі. Пінскі перапісчык галіцка-валынскага арыгінала па ходу аповяду ўстаўляў інфармацыю пра мясцовыя справы. Таму Насонаў прыйшоў да высновы, што "агульны арыгінал Іпацьеўскага і Хлебнікаўскага спіскаў" летапісу (датаваных адпаведна каля 1425 г. ці сярэдзінай 15 ст. – Іпацьеўскі і 16 ст. – Хлебнікаўскі) "пісаўся, відавочна, у Турава-Пінскім княстве". Па ходу разгортвання аргументацыі даследчык апусціў дапушчэнне "відавочна" і пісаў аб "уладзімірска-валынскім зводзе Мсціслава, які дайшоў да нас у Пінскім спіску ці рэдакцыі"[11].

Увагу Галіцка-Валынскага летапісу да панямонскіх спраў можна вытлумачыць актыўнай палітыкай Галіцка-Валынскай дзяржавы на Панямонні ў 20–90-х гадах 13 ст. Яна змагалася за кантроль над панямонскімі землямі, найперш той іх часткай, якая была грунтоўна скаланізавана ўсходнімі славянамі. Летапіс паведамляе пра самыя розныя панямонскія справы 13 ст.: войны з яцвягамі, літоўцамі, аб дамове групы літоўскіх князёў з валынянамі (1219) і г.д.

Галіцка-Валынскі звод не меў падзелу на гадавыя запісы, пазнейшая разбіўка па гадах аказалася недакладнай і была скрупулёзна выпраўлена Міхайлам Грушэўскім[12].

10 Лихачев Д. С. Русские летописи. С. 432-433.

11 Насонов А.Н. История русского летописания 11 - начала 18 века. С. 230--233, 243.

12 Грушевський М. Хронольогія подій Галіцько-Волинської літописи // Записки Наукового Товариства імени Шевченка. Львів, 1901. Т. 41. С. 1-72. Беларускай гістарыяграфіі гэтая праца М.Грушэўскага да нядаўнага часу была невядома (гл. Ганцова С.К., Чамярыцкі В.А., Штыхаў Г.В. Сведкі беларускай мінуўшчыны (зборнік дакументаў і матэрыялаў па гісторыі Беларусі 6-15 стст.) Мн., 1996. С. 76.)

Кароткія, часта адрывачныя звесткі летапісу даносяць да нас не толькі інфармацыйныя, але і эмацыйныя водгукі падзей 13 ст., таго напружанага жыцця, шалёнай барацьбы, калі падляскат зброі, праз кроў, смерць, але таксама праз памяркоўнасць і добрасуседскую згоду нараджалася новая дзяржава.

## Лівонская старэйшая рыфмаваная хроніка

– менш каштоўная, але важная крыніца для верыфікацыі звестак Галіцка-Валынскага летапісу – другі па часу стварэння лівонскі твор наратыўнага характару[13] (першым была знакамітая "Хроніка Лівоніі" Генрыха Латвійскага). Яна была напісаная каля 1290 г. на сярэдненямецкім дыялекце і складаецца з 12017 рыфмаваных радкоў. Імя аўтара невядома, толькі па некаторых указаннях з тэксту і асаблівасцях мовы ўстаноўлена, што ён быў рыцарам Лівонскага ордэна[14]. Доўгі час на падставе пазнейшага допісу на адным з рукапісаў хронікі аўтарства памылкова прыпісвалі Дзітлебу фон Альнпеке.

Хроніка ўяўляе сабой твор т.зв. рыцарскай паэзіі і акцэнтуе ўвагу найперш на апісанні ваенных дзеянняў. Аповяд пачынаецца ад сярэдзіны 12 ст. і даводзіцца да 1290 г. Аўтар дэталёва распавядае пра войны Лівонскага ордэна з курамі, семігаламі, эстамі і адносна шмат увагі пасвячае Літве і Русі.

У пачатковай частцы хронікі шмат памылак і недакладнасцей. Больш дакладнай інфармацыя становіцца пачаўшы ад першых дзесяцігоддзяў 13 ст. і асабліва

13 Scriptores rerum livonicarum. Riga; Leipzig, 1853. B. 1; Найлепшае асобнае выданне: Livländische Reimchronik (далей - LR) / Ed. Meyer. Padeborn, 1876; Матузова В. И., Назарова Е. Л. Крестоносцы и Русь. Конец XII в. - 1270 г. Тексты, перевод, комментарий. Москва, 2002. С. 35-42, 69-71, 193-198.
14 Angermann N. Die mittelalterliche Chronistik // Geschichte der deutschbaltischen Geschichtsschreibung. Köln - Wien, 1986. S. 9-12.

дакладна апісваюцца падзеі ад канца 70-х гадоў да 1290 г. – храналагічна блізкія да часу жыццядзейнасці самога аўтара. Ён мала зважаў на храналогію – ва ўсім яго творы ёсць толькі тры гадавыя даты: 1143, 1279, 1290[15]. Тым не менш, названы твор утрымлівае разнастайную інфармацыю палітычнага і геаграфічнага характару і лічыцца важнай крыніцай па пачатковай гісторыі ВКЛ. Даволі шмат у ім інфармацыі пра ўнутраныя справы Літвы. Напрыклад, аўтар паведамляе, што бацька Міндоўга быў “вялікім каралём” (ein könig gros), сам Міндоўг – “багаты кароль”, які жыве ва ўласным ўмацаваным паселішчы (burg) і можа выставіць вялікае войска[16].

Дзве важнейшыя крыніцы – Галіцка-Валынскі летапіс і Старэйшая рыфмаваная хроніка – узаемадапаўняюцца і адначасова з’яўляюцца верыфікатарам адна для другой. Гэтыя наратыўныя творы ўзніклі амаль адначасова, але незалежна адзін ад другога, у розных геаграфічных і культурных асяродках. Таму падзеі, зафіксаваныя абодвума помнікамі, можна ўпэўнена лічыць меўшымі месца ў рэальнасці.

## Усходнеславянскія летапісы

Каштоўныя звесткі аб жыцці насельнікаў Панямоння ў 11–13 ст. падаюць нам помнікі ўсходнеславянскага летапісання: кіеўскага, галіцка-валынскага, ноўгарадскага, пскоўскага. Гэтыя помнікі мелі агульныя вытокі, ствараліся ў адной культурнай і моўнай прасторы, узаемадапаўняліся і перапісваліся. Бывае даволі цяжка, а часам і немагчыма, аддзяліць адзін ад другога, разабрацца ў шматлікіх выпісках, перапісках, устаўках, перапрацоўках. Таму ўс-

15 Vahtre S. Kroniki bałtyckie (inflanckie) 13 - 18 wieku jako źródła historyczne // Zapiski Historyczne. 1969. T. 34. Z. 4. S. 73-79.
16 LR. S. 146, 57-58, 77.

ходнеславянскае летапісанне 12–13 ст. разглядаецца як адзінае цэлае.

Усходнеславянскія летапісы паказалі агрэсіўную паставу кіеўскіх князёў адносна балцкіх плямёнаў на Панямонні ў 11 – першай палове 12 ст. Ужо “Аповесць мінулых часоў” (пачатак 12 ст.) паведамляе аб балцкіх плямёнах на Панямонні і паходах рускіх князёў на Яцвягію (Судовію), Літву, Прусію (Голядзь)[17]. З 12 ст. на старонках усходнеславянскіх летапісаў з’яўляюцца звесткі аб існаванні панямонскіх гарадоў. Напачатку гэта інфармацыя аб Гародні і ўдзеле гарадзенскіх князёў у палітычным жыцці Русі. 13-м ст. датуюцца першыя прамыя звесткі аб Навагрудку, Ваўкавыску, Слоніме і іншых паселішчах Панямоння.

Летапісы зафіксавалі актывізацыю ваенна-рабаўнічай дзейнасці летапісных літоўскіх плямёнаў пачынаючы з 80-х гадоў 12 ст., апісалі дакладныя накірункі, ход і вынікі паходаў. Яны адзначылі факты полацка-літоўскага супрацоўніцтва, калі атрады літоўцаў выступалі ў якасці саюзнікаў некаторых полацкіх князёў. Дзякуючы такой падрабязнай фіксацыі можна заўважыць, што літоўцы ніколі не нападалі на ўсходнеславянскія гарады Панямоння, гэтаксама як і на Полацкую зямлю. (карта 2) Гэтая акалічнасць надзвычай важная для сутнаснай ацэнкі генезы ВКЛ. Знайшла сваё адлюстраванне ў летапісах і барацьба за дамінаванне ў Панямонні паміж Галіцка-Валынскай дзяржавай і маладым ВКЛ.

Важнымі крыніцамі па пачатковай гісторыі ВКЛ з’яўляюцца **ноўгарадскія і пскоўскія летапісы**. Самы старажытны з усіх захаваных ноўгарадскіх і ўвогуле старажытнарускіх летапісных помнікаў – Сінадальны спісак Ноўгарадскага першага летапісу старэйшага зводу – датуецца 13–14

17 Аб гэтых звестках гл.: Пашуто В. Т. Образование Литовского государства. Москва, 1959. С.10-16.

ст.[18] Астатнія дайшлі да нас у спісках 15–19 ст. Нягледзячы на агульную мясцовую арыентацыю, гэтыя крыніцы падаюць шмат важнай інфармацыі па нашай тэме: адносінах летапісных літоўцаў з суседнімі ўсходнеславянскімі дзяржавамі, Рыгай, Лівонскім ордэнам і г.д. Знайшлі водгук таксама падзеі, звязаныя з працэсам дзяржаваўтварэння на Панямонні.

Уласнае летапісанне ў Ноўгарадзе Вялікім пачалося яшчэ ў 11 ст.[19] Ноўгарадскія летапісы фіксуюць актывізацыю нападаў літоўцаў на землі самой рэспублікі, як і на іншых суседзяў, пачынаючы з 80-х гадоў 12 ст. Добра асветлены полацкія справы, полацка-літоўскія сумесныя дзеянні, пскоўска-літоўскія адносіны, напрыклад прыход у Пскоў князя Даўмонта, сцісла апісваюцца падзеі часоў Міндоўга і яго наступнікаў і г.д.

Пскоўскае летапісанне пачалося пазней за ноўгарадскае – у 13 ст.[20], калі распачаўся ўздым эканамічнага жыцця гэтага горада-рэспублікі. Яно яшчэ ў большай ступені, чым ноўгарадскае, было арыентавана на мясцовае жыццё. Тым не менш, у пскоўскіх летапісах знайшлі адлюстраванне шматлікія знешнепалітычныя падзеі, у тым ліку і некаторыя, звязаныя з пачаткам ВКЛ. Напрыклад, у дзвюх рэдакцыях пададзена аповесць аб князі Даўмонце, памянута смерць Міндоўга, апісваюцца літоўска-пскоўскія войны і саюзы.

Вывучэнне названых крыніц шмат дае для разумення працэсу ўтварэння ВКЛ. Напрыклад, яны паказваюць значную розніцу ў кантактах літоўска-полацкіх і адносінах літоўска-ноўгарадскіх, літоўска-пскоўскіх ці літоўска-смаленскіх. Першыя былі выразна саюзнымі, астатнія – пераважна варожымі. Гэтая розніца мае прынцыпова важнае

18 Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов (далей НПЛ)/Под ред. и с пред. А. Н. Насонова. Москва-Ленинград, 1950. С. 5-6; Лихачев Д. С. Русские летописи. С. 441.

19 Лихачев Д. С. Русские летописи. С. 202.

20 Псковские летописи /Под ред. А.Н.Насонова. Москва, 1955. Вып. 2. С. 5.

значэнне для разумення сутнасці працэсу ўтварэння ВКЛ, аднак большасць даследчыкаў, на жаль, ці не заўважала, ці не прыдавала ёй значэння.

## “Апісанне земляў”

У 1979 г. была апублікавана яшчэ адна крыніца з 13 ст. – ананімнае “Апісанне земляў”, ці “Дублінскі рукапіс”, аўтар якой прысутнічаў на цырымоніі каранацыі Міндоўга. Адкрыў і апублікаваў новую крыніцу амерыканскі даследчык Мервін Л. Колкер[21]. Рукапіс “Апісанне земляў” захоўваецца ў бібліятэцы англіканскага універсітэта (Trinity College) у Дубліне (Ірландыя). Ён уключаны ў кодэкс 13 ст. (усяго 406 старонак), у якім займае старонкі № 3–4. Устаноўлена, што рукапіс з’яўляецца копіяй, блізкай па часу стварэння да арыгінала. Аўтар твора прымаў удзел у крыжовым паходзе чэшскага караля Атакара на Самбію (адна з земляў Прусіі) у 1255 г., вёў місіянерскую дзейнасць у Яцвягіі, Нальшанах і Літве. Нажаль, аўтар, хоць быў прысутны на каранацыі Міндоўга, не назваў месца абраду, што магло б закончыць спрэчку пра лакалізацыю першай сталіцы ВКЛ.

Сярод гісторыкаў разгарнулася дыскусія пра дакладны час стварэння рукапісу і асобу аўтара. Найбольшае прызнанне атрымала датыроўка Караля Гурскага, які вывеў, што твор быў напісаны паміж 1255 і 1260 гадамі, паколькі аўтар падае інфармацыю аб паходзе караля Атакара ў 1255 г. і не ўзгадвае ні пра адыход Міндоўга ад каталіцтва (1260 г.), ні пра яго смерць (1263 г.)[22].

З пэўнасцю можна сцвярджаць, што аўтар быў духоўнай асобай, бо вёў місіянерскую дзейнасць і належаў, найвера-

21 Marvin L. Colker. America Rediscovered in the Thirteenth Century? // Speculum. A Journal of Medieval Studies. Cambridge (Massachusetts), 1979. Vol. 54. P. 712-726.

22 Górski K. Discriptiones Terrarum. Nowo odkryte źródio do dziejów Prus w XIII wieku // Zapiski Historyczne. Toruń, 1983. T. 46. R.1981. S. 7-16.

годней, да дамініканскага ці францысканскага манаскага ордэна. Больш дакладнае акрэсленне асобы аўтара на падставе наяўнай інфармацыі немагчыма.

## Хроніка Лівоніі Генрыха Латвійскага

Даволі дакладнае ўяўленне аб міжнародна-палітычнай сітуацыі ў рэгіёне (найперш Усходняй Прыбалтыкі) напярэдадні ўтварэння ВКЛ дазваляе сфармаваць інфармацыя "Хронікі Лівоніі" <Chronicon Livoniae> Генрыха Латвійскага – самы першы і самы знакаміты твор сярэднявечнай прыбалтыйскай гістарыяграфіі[23]. Напісаная на латыні Хроніка – каштоўная крыніца не толькі па гісторыі самых Інфлянтаў, але таксама суседніх Літвы, Русі, ды яшчэ Даніі і Швецыі[24]. Гэты твор на працягу двух з паловай стагоддзяў – ад 40-х гадоў 18 ст. да канца 20 ст. – вытрымаў каля дваццаці выданняў на шасці мовах.

Аўтар хронікі Генрых – святар латгалаў, якія жылі па берагах ракі Імера (на поўначы Латвіі)[25]. Ён нарадзіўся ў 1187 ці 1188 г. дзесьці ў Ніжняй Германіі і памёр пасля 1259 г.

Аповяд аб прымусовай хрысціянізацыі ліваў, латгалаў і эстаў ён пачаў ад 80-х гадоў 12 ст. і давёў да 1227 г.

У хроніцы маецца цікавая інфармацыя аб летапісных літоўцах, пра іх адносіны з лівонскімі тубыльцамі, немцамі, эстамі, Псковам, Вялікім Ноўгарадам і Полацкам. Змаганне Полацка за захаванне свайго ўплыву ў Прыбалтыцы, драматычная абарона і страта апорных пунктаў гэтага ўплыву – Герсікі і Кукейнаса, полацка-літоўскае ваеннае супрацоўніцтва, актывізацыя ваенна-рабаўнічай дзейнасці

23 Генрих Латвийский. Хроника Ливонии. Москва-Ленинград, 1938; Матузова В. И., Назарова Е. Л. Крестоносцы и Русь. Конец XII в. – 1270 г. С. 49 – 68, 77 – 192.
24 Vahtre S. Kroniki... S. 74-77; Angermann N. Die mittelalterliche Chronistik. S. 3-9.
25 Мугуревич Э. Хроника Генриха о народностях в Прибалтике в конце XII - начале XIII в. // Vakarų baltai: etnogenezé ir etniné istorija. Vilnius, 1997. P. 253.

літоўцаў і шмат якія іншыя падзеі старанна зафіксаваны храністам.

Якраз храналагічны адрэзак, ахоплены “Хронікай Лівоніі”, некаторыя гісторыкі лічаць часам фармавання этнічна летувіскай дзяржавы – папярэдніцы ВКЛ. Між тым у творы Генрыха няма ніводнай узгадкі пра гэтую міфічную дзяржаву. Даследчыкі заўважылі, што літоўскіх правадыроў храніст называе гэтаксама, як галоўных людзей іншых мясцовых плямёнаў – “князямі і старэйшынамі літоўцаў” (princeps ac seniores), а ў той жа час усходнеславянскіх князёў тытулуе каралямі (reges, regulus), ставячы іх на адзін узровень з каралямі Даніі і Швецыі. Полацкага і Ноўгарадскага князя часам называе magnus rex[26] (вялікі кароль).

## Хроніка Прускай зямлі Пятра Дусбурга

<Chronicon terrae Prussiae> напісаная святаром з Тэўтонскага ордэна Пятром Дусбургам[27]. Гэтая першая зводная праца па гісторыі Прусіі, стаўшая асновай для ўсіх наступных, стваралася ў 20-х гадах 14 ст. у Кёнігзбергу і была закончана ў 1326 г., пазней даведзеная аўтарам да 1330 г.

Адна з чатырох кніг хронікі, менавіта трэцяя, прысвечана апісанню войнаў Ордэна з прусамі, жамойтамі і ліцвінамі паміж 1231 і 1326 г. Інфармацыя з усходніх і паўднёвых рубяжоў ордэнскай дзяржавы становіцца асабліва насычанай пачынаючы з мяжы 13 і 14 ст. У гэты час аўтар мог быць ужо непасрэдным сведкам некаторых

26 Пашуто В.Т. Образование Литовского государства. С. 132-133; Hellman M. Burgen und Adelsherrschaft bei den Völkern des Ostbaltikums // Europa Slavica - Europa Orientalis. Festschrift für Herbert Ludat zum 70. Geburtstag. 1980, Berlin. S. 41-42.

27 Petri de Dusburg. Chronicon terrae Prussiae // SRP. Leipcig, 1861. Bd. 1. S. 3-219; Biskup M., Labuda G.Dzieje Zakonu krzyżackiego w Prusach. Gospodarka Społeczeństwo-Państwo-Ideologia. Gdańsk, 1986. S. 524-526.

падзей Bellum Lethowinorum (літоўскай вайны). Дусбург, падобна, шырока карыстаўся вуснымі аповядамі сведкаў, а таксама пісьмовымі справаздачамі, якія памежныя комтуры высылалі да вялікага маршала ў Кёнігзберг. Адным з прыкладаў такіх справаздач з'яўляюцца "Wegeberichte" з 80-х гадоў 14 ст. – дэталёвыя данясенні крыжацкіх інфарматараў аб дарогах і паселішчах у Літве[28]. Гістарычныя звесткі, пададзеныя Дусбургам, маюць амаль выключна ваенна-геаграфічны характар.

## Хроніка Лівоніі Германа фон Вартберге

< *Chronicon Livoniae* > напісаная на латыні, апісвае ход падзей ад з'яўлення немцаў у вусці Дзвіны (80-я гады 12 ст.) да 1378 г.[29] Аўтар паходзіў, верагодна, з Паўночнай Германіі, працаваў святаром пры лівонскім магістры і, акрамя таго, выконваў дыпламатычныя даручэнні. Мяркуючы па вялікай колькасці інфармацыі аб барацьбе Ордэна з ВКЛ, фон Вартберге сам прымаў удзел у ваенных дзеяннях.

## Менш важныя і пазнейшыя наратыўныя крыніцы

Менш важнымі крыніцамі з'яўляюцца помнікі лівонскага манастырскага летапісання 13–14 ст. Манастырскія аналы былі пачатыя ў другой палове 13 ст. у старэйшым лівонскім манастыры цэсцырыянцаў у Дзюнамюндэ (Даўгаўгрыва, Латвія), а пазней працягнутыя ў Рызе і Ронненбурзе (Руіена)[30]. Апісанне ў суме ахоплівае перыяд ад 1211 да 1348 г.

28 SRP. Bd. 2. S. 662-771

29 Hermanni de Wartberge. Chronicon Livoniae // SRP. Bd. 2. S. 21-116; Die livländische Chronik Hermann's von Wartberge, übersetzt von E.Strehlke. Berlin-Reval, 1864; Ливонская хроника Германа Вартберга // Сборник материалов и статей по истории Прибалтийского края / Е. В. Чешихин-Ветринский. Рига, 1879. Т. 2. С. 81 – 155; Angerman N. Die mittelalterliche Chronistik. S. 14, там жа літаратура.

30 Vahtre S. Kroniki... S. 78; Angermann N. Die mittelalterliche Chronistik. S. 12.

Акрамя масы легендарных звестак манастырскія аналы ўтрымліваюць і праўдзівую інфармацыю. Як звычайна, галоўную ўвагу храністаў прыцягвалі справы ўласнага краю, але акрамя здарэнняў мясцовага маштабу аналы паведамляюць і аб буйнейшых падзеях, у тым ліку пра барацьбу з ВКЛ. Названымі крыніцамі карыстаўся ў 16 ст. Мацей Стрыйкоўскі для напісання сваёй "Кронікі".

Цікавую інфармацыю большай часткай геаграфічнага, а таксама палітычнага характару падаюць крыжацкія хронікі 14 ст. (дапаўняючы сучасныя ім часткі ноўгарадскіх і пскоўскіх летапісаў). Гэтая інфармацыя найбольш дакладная пры апісанні падзей, блізкіх да часу стварэння твораў.

**Хроніка Віганда з Марбурга**

Хроніка прускага герольда Віганда фон Марбурга[31] была закончана ў 1394 г. Яна ўяўляе сабой узор рыцарскага эпасу і прысвечана галоўным чынам апісанню войнаў з ВКЛ з 1293 да 1394 г.

Інфармацыю аб польска-літоўскіх адносінах пад час генезы ВКЛ, пра першыя спробы хрысціянізацыі Літвы ўтрымліваюць **польскія летапісы**, найперш Вялікапольская хроніка, Аналы пазнанскай і кракаўскай капітул[32].

**Летапісы ВКЛ**

(называныя ў навуковай літаратуры беларуска-літоўскімі), узнікшыя ў 15–16 ст.[33], не могуць лічыцца надзейнымі крыніцамі па ранняй гісторыі ВКЛ. Змешчаная ў іх легендарная частка з апісаннем паходжання літоўскай шляхты і гісторыі ВКЛ да смерці Гедыміна была канчаткова аформленая

31 SRP. Bd. 2. S. 429-662; Zonenberg S. Kronika Wiganda z Marburga. Bydgoszcz 1994. S. 98-104 (гл. літаратуру)

32 Kronika Wielkopolska // MPH. Seria 2. T. 8. /Wyd. B.Kürbis. Warszawa, 1970; расейскае выданне: "Великая хроника" о Польше, Руси и их соседях XI-XIII вв. Москва, 1987; Rocznik kapituły poznańskiej. 965-1309 // MPH. Seria 2. T. 6. /Wyd. B.Kürbis. Warszawa, 1962. S. 21-78; Rocznik kapitulny krakowski // MPH. Warszawa, 1961. T. 2. S. 779-816.

33 ПСРЛ. Москва, 1975. Т.32; Москва, 1980. Т. 35; Улащик Н.Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. Москва, 1985. С. 130-172.

ў першай палове 16 ст. (першы варыянт змешчаны яшчэ ў польскага гісторыка з 15 ст. Яна Длугаша[34]) і з’яўляецца гістарычна-публіцыстычным творам свайго часу. Гістарычная навука прызнала фантастычнымі паведамленні пра паходжанне кіруючай дынастыі з Рыма ад Палемона – сваяка імператара Нерона (ёсць і іншыя варыянты), аб заснаванні прадстаўнікамі гэтай дынастыі ў 13 ст. Навагрудка, аднаўленні пасля татарскага пагрому Гародні, Берасця і да т. п. звесткі.

### 1.1.2. Актавыя матэрыялы і эпісталярый (пасланні-булы папаў рымскіх)

Навука мае ў сваім распараджэнні групу арыгінальных дакументаў (каля тузіна **папскіх булаў** і 10 актаў – т. зв. **дакументаў Міндоўга;** Дадатак 1), узнікшых падчас збліжэння і саюза Міндоўга з Лівонскім ордэнам[35] у 1251–1260 г. Акрамя таго, некалькі папскіх булаў прысвечаны іншым літоўскім падзеям 13 ст.

Ініцыятыва Міндоўга па наладжванню кантакту з Захадам выклікала ажыўленую перапіску з рымскімі папамі па пытаннях яго хрышчэння, каранацыі, стварэння літоўскага біскупства і да т.п. Лісты самога Міндоўга да папы не захаваліся, але аб іх змесце можна меркаваць па адказах адрасата. Асобнымі актамі Міндоўг аддаваў шэраг земляў свайму саюзніку – Ордэну, новаспечанаму літоўскаму біскупу і дараваў прывілеі рыжскім купцам[36].

34 Długosz Jan. Roczniki czyli kroniki sławnego Królestwa Polskiego. Warszawa, 1961. Ks.1-2. S. 286.

35 У 1237 г. Ордэн мечаносцаў (ці Ордэн братоў меча - der Orden der Schwertbrüder), размешчаны ў Лівоніі, аб’яднаўся з Тэўтонскім ордэнам. Ад таго часу лівонская філія апошняга ў крыніцах выступае як “Тэўтонскі ордэн у Лівоніі” (адсюль паходзіць назва “Лівонскі ордэн”).

36 Публікацыі названых дакументаў у: Vetera monumenta Poloniae et Lithuaniae ex tabulis Vaticanis deprompta. T. I (1217-1409) /Ed. A.Theiner. Romae, 1860; Liv-, Est- und Curländisches Urkundenbuch, nebst Regesten

Каштоўнасць гэтых крыніц абумоўлена іх непасрэднай сувяззю з працэсам утварэння ВКЛ. Амаль кожная зафіксаваная імі дэталь, самая дробная ці ўскосная, часта з'яўляецца ўнікальнай. У прывілеі для Рыгі названа дакладная дата каранацыі Міндоўга - 1253 г. Дзякуючы папскім булам стала магчымым з даволі вялікай дакладнасцю рэканструяваць саму працэдуру ўзвядзення на трон першага і апошняга караля Літвы. Аднак невядомым застаецца месца хрышчэння, як і месца каранацыі Міндоўга. А гэта вельмі важная дэталь, ад яе значна залежыць аналіз усяго працэсу дзяржаваўтварэння. Сёння даследчыкі схільныя бачыць месцам хрышчэння і каранацыі беларускі Навагрудак.

Гэтак званыя дакументы Міндоўга[37] належаць да пісьмовых крыніц, узнікшых непасрэдна на месцы падзей. Яны захаваліся галоўным чынам у копіях 14 ст. Частка іх лічыцца фальсіфікатамі лівонскага паходжання, зробленымі таксама ў 13 ст. "Дакументы Міндоўга" паходзяць з перыяду палітычнага збліжэння і саюза Міндоўга з Лівонскім ордэнам. Усяго іх вядома дзесяць, час стварэння акрэслены ў межах 1253–1261 гг. (толькі адзін фальсіфікат датуецца 14 ст.).

Паводле зместу названыя акты можна падзяліць на тры групы: 1-я – прывілей рыжскім купцам (дак. № 1); 2-я – справа зямельных дараванняў Лівонскаму ордэну (дак. № 2, 4–10) ; 3-я – надзяленне зямлёй літоўскага біскупа Хрысціяна (дак. № 3)[38]. У 19 ст. пачалася дыскусія наконт іх аўтэнтычнасці, якая працягвалася і ў першых дзесяці-

/Ed. F.G.Bunge. Bd.1 (1093-1300). Reval, 1853; Codex diplomaticus Lithuaniae /Ed. E.Raczyński. Vratislaviae, 1845; Міндаў, кароль Літовіі, у дакументах і сьведчаньнях = Mindowe, rex Lithowiae, in litteris et testimoniis/ уклад., пер. на бел. мову, камэнт А.Жлуткі. Мн., 2005 – 135 с. іл.

37 Публікацыя з беларускім перакладам: Міндаў, кароль Літовіі, у дакументах і сьведчаньнях С. 21-47.

38 Класіфікацыя Караля Малечыньскага: Maleczyński K. W sprawie autentyczności dokumentów Mendoga z lat 1253-1261 // AW. R.11. Wilno, 1936. S. 1-60.

годдзях наступнага 20 ст. Даследчыкі выказвалі самыя розныя погляды, часам аб'яўлялі падробкай большасць дакументаў, але ніхто не адмаўляў у аўтэнтычнасці ўсяму комплексу. Прычым лічыцца, што амаль усе падробкі рабіліся незадоўга пасля стварэння арыгіналаў, гэта значыць яны з'яўляюцца помнікамі таго самага часу.

Гісторыкі адразу звярнулі ўвагу, што ў існаванні гэтых дакументаў  быў жыццёва зацікаўлены Лівонскі ордэн. Сапраўды, каб ажыццявіліся абвешчаныя ў дакументах зямельныя дараванні, то гэта б вырашыла важнейшую палітычную мэту крыжакоў – злучэнне ў адно цэлае тэрыторый лівонскай і прускай філій Ордэна.

Сама практыка падобных дараванняў –  з'ява для тых часоў звычайная, у тым ліку адорванне крыжакоў паганскімі землямі, якія яшчэ патрэбна было пакарыць і хрысціць. Неахрышчаныя тубыльцы-язычнікі не лічыліся суб'ектам права, іх землі і яны самыя былі “нічыйнымі”. Крыжакі звярталіся за юрыдычным афармленнем сваіх правоў на валоданне землямі язычнікаў да хрысціянскіх уладароў: імператараў, папаў, бліжэйшых манархаў.

Дамовы з тубыльцамі мелі юрыдычную сілу толькі калі яны станавіліся хрысціянамі.

Ордэнскія ўлады імкнуліся загадзя аформіць свае правы на яшчэ не заваяваныя землі. Яны здабывалі спецыяльныя прывілеі ад папы, імператара, ад іншых драбнейшых хрысціянскіх уладароў, складалі дамовы з насельнікамі асобных земляў і не спыняліся перад фальсіфікацыяй падобных дакументаў. Ордэн імкнуўся прадставіць свае дзеянні перад Еўропай як маральныя і законныя, бо ад гэтага залежала ваенная дапамога з боку заходнееўрапейскага рыцарства, без якой ён у Прыбалтыцы меў мала шансаў на поспех.

Памянёныя дакументы каштоўныя тым, што дапамагаюць асвятліць адзін з важных эпізодаў працэсу паўстання ВКЛ, утрымліваюць гістарычную інфармацыю палітычнага (напрыклад, аб спосабе складання дыпламатычных дакументаў, тытуляванні першага кіраўніка дзяржавы – rex Lettowie [Littowie]) і геаграфічнага характару (назвы мясцовасцей).

Лісты-булы рымскіх першасвятароў, адрасаваныя да Міндоўга і іншых свецкіх і духоўных асобаў, утрымліваюць цікавыя звесткі пра палітычную сітуацыю ў рэгіёне. Адна з папскіх булаў, менавіта ліст першасвятара да куронскага і эзэльскага біскупаў ад 17 ліпеня 1251 г. змяшчае інфармацыю пра тое, як тытулаваўся Міндоўг незадоўга перад прыняццем каралеўскай кароны.(гл. раздзел 6.2.1)

* * *

Ордэнскія прывілеі яцвяжскім і літоўскім перабежчыкам дапамагаюць зразумець, як фармаваўся літоўскі набілітэт у 13–14 ст.

Для нашай тэмы важнае значэнне маюць афіцыйныя актавыя дакументы ВКЛ, створаныя і на наступных этапах развіцця дзяржавы ў 14–16 ст.: міжнародныя дамовы, вялікакняскія прывілеі землям, гарадам і канкрэтным асобам, дыпламатычная перапіска і г.д. Яны канкрэтызуюць вынік працэсу дзяржаваўтварэння і дазваляюць рэканструяваць некаторыя яго дэталі. Напрыклад, прывілей Ягайлы брату Скіргайлу з 1387 г. (раздзел 4.3) сведчыць пра наяўнасць беларускіх паселішчаў у бліжэйшай ваколіцы Вільні (ясна, што яны ўзніклі раней за стварэнне дакумента).

Адной з важных частак даследавання генезы ВКЛ з’яўляецца **вывучэнне развіцця тэрміна “Літва”** ва ўсіх яго значэннях (этнічным, палітычным і геаграфічным). Для гэтага

выкарыстоўваліся самыя розныя крыніцы: наратыўныя, актавыя, эпісталярныя, картаграфічныя. Напрыклад, аб сэнсавым напаўненні назвы "Літва" цікавую інфармацыю ўтрымліваюць дамовы 15 ст., падпісаныя вялікімі князямі літоўскімі з Ноўгарадам і Псковам[39].

* * *

У даследаванні працэсу ўтварэння ВКЛ гісторыкі шырока карысталіся аналагамі, здабытымі з пісьмовых крыніц 13–14 ст. па гісторыі Прусіі. Падставай было дапушчэнне, што развіццё абодвух балцкіх этнасаў адбывалася па падобнаму сцэнарыю, але літоўцам у адрозненне ад прусаў удалося стварыць уласную дзяржаву. Падобныя аналогіі дарэчы пры вывучэнні найперш сацыяльнай гісторыі балцкіх плямёнаў. Аднак пры даследаванні дзяржаватворчага працэсу карыстацца такімі аналагамі патрэбна вельмі асцярожна, паколькі гістарычнае развіццё прускага і літоўскага этнасаў мела істотныя адрозненні і нямецкая каланізацыя Прусіі праходзіла не зусім так, як славянская на Панямонні.

## Дамова 1219 г., ідэя "эвалюцыі і заваёвы" і міфічная летувіская дзяржава

Дамова групы літоўскіх князёў з удавой і сынамі валынскага князя Рамана, была заключаная ў 1219 г. Сам дакумент не захаваўся, верагодна ён і не існаваў. У тыя часы на нашых землях дамовы заключалі вусна, а зацвярджалі клятвай: хрысціяне "цалавалі крыж", язычнікі – паводле сваіх абрадаў. Некаторыя абставіны дамовы і значная яе частка пераказаны ў Галіцка-Валынскім летапісе[*].



39 Грамоты Великого Новгорода и Пскова. Москва-Ленинград, 1949. С. 105-106, 115-116, 129-132, 321-322.

**[*] Дамова 1219 г. у летапісным пераказе:**

Въ лѣто 6723. Божіимъ повелѣніемъ, прислаша князи Литовьскіи къ великой княгини Романовѣ, и Данилови и Василкови, миръ дающе. Бяху же имена Литовьскихъ князей: се старѣйшеи, Живинъбудъ, Давъятъ, Довъспрункъ, братъ его Мидогъ, братъ Довъяловъ Виликаилъ; а Жемотьскыи князи: Ерьдивилъ, Выкынтъ; а Рушьковичевъ: Кинтибутъ, Вонибутъ, Бутовитъ, Вижѣнкъ и сынъ его Вишлій, Китеній, Пликосова; а се Булевичи: Вишимутъ, его же уби Миндовгъ и жену его поялъ и братью его побилъ, Едивила, Спрудѣйка; а се князи изъ Даволтвы: Юдьки, Пукѣикъ, Бикши, Ликіикъ. Си же вси миръ даша князю Данилови и Василку, и бѣ земля покойна

ПСРЛ. Санкт-Петербург, 1843. Т. 2. С. 161–162.

Без апісання ці хоць бы згадкі дамовы 1219 г. не абыходзіцца ніводнае даследаванне па пачатках ВКЛ. Яна шмат разоў аналізавалася і інтэрпрэтавалася. Справа дайшла нават да спрэчкі аб прачытанні адной літары ў адным слове. Валынскі летапісец перадаў, па ўсёй верагоднасці, найбольш важныя, на яго думку, дэталі гэтай падзеі[40]. Летапісны запіс утрымлівае імёны 21 балцкага князя, якія ўсе (у тым ліку жамойцкія і дзяволцкія) аб'яднаны назовам літоўскіх. Яны абяцаюць Раманавічам мір і сапраўды, як паведамляе летапіс, "и бѣ земля покойна". Названая крыніца паказвае палітычную сітуацыю ў першых дзесяцігоддзях 13 ст. сярод балцкіх плямёнаў, называных у летапісах літоўцамі. Сярод пералічаных па імёнах князёў прысутнічае Міндоўг, па меркаванню большасці даследчыкаў, будучы стваральнік дзяржавы.

У 20 ст. у дваццацігоддзе паміж усясветнымі войнамі гэтую дамову шматкроць інтэпрэтавалі польскія гісторыкі. Гісторыя ВКЛ у міжваеннай польскай гістарыяграфіі нале-

40 ПСРЛ. Т.2. 1908. Стб. 735-736.

жала да важных тэмаў, бо ў Польшчы апынулася значная частка былых яго земляў.

На падставе аналізу дамовы 1219 г. і іншых пісьмовых крыніц арыгінальную канструкцыю генезісу ВКЛ распрацаваў Генрык Пашкевіч. У адрозненне ад іншых польскіх даследчыкаў, якія прызнавалі творцам дзяржавы Міндоўга і спрачаліся галоўным чынам аб храналогіі і канкрэтным ходзе справы, Пашкевіч лічыў Міндоўга не стваральнікам, а аднавіцелем адзінства дзяржавы, якая склалася раней, менавіта ў апошняй чвэрці 12 ст.

Дэталёва аналізуючы пісьмовыя крыніцы і найперш дамову 1219 г., даследчык прыйшоў да высновы, што верагодным першым аб'яднальнікам Летувы быў бацька Міндоўга і Даўспрунка, невядомы па імю князь, якога пазнейшая традыцыя называе Рынгольтам. Пяць князёў, пералічаных на першым месцы ў дамове 1219 г., Пашкевіч лічыў членамі аднаго роду, удзельнымі князямі, якія пасля смерці бацькі Міндоўга валодалі Летувай. Вярхоўным князем быў адзін з іх – Жывінбуд (у летапісным пераказе дамовы ён названы першым). На думку Пашкевіча, у тэксце дамовы слова "старейше**и**" трэба чытаць у адзіночным ліку – "старейше**й**" і адносіць яго да аднаго Жывінбуда, а не да ўсіх пяці князёў. Пазней Г.Пашкевіч прыйшоў да высновы пра верхавенства пасля Жывінбуда брата Міндоўга Даўспрунка[41].

Сваю тэорыю Пашкевіч прадставіў на V з'ездзе польскіх гісторыкаў (1930 г.)[42], чым выклікаў там дыскусію[43]. Ян Якубоўскі паўтарыў сваю даўнюю думку аб магчымасці існавання яшчэ да часоў Міндоўга федэрацыі некалькіх самастойных княстваў. Ян Адамус заўважыў, што пры аналізе тэксту нельга абмяжоўвацца інтэрпрэтацыяй

41 Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. Warszawa, 1933. T. 1: Litwa a Moskwa w 13-14 wieku. c. 54 – 58.
42 Paszkiewicz H. Litwa przed Mendogem // Pamiętnik V Powszechnego Zjazdu Historyków Polskich. Lwów, 1930. T.1. S. 252-253, 247-248.
43 Pamiętnik V Powszechnego Zjazdu Historyków Polskich T. 2 (protokoły). S. 77-78.

аднаго слова, бо тут важныя гістарычныя высновы залежаць ад наяўнасці або адсутнасці маленькага значка над літарай “и”. Даследчык, спасылаючыся на даследаванне Грушэўскага[44], вывеў, што слова “старейшеи” трэба чытаць у множным ліку.

Генрык Лаўмяньскі не пагадзіўся з Пашкевічам, каб аднесці пачаткі дзяржавы да апошняй чвэрці 12 ст., і заявіў, што князі, пералічаныя ў дамове 1219 г., былі не манархамі (як лічыў Пашкевіч), а “проста правадырамі рабаўнічых бандаў” (“poprostu wodzowie band lupieskich”)[45].

Станіслаў Заянчкоўскі ацаніў канструкцыю Пашкевіча як “занадта гіпатэтычную” і прызнаў праблему генезіса ВКЛ надалей адкрытай[46]. Сам Заянчкоўскі, як і большасць калег, лічыў, што некаторыя кунігасы, у тым ліку выступаючыя ў дамове 1219 г., маглі быць на становішчы манархаў[47].

Пасля вайны ідэю эвалюцыі летувісаў ад першабытнасці да дзяржаўнасці працягнуў ужо маскоўскі гісторык Уладзімір Пашута, які прадставіў генезу ВКЛ як трохфазавы працэс: “Палітычны лад Летувы прайшоў наступныя этапы развіцця: **канфедэрацыя** земляў, потым іх **саюз**, узначалены князямі Аўкштоты, і, нарэшце, адносна адзіная **раннефеадальная манархія**” (выдзелена мною – *А.К.*)[48].

Канфедэрацыя земляў бачылася даследчыку, “як пераходная форма ад патрыярхальна-абшчыннага ладу да дзяржаўнага.” Потым з асяроддзя нобіляў выдзеліліся мацнейшыя “і канфедэрацыя летувіскіх земляў змянілася іх саюзам, які дзейнічаў пад кіраўніцтвам набілітэта на чале з больш моцнымі князямі”. Саюз, на думку Пашуты, выразна

44 Грушевський М. Історія України-Руси. Т. 4. С. 7.

45 Łowmiański H. Studia nad początkami społeczeństwa i państwa litewskiego. Wilno, 1932. T.2. S. 329.

46 Zajączkowski S. Przegląd badań nad dziejami Litwy do 1385 r. // Pamiętnik VI powszechnego zjazdu historyków polskich w Wilnie 17-20 września 1935 r. Lwów, 1935. S. 8.

47 Zajączkowski S. Rec.: Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa // AW. 1934. T.9. S. 305; Tenże. Rec.: Łowmiański H. Studia nad początkami społeczeństwa i państwa litewskiego. T.1-2 // KH. 1932. T. 46/1. S. 457.

48 Пашуто В.Т. Образование Литовского государства. С. 364.

паказаны ў дамове 1219 г. валынскіх князёў з летувіскімі. Адсюль вынікае выснова даследчыка: “Наўрад ці выкліча пярэчанне, што адлюстраваная ў дамове вялікакняская ўлада (“старъшеи”), якая абапіраецца на залежных ці саюзных князёў, сведчыць аб наяўнасці ў Летуве адносна адзінай дзяржавы”[49].

Такім чынам, у Пашуты канфедэрацыя – пераходная форма, а наступная стадыя – саюз – ужо дзяржава. Паводле Пашуты, атрымліваецца, што яна мела ажно пяцёра вялікіх князёў. Апошні трэці этап – раннефеадальная манархія – то ўжо ўласна ВКЛ. На гэтай фазе, паводле Пашуты, адбыўся захоп беларускіх земляў.

Трохфазавая канструкцыя Пашуты выглядае не надта зграбна: выдзеленыя даследчыкам этапы не маюць выразных сутнасных і храналагічных адрозненняў. Найперш гэта тычыцца двух першых фаз: канфедэрацыі і саюза. Лаўмяньскі, ацэньваючы высновы Пашуты, заўважыў, што “паміж паняццем канфедэрацыі і саюза ў даным кантэксце не бачна істотнай розніцы”[50]. Відавочна таму, у пазнейшай гістарыяграфіі першыя дзве фазы пачалі лічыцца за адну, называную ці саюзам плямёнаў, ці канфедэрацыяй земляў[51].

У пасляваеннай сацыялістычнай Польшчы Ежы Ахманьскі таксама прызнаў летувіскі племянны саюз (канфедэрацыю, у адрозненне ад Пашуты, не ўпамінаў) важным крокам на шляху стварэння дзяржаўнай арганізацыі Даследчык выказаў дапушчэнне, што памянуты саюз у 1219 г., абяцаючы мір Валынскаму княству, вымагаў ад таго згоду на заняцце Чорнай Русі з Наваградкам. На падставе гэтага дапушчэння ён прыйшоў да высновы аб пераўтварэнні

49 Пашуто В.Т. Образование Литовского государства. С. 339.

50 Łowmiański H. Uwagi o genezie państwa litewskiego // Przegląd Historyczny. 1961. T. 52. S. 143.

51 Гл., напрыклад: История Литовской ССР с древнейших времен до наших дней. Вильнюс, 1978. С. 32; Gudavičius E. Dél lietuvių žemių konfederacijos susidarimo laiko // Lietuvos TSR Aukštųjų Mokyklų Mokslo darbai. Istorija. Vilnius, 1984. T. 24. P. 12-28; Ochmański J. Historia Litwy. Wrocław-Warszawa-Kraków. 1990. S. 44.

рабаўнічых летувіскіх нападаў на Русь ў палітычна-заваявальную экспансію. Выснова надзвычай важная, але выведзеная праз элементарную лагічную памылку. Паводле фармальнай логікі нельга на недаказанай пасылцы-дапушчэнні абапіраць новую выснову-дапушчэнне, якая ад гэтага становіцца яшчэ менш даказанай.

Ахманьскі вывеў таксама, што перад сярэдзінай 13 ст. акрамя Літвы існаваў яшчэ адзін дзяржаватворчы асяродак – на Жамойці. Лідэр жамойцкага цэнтра – Вікінт, аднак саступіў у барацьбе свайму швагру Міндоўгу. Уладу над усёй Аўкштотай Міндоўг запэўніў сабе каля 1240 г.[52]

Галоўная ідэя пра эвалюцыю летувіскага грамадства ад племяннога да дзяржаўнага ладу надалей пануе і ў сучаснай летувіскай гістарыяграфіі. Томас Баранаўскас у манаграфіі "Пачаткі летувіскай дзяржавы", на аснове вывучэння археалагічных і пісьмовых крыніц, аналізу гістарыяграфіі апісаў шматвекавую эвалюцыю летувіскага першабытнага грамадства. Узнікненне ВКЛ разглядаецца як яе вынік[53].

У Артураса Дубоніса гэтая эвалюцыя прадстаўленая як замена "калектыўнай" улады аднаасобнай. Старэйшыя князі з дамовы 1219 г. у Дубоніса: "Калектыўная княская ўлада з аўтарытэтным правадыром" (Жывінбудам – *А.К.*), якая потым замянілася аднаасобнай: "Калектыўнае кіраванне землямі Літвы пачало распадацца тады, калі Міндоўг стаў сеньёрам роду"[54].

## Крытыка тэзы летувіскай "эвалюцыі і заваёвы"

Апалагеты канцэпцыі ўзнікнення раннесярэднявечнай летувіскай дзяржавы ў асноўным аперуюць аналагамі з

52 Ochmański J. Historia Litwy. S. 45-46.
53 Baranauskas T. Lietuvos valstybės ištakos. Vilnius, 2000.
54 Дубоніс А. Каралеўства Міндоўга // Arche. 9(84). Кастрычнік 2009. С. 9 – 10.

грамадскім ладам насельнікаў Прусіі, апісаным нямецкімі аўтарамі 14 ст. Але ў прусаў уласнай дзяржаўнасці не было. На момант прыходу крыжакоў яна знаходзілася на стадыі ўтварэння[55].

Фактычна адзіным пісьмовым сведчаннем, якое маюць у сваім распараджэнні адэпты ранняй балцкай (у сэнсе летувіскай) дзяржавы ў форме канфедэрацыі (саюза) летувіскіх земляў, з'яўляецца ўпамінанне "старэйшых" князёў у вядомай дамове 1219 г.

Наяўнасць групы "старэйшых князёў", пералічаных у дамове, сапраўды сведчыць пра эвалюцыю летувіскага племяннога грамадства да дзяржаўнага ладу. Аднак, канфедэрацыя плямёнаў яшчэ не дзяржава, а папярэдняя фаза перад яе ўзнікненнем.

Эвалюцыя ад племя да дзяржавы займае значны час, праходзіць не адно пакаленне, пакуль знойдзецца асоба, здольная пры спрыяльных абставінах ажыццявіць справу будовы дзяржавы. Але часу на эвалюцыю ў Панямонні якраз не было па прычыне знешніх пагрозаў, якія з'явіліся ў першыя дзесяцігоддзі 13 ст. (гл. раздзел 5.1)

Такая значная падзея, як утварэнне новай дзяржавы, не праходзіць незаўважанай. Аднак ніякіх слядоў летувіскай дзяржавы ў пісьмовых крыніцах няма, у тым ліку ў грунтоўнай і блізкай па часу стварэння "Хронікі Лівоніі" Генрыха Латвійскага. Князі, пералічаныя ў дамове 1219 г., у тым ліку і старэйшыя, зусім невядомыя айцу Генрыху, сучасніку той падзеі, пісаўшаму сваю Хроніку каля 1227 г.

У сваю чаргу Генрых паведаміў пра цесця князя Усевалада з Герсікі, магутнага літоўскага кунігаса Даугерутэ[56], пра якога нічога не ведае Галіцка-Валынскі летапіс (адпаведна, не згадваецца ў дамове 1219 г.). Характэрна, што

55 Кулаков В.И. Земля пруссов и "прусские земли" // Балто-славянские исследования 1985 г. Москва, 1987. С. 95-101; Ён жа, Пруссы (V-XIII вв.). Москва, 1994. С. 161-164.
56 Генрих Латвийский. Хроника Ливонии. С. 113, 149.

літоўцы ў творы Генрыха ў адрозненне ад полацкіх князёў, тытулаваных каралямі, называюцца проста "літоўцы", гэтак-сама як лівы, эсты, земгалы, куры[57]. Іх правадыроў Генрых называў "князямі і старэйшынамі літоўцаў" (princeps ac seniores), усходнеславянскіх князёў тытулаваў каралямі (reges, regulus), а Полацкі ці Ноўгарадскі князь у яго можа быць і вялікім каралём (magnus rex).

Крыніцы зафіксавалі факты дзейнасці літоўскіх кунігасаў цалкам незалежна адзін ад другога ў наступных дзесяцігоддзях 13 ст. У 1238 г. галіцка-валынскі князь Даніла навёў "Літву Міндоўга" на Конрада Мазавецкага, гэта значыць быў у саюзе з апошнім. А праз тры гады ў 1241 г. брат Данілы Васілька застаўся сцерагчы зямлю "ад Літвы", можа іншых несаюзных Раманавічам плямёнаў?

У 1243/44 г. літоўцы напалі на Валынь на чале з Айшўна Рушкавічам (род Рушкавічаў названы ў дамове 1219 г.), пасля 1244 г. зноў адбыўся напад пад кіраўніцтвам на гэты раз Лонькогвена. Амаль у той жа час (1245 г.) Даніла з Васількам паслалі па дапамогу ў Літву для вайны з Расціславам Галіцкім і атрымалі яе ад Міндоўга: "Данило же и Василко посласта въ Литву помощи просяща, и послана бысть отъ Миндога помощь"[58].

Такім чынам, паводле розных крыніц у першыя дзесяцігоддзі 13 ст. дзейнічала значная колькасць кунігасаў, прычым цалкам самастойна. Еднасці, адзінага кіравання ў Літве не было яшчэ і ў сярэдзіне 40-х гадоў 13 ст. Адны кунігасы ваявалі з Валынню (прычым не "старэйшых" родаў), другі – Міндоўг выступаў як актыўны саюзнік – дасылаў туды ваенную дапамогу.

З Ноўгарадскага летапісу вядома, што ў 1245 г. князь Аляксандр Яраслававіч (вядомы як Неўскі) забіў пад Тарапцом

57 Пашуто В.Т. Образование Литовского государства. С. 132-133; Hellman M. Burgen und Adelsherrschaft... S. 41-42.

58 ПСРЛ. Т. 2. Стб. 801. .

8, а потым яшчэ некалькі літоўскіх князёў ("княжиць")[59]. Нобіль Лінгевін, падтрыманы Міндоўгам, змагаўся з трыма "багатымі братамі" – Тушэ, Мільгерынам і Гінгейкам[60]. Апісваючы смерць Міндоўга, летапісец сведчыць, што ён быў адным з кунігасаў у Літоўскай зямлі ("бысть княжащю ему въ земли Литовьской"), а потым у выніку пэўных падзей "нача княжити одинъ во всей землъ Литовьской"[61].

На думку Матвея Любаўскага: "разнастайнасць назваў (dux, nobilis, magistratis, castellanus, capitaneus і г.д. – А.К.), якія немцы надавалі мясцовым літоўскім правадырам і прадстаўнікам, тлумачыцца, відавочна, разнастайнасцю іх фактычнага значэння: у адных выпадках гэта былі правадыры па народнаму абранню і згодзе, у іншых – традыцыйныя спадчынныя кіраўнікі, князі або царкі"[62].

Паводле таго ж Г. Лаўмяньскага, старэйшыя літоўскія князі, названыя ў вядомай дамове 1219 г. з Валынскім княствам, не могуць лічыцца манархамі ці кіраўнікамі земляў[63]. Ён назваў іх "самымі моцнымі правадырамі дружын" ці "папросту правадырамі рабаўнічых бандаў"[64].

Найверагодней, што пасольства 1219 г. – прыклад часовага аб'яднання групы правадыроў для дасягнення канкрэтнай ваенна-дыпламатычнай мэты. Падобныя дамовы ў 13 ст. не былі рэдкасцю. Генрых Латвійскі паведамляў, што ў 1201 г. перад нападам на землі земгалаў літоўцы заключылі мір з Рыгай. У 1212 г. пасольства літоўцаў прыйшло ў Кокнесе прасіць міра, каб прайсці да зямлі эстаў. Лаўмяньскі дэталёва і даволі пераканаўча паказаў, што Аўкштота не мела над сабой адзінай улады яшчэ ў першых гадах пасля

59 НПЛ. 1950. С. 79, 304.
60 LR. S. 63-65. V. 2753-2755, 2830.
61 ПСРЛ. Т. 2 Стб. 858.
62 Любавский М.К. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. Москва, 1910. С. 10.
63 Łowmiański H. Studia nad początkami... T. 2. S. 329.
64 Łowmiański H. Studia nad początkami... T.2. S. 190, 329.

каранацыі Міндоўга. Падпарадкаванне Аўкштоты каралём даследчык адносіць толькі да 1254–1258 гг.[65]

Сучасны летувіскі гісторык Эдвардас Гудавічус пісаў аб "чыста намінальнай" уладзе Міндоўга над іншымі кунігасамі да канца 40-х – пачатку 50-х гадоў 13 ст.[66] Заўважу, што крыніцы не дазваляюць сцвердзіць нават гэтага намінальнага адзінаўладдзя.

Узгодненыя дзеянні групы кунігасаў для вырашэння пэўных дыпламатычных (як дамова з Галіцка-Валынскім княствам) ці ваенных (сумесныя паходы) задач – яшчэ не дзяржава. Узнікненне новай дзяржавы наўрад ці магло быць не заўважаным сучаснікамі. Напрыклад, дзейнасць Міндоўга ў справе пабудовы ВКЛ пісьмовыя крыніцы 13 ст. зафіксавалі даволі выразна і ў дэталях.

Калі з'явіліся сур'ёзныя знешнія пагрозы і патрэба ў абароне ад іх у постаці дзяржавы, то яна будавалася з таго, што мелася пад рукой з выкарыстаннем наяўных узораў дзяржаўнасці, якімі былі беларускія княствы Панямоння і Падзвіння.

Выснова: Няма доказаў існавання ўжо ў першых дзесяцігоддзях 13 ст. (і наступных таксама) не толькі летувіскай дзяржавы, але і яе папярэдніка – канфэдэрацыі плямёнаў Аўкштоты і Жамойці пад верхавенствам аднаго са "старэйшых" князёў. Пісьмовыя крыніцы і археалагічныя даследаванні засведчылі працэс сацыяльнай дыферэнцыяцыі і ўзмацнення родавай арыстакратыі ў балцкіх плямёнах. "Моцных людзей", "вялікіх правадыроў" было шмат. Сляды адзінай дзяржавы ў крыніцах адсутнічаюць.

Раннефеадальная летувіская дзяржава канца 12 – пачатку 13 ст. – гістарычны міф, створаны па палітычна-ідэалагічных матывах у канцы 19–20 ст.

65 Łowmiański H. Studia nad początkami… T.2. S. 334-346.
66 Gudavičius E. Kryžiaus karai Pabaltijyje ir Lietuva XIII amžiuje. Vilnius, 1989.P. 92-166, 171.

## 1.1.3. Як працаваць з пісьмовымі крыніцамі

Кожная пісьмовая крыніца (як наратыўная, так і актавая) мае суб'ектыўны характар, г.зн. залежыць ад індывідуальнасці яе аўтара: палітычнай арыентацыі, сацыяльнага паходжання, меркантыльных інтарэсаў і г.д. Таму кожная з іх праходзіць верыфікацыю фармальнай логікай праз супастаўленне з іншымі крыніцамі і вядомымі гістарычнымі фактамі.

Сярэднявечныя летапісы напоўнены шматлікімі легендарнымі і міфічнымі ўстаўкамі. Таму даследчыкі верыфікуюць іх інфармацыю праз супастаўленне розных крыніц. Напрыклад, калі тая ж падзея ці асоба фігуруе ў ноўгарадскім летапісе і інфлянцкай/прускай хроніцы, то яна з вялікай верагоднасцю з'яўляецца рэальнай, бо названыя крыніцы паходзяць з розных дзяржаўных і культурных асяродкаў.

У некаторых выпадках магчыма верыфікацыя пісьмовай крыніцы археалагічнымі даследаваннямі. Напрыклад, летапіс паведамляе пра знішчэнне галіцка-валынскім войскам Навагрудка ў 1275 г. Археалагічныя раскопкі пацвердзілі, што актыўнае жыццё на галоўным пасадзе горада – Малым замку спынілася якраз у гэты час[67]. Ускосным, але надзейным пацвярджэннем праўдзівасці звестак Галіцка-Валынскага летапісу з'яўляюцца ягоныя дакладныя дэталёвыя апісанні геаграфіі Панямоння (назвы паселішчаў, рэчак, адлегласцяў паміж імі і інш.).

Першы вялікі князь літоўскі Міндоўг – рэальная гістарычная асоба, бо выступае не толькі ў розных летапісах і хроніках, але ў архівах захаваліся датычныя яго актавыя дакументы і пасланні.

Істотнае значэнне мае метад **гістарычнай карэляцыі**, менавіта недапушчэнне некрытычнага пераносу на



67 Гуревич Ф.Д. Древний Новогрудок (посад – окольный город), Ленинград 1981. С. 157.

сярэднявечча рэалій, стэрэатыпаў, поглядаў з найноўшай гісторыі. Напрыклад, сярэднявечную дзяржаву нельга разглядаць як інструмент рэалізацыі нацыянальных інтарэсаў, што ўласціва сучаснай нацыянальнай дзяржаве. Сярэднявечныя дзяржавы будаваліся на аснове вернасці пануючай дынастыі, а не па нацыянальнаму прынцыпу. Яны былі амаль спрэс шматнацыянальнымі, этнічнае паходжанне арыстакратыі і простага насельніцтва ў іх не мела істотнага значэння.

Сярэднявечныя дзяржавы праводзілі рэлігійную палітыку, але не нацыянальную ў сучасным яе разуменні. Нельга прыпісваць вялікім князям літоўскім, пачаўшы ад Міндоўга, свядомае імкненне да пабудовы менавіта летувіскай ці беларускай дзяржавы, свядомай працы на карысць летувіскага ці беларускага народа. (Дадатак 8. Артыкул “Да праблемы этнічнай ідэнтыфікацыі ВКЛ”)

Арганізатары ВКЛ будавалі дзяржаву ў біэтнічным балта-славянскім рэгіёне, карыстаючыся даступнымі матэрыяламі і сродкамі. Спрыянне ці неспрыянне ВКЛ фармаванню сучаснага летувіскага або беларускага народу не было свядомым палітычным дзеяннем, а толькі аб’ектыўным вынікам дзяржаўнай практыкі.

Сучасныя гістарычныя даследаванні абапіраюцца на комплекс разнастайных крыніц, што дае дадатковыя магчымасці для іх верыфікацыі.

**Прыклады верыфікацыі крыніц і высноваў**

**Прыклад 1:** Верыфікацыя інфармацыі з ліста папы Аляксандра IV ад 6 сакавіка 1255 г. да Міндоўга.

У лісце гаворыцца, што Міндоўг праз змаганне з “каралеўствам Русі” “падпарадкаваў сваёй уладзе некаторыя землі гэтага каралеўства”[68]. (“Каралеўства Русі” – Галіцка-Валынскае княства, ягоны ўладар Даніла Раманавіч каранаваўся ад папы рымскага ў 1253 г.; “некаторыя зем-

68 Міндаў, кароль Літовіі, у дакументах і сведчаннях. С. 77.

лі” – Наваградчына і Гарадзеншчына, змаганне за якія апісвае Галіцка-Валынскі летапіс.) Адсюль можа вынікаць выснова пра заваёву/захоп Міндоўгам беларускіх княстваў у Панямонні.

**Верыфікацыя:** З дэталёвых апісанняў Галіцка-Валынскім летапісам войнаў Міндоўга вынікае, што жыхары Панямоння, у прыватнасці гараджане Наваградка, Гародні і інш. – славяне і хрысціяне, змагаліся супраць аднаверцаў і блізкіх па паходжанні валынянаў і галічан на баку язычніка Міндоўга, г.зн. меў месца не захоп земляў, а саюз, “падпарадкаванне” па волі і жаданні іх насельнікаў.

**Высновы:**

1. Наваградчына і Гарадзеншчына перад утварэннем ВКЛ знаходзіліся ў сферы ўплываў Галіцка-Валынскай дзяржавы;
2. ліст утрымлівае ўскоснае сведчанне пра прыналежнасць да ВКЛ у 1255 г. Наваградчыны і Гарадзеншчыны;
3. інфармацыя з ліста папы не дае падставы сцвярджаць пра гвалтоўны захоп Міндоўгам гэтых земляў;
4. ліст – ускоснае сведчанне на карысць канцэпцыі ўзнікнення ВКЛ у выніку балта-славянскага саюзу.

**Прыклад 2:** Верыфікацыя галоўнай тэзы летувацэнтрычнай канцэпцыі: “Узнікненне ВКЛ – вынік заваёвы беларускіх земляў летувісамі”.

Тэза не вытрымлівае верыфікацыі з прыцягненнем комплексу крыніц:

1. (пісьмовыя крыніцы:) Сярод некалькіх дзясяткаў зафіксаваных летапісамі рабаўнічых выправаў літоўцаў у 12–13 ст. ва ўсіх кірунках свету адсутнічаюць выпадкі нападу літоўцаў на якія-небудзь беларускія гарады ці землі, за выключэннем самай аддаленай на ўсход Смаленшчыны. (Дадаткі: карта 2)

2. (археалагічныя і моваэнаўчыя крыніцы:) Шматгадовыя археалагічныя і лінгвістычныя даследаванні даказалі агульны мірны характар беларуска-летувіскіх адносінаў (не канфрантацыю, але супрацоўніцтва).

**Выснова:** Неабходнасць адмовы ад канфрантацыйных версій стварэння ВКЛ (як летувацэнтрычнай, так і беларусацэнтрычнай Ермаловіча) па прычыне навуковага абвяржэння іх фундаментальнай тэзы – беларуска-летувіскай канфрантацыі.

## 1.2. АРХЕАЛАГІЧНЫЯ, МОВАЗНАЎЧЫЯ І ЭТНАГРАФІЧНЫЯ КРЫНІЦЫ

Для вывучэння ранняй гісторыі ВКЛ археалагічныя крыніцы, дарэчы, як і большая частка пісьмовых, могуць быць выкарыстаны толькі апасрэдавана. Аднак гэта адзіны від крыніц, які стабільна папаўняецца з году ў год пасля завяршэння кожнага палявога сезона археолагаў.

Археалагічнае даследаванне помнікаў 1–2 тыс. на Панямонні працягваецца ўжо каля двухсот гадоў. Аб'ектамі з'яўляюцца **паселішчы** (селішчы, гарадзішчы, гарады, замкі) і **пахавальныя помнікі** (курганныя і бескурганныя ці грунтавыя без насыпаў могільнікі), пакінутыя старажытным як балцкім так і славянскім насельніцтвам. Археалагічныя матэрыялы адыгрываюць галоўную ролю ў вывучэнні старажытнай гісторыі рэгіёна, у тым ліку пачатковых этапаў працэсу балта-славянскага ўзаемадзеяння (другая палова 1-га – першыя стагоддзі 2 тыс. н.э.). Пачынаючы з 11–12 ст., іх дапаўняюць пісьмовыя крыніцы.

На грунце здабытых археолагамі матэрыялаў праз даследаванне, у першую чаргу пахавальных помнікаў выдзелены асобныя археалагічныя культуры 1 – першай паловы 2 тыс.

н.э. і праведзена іх этнічная ідэнтыфікацыя. На тэрыторыі гістарычнага ядра ВКЛ (харонім “Літва”) выяўлены помнікі некалькіх археалагічных культур. Верхняе Панямонне займала як правіла толькі частку іх арэалу.

Балтамі былі носьбіты культуры **штрыхаванай керамікі** (7–6 ст. да н.э.–4–5 ст. н.э.), якая атрымала назву ад характэрнай арнаментацыі глінянага посуду, пакрытага звонку (а часта і знутры) штрыхамі. Эвалюцыйную сувязь з ёй мела **банцараўская культура** (6–8 ст. н.э.), атрымаўшая назву ад гарадзішча Банцараўшчына пад Менскам. Культуру **ўсходнелітоўскіх курганоў** (4–12 ст., таксама развілася на аснове культуры штрыхаванай керамікі) даследчыкі атаясамляюць з аукштайтамі або з племяннной групоўкай, вядомай у летапісах пад назвай “літва”.

**Доўгія курганы Паўночнай Беларусі** (падоўжаныя валападобныя насыпы; другая палова 1 тыс н.э.) лічацца пахавальнымі помнікамі **полацкіх крывічоў.** Культура **каменных курганоў** 1–пачатку 2 тыс. н.э. атаясамляецца з балцкімі плямёнамі, менавіта яцвягамі. Сваю назву яна атрымала паводле характэрнага спосабу ўзвядзення пахавальных помнікаў – невысокіх (каля 0,5–0,8 м вышынёй і ад 6 да 18–20 м дыяметрам) курганоў, складзеных з камянёў, ці з камянёў і зямлі. **Каменныя могільнікі** 10–17 ст. (названыя так з-за наяўнасці над грунтавымі магіламі каменных вымастак) лічацца працягам эвалюцыі культуры каменных курганоў.

У выніку актывізацыі славянскага каланізацыйнага руху на тэрыторыю Панямоння ў 11–12 ст. паявілічылася колькасць паселішчаў і пахавальных помнікаў, пакінутых **дрыгавічамі, крывічамі**, або змешаным балта-славянскім насельніцтвам. (Дадаткі: карта 1)

Даволі добра вывучаны археолагамі старажытныя гарады Панямоння (канец 10–13 ст.): Наваградак, Гародня, Ваўкавыск, Слонім, Вільня. Устаноўлена, што іх заснаваль-

нікамі і асноўнымі насельнікамі былі ўсходнія славяне[69]. Шматгадовыя археалагічныя даследаванні, праведзеныя ў другой палове 20 ст., выявілі высокі эканамічны і культурны ўзровень, што прывяло да прызнання беларускіх панямонскіх гарадоў адным з важнейшых суб'ектаў у працэсе стварэння ВКЛ.

У гэтым даследаванні выкарыстоўваліся як даныя самога аўтара, сабраныя падчас яго археалагічных прац на Панямонні ў 1982–1993 гг., так і матэрыялы іншых беларускіх, польскіх, расейскіх і летувіскіх даследчыкаў-археолагаў, галоўным чынам пададзеныя ў спецыяльных публікацыях.

Пэўныя цяжкасці ўзнікаюць пры аналізе матэрыялаў, здабытых у раёнах Летувы, прылягаючых да сучаснай дзяржаўнай мяжы з Беларуссю. Пасля 2-й усясветнай вайны раскопкі на тэрыторыі Летувы праводзяцца выключна летувіскімі археолагамі, якія ў сваіх публікацыях не акцэнтуюць увагі на наяўнасці на тэрыторыі сучаснай Летувы славянскіх археалагічных помнікаў. Таму на першы погляд можа здацца, што выдзеленая беларускімі, расейскімі і польскімі археолагамі зона змешанага балта-славянскага насельніцтва 11–13 ст. на паўночным захадзе не выходзіла за межы Беларусі і заканчвалася на сучаснай дзяржаўнай беларуска-летувіскай граніцы, а далей ішоў аднародны масіў балцкага насельніцтва. Аднак усходнеславянская прысутнасць на Віленшчыне ў 12–13 ст. зафіксавана археалагічнымі даследаваннямі 30-х гадоў (Уладзімір і Алена Галубовічы) і пісьмовымі крыніцамі 14–15 ст. (напрыклад, прывілеем Ягайлы 1387 г., выдадзеным князю Скіргайле, ці хронікай Віганда фон Марбурга).

69 Асноўныя вынікі даследавання названых вышэй культур гл.: Археалогія і нумізматыка Беларусі: Энцыкл. Мн., 1993.

* * *

Важнае значэнне для вывучэння названага працэсу маюць **лінгвістычныя матэрыялы.** Галоўнае месца сярод іх належыць даным **анамастыкі** (раздзел мовазнаўства, які вывучае ўласныя імёны) і, найперш, тапанімічным матэрыялам. **Тапаніміка** з'яўляецца раздзелам анамастыкі, які даследуе геаграфічныя назвы, іх функцыянаванне, значэнне і паходжанне, структуру, арэал распаўсюджвання, развіццё і змены ў часе[70]. Другі раздзел анамастыкі, які таксама мае дачыненне да нашай тэмы – **антрапаніміка** – вывучае імёны людзей.

Праз даследаванне **айконімаў** (назвы паселішчаў), **гідронімаў** (назвы водных аб'ектаў; яны асабліва трывала захоўваюць архаізмы) даследчыкі здабылі шмат важнай інфармацыі аб развіцці этнічнай сітуацыі на Панямонні. Значную ролю ў працэсе даследавання адыгрывае метад анаманістычнай картаграфіі – стварэнне анаманістычных картаў і выкарыстанне матэрыяла картаў для анаманістычных даследаванняў.

На Панямонні (як і па ўсёй Беларусі) гістарычна склалася неаднародная тапанімічная сістэма, якая аб'ядноўвае рознамоўныя матэрыялы з розных гістарычных эпох. У сённяшняй пераважна славянскай тапаніміі найбольш дакладна зафіксаваны балцкі тапанімічны субстрат. Лінгвістычныя метады даследавання дазваляюць вызначыць этнічную прыналежнасць і адносную храналогію рознамоўных тапанімічных слаёў. На аснове гэтай інфармацыі археолагі з дапамогай метадаў сваёй навукі ствараюць т.зв. абсалютную храналогію і акрэсліваюць этнічную прыналежнасць археалагічных культур, супаўшых з геаграфічным размяшчэннем даследаваных тапанімічных сістэм.


70 Лингвистический энциклопедический словарь. Москва, 1990. С. 515.

Археалагічныя матэрыялы (у спалучэнні з анамастычнымі) дазваляюць прасачыць развіццё працэсу славянскай каланізацыі на Панямонні і суседніх рэгіёнах на яго ранніх этапах, пачынаючы ад часу з'яўлення славян на Панямонні і да 15 ст., вызначыць яго перыядызацыю, акрэсліць характар міжэтнічных кантактаў.

* * *

**Этнаграфічныя матэрыялы** 18 – пачатку 20 ст. з'яўляюцца галоўнай крыніцай па вывучэнню найбольш позняй часткі працэсу міжэтнічных кантактаў на Панямонні. Акрамя таго яны дапамагаюць зразумець характар яго развіцця на больш ранніх этапах, у тым ліку ў часы ВКЛ.

* * *

Вынікі археалагічных, лінгвістычных і этнаграфічных даследаванняў, праведзеных пасля Другой усясветнай вайны, не заўсёды адпавядаюць традыцыйным поглядам, якія сфармаваліся ў 19 – першай палове 20 ст. Напрыклад, у публікацыях некаторых гісторыкаў пастаянна прысутнічае тэза аб варожым характары балта-славянскіх адносін у сярэднявеччы, аб "змаганні за тэрыторыіі" (Ежы Ахманьскі). Аднак археалагічныя і лінгвістычныя матэрыялы (як, дарэчы, і пісьмовыя крыніцы 15–17 ст.) пераканаўча сведчаць пра мірны характар балта-славянскіх кантактаў не толькі на тэрыторыі Панямоння, але па ўсёй сучаснай прасторы Беларусі.

# ТЭМА 2

# ГІСТАРЫЯГРАФІЯ

Навуковае даследаванне гісторыі ВКЛ пачалося ў другой палове 19 ст. Ад самага пачатку і да сёння яно шчыльна звязанае з палітыкай. Канцэпцыя стварэння ВКЛ фармавалася ў дыскусіі расейскіх гісторыкаў з польскімі, меўшымі магчымасць свабодна працаваць у эміграцыі ці на той частцы польскай тэрыторыі, якая трапіла ў Аўстрыйскую імперыю і Прусію. Па ходу дыскусіі выявіліся як спрэчныя, так і згодныя моманты паміж расейскімі і польскімі поглядамі на пачаткі ВКЛ.

Пасля здушэння антырасейскага паўстання 1863–1864 г. на землях былой Рэчы Паспалітай расейскія гісторыкі выконвалі ўрадавае заданне паказаць “адвечную рускасць”, земляў былога ВКЛ, якія забрала Расея ў 18 ст. Адносна ВКЛ імі быў уведзены тэрмін “літоўска-руская дзяржава”. Сур’ёзным навуковым узроўнем выдзяляліся сярод іншых працы Уладзіміра Антановіча, Мікалая Дашкевіча, Мацея Любаўскага, Мітрафана Доўнар-Запольскага і інш., якія і сёння захоўваюць навуковую вартасць.

Упершыню навуковы падыход да праблемы паходжання ВКЛ быў сфармаваны ў працах кіеўскага гісторыка Уладзіміра Антановіча[71]. Праз некалькі гадоў з’явілася першае польскае навуковае даследаванне, прысвечанае пачаткам ВКЛ – манаграфія Юлюша Ляткоўскага “Міндоўг, летувіскі кароль”[72]. Яна была апублікаваная ў Кракаве – на той час у складзе Аўстрыйскай імперыі – з адносна высокай нацыянальнай талерантнасцю. Значны ўклад

71 Антонович В.Б. Очерк истории Великого Княжества Литовского до половины XV столетия. Киев, 1878; Монографии по истории Западной и Юго-Западной России. Киев, 1885.

72 Latkowski J. Mendog, król litewski // Rozprawy Akademii Umiejętności. Wydział Filozoficzno-Historyczny. Kraków, 1892.

у гістарыяграфію пачаткаў ВКЛ зрабілі польскія гісторыкі ў міжваенны час, найперш Генрык Пашкевіч і Генрык Лаўмяньскі.

Расейскія гісторыкі акцэнтавалі ролю "русского начала" ў ВКЛ. Само княства яны называлі "литовско-русским государством". У адказ расейцам польская гістарычная навука стварыла канцэпцыю раннефеадальнай летувіскай дзяржавы, якая фармавалася паралельна з заваёвай суседніх усходнеславянскіх земляў[73]. Пазней гэтая дзяржава ўступіла ў добраахвотную унію з Польшчай і з часам стала складной часткай апошняй. Тэма польска-літоўскіх уній да сёння застаецца адной з важнейшых у польскай літуаністыцы.

Палякі і расейцы сыходзіліся ў тым, што ініцыятарам працэсу дзяржаваўтварэння былі балцкія плямёны, вядомыя ў пісьмовых крыніцах пад назвай "літоўцы" (Litwini), якія спачатку (у 11–12 ст.) цярпелі ад усходніх славян, потым (з 80-х гадоў 12 ст.) рэзка актывізавалі рабаўніча-мілітарную дзейнасць, а яшчэ пазней (на рубяжы 12–13 ст.) перайшлі да тэрытарыяльных захопаў земляў старажытнай Русі. Вынікам стала новая дзяржава – ВКЛ.

Такім чынам, абодва бакі падзялялі дзве галоўныя ідэі:

**1. Эвалюцыя летувіскага грамадства да дзяржавы.**

**2. Цесная сувязь між утварэннем дзяржавы і захопам летувісамі земляў на Русі.**

Спрэчка вялася, па сутнасці, вакол адной праблемы, менавіта аб **акрэсленні этнічнага характару** дзяржавы. Адказ на пытанні: "Ці быў творцам дзяржавы летувіскі князь Міндоўг?" і "Ці Летува заваявала рускія землі?" быў аднолькавы з абодвух бакоў: "Так!" Але далей пачыналася сутнаснае разыходжанне. "Ці ВКЛ было летувіскай

73 Krawcewicz A. Formowanie się koncepcji genezy Wielkiego Księstwa Litewskiego w polskiej historiografii // Białoruskie Zeszyty Historyczne. Białystok, 1999. № 11. S. 5 – 17; Краўцэвіч А.К. Фарміраванне канцэпцыі генезісу Вялікага Княства Літоўскага ў польскай гістарыяграфіі // Беларускі гістарычны часопіс. 1998. № 1. С. 47-54.

дзяржавай?” – “Так!” – адказвалі палякі, “Не!” – адказвалі рускія – “Гэта была дзяржава летувіска-руская”.

* * *

Галоўнай памылкай і недахопам абедзвюх канцэпцый быў перанос іх аўтарамі рэалій 19 ст. на сярэднявечча. У 19 ст. у нашай частцы Еўропы (Цэнтральна-Усходняй Еўропе, падзеленай паміж Аўстрыйскай, Расейскай і Германскай імперыямі) актыўна развіваліся нацыянальныя рухі, якія змагаліся за ўплывы ў этнічна мяшаных рэгіёнах і амаль усе наўзаем між сабой канфліктавалі. Па трапнаму выразу гісторыка Даніэла Бовуа: “19 ст. – гэта хутчэй вобраз непрыязі усіх да ўсіх, чым гарманічнага сужыцця. Сярод чыннікаў, якія рухалі стварэнне народу, належыць назваць, нажаль, перш за ўсё адносіны нянавісці і пагарды да суседа”[74].

Важным аргументам у абгрунтаванні права на нацыянальны і дзяржаўны быт была апора на дзяржаўны вопыт у мінулым. Дзеля гэтага шукалася сярэднявечная дзяржава, якую можна было назваць сваёй[75]. Тады патрабаванне ўласнай нацыянальнай дзяржавы прадстаўлялася як гістарычна справядлівае адраджэнне дзяржаўнасці. Палякі праслаўлялі сярэднявечнае Польскае каралеўства і Рэч Паспалітую, чэхі – Чэшскае каралеўства, венгры – Венгерскае, румыны – Валашскае і Малдаўскае княствы і г.д. Некаторыя нацыянальныя рухі такой дзяржавы ў мінулым не мелі, як славакі, латышы, славенцы і інш., таму абапіраліся  на іншыя аргументы, найперш уласную нацыянальную мову і традыцыйную культуру.

74 Beauvois D. Rzeczpospolita polsko-litewska w XVIII wieku i pięć narodów na jej obszarach w wieku XIX [w:] Historia Europy Środkowo-Wschodniej. T. 1. Lublin, 2000. S. 283.

75 Hroch M. Powstanie małych narodów w Europie Środkowo-Wschodniej i Południowo-Wschodniej. Warszawa, 2020. S. 33, 67, 75.

Лідары летувіскага нацыянальнага руху пастанавілі скарыстацца “незанятым” (па прычыне спазнення развіцця беларускага руху) ВКЛ[76] і “прысвоіць” яго, аб’вясціўшы сваёй нацыянальнай дзяржавай. У рэальнасці летувісы ў ВКЛ складалі каля 10% насельніцтва, летувіская мова не мела дзяржаўнага ці рэгіянальнага адміністрацыйнага статусу і да 16 ст. не ведала пісьмовасці, была адно размоўнай мовай пераважна сярод летувіскіх сялянаў.

Атмасферу нацыянальнай барацьбы ідэолагі нацыяналізмаў пераносілі з 19 ст. на сярэднявечча і трактавалі тагачасныя дзяржавы як нацыянальныя, а іх кіруючым элітам прыпісвалі імкненне праводзіць свядомую нацыянальную палітыку. У такім пераносе (некарэктная рэтраспекцыя) і крылася памылка, менавіта, свядомая ці несвядомая фальсіфікацыя гісторыі. Насамрэч сярэднявечныя дзяржавы будаваліся не па нацыянальнаму крытэрыю, а на прынцыпе вернасці пануючай дынастыі, а нацыянальнае паходжанне арыстакратыі (феадалаў) і рэшты насельніцтва не мела істотнага значэння.

У выпадку з ВКЛ стварэнне і дзейнасць гэтай дзяржавы памылкова разглядалася гісторыкамі 19 і 20 ст. праз прызму змагання ў ім “двух народных начал” – рускага і летувіскага. Ніякіх пацверджанняў у крыніцах такі падыход не меў, наадварот, яны зафіксавалі шматлікія праявы беларуска-летувіскай супрацы.

Комплексныя маштабныя даследаванні археолагаў, мовазнаўцаў, этнографаў, праведзеныя пасля Другой усясветнай вайны, давялі агульны **мірны** (неканфліктны) характар славяна-балцкіх (беларуска-летувіскіх) узаемаадносінаў у сярэднявеччы, у тым ліку ў ВКЛ. Тым не менш “канфрантацыйны” погляд на пачаткі ВКЛ быў уласцівы савецка-расейскай, беларуска-савецкай і летувіскай гістарыяграфіі амаль да канца 20 ст.

76 Hroch M. Małe narody Europy. Wrocław-Warszawa-Kraków, 2003. S. 35.

Савецка-расейская гістарыяграфія (савецка-беларуская была яе складной часткай) падтрымлівала ідэалагему беларуска-летувіскай канфрантацыі, бо яна адпавядала стрыжнявой ідэі расейскай інтэрпрэтацыі гісторыі Беларусі. Маўляў, "нехарошыя" летувісы ў 13 ст. беларусаў захапілі, а "харошыя" расейцы ў 18 ст. вызвалілі. На аснове гэтай ідэалагемы стваралася ўся гістарыяграфія ВКЛ, у тым ліку яго пачаткаў. Дзяржава гэтая прадстаўлялася як варожая беларусам, а ім самім прыпісвалася імкненне цягам стагоддзяў да ўз'яднання з братнім расейскім народам.

У ідэалагеме меўся яшчэ адзін схаваны сэнс. Савецкая гістарыяграфія адносіла этнагенез беларусаў да 14–17 ст., гэта значыць, ён адбываўся ў складзе ВКЛ – летувіскай дзяржавы, якая нібыта захапіла/акупавала "заходнія землі Русі" у 13 ст. Адсюль вынікала, што беларускі народ узнік ва ўмовах летувіскай/польскай акупацыі і сам факт этнагенезу беларусаў набываў негатыўнае адценне (бо адбыўся як наступства гвалтоўнага адлучэння ад агульнай усходнеславянскай/расейскай прасторы). Палітыка русіфікацыі беларусаў у складзе Расейскай імперыі выглядала ў такім асвятленні гістарычна справядлівым працэсам як натуральнае "вяртанне да вытокаў".

* * *

Беларуская і летувіская гістарыяграфіі пачаткаў ВКЛ ва ўмовах адсутнасці ўласнай дзяржаўнасці і русіфікатарскай палітыкі царскай Расеі развівацца не маглі. У міжваенны перыяд летувіскія даследчыкі пры падтрымцы ўласнай дзяржавы скарысталіся навуковымі напрацоўкамі польскай гістарычнай літуаністыкі, менавіта, яе сцвярджэннямі балцкага паходжання ВКЛ (рабілі пераклады польскіх прац і папулярныя творы на іх аснове).

Беларуская гістарыяграфія 20-х гадоў 20 ст. (у кароткі перыяд спрыяльнай нацыянальнай палітыкі бальшавікоў) карысталася напрацоўкамі расейскай гістарыяграфіі 19 – пачатку 20 ст. Той “рускі пачатак” у ВКЛ, які так зацята баранілі расейцы, быў названы беларускім, а сама дзяржава “літоўска-беларускай”. Спецыяльных навуковых прац па генезе ВКЛ у гэты час на Беларусі таксама не з’явілася. Толькі ў працах сінтэтычнага характару Уладзімір Пічэта, Мітрафан Доўнар-Запольскі, Усевалад Ігнатоўскі і інш. выказвалі свае погляды на пачатак гэтай дзяржавы, якія ў галоўных рысах адпавядалі расейскай гістарыяграфічнай традыцыі[77].

## 2.1. Летувацэнтрычная канцэпцыя

Пасля другой усясветнай вайны афіцыйная савецкая канцэпцыя ўзнікнення ВКЛ была распрацаваная ў Маскве Уладзімірам Пашутам (савецка-расейскім гісторыкам з беларускімі каранямі) і стала абавязковай не толькі ў СССР, але і ў краінах-сатэлітах. Пашута адмовіўся ад традыцыйнай расейскай інтэрпрэтацыі ВКЛ як **летувіска-рускай дзяржавы ад самых яго пачаткаў** і прыняў польскую канцэпцыю **балцкай**, а менавіта **летувіскай** дзяржавы з характэрным для яе атаясамленнем сярэднявечнай Літвы з сучаснай Летувай.

У канструкцыі У. Пашуты арганічна сумясціліся два важныя пастулаты камуністычнай і расейскай імперскай ідэалогіі. Паводле марксісцка-ленінскай канцэпцыі гісторыі, кожны народ мае прайсці праз эвалюцыю ад родавага грамадства да дзяржаўнасці. Адсюль вынікала парадаксальная, здавалася б, блізкасць канцэпцыі Пашуты да поглядаў

77 Гл.: Доўнар-Запольскі М.В. Гісторыя Беларусі. Мн., 1994 - першае выданне, паколькі рукапіс быў забаронены для друку ў 1926 г.; Пичета В. История Литовского государства до Люблинской унии. Вильно, 1921; Пічэта У. Гісторыя Беларусі. Масква-Ленінград, 1924. Ч.1.

польскіх даследчыкаў 19–1-й паловы 20 ст. Польская версія ўнутранай эвалюцыі летувіскага грамадства да дзяржавы выпадкова аказалася бліжэй да пастулатаў камуністычнай ідэалогіі, чым погляды традыцыйнай расейскай гістарыяграфіі.

Галоўная ідэя канцэпцыі Пашуты заключалася ў наступнай сентэнцыі: *“захоп Беларусі летувіскімі феадаламі паклаў пачатак пераўтварэнню невялікай Летувіскай дзяржавы ў Летувіскае вялікае княства.”*[78].

Гэтая ідэя цалкам адпавядала галоўнаму пастулату імперскай расейскай ідэалогіі адносна Беларусі, менавіта, пра вызвольную місію расейскай дзяржавы. Акупацыя Беларусі ў 18 ст. у выніку падзелаў Рэчы Паспалітай прадстаўлялася як вызваленне братняга народа ад летувіска-польскіх захопнікаў.

**Летувацэнтрычная канцэпцыя** Пашуты была горача павітаная ў Летуве (працу там пераклалі на летувіскую мову), як доказ вялікага мінулага і гістарычнай велічы гэтай краіны. Пасля распаду Савецкага Саюза ў адроджанай Рэспубліцы Летува гэтая канцэпцыя надалей дамінуе з нязначнымі мадыфікацыямі[79].

Паводле летувацэнтрычнай канцэпцыі, пачаткам ВКЛ было ўтварэнне этнічна балцкай (летувіскай) раннефеадальнай дзяржавы, якую даследчыкі называюць канфедэрацыяй, ці саюзам летувіскіх земляў. Шляхам захопу буйных усходнеславянскіх тэрыторый гэтае балцкае дзяржаўнае ўтварэнне пераўтварылася ў ВКЛ – балта-славянскую дзяржаву. Летувісы ў ёй складалі нязначную меншасць як па колькасці насельніцтва, так і па тэрыторыі (ад 10 да 20 %), але былі палітычна дамінуючай кіруючай сілай.

78 Пашуто В.Т. Образование Литовского государства. С. 368.
79 Гл. Дадатак 2. Артыкул “Дыскусія ці сварка?” ; Дубонис А. Две модели литовской экспансии на Руси (XIII – начало XIV века). Овладение Полоцком и Новогрудком // Исторический вестник. 2014. Т. 7(154). С. 54-85.

Гісторыкі паклалі шмат намаганняў, каб выявіць сляды той дзяржавы[80]. Аднак пошукі гэтыя нельга прызнаць удалымі. Надзейна ўстаноўлены толькі факт сацыяльнай дыферэнцыяцыі балцкіх плямёнаў, у тым ліку літоўцаў. Яе паскарала ваенна-рабаўнічая дзейнасць. Асобныя ўдачлівыя правадыры –арганізатары рабаўнічых паходаў засяроджвалі ў сваіх руках значныя матэрыяльныя багацці. Выдзелілася праслойка г. зв. нобіляў, што пацвярджаюць археалагічныя матэрыялы. Аднак з'яўленне племянной арыстакратыі – яшчэ не доказ існавання дзяржавы. Несумненна, ваенна-рабаўнічая актыўнасць паскарала сацыяльную дыферэнцыяцыю балцкага познеродавага грамадства і з'яўлялася прадвеснікам новага ладу – дзяржаўнага. Аднак на эвалюцыю патрабаваўся час, якога якраз не было.

Паводле класічнай дэфініцыі дзяржавы, сфармуляванай Георгам Еллінекам, саюз ці канфедэрацыя плямёнаў яшчэ не з'яўляецца дзяржавай. Часовае аб'яднанне некалькіх племянных дружынаў у ваенным паходзе, дамовы іх правадыроў з суседнімі князямі (як вядомая дамова групы балцкіх кунігасаў з галіцка-валынскімі князямі ў 1219 г.) нельга дэфініяваць як дзяржаву.

У апошнія дзесяцігоддзі ў летувіскай гістарыяграфіі назіраецца спроба прадставіць ВКЛ на ранніх этапах яго гісторыі (у 13–14 ст.) як г.зв. паганскую (язычніцкую) імперыю, у якой дамінавалі летувісы-язычнікі. Такі падыход не вытрымлівае крытыкі, бо няма ніводнага факту распаўсюду язычніцтва на новадалучаных да ВКЛ землях. Наадварот, гісторыя зафіксавала выключна адваротныя выпадкі – прыняцце язычнікамі хрысціянства як у далучаных землях, так і ў самой гістарычнай Літве. (Дадатак 3. Рэцэнзія на кнігу: Роўэл С.К. "Уздым Літвы: Паганская імперыя...")

80 гл. частку раздзела 1.1.2. "Крытыка тэзы летувіскай эвалюцыі і заваёвы"

У савецкай Беларусі вывучэнне палітычнай гісторыі ВКЛ, у тым ліку яго пачаткаў, забаранялася. Беларускія гісторыкі, якія займаліся перыядам ВКЛ, пісалі працы па эканамічнай гісторыі сялянства, зрэдку, гарадоў. У сінтэтычных працах і падручніках гісторыі БССР выкладалася летувацэнтрычная канцэпцыя генезы ВКЛ, адобраная Масквой і стаўшая афіцыйнай у СССР.

Першыя працы, пераважна папулярнага характару па пачатковай гісторыі ВКЛ пачалі з'яўляцца пасля здабыцця незалежнасці. Многія з іх аўтараў заставаліся пад уплывам афіцыйнай савецкай канцэпцыі гісторыі Беларусі. У прыватнасці, погляды Вячаслава Насевіча, выкладзеныя ў некалькіх артыкулах і навукова-папулярнай кнізе, уяўлялі сабой як бы "злагоджаны" варыянт летувацэнтрычнай канцэпцыі генезісу ВКЛ з акцэнтаваннем добрай волі ўсходніх славянаў пры пераходзе іх да падданства летувіскай дынастыі на стадыі ўтварэння летувіскай "цэнтралізаванай раннекласавай дзяржавы"[81]. (Дадатак 4. Дыскусія А.Краўцэвіча з В.Насевічам і М.Спірыдонавым)

# 2.2. БЕЛАРУСАЦЭНТРЫЧНАЯ КАНЦЭПЦЫЯ ЕРМАЛОВІЧА

У часы гарбачоўскай "перабудовы" незадоўга да ліквідацыі СССР з'явілася друкам праца беларускага гісторыка-аматара Міколы Ермаловіча "Па слядах аднаго міфа" з уласнай канцэпцыяй стварэння ВКЛ.

**Паводле беларусацэнтрычнай канцэпцыі Міколы Ермаловіча, утварэнне ВКЛ – справа рук наваградскіх феадалаў. Яны запрасілі на наваградскі стол літоўскага**

81 Насевіч В. Л. Пачаткі Вялікага княства Літоўскага: Падзеі і асобы. Мн., 1993. С. 59-60, 78; ён жа, Працэс утварэння Вялікага княства Літоўскага (13-14 стст.) // Актуальныя пытанні гісторыі Беларусі ад старажытных часоў да нашых дзён. Мн., 1992. С. 54-63. Носевич В. Проблемы образования Великого княжества Литовского: обзор белорусской историографии // Lietuvos istorijos studijos, 2008. Т. 22, стр. 39–57.

**князя-перабежчыка Міндоўга, пацярпеўшага паражэнне ў міжусобнай барацьбе ў Літоўскай зямлі і вымушанага ўцякаць у Наваградак**[82](у апошняй працы даследчык пісаў пра паходжанне Міндоўга з роду полацкіх князёў[83], на што ніякіх доказаў няма). **Атрымаўшы ад навaградчан грошы і войска, Міндоўг заваяваў Літву – востраў балцкага насельніцтва ў беларускім абшары (прыблізна ў трохкутніку паміж Менскам, Навaградкам і Слонімам), падпарадкаваўшы яе сабе, гэта значыць Навaградку. Выснова гісторыка: ВКЛ ад самых пачаткаў было беларускай дзяржавай.**

Моцны блок працы Ермаловіча – крытыка тэзы аб заваёве летувісамі беларускіх земляў, а адзін са слабейшых – спроба лакалізацыі летапіснай Літвы (раздзел 4.4.3.). Мікола Ермаловіч з яго версіяй аб запрашэнні Міндоўга на навaградскі стол блізка падышоў да ідэі саюза між двума этнічнымі чыннікамі, які даў пачатак працэсу дзяржаваўтварэння. (Дадатак 5. Рэцэнзія на кнігу М. Ермаловіча “Беларуская дзяржава Вялікае княства Літоўскае”)

* * *

Агульная памылка ў канцэпцыях: летувацэнтрычнай і беларусацэнтрычнай Ермаловіча – **бачанне працэсу ўзнікнення ВКЛ як канфлікту паміж балтамі і славянамі/беларусамі і летувісамі.** Падмуркам гэтых канцэпцый з’яўляецца пастулат аб шматвяковай балта-славянскай канфрантацыі, якая праяўлялася ў “змаганні за тэрыторыі”. Розніца ў названых канцэпцыях толькі ў вызначэнні пераможцы. У першым выпадку пераможцам аб’яўляліся

82 Ермаловіч М.І. Па слядах аднаго міфа. 2-е выданне. Мн., 1991. С. 58-60 (першае выданне ў 1989 г.); Ён жа: Старажытная Беларусь: Полацкі і новагародскі перыяды. Мн., 1990. С. 316-318.
83 Ермаловіч М. Старажытная Беларусь: Віленскі перыяд. Мн., 1994. С. 8. Практычна без зменаў усе тэзы М. Ермаловіча ўвайшлі ў ягоную апошнюю, выдадзеную пасмяротна працу – Беларуская дзяржава Вялікае княства Літоўскае. Мн., 2000.

летувісы, у другім – беларусы, адпаведна, ВКЛ абвяшчалася або летувіскай або беларускай дзяржавай.

Насамрэч адносіны паміж летувісамі і беларусамі на Панямонні і па ўсёй Беларусі як да стварэння ВКЛ, так і пасля, мелі мірны сімбіёзны характар, што было даказана шматгадовымі археалагічнымі і мовазнаўчымі даследаваннямі, праведзенымі ў перыяд пасля Другой усясветнай вайны.

Калі разбураецца падмурак, абрынаецца ўвесь будынак. Агульная галоўная ідэя абедзвюх канцэпцый, менавіта пастулат балта-славянскай/летувіска-беларускай канфрантацыі, аказалася абвергнутая. Гэта пацягнула за сабой неабходнасць перагляду і адмовы ад названых канцэпцый. Адначасова паўстала неабходнасць выпрацоўкі новых поглядаў на генезіс ВКЛ адпаведна сучаснаму ўзроўню гістарычных ведаў.

## 2.3. БІЭТНІЧНАЯ КАНЦЭПЦЫЯ

Шматгадовае даследаванне генезіса ВКЛ з улікам новых навуковых матэрыялаў прывяло аўтара да **біэтнічнай канцэпцыі генезісу ВКЛ**[84]. Яна ўлічвае навейшыя даследаванні працэсу балта-славянскіх кантактаў, абапіраецца на навукова доказаны факт мірнага характару беларуска-летувіскіх адносінаў і прадстаўляе стварэнне ВКЛ як вынік супрацы двух народаў, а не канфрантацыі між імі.

Шляхам комплекснага аналізу пісьмовых, археалагічных і лінгвістычных крыніц аўтар прыйшоў да канцэпцыі стварэння ВКЛ як балта-славянскай дзяржавы ад самага пачатку[85]. (падрабязней: раздзел 5; Дадатак 4. Дыскусія А.Краўцэвіча з В.Насевічам і М.Спірыдонавым)

84 Выніковая манаграфія “Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага”, на падставе якой у 1998 г. абаронена доктарская дысертацыя, вытрымала чатыры выданні (г.л. бібліяграфію).

85 Краўцэвіч А. Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага. Беласток, 2008. С. 160.

# 2.4. ГІСТАРЫЯГРАФІЯ ПЕРШАЙ СТАЛІЦЫ

Праблема лакалізацыі першай сталіцы ВКЛ дыскутуецца ўжо больш за стагоддзе і мае сваю гістарыяграфію. Сучасныя беларускія і польскія гісторыкі схільныя бачыць сталіцай, месцам хрышчэння і каранацыі Навагрудак, важнейшы на той час горад Панямоння[86]. (Дадатак 6. Артыкул "Каранацыя Міндаўга…").

Гісторыкі-медыявісты звяртаюць увагу на тое, што сярэднявечны манарх не меў пастаяннай рэзідэнцыі і па прычыне цяжкасцяў з забеспячэннем пастаянна пераязджаў з месца на месца: *"З ім вандравалі скарбніца, канцылярыя, архівы і службоўцы"*.[87] Адсюль робіцца выснова, што праблемы пошукаў першай сталіцы ВКЛ не існуе, бо сталіцы як такой увогуле не было.

У гістарыяграфіі выказваліся меркаванні, што сталіцай дзяржавы мог быць родавы замак Міндоўга, месцазнаходжанне якога дакладна не ўстаноўлена. На гэтую ролю прапаноўваўся названы аднойчы ў Галіцка-Валынскім летапісе "град" Варута (ці па іншай версіі – Рута), дзе Міндоўг у 1251 г. бараніўся ад валынска-яцвяжска-жамойцкага войска.[*]

[*] **Замак (burg) Міндоўга** (паводле Галіцка-Валынскага летапісу [у:] Ипатьевская летопись. ПСРЛ. Т. 2. 1843. С. 188; 1908. Стб. 818): "Миндъвгъ (на миндога, миндогъ і *інш.*) же собрался бѣ и умысливъ же собѣ не битися съ ними полкомъ, нъ вниде во градъ, именемъ Ворута, и высла шурина

86 Гл., напрыклад: Kosman M. Pompa funebris w Wilnie doby przedrozbiorowej // Lituano-Slavica Posnaniensia. Studia Historica. VI. 1994. S. 131; Ochmański J. Historia Litwy. S. 48; Rachuba A. Historia Litwy [w:] Rachuba A., Kiaupienė J., Kiaupa Z. Historia Litwy. Dwugłos polsko-litewski. Warszawa, 2009. S. 14.
87 Miśkiewicz M. Europa wczesnego średniowiecza V – XIII wiek. Warszawa, 2008. S. 345.

рактару працэсу – моўнай беларусізацыі мясцовых балтаў; а праз прыняцце беларускай мовы ў якасці дзяржаўнай спрыяла фармаванню беларускага народа і яго культуры.

Панямонне ў пачатку 2-га тыс. было занятае рэдкім балцкім насельніцтвам, якое належала да плямёнаў яцвягаў (вобласць левых прытокаў Нёмана[132]) і аўкштайтаў (археалагічная культура ўсходнелітоўскіх курганоў у басейне Віліі, да іх належала племя "літва"). Суседзі-славяне назвы "Аўкштота" не ўжывалі, а звалі ўсіх яе насельнікаў па імю бліжэйшага племя – "літва". Славянскі рух на гэтую тэрыторыю распачаўся з 7–9 ст. Тут сустрэліся з мясцовымі балтамі некалькі славянскіх каланізацыйных плыняў: крывіцкая – з усходу, дрыгавіцкая і валынская – з паўднёвага ўсходу і поўдня[133]. З паўднёвага захаду да Панямоння даходзілі таксама мазавецкія каланісты. Нетаропкі славянскі рух, які праходзіў галоўным чынам уздоўж рэк, быў на нейкі час затрыманы натуральнай перашкодай – водападзелам паміж Дняпром (менавіта, буйнейшым яго прытокам Прыпяццю) і Нёманам.

Славянская каланізацыя актывізавалася ў канцы 10 ст., і тады выхадцамі з розных усходнеславянскіх земляў былі заснаваныя паселішчы, якія сталі пазней галоўнымі панямонскімі гарадамі: Наваградак, Ваўкавыск, Гародня (самы старажытны горад над Нёманам)[134] і, магчыма, Слонім. Напэўна, трохі пазней над ракой Віліяй была закладзеная Вільня, якая разам з Гародняй аказалася найдалей заглыбленым у балцкі этнічны абшар усходнеславянскім горадам[135].[*]

132 Седов В.В. Курганы ятвягов // Советская археология. 1964. № 4. С. 36–51.
133 Гринблат М.Я. Белорусы. Очерки происхождения и этнической истории. С. 90–91.
134 Краўцэвіч А.К. Гарады і замкі Беларускага Панямоння 14 – 18 стст. С. 60.
135 Голубовичи В. и Е. Кривой город Вильно // Краткие сообщения Института истории материальной культуры АН СССР. Москва, 1945. Вып. 11. С.114 – 125.

[*] **Вільня.** Археалагічныя раскопкі на Верхнім віленскім замку (дзядзінцы) у міжваенны перыяд прывялі іх аўтараў Алену і Уладзіміра Галубовічаў да высновы, што тут на месцы балцкага паселішча (1 тыс. н.э.) пасля перапынку, магчыма, у некалькі стагоддзяў, з'явілася іншае паселішча – славянскае. Над культурным пластом першага паселішча (слой VI), у верхняй частцы слою Vi ў слоі Vd даследчыкі зафіксавалі амаль выключна кераміку, характэрную для славянскіх магільнікаў 11–13 ст. (Голубовичи В. и Е. Кривой город Вильно // Краткие сообщения Института истории материальной культуры АН СССР (КСИИМК). Москва, 1945. Вып. 11. С. 124)

"Сляды новага паселішча, зусім іншага характару, чым першае, з'яўляюцца большай часткай у пачатку феадальнай эпохі і характарызуюцца інвентаром, тыповым для старажытнарускіх гарадзішчаў. Калі ўзнікла новае паселішча, дакладна сказаць немагчыма." – Голубовичи В. и Е. Кривой город Вильно. С. 125.

Летувіскія археолагі, якія праводзілі раскопкі пасля Другой усясветнай вайны, славянскія матэрыялы, на жаль, не акцэнтавалі.

Археалагічныя матэрыялы засведчылі таксама ўдзел у фармаванні гарадоў выхадцаў з заходнеславянскіх земляў і мясцовых балтаў. У 12–13 ст. у панямонскіх гарадах сфармавалася аднароднае насельніцтва, якое мела выразнае ўсходнеславянскае аблічча: "Зліццё славянскіх выхадцаў з поўдня, поўначы і захаду, а таксама нешматлікіх прадстаўнікоў мясцовых балтыйскіх плямёнаў утварае адзінае насельніцтва гарадоў Заходняй Русі"[136].

Наяўнасць шырокай кантактнай зоны, захаванне балцкіх тапонімаў на абшарах славянскай каланізацыі прывялі даследчыкаў да высновы пра **агульны мірны характар**

136 Гуревич Ф.Д. Древние города Белорусского Понеманья. С. 45.

**балта-славянскіх кантактаў** як на Панямонні, так і па ўсёй тэрыторыі будучай Беларусі[137]. Гэтая важнейшая рыса названага працэсу мела істотнае значэнне ў фармаванні ВКЛ. Вынікам супрацоўніцтва стала перамешванне прышлых славян з мясцовымі балтамі і ўтварэнне новай этнічнай агульнасці – беларусаў. Актыўным і культурна дамінуючым бокам былі ўсходнія славяне, і таму новы этнас стаў славянамоўным.

## 3.4. Балта-славянскі кантакт і ўтварэнне ВКЛ

(Дадатак 7. Артыкул “Працэс балта-славянскіх кантактаў на Панямонні і ўтварэнне ВКЛ”)

У 13 ст., напярэдадні і ў часы ўтварэння ВКЛ, Панямонне ў этнічным сэнсе ўяўляла сабой кантактную зону паміж балцкім і ўсходнеславянскім этнічнымі масівамі. Яна размяшчалася ў прасторы прыблізна паміж Менскам і Вільняй і была занятая змешаным балта-славянскім насельніцтвам. (Дадаткі: карта 1) У паўночнай частцы зоны пераважалі балцкія, у паўднёвай – славянскія пасяленні. Гарады былі славянскімі, а іх вясковая ваколіца складалася са славянскіх, балцкіх, а таксама этнічна змешаных паселішчаў. Найдалей заглыбленымі ў балцкую прастору славянскімі анклавамі заставаліся Гародня на Нёмане і Вільня на Віліі.

Праблема балта-славянскіх кантактаў на землях Беларусі, на першы погляд, можа падацца непасрэдна не злучанай з генезісам ВКЛ. Аднак два працэсы, звязаныя з арганізацыяй жыццядзейнасці буйных чалавечых супольнасцяў, у пэўны гістарычны момант супалі ў часе і прасторы, і адно гэтае пераканаўча сведчыць аб іх узаемасувязі. Названы міжэтнічны кантакт аказаўся самай значнай гістарычнай з’явай на Панямонні за апошнія паўтара тысячагоддзя.



137 Краўцэвіч А. Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага. С. 90 – 95.

Адсюль вынікае непазбежнасць яго ўплыву на іншы гістарычны працэс – стварэння і фармавання ВКЛ[138].

Менавіта ў балта-славянскай кантактнай зоне, між тымі старажытнымі гарадамі, дакладней – у прасторы паміж Менскам, Вільняй, Гародняй, Ваўкавыскам ды Слонімам – утварылася ядро новай дзяржавы – Літва (потым засталася яе цэнтральнай вобласцю). Яна захоўвала сваю назву яшчэ ў 19–20 ст. – праз два стагоддзі пасля ліквідацыі ВКЛ.

Да пачаткаў ВКЛ усходнія славяне і балты мелі на Панямонні ўжо больш чым двухвекавы вопыт мірнага супрацоўніцтва. Высокі ўзровень эканамічна-культурнага жыцця панямонскіх гарадоў, які ўразіў нават спецыялістаў-археолагаў, у пэўнай меры, быў выкліканы менавіта гэтым супрацоўніцтвам. Хаця ўдзел у гарадскім жыцці балтаў даследчыкі ацэньваюць як намнога меншы за славянскі, самі панямонскія гарады (Наваградак, Гародня, Ваўкавыск, Слонім і інш.) выступалі як эканамічна-адміністрацыйныя і ваенна-абарончыя цэнтры ўсёй змешанай балта-славянскай ваколіцы. У той жа час анклавы славянскага сельскага насельніцтва маглі ўваходзіць у склад балцкай тэрытарыяльна-племяннай арганізацыі[139].

## 3.5. ПАЛІТЫЧНЫ СТАН (карта 2)

(Дадаткі: карта 2) Напярэдадні ўтварэння ВКЛ – у пачатку 40-х гадоў 13 ст. – у Верхнім і Сярэднім Панямонні актыўна праходзіў працэс балта-славянскіх кантактаў – славяне працягвалі перамешвацца з мясцовымі балтамі: яцвягамі і аўкштайтамі (у першую чаргу – з найбліжэйшымі геаграфічна літоўцамі). На паўночным захадзе і поўначы ад Панямоння ўмацоўваліся дзяржаўныя арганізацыі нядаўна сфармаваных нямецкіх анклаваў: Інфлянты (падзеленыя

138 Краўцэвіч А. Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага. С. 10.
139 Łowmiański H. Początki Polski. Warszawa, 1967. T. 3. S. 82.

на ўладанні Інфлянцкага ордэна, рыжскага архібіскупа, мясцовых біскупаў і горада Рыгі) і Прусы (дзяржава Тэўтонскага ордэна). Ад Літвы іх аддзялялі племянныя тэрыторыі жамойтаў і семігалаў.

На захад ад Панямоння ляжала палітычна падзеленая Мазовія, князі якой, дзеля захавання незалежнасці, праводзілі палітыку лавіравання паміж мацнейшымі суседзямі.

З усходу, поўдня і паўднёвага захаду Панямонне атачалі раздробленыя на ўдзелы беларускія Полацкая, Менская, Тураўская, Пінская і Берасцейская землі. Апошнія тры ўваходзілі ў палітычную сістэму Галіцка-Валынскага княства, якое на той час было наймацнейшай дзяржавай усходнеславянскага свету. Землі Беларускага Панямоння ў 13 ст. таксама знаходзіліся ў сферы ўплываў Галіцка-Валынскай дзяржавы. Добра відочны культурны ўплыў, напрыклад, будаўніцтва мураваных абарончых вежаў г.зв. валынскага тыпу (гатычных) у Гародні і Наваградку.

Ускоснае, але даволі пераканаўчае сведчанне пра палітычную залежнасць Наваградчыны і Гарадзеншчыны ад Галіцка-Валынскага княства знаходзім у лісце каталіцкага першасвятара да Міндоўга ад 6 сакавіка 1255 г. папа Аляксандр IV пісаў, што Міндоўг праз змаганне з “каралеўствам Русі” (галіцка-валынскі князь Даніла Раманавіч каранаваўся ад папы рымскага ў 1253 г.) “падпарадкаваў сваёй уладзе некаторыя землі гэтага каралеўства”[140]. Паводле іншых крыніц вядома, што тымі землямі маглі быць толькі Наваградчына і Гарадзеншчына.

За некалькі папярэдніх стагоддзяў балта-славянскага ўзаемадзеяння ў рэгіёне ўсталявалася адносна стабільная этна-культурна-палітычная сістэма, спецыфіка якой выяўлялася ў яе біэтнічнай аснове. Галоўнымі палітычнымі сіламі ў рэгіёне былі **ўсходнеславянскія гарады-дзяржавы і група моцных балцкіх кунігасаў** – вайсковых і племянных


140 Міндаў, кароль Літовіі, у дакументах і сведчаннях. С. 77.

правадыроў тутэйшых балтаў. Дынамічная раўнавага ў сістэме трымалася на мірным суіснаванні гэтых дзвюх сілаў.

Названы сімбіёз у сваю чаргу быў часткай буйной палітычнай сістэмы Усходняй Еўропы. У рэгіёне дамінавала ўсходнеславянская культура і адбывалася паступовая асіміляцыя балцкага насельніцтва, якая з пазіцыі сённяшняга дня ацэньваецца як праява этнагенезу беларусаў. Менавіта гэтая тэрыторыя (балта-славянская кантактная зона) стала ядром ВКЛ – гістарычнай Літвой, утрымлівала назву "Літва" да пачатку 20 ст. і захоўвае пэўную адметнасць да сённяшняга дня[141].

Стабільнасці панямонскай сістэмы не парушыў усплёск ваяўнічасці балцкіх плямёнаў, названых у летапісах "літвой", зафіксаваны, пачынаючы ад 80-х гадоў 12 ст. (Дадаткі: карта 2) Раўнавага захавалася найперш па той прычыне, што ваяўнічы рух балтаў быў накіраваны за межы сваёй панямонскай сістэмы. Пісьмовыя крыніцы (усходнеславянскія летапісы, польскія і нямецкія хронікі) зафіксавалі дзясяткі рабаўнічых паходаў літоўцаў амаль ва ўсіх кірунках: на польскія, галіцка-валынскія, чарнігаўскія, смаленскія, ноўгарадскія, пскоўскія землі, на Лівонію і землі эстаў. Аднак даследчыкам не ўдалося знайсці прамога ці вартага даверу ўскоснага сведчання пра напад летапісных літоўцаў на Наваградак, Гародню, Ваўкавыск, Менск, Полацак ці іншыя гарады будучай Беларусі. І, наадварот, маюцца прамыя сведчанні крыніц аб полацка-літоўскім, пінска-літоўскім, наваградска-літоўскім супрацоўніцтве.

Суседзі-славяне бесперашкодна прапускалі літоўскія атрады праз сваю тэрыторыю, а пры зручным выпадку і самі былі не супраць да іх далучыцца. Так, напрыклад, зрабілі палачане ў 1198 г. і ў 1258 г., калі хадзілі ваяваць разам з літоўскімі атрадамі супраць свайго суперніка

141 Цітоў В.С. Народная спадчына: матэрыяльная культура ў лакальна-тыпалагічнай разнастайнасці. Мн., 1994. С. 258 – 279.

– Смаленска. У 1203 г. васал Полацка князь Усевалад з Герцыке з саюзным літоўскім атрадам нечакана з'явіўся каля Рыгі, забраў жывёлу з пашы і захапіў двух святароў, якія разам з пілігрымамі секлі лес. У 1245 г. пінскі князь патаемна паслаў ганца папярэдзіць літоўскі атрад пра надыход валынскага войска. Усе вядомыя выпадкі прыходу літоўскіх кунігасаў на княжанне ва ўсходнеславянскія гарады ў 13 ст. адбыліся праз запрашэнне[142].

Да Аўкштоты амаль з усіх бакоў (з захаду, поўдня, усходу) прылягалі "мірныя" тэрыторыі. Яны складаліся як з балцкіх (Яцвягія, Прусія), так і бліжэйшых усходнеславянскіх земляў: Наваградчына, Гарадзеншчына, Полацкая, Тураўская, Пінская землі. У выніку племянная тэрыторыя летапісных літоўцаў была аточаная нібыта "поясам бяспекі". Вораг не мог лёгка дабрацца да літоўскіх паселішчаў – трэба было прайсці як мінімум пару сотняў кіламетраў праз гэтыя заміраныя з літоўцамі землі.

Тым не менш, сам факт мілітарнай актыўнасці сярэдневечных літоўцаў стаў важнейшай падставай для ўзнікнення тэзы аб заваёве Беларускага Панямоння (як і ўсёй Беларусі) летувісамі і ацэнкі ВКЛ як балцкай дзяржавы (летувацэнтрычная канцэпцыя генезісу ВКЛ). Зыходзячы з рэальнага факту літоўскіх паходаў на ўсходнеславянскія землі, некаторыя гісторыкі прапанавалі тэзу пра перарастанне рабаўнічых нападаў на Русь у тэрытарыяльна-захопніцкія[143].

Аднак маўчанне пісьмовых крыніцаў пра балта-славянскую канфрантацыю на землях Беларусі і даказаны даследаваннямі мовазнаўцаў і археолагаў мірны характар балта-славянскіх кантактаў абвяргае версію пра заваёву летувісамі беларускіх земляў (гэтаксама, як беларусацэнтрычную гіпотэзу Міколы Ермаловіча пра заваёву балцкай



142 Краўцэвіч А. Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага. С. 132 – 135.
143 Ochmański J. Litewska granica... S. 24.

Літвы Наваградкам [144]). Выраз з цытаванага вышэй ліста папы рымскага да Міндоўга “падпарадкаваў сваёй уладзе некаторыя землі...” не азначае, што землі, пра якія ідзе гаворка (Наваградчына і Гарадзеншчына), былі захопленыя ці падпарадкаваныя супраць волі іх жыхароў. Наадварот, яны ваявалі на баку Міндоўга ды яго наступнікаў Войшалка і Трайдэна.

144 Ермаловіч М.І. Па слядах аднаго міфа. С. 58 – 60; ён жа: Старажытная Беларусь: Полацкі і новагародскі перыяды. С. 316–318; ён жа: Беларуская дзяржава Вялікае княства Літоўскае. С. 65 – 69.

# ТЭМА 4

# ЛАКАЛІЗАЦЫЯ ГІСТАРЫЧНАЙ ЛІТВЫ (карта 3)

## 4.1. СЦІСЛАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА ПАНЯЦЦЯ "ЛІТВА"

**Літва.** Тэрмін паходзіць ад назвы сярэднявечнага балцкага племя (літва, літоўцы), якое займала тэрыторыю ў басейне правых прытокаў Нёмана, пераважна ракі Віліі. Назвай гэтага памежнага племя ўсходнія славяне акрэслівалі іншыя роднасныя літве плямёны, размешчаныя далей ад памежжа са славянамі. Наданне назвы краіне па імю пагранічнай зямлі – распаўсюджаная ў гісторыі з'ява (гл. Лингвистический энциклопедический словарь. Москва, 1990. С. 598), у тым ліку ў Прыбалтыцы. Бліжэйшыя прыклады – Прусія і Лівонія (Інфлянты). Апошні выпадак найбольш паказальны, бо пераважна балцкая краіна атрымала назву ад вугра-фінскага племя ліваў, якое нямецкія каланісты першым спаткалі падчас высадкі ў вусці Дзвіны.

**У 11–13 ст. назва "Літва" распаўсюдзілася на ўсё Верхняе і Сярэдняе Панямонне (сённяшнія Наваградчына, Гарадзеншчына, Віленшчына, заходняя частка Меншчыны) – вобласць са змешаным балта-славянскім насельніцтвам.** У гэтым рэгіёне, называным у сучаснай навуковай гістарыяграфіі **"Літва ў вузкім сэнсе"**, **"уласна Літва"**, **"гістарычная Літва",** у 13 ст. утварылася ВКЛ. Да канца існавання дзяржавы "Літва ў вузкім сэнсе" ("уласна Літва") заставалася галоўнай, цэнтральнай

яе вобласцю. На працягу 2-га тыс. н. э. тэрмін "Літва" выступаў у трох значэннях: 1. **Палітонім,** ці абазначэнне ўсёй дзяржавы – ВКЛ; 2. **Харонім,** ці "Літва ў вузкім сэнсе" (тэрмін уведзены Мацеем Любаўскім) – гістарычны цэнтр дзяржавы – "Гістарычная Літва"; 3. **Літва ў сэнсе этнаграфічным** (этнаграфічна балцкім) (гл.: Halecki O. Litwa, Ruś i Żmudź jako części składowe Wielkiego Księstwa Litewskiego // Rozprawy Akademii Umiejętności. Wydział Historyczno-Filozoficzny. Seria II. T. 59. Kraków, 1916. S. 215–216; Краўцэвіч А. Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага. Беласток, 2008. С. 97.)

За час існавання ВКЛ на працягу 13–18 ст. **"уласна Літва"** праз працэс балта-славянскіх кантактаў набыла пераважна беларускі этнічны характар. У сучаснай Беларусі выдзяляецца як асобны гісторыка-этнаграфічны рэгіён "Панямонне" (Цітоў В.С. Народная спадчына: Матэрыяльная культура ў лакальна-тыпалагічнай разнастайнасці. Мн., 1994. С. 258–279.)

Найбольш дакладнае геаграфічнае акрэсленне "ўласна Літвы" зрабіў Міхаіл Спірыдонаў: "Выкладзеныя даныя дазваляюць сцвярджаць, што ў 16 ст. сучаснікі адносілі да Літвы перш за ўсё этнічна летувіскія Віленскі, Вількамірскі, Ковенскі, Троцкі і Упіцкі паветы, а таксама поўнасцю ці часткова "беларускія" паветы ВКЛ: Браслаўскі, Віленскі, Ваўкавыскі, Гарадзенскі, Лідскі, заходнюю частку Менскага, большую частку Наваградскага, амаль увесь Ашмянскі і Слонімскі". Мяжу між Літвой і Руссю "ў найбольш агульным выглядзе", на думку Спірыдонава, можна правесці па 28 мерыдыяне ад Грынвіча (Спиридонов М.Ф. "Литва" и "Русь" в Беларуси в 16 в. // Наш Радавод. Гродна, 1996. Ч. 7. С. 208–209.)

Паняцце "Літва" прайшло доўгую і складаную эвалюцыю, якая заняла амаль тысячагоддзе – ад 11 ст. (першае ўпамінанне ў пісьмовых крыніцах – 1009 г.) да 20 ст.[145] Напа-

145 Пра гэта раздзел 2.2 з манаграфіі "Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага".

чатку так называлася тэрыторыя балцкага племя, гэтаксама, як і само племя ("літва" – паводле Галіцка-Валынскага летапісу; "littowen" – у Старэйшай інфлянцкай рыфмаванай хроніцы) на пагранiччы з Полацкай зямлёй (Менскім княствам). Па меры разгортвання славянскай каланізацыі ў 12–13 ст. назва "Літва" распаўсюдзілася на ўсё Верхняе і Сярэдняе Панямонне, дзе жыло мешанае балта-славянскае насельніцтва, якое праз працэсы культурнага ўзаемадзеяння эвалюцыянавала ў беларускі этнас.

Менавіта гэтая тэрыторыя (у агульных рысах то сённяшнія Наваградчына, Гарадзеншчына, Віленшчына і заходняя частка Меншчыны) стала месцам утварэння ВКЛ, пазней заставалася галоўнай, цэнтральнай вобласцю дзяржавы (іншыя вобласці: Русь, Жамойць, Палессе, Падляшша, Валынь, Кіеўшчына і Падолле[146]). Пасля яе ліквідацыі ўспрымалася як рэгіён у Расейскай імперыі (напрыклад, гарады Мінск-Літоўскі, Брэст-Літоўскі), а потым – як гісторыка-этнаграфічны рэгіён Беларусі[147]. У навуковай гістарыяграфіі яна выступае як **уласна Літва, Літва ў вузкім сэнсе, Гістарычная Літва.**

За межамі ВКЛ Літвой называлі ўсю дзяржаву, а літоўцамі ці ліцвінамі (літвінамі) звалі ўсіх яе жыхароў, незалежна ад этнічнай прыналежнасці і месца жыхарства (ад Жамойці да Падолля і ад Падляшша да Смаленшчыны).

У другой палове 19 – пачатку 20 ст. гэтую назву пераняў для сваёй краіны (Lietuva) нацыянальны рух, які сфармаваўся галоўным чынам на этнічнай аснове Жамойці. На працягу міжваеннага дваццацігоддзя гістарыяграфія незалежнай летувіскай дзяржавы манапалізавала гістарычную спадчыну ВКЛ (у якім яе землі складалі каля 10% тэрыторыі, а летувіская мова не мела дзяржаўнага статусу).

146 Насевіч В., Спірыдонаў М. "Русь" у складзе Вялікага княства Літоўскага ў XVI ст. // З глыбі вякоў: Наш край. Мн., 1996. Вып. 1. С. 9.

147 Цітоў В.С. Народная спадчына: Матэрыяльная культура ў лакальна-тыпалагічнай разнастайнасці. С. 258 – 279.

Беларуская і ўкраінская гістарыяграфіі ў той час не маглі свабодна развівацца па прычыне адсутнасці ўласных незалежных дзяржаў, таму ў дыскусіі не ўдзельнічалі. Навуковая гістарыяграфія ВКЛ у гэтых краінах пачала актыўна фармавацца толькі пасля здабыцця імі незалежнасці ў 90-я гады 20 ст. На сённяшні дзень па ўсім свеце надалей мае даволі шырокае распаўсюджанне (у тым ліку дзякуючы высілкам сучаснай летувіскай гістарыяграфіі) памылковае стэрэатыпнае атаясамленне гістарычнай Літвы з сучаснай Летувай, а гісторыі ВКЛ (у першую чаргу палітычнай) – з гісторыяй гэтай краіны. (Дадатак 9. Дыскусія А.Краўцэвіча з Эльмантасам Мейлусам)

## 4.2. ТРЫ ЗНАЧЭННІ ТЭРМІНУ "ЛІТВА"

На працягу 2 тыс. паняцце "Літва" прайшло складаны шлях развіцця, перш чым стабілізавацца ў пачатку 20 ст. У ходзе эвалюцыі яно набыло тры сэнсавыя значэнні (яшчэ ў пачатку 20 ст. гэта заўважыў Аскар Халецкі[148]): 1. **Палітонім,** ці абазначэнне ўсёй дзяржавы – ВКЛ; 2. **Харонім,** ці "Літва ў вузкім сэнсе" (тэрмін уведзены Любаўскім) – гістарычны цэнтр дзяржавы – Гістарычная Літва[149]; 3. **Літва ў сэнсе этнаграфічным** (этнаграфічна балцкім).

Палітонім "Літва" аб'ядноўваў усе тэрытарыяльныя складнікі дзяржавы, жыхароў якой незалежна ад іх этнічнай ці канфесійнай прыналежнасці за мяжой называлі ліцвінамі. Па назіранню Аскара Халецкага ўжо ў афіцыйнай тытулатуры Міндоўга ўжывалася толькі адна назва Літвы, хоць дзяржава складалася як з балцкіх, так і ўсходнеславянскіх земляў. Дадатак "Русь" з'явіўся ў тытуле гаспадара толькі

148 Halecki O. Litwa, Ruś i Żmudź jako części składowe Wielkiego Księstwa Litewskiego // Rozprawy Akademii Umiejętności. Wydział Historyczno-Filozoficzny. Seria II. T.59. Kraków, 1916. S. 215-216.
149 У даследаваннях па найноўшай гісторыі тэрмін "Гістарычная Літва" ўжываецца для абазначэння тэрыторыі ВКЛ у межах пасля Люблінскай уніі 1569 г.

пры Гедыміне, калі да дзяржавы былі далучаны некаторыя землі Русі[150].

У гісторыкаў, як правіла, не ўзнікае праблем з дакладным ужываннем назвы "Літва" ў сэнсе палітоніма. Інакш выглядае сітуацыя з двума астатнімі значэннямі. У гістарыяграфіі часта блытаецца монаэтнічнае (балцкае) разуменне тэрміна "Літва" з аднайменным сярэднявечным харонімам – абазначэннем ядра ВКЛ – тэрыторыі са змешаным балта-славянскім насельніцтвам. Іншымі словамі, на сярэднявечча пераносіцца сітуацыя 20 ст., калі названы тэрмін замацаваўся за этнічна балцкай тэрыторыяй. У выніку ўзнікаюць праблемы з адэкватнай ацэнкай сутнасных момантаў гісторыі ВКЛ, асабліва пачаткаў гэтай дзяржавы.

Аналіз пісьмовых крыніц паказвае, што прысутныя ў іх тры варыянты тэрміна "Літва" маюць пэўную іерархію, якая ў ходзе гістарычнага працэсу перацярпела значныя змены. У ходзе эвалюцыі адно разуменне тэрміна набывала важнейшае першаснае значэнне, другое адыходзіла на задні план (гл. табліцу)

Табліца: **Храналагічна-іерархічная эвалюцыя трох варыянтаў тэрміна "Літва"**

| важнейшыя варыянты тэрміну "Літва" ў розныя перыяды | | |
|---|---|---|
| X – XII ст. | XIII – XVIII ст. | XIX – XX ст. |
| **этнонім** – балцкае племя і яго тэрыторыя – летапісная "літва" | **харонім** – цэнтральная вобласць ВКЛ; **палітонім** – агульная назва ВКЛ за яго межамі | **этнонім** – краіна мадэрнага народу з саманазвай "Летува" (Lietuva) |

Спачатку тэрмін меў выключна этнічны сэнс. Літвой, Літоўскай зямлёй называлі балцкую племянную тэрыто-



150 Halecki O. Litwa, Ruś i Żmudź... S. 216-217.

рыю пры мяжы з Менскім і Наваградскім княствамі. Потым і іншыя роднасныя той літве плямёны.

З утварэннем ВКЛ важнейшае першаснае значэнне набыло разуменне Літвы ў якасці назвы ядра дзяржавы (тэрыторыі з балта-славянскім насельніцтвам). Адначасова на другім плане існавала ўсведамленне і балцкаэтнічнага напаўнення тэрміна (мова, свядомасць этнічнай блізасці часткі Літвы да Жамойці)[151]. У 16 ст. пад уплывам ідэй Рэнесансу з'явілася летувіская пісьменнасць і друк, частка інтэлектуальнай эліты (паходжаннем са шляхты, мяшчан і духавенства) прыйшла да ўсведамлення сябе асобным народам і стварыла міф пра паходжанне летувіскай шляхты ад старажытных рымлян[152].

Становішча кардынальна змянілася ў 20 ст. пасля ўтварэння балцкай дзяржавы, прыняўшай назву "Летува" ("Lietuva"). Прыняцце тэзіса аб храналагічна-іерархічнай эвалюцыі трох варыянтаў тэрміна "Літва" дае магчымасць пазбегнуць блытаніны паміж названымі варыянтамі. (гл. табліцу)

Сітуацыя ўяўляецца дастаткова тыповай. Агульным момантам між двума відамі чалавечых супольнасцей – этнасам і дзяржавай – з'яўляецца тое, што яны прызваны забяспечыць членам супольнасці лепшыя ўмовы для выжывання. Дзяржава (арганізацыя па паходжанню больш позняя) названую функцыю выконвае з большай эфектыўнасцю. Таму пры перасячэнні інтарэсаў этнічных і дзяржаўных структур перавагу атрымліваюць апошнія.

151 Długosz Jan. Roczniki... Ks.1-2. Warszawa, 1961. S.286: "Прусаў, літоўцаў і жамойтаў аб'ядноўвала супольнасць тых самых звычаяў, мовы і паходжання"; Эразм Цёлак казаў у 1501 г., што літоўцы захоўваюць уласную мову, хоць карыстаюцца мовай русінаў // Vetera Monumenta Poloniae et Lithuaniae Gentiumque finitimarum Historiam illustrantia. T. 2. /Ed.A.Theiner. Romae, 1861. N. 289. P. 277.

152 Улащик Н.Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. С. 130; Фядосік, В.А. Палемон Пантыйскі і легенда аб Палемоне ў летапісанні Вялікага княства Літоўскага // Российские и славянские исследования: науч. сб. Вып. 9. / редкол.: А.П. Сальков, О.А. Яновский (отв. редакторы) [и др.]. Мн., 2014. С. 219 – 229.

У нашым выпадку Літва як дзяржаўная структура (галоўнае ядро дзяржавы) адсунула на маргінес Літву як паняцце этнічнае. У гістарычнай Літве адміністрацыйны падзел у значнай ступені ігнараваў этнічныя межы.

У найноўшы час у ходзе фармавання нацыянальных рухаў летувісы апярэдзілі беларусаў і пры стварэнні нацыянальнай ідэалогіі "прысвоілі" ВКЛ разам з назвай "Літва". Па-летувіску яна гучыць як "Летува", але летувісы настойваюць, каб у іншых мовах іх краіну называлі "Літвой". (Дадатак 9. Дыскусія А.Краўцэвіча з Эльмантасам Мейлусам)

## 4.3. ПАХОДЖАННЕ НАЗВЫ "ЛІТВА"

Усходнеславянскі тэрмін "Літва" ў летувіскай мове мае адпаведнік "Lietuva". Польская назва "Litwa", відавочна, з'яўляецца запазычанай ад усходніх славян[153]. Этымалогія тэрміна не высветлена. У гістарыяграфіі вядомы спробы абгрунтавання яго гідранімічнага паходжання (ад магчымай назвы Нёмана – Атрэмбскі[154]; ад рэчкі Letaukos ці Lietaukos – Кузавініс[155]), якія, аднак, не сталі агульнапрынятымі[156].

Даследчыкі адзначаюць, што ў крыніцах 12–13 ст. тэрмін "Літва" ўжываецца ў двух значэннях: "Літоўская зямля ў вузкім сэнсе" і "ў сэнсе шырокім як сукупнасць усіх літоўскіх (летувіскіх. – А.К.) земляў"[157]. Падобную двухсэнсоўнасць можна тлумачыць як слабай знаёмасцю тагачасных аўтараў з племяннымі падзеламі балтаў Панямоння, так і ў некаторых выпадках палітычнымі прычынамі[158]. Апошняе мела месца ў суседняй Прусіі, дзе крыжакі імкнуліся

153 Otrębski J. Gramatyka języka litewskiego. Warszawa, 1958. T. 1. S.2.
154 Otrębski J. Gramatyka języka litewskiego. S. 5.
155 Kuzavinis K. Lietuvos vardo kilmé // Lietuvos TSR aukštųjų mokyklų mokslo darbai. Kalbotyra. Vilnius, 1964. T.10. P. 5-18.
156 Gudavičus E. Dél Lietuvos valstybés kürimosi centro ir laiko // Lietuvos TSR Mokslų Akademijos darbai. A serija. Vilnius, 1983. T. 2(83). P. 61-70.
157 Gudavičus E. "Lietuvos" vardas 11 a. - 12 a. I pusés šaltiniuose // Lietuvos TSR Mokslų Akademijos darbai. A serija. Vilnius, 1983. T. 3(84). P. 79.
158 Урбан П. Да пытання этнічнай прыналежнасці старажытных ліцьвіноў. Мн., 1994. С. 35-36.

ахапіць назвай прусаў як мага больш мясцовых плямён, паколькі атрымалі дакументы ад папы і імператара на валоданне менавіта Прусіяй[159].

Утварэнне алаэтнонімаў (алаэтнонім – назва этнасу, дадзеная яму другімі этнасамі) шляхам называння этнасу па імю найбольш блізкага тэрытарыяльна племені – з'ява даволі распаўсюджаная[160]. Верагодна, рускія летапісцы, засвоіўшы назву пагранічнага з усходнімі славянамі племені, пераносілі яе на сваякоў-суседзяў літвы. Розніцу між гэтымі астатнімі славяне пачалі заўважаць пры бліжэйшым знаёмстве. Падобнае здарылася з немцамі, калі яны ў вусці Дзвіны першых сустрэлі ліваў, і ў выніку пераважна балцкая краіна стала Лівоніяй (Livland) па назве гэтага угра-фінскага племені. Гэтаксама па імені пагранічнага са славянамі племені была названа Прусія, заселеная роднаснымі, але ўсё ж адрознымі між сабой саюзамі плямён[161]. Тут старажытная назва краіны захавалася і пасля кардынальнай змены этнічнай сітуацыі на карысць немцаў.

Першая вядомая гісторыкам узгадка пра Літву ў пісьмовых крыніцах знойдзена ў т.зв. Кведлінбургскіх аналах (Annales Quedlinburgenses) 11 ст. Хроніка паведамляе пад 1009 г., што актыўны хрысціянскі місіянер святы Бруна прыняў пакутніцкую смерць ад язычнікаў на мяжы Русі з Літвой (in confinio Rusciae et Lituae)[162].

"Аповесць мінулых часоў" – першы летапісны твор усходніх славян, створаны ў пачатку 12 ст., назвала Літву сярод назвала Літву сярод народаў, якія маюць уласную, адрозную ад славян мову[163]. Літва ўпамінаецца таксама

159 Кулаков В.И. Земля пруссов и "прусские земли". С. 95-101.
160 Лингвистический энциклопедический словарь. С. 598.
161 Кулаков В.И. Земля пруссов и "прусские земли". С. 95-101.
162 Annales Quedlinburgenses // Monumenta Germaniae Historica. Skriptorum. Ed.G.H.Pertz. T.3. Hannoverae, 1839. P. 80; Meysztowicz W. Szkice o świętym Brunie-Bonifacym // Sacrum Poloniae Millennium. T.5. Rzym, 1958. S. 495-496.
163 Повесть временных лет. Москва-Ленинград, 1950. Ч.1. С.13: "А се суть инии языци, иже дань дають Руси: чюдь, меря, весь, мурома, черемись, мордъва, пермь, печера, ямь, литва, зимигола, корсь, норома,

ў некаторых сярэднееўрапейскіх хроніках 12 ст.[164] З 12 ст. (асабліва з 80-х гадоў) тэрмін "Літва" трывала замацоўваецца на старонках усходнеславянскіх летапісаў, што было звязана з узрастаннем ваенна-рабаўнічай актыўнасці летапісных літоўцаў. Яны нападалі на дальніх і бліжніх суседзяў, за выключэннем некаторых роднасных ім плямён (жамойтаў, прусаў, яцвягаў), а таксама ўсходніх славян, якія засялялі землі будучай Беларусі (Падзвінне, Падняпроўе, Панямонне). З апошнімі балцкія плямёны, у тым ліку літоўцы, знаходзіліся ў працяглым мірным кантакце, паступова падпадаючы пад уплыў усходнеславянскай культуры[165].

Акрамя ўсходнеславянскіх летапісаў важная інфармацыя па гісторыі і геаграфіі Літвы ўтрымліваецца ў крыжацкіх хроніках 13–14 ст., а таксама ў актавых матэрыялах, нешматлікіх у 13–14 ст. і прадстаўленых у большай колькасці са стагоддзя 15-га і асабліва з 16-га.

Даволі рана (магчыма, раней за літоўцаў) усходнія славяне сутыкнуліся з яцвягамі, таму першыя звесткі аб яцвягах у рускіх крыніцах (ятвяг Гунарев) адносяцца да 10 ст. Жамойць не мела непасрэднай мяжы з Руссю, таму, відаць, у летапісах з'яўляецца значна пазней – у 13 ст.[166]

У працэсе ўтварэння ВКЛ з'явіліся першыя актавыя і дыпламатычныя дакументы ў якіх выступае Літва. У наступныя стагоддзі іх станавілася ўсё больш. Некаторыя ўтрымліваюць інфармацыю пра лакалізацыю Літвы, што прыцягвае ўвагу даследчыкаў. Напрыклад, Матвей Любаўскі, прааналізаваўшы дамову Ягайлы і Кейстута з хохмайстрам Тэўтонскага ордэна ад 1379 г., адзначыў: "Гарадзенская зямля ў гэтым дагаворы адрозніваецца ад рускіх волас-

либь: си суть свой языкъ имуще, от колена Афетова, иже живуть въ странахъ полунощныхъ."

164 Gudavičus E. "Lietuvos" vardas… P. 79-88.

165 Седов В.В. Литовские племена. С. 381-417; Зверуго Я.Г. Верхнее Понеманье в IX – XIII в. С. 14-17.

166 Łowmiański H. Geografia polityczna Bałtyw w dobie plemiennej // Lituano-Slavica Posnaniensia. Studia Historica. I. Poznań, 1985. S. 59-60.

цей, суседніх з уладаннямі ордэна, а гарадняне ад рускіх, прычым першая назва ў акце дамовы не раз заменена словам “Літва”[167]

“Літоўская зямля” выступае ў вялікакняскім прывілеі ад 1387 г., у якім Ягайла надаваў свайму брату князю Скіргайле шэраг зямельных уладанняў. У дакуменце таксама ўжываецца выраз “на рускай старане горад Менеск Літоўскага княжання”[168]. Пералічаныя ў ім імёны баяр і назвы вёсак, размешчаных паблізу Вільні і Трокаў (на поўдзень і паўднёвы ўсход), носяць выразны ўсходнеславянскі характар: “в Солчніцах і ў той воласці, тое сяло Іванава, што Андрэй дзяржаў Барысавіч” (Салечнікі – каля 40 км ад Вільні), “на Вацэ сяло, што Барыс дзяржаў” (10-20 км ад Вільні). Сёлы “Лебядзеўскай воласткі” ў ваколіцы Крэва (каля 90 км ад Вільні) таксама маюць выразна русінскія назвы: “Дзьмітрыева сяло”, “Груздовіца”, “Анцыпарава сяло і Скалубіна і Тургенева сяло”[169].

Ян Якубоўскі атаясамліваў “рускую старану” з Руссю і распаўсюджваў гэты выраз на ўсе пералічаныя пасля Менска мясцовасці[170]. Але ў дакуменце назва “руская старана” звязана непасрэдна з Менскам, з тэксту нельга вывесці, ці адносіўся ён да Свіслачы, Бабруйска і інш.

Аналізуючы дакумент, Лаўмяньскі вырашыў, што названае ў тэксце Троцкае княства – гэта і ёсць Літоўская зямля. Аднак не менш верагодна на аснове акрэслення “ ў літоўскай зямлі княжэнне Троцкае” бачыць гэтае княства толькі часткай Літоўскай зямлі[171]. З названага дакумента Якубоўскі вывеў, што Троцкае княства займала паўднёв-

167 Любавский М. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута. Москва, 1893. С. 4.
168 Jakubowski J. Opis Księstwa Trockiego z 1387 r. // Przegląd Historyczny. 1907. T. 5. Z.1. S. 44.
169 Jakubowski J. Opis Księstwa Trockiego z 1387 r. S. 45.
170 Jakubowski J. Opis Księstwa Trockiego... S. 27.
171 Łowmiański H. Geografia polityczna Bałtów ... S. 91; Jakubowski J. Opis Księstwa Trockiego ... S. 44.

а-заходнюю частку ўласна (балцкаэтнічнай – *А.К.*) Літвы[172]. Аднак у другой працы даследчык падтрымаў тэзу Любаўскага аб біэтнічнай Літве[173], ніяк не каментуючы яўную супярэчнасць сваіх выказванняў. У названым дакуменце ёсць сведчанні аб славянскай ваколіцы Вільні. Археолагі Галубовічы адкрылі ў Вільні культурныя напластаванні, тыповыя для ўсходнеславянскага горада[174].

# 4.4. Лакалізацыя пачатковай Літвы на 12–13 ст.

## 4.4.1. Лакалізацыя Генрыка Лаўмяньскага

Даследчыкі, якія займаліся лакалізацыяй Літвы 12-13 ст., як правіла, шукалі яе на тэрыторыі сённяшняй этнічнай Летувы (выключэнне – Ермаловіч). Дэталёва распрацаваную лакалізацыю Літвы 13 ст. прапанаваў Генрык Лаўмяньскі, які лічыў гэтую тэрыторыю выключна балцкай[175]. У той жа час Лаўмяньскі ніяк не выказваў сваіх адносін да тэзы Любаўскага аб біэтнічнай Літве, у сваіх рэканструкцыях ён яе проста ігнараваў. Даследчык прапанаваў распрацаваную ім палітычную геаграфію балцкіх плямёнаў, якая не страціла актуальнасці і сёння.

Лакалізацыя палітычна-тэрытарыяльных адзінак у гэтай рэканструкцыі ў шэрагу выпадкаў даведзена да найдрабнейшага ўзроўню – акруга вакол гарадзішча (пяты ўзровень паводле класіфікацыі даследчыка). Адзінка першага ўзроўню – саюз плямёнаў пад назвай “Літва”, складалася з двух плямёнаў – жамойтаў і аўкштайтаў (другі ўзровень). Потым ішлі землі (трэці), воласці (чацвёрты) і акругі (пяты).

172 Jakubowski J. Opis Księstwa Trockiego … S. 25.
173 Jakubowski J. Mapa Wielkiego Księstwa Litewskiego w połowie XVI wieku. Kraków, 1928. S. 14.
174 Голубовичи В. и Е. Кривой город Вильно. С. 114-125.
175 Łowmiański H. Geografia polityczna Bałtów … S. 59-105.




**Балцкія землі ў сярэдзіне XIII ст.**
**(паводле Г.Лаўмяньскага і В.Насевіча)**

“Літва ў вузкім сэнсе”, ці “ўласна Літва”, была адной з трох ці чатырох земляў Аўкштоты. Межы між землямі Лаўмяньскі праводзіў па пушчах, паколькі лічыў іх міжплемяннымі пагранічнымі пусткамі.

Як выдаецца, даследчык перабольшваў значэнне пушчаў як міжэтнічных граніц (аб сваёй памылцы ў выпадку з руска-летувіскай мяжой Лаўмяньскі пазней пісаў сам)[176]. У рэканструкцыі Лаўмяньскага маюцца разыходжанні між апісаннем месцазнаходжання некаторых земляў і размяшчэннем іх на карце. У тэксце падаецца, што Нальшанская зямля размяшчалася на паўночным усходзе,

176 Łowmiański H. Geneza ziemi połockiej // Z polskich studiów slawistycznych. Seria 3. Historia. Warszawa, 1968. S. 18.

а на карце яна паказана на паўднёвым усходзе і поўдні Аўкштоты. Літоўская зямля размешчана на паўднёвым захадзе, што не стасуецца з указаннем важнай крыніцы – Галіцка-Валынскага летапісу: Войшалк збудаваў манастыр “на мяжы Наваградка з Літвой”[177]. Цікава, што праз трыццаць з лішнім гадоў пасля публікацыі сваёй палітычнай геаграфіі балтаў Лаўмяньскі выказаў (у 1968 г.) цалкам новае (біэтнічнае) разуменне тэрміна “Літва”, а менавіта як тэрыторыі “змяшэння элемента летувіскага і славянскага”, або яшчэ, “што Русі плаціла даніну тэрыторыя, заселеная змешаным руска-летувіскім насельніцтвам, **якая ў рускіх крыніцах мела назву Літвы**”[178] (выдзелена мною – *А.К.*).

Як вядома, пісьмовыя крыніцы ўтрымліваюць толькі ўскосную інфармацыю аб размяшчэнні асобных земляў Аўкштоты. Так, можна з пэўнасцю вывесці, што з Лівоніяй межавала Нальшанская зямля, а далей углыб Аўкштоты, гэта значыць на поўдзень ад Нальшанаў, знаходзілася Літоўская зямля.

Аб размяшчэнні Дзяволтвы няма нават ускосных сведчанняў, але, ведаючы прыблізнае размяшчэнне Нальшанаў і Літвы, можна вывесці, што яна знаходзілася ў цэнтры ці ў заходняй частцы Аўкштоты. Лаўмяньскі лакалізуе яе па населенаму пункту Дзевалтова. У існаванні Упіцкай зямлі сам Лаўмяньскі не да канца ўпэўнены, бо ў крыніцах яна ўпамінаецца толькі аднойчы[179].

Праз паўсотні гадоў пасля Генрыка Лаўмяньскага да тых жа самых высноў прыйшоў Эдвардас Гудавічус і ўслед за знакамітым гісторыкам паўтарыў супярэчнасць між тэкставай і картаграфічнай лакалізацыяй “Літвы ў вузкім сэнсе”[180].

177 ПСРЛ. 1962. Т. 2. Стб. 859.
178 Łowmiański H. Geneza ziemi połockiej. S. 19.
179 Łowmiański H. Geografia polityczna Bałtów … S. 88, 94.
180 Гудавичюс Э. “Литва Миндовга” // Проблемы этногенеза и этнической истории балтов. Вильнюс, 1985. С. 226.

## 4.4.2. "Літоўская зямля" Аляксеюса Лухтанаса і Вітаўтаса Ушынскаса



(Aleksiejus Luchtanas, Vytautas Ušinskas).

Ад часу стварэння канструкцыі Лаўмяньскага новых пісьмовых крыніц па ранняй гісторыі ВКЛ амаль не выяўлена, затое даныя археалогіі стабільна папаўняюцца з году ў год. Археолагі (пасля вайны раскопкі на тэрыторыі Летувы праводзяць толькі летувіскія даследчыкі) прапаноўваюць свае лакалізацыі "Літвы ў вузкім сэнсе", ігнаруючы пры гэтым інфармацыю пісьмовых крыніц. Аднак сярод масы археалагічных матэрыялаў не ўдаецца з дастатковай надзейнасцю выдзеліць рэгіянальныя варыянты. Відавочна, з гэтай прычыны археолагі надаюць пачатковай Літве (ці арэалу жыхарства літоўцаў) значна большыя памеры, чым гісторыкі. Напрыклад, Літва гісторыкаў Лаўмяньскага – Гудавічуса займае толькі паўднёва-заходні ўскраек арэала літоўцаў, вызначанага археолагам Ваўкайтэ-Кулікаўскіене[181]. У археолага Таўтавічуса на тым жа самым месцы паказаны ўчастак змешанага літоўска-яцвяжскага насельніцтва[182].

Археолагі Лухтанас і Ушынскас раскрытыкавалі версію Лаўмяньскага – Гудавічуса і прапанавалі ўласную лакалізацыю "Літвы ў вузкім сэнсе". Даследчыкі нават вызначылі прыблізную плошчу "Літоўскай зямлі ў вузкім сэнсе" – каля 14 тыс. кв. км і колькасць яе жыхароў – каля 42 тыс.[183]

Лухтанас і Ушынскас спрабуюць "на базе археалагічных крыніц прасачыць працэс і асноўныя этапы станаўлення Літоўскай зямлі" ад сярэдзіны 1 тыс. да 12–13 ст. Лакалізацыя Літоўскай зямлі ў гэтых аўтараў выступае вельмі невыразна і ў самых агульных выразах: "частка ўсход-

181 Lietuvių etnogenezė. Vilnius, 1987. P. 186

182 Lietuvos TSR archeologijos atlasas. Pilkapynai ir senkapiai. Vilnius, 1977. Kn. 3.

183 Лухтан А., Ушинскас В. Территория "Литовской земли" во второй половине I- начале II тыс. н. э. // Археология и история Пскова и Псковской земли. Псков, 1986. С. 42.

няй Летувы", "басейн ракі Нерыс", "ва ўсходняй Летуве, пераважна ў басейне ракі Нерыс"[184]. На прыкладзеных да працы картах межы гэтай зямлі яны не паказваюць. Заўважана, што летувіскія калегі ў сваіх публікацыях, на жаль, не карыстаюцца дакладнымі картамі[185].

Лухтанас і Ушынскас выводзяць, што на названай тэрыторыі ў канцы 4–5 ст. н.э. на месцы "цэнтральнай групы культуры штрыхаванай керамікі" (першая палова 1 тыс.) з'яўляюцца помнікі культуры ўсходнелітоўскіх курганоў[186]. На мяжы 1–2 тыс., па меркаванню аўтараў, гэтая тэрыторыя выступае ўжо як "Літоўская зямля". У ёй адбываюцца сацыяльна-эканамічныя змены, пачынаецца працэс феадалізацыі. Сярод феадальных цэнтраў выдзяляецца Вільня, якая ў 13 ст. ужо была "буйнейшым феадальным замкам Летувы", буйным горадам і, верагодна, з'яўлялася сталіцай Міндоўга[187]. Такім чынам "вузкі сэнс" Літоўскай зямлі ў Лухтанаса – Ушынскаса ахоплівае значную частку Аўкштоты і выглядае намнога шырэйшым за Літоўскую зямлю гісторыкаў Лаўмяньскага – Гудавічуса.

Галоўным недахопам гэтай чыста археалагічнай рэканструкцыі з'яўляецца яўная супярэчнасць з пісьмовымі крыніцамі. Літоўская зямля тут цалкам "паглынула" Нальшаны і Дзяволтву, якія ў пісьмовых крыніцах выступаюць на адным узроўні з Літвой. Даследаванні Лухтанаса і Ушынскаса добра паказваюць складанасць раяніравання Аўкштоты на грунце археалагічных матэрыялаў. Заўважна таксама імкненне зрабіць першасным цэнтрам "Літоўскай зямлі" сучасную сталіцу Летувы, без належнага навуковага абгрунтавання.

184 Лухтан А., Ушинскас В. К проблеме становления Литовской земли в свете археологических данных // Древности Литвы и Белоруссии. Вильнюс, 1988. С. 90, 93, 96.
185 Tyszkiewicz J. Proces slawizacji ziem dorzecza Niemna w 6-11 w. S. 21.
186 Лухтан А., Ушинскас В. К проблеме становления Литовской земли... С. 93, 96.
187 Лухтан А., Ушинскас В. К проблеме становления Литовской земли... С. 97, 103.

## 4.4.3. Літва Міколы Ермаловіча

Арыгінальную версію лакалізацыі Літвы 12–13 ст. прапанаваў Мікола Ермаловіч. У адрозненне ад іншых даследчыкаў гэты гісторык знайшоў летапісную Літву не ў сучаснай Летуве, а на тэрыторыі Беларусі. Галоўная ідэя даследчыка: летапісная Літва – гэта найбольшы востраў балцкага насельніцтва сярод славянскіх тэрыторый, дакладней, "яна ўрэзвалася клінам паміж Полацкай, Турава-Пінскай і Навагародскай землямі і побач з імі з'яўляецца аднной з гістарычных абласцей Беларусі".

Межы Літвы Ермаловіч апісваў так: "На поўначы яна межавала з Полацкім княствам па нёманскай Бярэзіне"; "На ўсходзе Літва межавала з Мінскім княствам, заходні рубеж якога не ішоў далей ракі Усы (прыток Нёмана)". "Далей мяжа Літвы пераходзіла на Шчару, вялікі паўднёвы выгіб якой і з'яўляўся прыродным рубяжом Літвы на паўднёвым усходзе, поўдні і паўднёвым захадзе. Прыкладна па вярхоўі ракі Мышанкі і па ніжнім цячэнні ракі Валаўкі ішоў заходні рубеж Літвы, які ў больш старажытныя часы аддзяляў яе ад яцвягаў"[188]. Цікава, што Ермаловіч не ўзгадняў свае распрацоўкі з высновамі Любаўскага, гэтаксама як не каментаваў дэталёвыя рэканструкцыі Лаўмяньскага.

Для сваёй лакалізацыі Ермаловіч выкарыстаў сведчанні пісьмовых крыніц (часта ўскосныя) і размяшчэнне тапонімаў "Літва". Напрыклад, летапіс паведамляе, што ў 1159 г. мінскі князь Валадар Глебавіч "хадзіў у лясах пад Літвой", а князь Войшалк у 1262 г. заснаваў манастыр "на Нёмане між Літвою і Ноўгарадкам". На аснове гэтых звестак даследчык размясціў старажытную Літву між Наваградкам і Менскам[189]. Насамрэч, на поўнач ад гэтых гарадоў праходзіла паўднёвая мяжа Літоўскай зямлі 10–12 ст.

188 Ермаловіч М.І. Па слядах аднаго міфа. С. 23-24.
189 Ермаловіч М.І. Па слядах аднаго міфа. С. 21.




**Летапісная Літва Міколы Ермаловіча**

Выснова аб суседстве Літвы з Пінскай зямлёй узнікла на грунце падобных ускосных звестак, напрыклад, літоўцы з набегу на Валынь вярталіся праз Пінскую зямлю і г.д. Абапіраючыся на ўказаныя даследчыкам летапісныя звесткі, можна з такой жа малой верагоднасцю лакалізаваць Літву зусім у іншым месцы. Размяшчэнне тапонімаў "Літва" таксама не з'яўляецца дастаткова надзейным аргументам у такім дэталёвым раяніраванні. Яны маглі ўзнікнуць як перыферыйныя айконімы на мяжы гістарычных раёнаў ВКЛ "Літва" і "Палессе". Археалагічныя даныя не дазваляюць казаць аб якім-небудзь значным востраве балцкага насельніцтва ў пазначаным месцы.

Напрамую супярэчаць версіі Ермаловіча летапісныя апісанні паходаў галіцка-валынскіх войск на Навагрaдак у 1251/52 і 1275 гг.[190], якія вызначаюцца падрабязнасцю і дакладнасцю геаграфічных дэталяў. У паходзе 1251/52 г. валынскія князі разлічвалі нечакана заявіцца з войскам на Панямонні, але каля возера Зьята сутыкнуліся з ліцвінскім дазорам. Тады валыняне хуткім маршам прайшлі праз балоты да ракі Шчары (якая была, паводле Ермаловіча, мяжой Літвы), склікалі ваенную раду, а “наутръя же плъниша всю землю Новогородьскую”[191]. (раздзел 6.1.1) Возера Зьята лакалізуецца па дакуменце 16 ст. у басейне ракі Ясельды (ваколіцы вёскі Калонск – сённяшні Івацэвіцкі раён)[192]. Адсюль вынікае, што там, дзе Ермаловіч бачыць Літву (як востраў балцкага насельніцтва), у сапраўднасці знаходзілася Навагрaдская зямля (у сярэдзіне 13 ст. Навагрaдская зямля, напэўна, ужо была часткай хароніма “Літва”). Бліжэйшым да месца гэтай падзеі горадам з’яўляецца Слонім, але ў летапісе гаворка пра Навагрaдскую зямлю, што можна лічыць сведчаннем прыналежнасці да апошняй Слоніма і яго ваколіцы. Гэтую летапісную інфармацыю, напэўна, можна разглядаць таксама як сведчанне аб навагрaдска-пінскай мяжы па Шчары.

У 1275 г. валынскае войска хуткім маршам ішло каля Турава да Слуцка, потым, “не дошедше ръкы Сырьвячъ” (каля 25 км ад Навагрaдка – *А.К.*) стала на ноч. Гэта значыць, яны праходзілі дакладна пасярэдзіне Літвы М.Ермаловіча і нават заначавалі ў ёй. Назаўтра яшчэ да світання перайшлі раку і пайшлі далей на Навагрaдак. Захапіўшы вакольны горад, валынскія князі “сдумали... тоже потомъ пойти въ землю Литовьскую”, але не пайшлі, а вярнуліся дадому. Гэта значыць, удзельнікі паходу бачылі Літву не

190 ПСРЛ. Т. 2. 1908. Стб. 818-819, 872-874.
191 ПСРЛ. Т.2. 1908. Стб. 819.
192 Непокупный А.П. Лингвогеографические связи литовских и белорусских форм названий г. Дятлово и его окрестностей // Балто-славянские исследования. Москва, 1974. С. 152.

ў тым месцы, дзе яе лакалізуе Ермаловіч. З'яўленне гіпотэзы Ермаловіча яшчэ раз сведчыць аб тым, што нешматлікія і ўскосныя пісьмовыя звесткі па лакалізацыі Літвы часам можна інтэрпрэтаваць даволі свабодна і з рознымі вынікамі.

У сваёй апошняй працы Мікола Ермаловіч паўтарыў без зменаў усе ягоныя меркаванні пра месцапалажэнне старажытнай Літвы, дадаўшы трохі палемікі з прыведзенымі вышэй крытычнымі заўвагамі[193]. Ён не прызнаў выкарыстаныя ім пісьмовыя сведчанні ўскоснымі. Нельга лічыць выпадковым супадзенне паўднёвай і ўсходняй мяжы "Літвы Ермаловіча" з граніцай паміж харонімам "Літва" і аналагічнымі рэгіёнамі ВКЛ "Палессем" і "Руссю", добра даследаванымі на 16 ст. Тапонімы "Літва", размешчаныя на гэтай граніцы, Ермаловіч выкарыстаў для сваёй лакалізацыі, пры гэтым без усялякіх падставаў і аргументаў аднёсшы названыя тапонімы да 12–13 ст., хоць не менш, а нават больш верагодна лічыць іх паказчыкамі мяжы між рэгіёнамі ВКЛ (пазней яна выступае як мяжа паміж гісторыка-этнаграфічнымі рэгіёнамі).

Археалагічныя аргументы (супадзенне прапанаванай мною паўднёвай мяжы летапіснай Літвы і арэалу культуры ўсходнелітоўскіх курганоў) даследчыкам ігнаруецца, гэтаксама як і прыведзенае вышэй сведчанне крыніцы (з 1275 г.), спрэчнае з выкладкамі Ермаловіча. Дадам яшчэ, што для археолагаў размяшчэнне Літвы Ермаловічам у раёне бедным на ўмацаваныя паселішчы – гарадзішчы выглядае неперакана́ўча, паколькі не згаджаецца са значнай мілітарнай сілай гэтай вобласці, зафіксаванай пісьмовымі крыніцамі.

Часам Ермаловіч дэманстраваў элементарнае неразуменне сэнсу крыніцы. Так, каментуючы звестку летапісу пра паход галіцка-валынскага войска на Наваградак



193 Ермаловіч М. Беларуская дзяржава Вялікае княства Літоўскае. С. 27 – 33.

у 1253 г. (дакладней, гэта было ў 1251/52 г.) ён сцвярджаў, што не валыняне гналіся за ліцвінскім дазорам да Шчары, а, наадварот, “ліцвінская “сторожа” … гнала варожае войска да гэтай ракі”[194].

Верагодна, у выпадку Міколы Ермаловіча неадэкватна зразумелы патрыятызм, выражаны, у прыватнасці, імкненнем знайсці летапісную Літву абавязкова на сучаснай тэрыторыі Беларусі (каб паказаць, што ВКЛ – то ўнутраная справа” беларускай гісторыі), прычыніўся да вартай лепшага ўжытку настойлівасці ў абароне яўна памылковых палажэнняў.

* * *

Уласны погляд на праблему лакалізацыі Аўкштоты выказаў беларускі даследчык Павал Урбан. Прааналізаваўшы звесткі крыжацкіх хронік 14–15 ст. і акты вялікага князя Гедыміна, даследчык прыйшоў да высновы, “што Аўкштота была асобнай зямлёй і ніколі не атаясамлівалася з уласна Літвой”[195].

Урбан размясціў Аўкштоту на поўнач ад ракі Віліі, паабапал рэчкі Святой і аднёс да гэтай зямлі Вількамір, Уцяну, Таўрагіні, Больнікі, Малаты, Дубінкі, Гедройці, Немянчын, Кернава, Шашолы, Пабойск, Рогава, Кейданы, Шаты, Жэймы, Кульву, Ворлава і Коўна, магчыма яшчэ Упіту і Сьвянцяны. З такой лакалізацыяй Аўкштоты можна пагадзіцца пасля ўдакладнення адной дэталі. Акрэсленая тэрыторыя ўсё-такі мела дачыненне да назвы “Літва”. Яна практычна супадае з харонімам 16 ст. – “Завілейская Літва”, выдзеленым і абгрунтаваным Вайткавякам[196].

194 Ермаловіч М. Беларуская дзяржава Вялікае княства Літоўскае. С. 27.
195 Урбан П. Да пытання этнічнай прыналежнасці... С. 43.
196 У ранейшай публікацыі (Праблема лакалізацыі сярэднявечнай Літвы // Białoruskie Zeszyty Historyczne. Białystok, 1997. № 8. С. 19) я выказваў трохі іншую ацэнку высноў П.Урбана, якую тут удакладняю.

## 4.4.4. Пераход ад Літвы этнічнай да Гістарычнай Літвы (харонім)

У лакалізацыі пачатковай Літвы назіраецца нязгода гісторыкаў між сабой гэтаксама, як і між археолагамі і гісторыкамі. Між тым даволі лёгка параўнаць інфармацыю пісьмовых і археалагічных крыніц і прапанаваць лакалізацыю, якая не пярэчыць ні тым, ні другім. Як ужо ўпаміналася, даследчыкі згаджаюцца, што пісьмовыя крыніцы дазваляюць размясціць Літоўскую зямлю на поўдні, Нальшанскую зямлю – на паўночным усходзе, а Дзяволтву – у цэнтры Аўкштоты. Археалогія паказвае, што ўся гэтая тэрыторыя пакрывалася культурай усходнелітоўскіх курганоў. Калі прыняць за Літву паўднёвую частку Аўкштоты (ці арэала ўсходнелітоўскіх курганоў), то яна сапраўды межавала і з Менскай і з Наваградскай землямі.

Такім чынам, актуальным застаецца прыблізнае стогадовай даўнасці акрэсленне пачатковай Літвы, зробленае М. Любаўскім, – “вобласць правых прытокаў Нёмана, пераважна ракі Віліі”[197].

Э.Гудавічус, прааналізаваўшы пісьмовыя і археалагічныя сведчанні аб размяшчэнні асобных земляў Аўкштоты, прыйшоў да высновы: “сукупнасць памянутых даных дазваляе ў нейкай ступені размежаваць паўднёвую і паўночна-ўсходнюю Аўкштоту і звязаць першую з Літвой у вузкім сэнсе, а другую – з Нальшай”[198]. На думку Гудавічуса, пытанне аб больш дакладных межах Нальшанаў і Літоўскай зямлі нельга лічыць вырашаным, асабліва, што датычыцца мяжы падзелу між гэтымі землямі.

Ужо па Галіцка-Валынскаму летапісу можна прасачыць змену акцэнта ад этноніма (летапіснага племя “літва”) да хароніма (Гістарычная Літва). Летапіс адначасова ўжываў



197 Любавский М. Областное деление... С. 2.
198 Гудавичюс Э. “Литва Миндовга”. С. 225.

тэрмін у абодвух значэннях. Пры апісанні ўнутраных спраў Панямоння ўсходнеславянскія гарады-землі аддзяляліся ад Літоўскай зямлі. Калі ж гаворка ішла ўвогуле пра Сярэдняе Панямонне, то ўсё яно называлася Літвой.

У 1249 ці 1250 г. валыняне ішлі на Літву, а канкрэтна – на Наваградак. Пры апісанні паходу 1252 г. ужо адназначна Наваградак атаясамліваўся з Літвой: “на Літву, на Наваградак”. Пад 1265 г. летапіс паведамляе, што Войшалк са Шварнам княжаць у Літве, а высвятляецца, што Шварн сядзіць у Наваградку. Пад час зімняга паходу 1277 г. валынскія князі зноў ішлі на Літву і тут жа ўдакладняюцца канкрэтныя месцы – Наваградак і Гародня.

А вось прыклады аддзялення Літвы ад Наваградка. Паводле запісу 1255/56 г., Войшалк збудаваў манастыр на мяжы Наваградка з Літвой. У 1264 г. Войшалк збіраў войска Наваградка і ішоў княжыць на Літву. У 1275 г. валыняне, узяўшы вакольны горад Наваградка, збіраліся потым ісці на Літву[199].

Магчыма, традыцыя называць Літвой тэрыторыю Сярэдняга Панямоння – зону змешанага насельніцтва сягае каранямі яшчэ да 11–12 ст., але канчаткова гэтая назва ўсталявалася з утварэннем тут дзяржавы – ВКЛ.

## 4.5. ГІСТАРЫЧНАЯ ЛІТВА (ХАРОНІМ)

### 4.5.1. Гістарычная Літва паводле Мацея Любаўскага

Аўтар капітальных прац па гісторыі ВКЛ Мацей Любаўскі першы заўважыў, што назвы “зямля Літоўская”, “вялікае княства Літоўскае”, ”паньства Літоўскае” ў дакументах 14–16 ст. даволі часта абазначаюць не ўсю дзяржаву,

199 ПСРЛ. Т. 2. Стб. 815-816, 827-829, 859, 864, 876.

а толькі яе частку, “аддзельную ад усіх астатніх абласцей ці земляў у палітыка-геаграфічных адносінах”[200]. Даследчык называе гэтую “ўласна Літоўскую зямлю” ці “вялікае княства ў цесным сэнсе” ядром, цэнтральнай вобласцю “летувіска-рускай дзяржавы”.

Любаўскі прыйшоў да высновы, што першапачаткова пад гэтай назвай разумелася вобласць правых прытокаў Нёмана, пераважна ракі Віліі, населеная т. зв. верхняй Літвой (“Auxtote”). “Але ў даследуемы час (напярэдадні з’яўлення 1-га Статута. – *А.К.*) назва “зямля Літоўская” нават у прыватным, цесным сэнсе выйшла ўжо з межаў гэтага першапачатковага абазначэння і распаўсюдзілася на некаторыя рускія ўладанні, занятыя Летувай да паловы 13 ст. і больш-менш ёй каланізаваныя”[201] (даныя археалогіі не пацвярджаюць тэзу аб летувіскай каланізацыі, а сведчаць якраз аб адваротным – *А.К.*). Гэта т. зв. Чорная Русь – “вобласць на левых прытоках Нёмана з ракой Свіслаччу ўключна, з гарадамі: Наваградкам, Ваўкавыскам, Слонімам, Здзітавам і Гародняй”[202].

Любаўскі ўстанавіў, што “ў канцы ўдзельнага перыяду” (пачатак 15 ст.) “больш-менш устойліва трымалася дзяленне Літоўскай зямлі на наступныя часткі: 1) княства Віленскае, 2) княства Троцкае, 3) княства Гарадзенскае, 4) княства Наваградскае. Паверх гэтага дзялення праходзіў падзел Літвы на Віленскую і Троцкую палову, у якім выразіўся ваенна-палітычны дуалізм, усталяваны на Літве пры Альгердзе і Кейстуце і які трымаўся, як было ўжо ўпамянута, пры Ягайле і Скіргайле”[203]. Усе княствы ў ваенным сэнсе падпарадкоўваліся віленскаму (Віленскае і Наваградскае) і троцкаму (Троцкае і Гарадзенскае) ваяводам. “Але па справах грамадзянскай адміністрацыі і суда кампетэнцыя

200 Любавский М. Областное деление... С. 5.
201 Любавский М. Областное деление... С. 2.
202 Любавский М. Областное деление... С.3.
203 Любавский М. Областное деление... С. 10-11.

віленскага і троцкага ваяводаў абмяжоўвалася межамі Віленскага і Троцкага княстваў у цесным сэнсе"[204]. Са спасылкамі на дакументы Любаўскі абгрунтоўвае прыналежнасць да Літоўскай зямлі Наваградка ў 15 ст. і Гародні ў 14 ст.[205], з чаго можна вывесці, што даследчык лічыў стан рэчаў у 16 ст. адпавядаючым сітуацыі на 14–15 ст.

Высновы Мацея Любаўскага спрабаваў аспрэчыць Хведар Леантовіч, які прысвяціў праблеме фармавання тэрыторыі ВКЛ спецыяльную працу[206]. Аднак даволі заблытаныя геаграфічныя выкладкі Леантовіча не вытрымалі канкурэнцыі з добра абгрунтаванай схемай Любаўскага і сёння практычна забытыя.

Выснову Любаўскага аб "Літве ўласнай" як тэрыторыі, складзенай з этнічна балцкіх і этнічна ўсходнеславянскіх земляў, падтрымала падаўляючая большасць гісторыкаў. Дыскусіі вяліся галоўным чынам аб канкрэтных межах гэтай біэтнічнай Літвы. Многія гісторыкі надавалі названаму харонiму значна большыя, чым Любаўскі, памеры (напрыклад, Кутшэба, Халецкі, Пацеха), а некаторыя летувіскія даследчыкі (Пакштас, Квіксліс) шукалі яго выключна на балцкай тэрыторыі[207].

## 4.5.2. Непаразуменне з Уласна Літвой (Гістарычнай Літвой) Ежы Ахманьскага

Дэталёвым аналізам паняцця Літвы ў межах працы аб летувіскай этнічнай мяжы на ўсходзе займаўся Ежы Ахманьскі[208]. Даследчык прыйшоў да наступнай высновы: "Згодна з крыніцамі, за ўласна Літву ў 15–16 ст. належыць

204 Любавский М. Областное деление... С. 11-12.
205 Любавский М. Областное деление... С. 3-4.
206 Леонтович Ф.И. Очерки по истории литовско-русского права. Санкт-Петербург, 1894.
207 Kutrzeba S. Historia ustroju Polski w zarysie. T. 2: Litwa. Lwów, 1914. S. 7-9; Halecki O. Litwa, Ruś i Żmudź... S. 216-217; Pociecha W. Królowa Bona (1494-1537). Poznań, 1958. T. 3. S. 11; Ochmański J. Litewska granica... S. 69-70.
208 Краўцэвіч А. Мяжа, якой не было.

прыняць: два этнічна летувіскія ваяводствы – Віленскае і Троцкае, Браслаў, Мінск, Наваградак з так званай Чорнай Руссю (Ваўкавыск, Слонім, Камянец) і Гародню"[209]. Аднак на прыкладзенай карце, літаральна на наступнай старонцы, даследчык паказаў зусім іншыя граніцы Літвы і не ўключыў у яе ні Менска, ні Наваградка са Слонімам, Ваўкавыскам і інш., затое далучыў Жамойць. Акрамя гэтай прыкрай памылкі яўна не адпавядае рэальнасці акрэсленне Троцкага і Віленскага ваяводстваў як этнічна летувіскіх, паколькі ў 15–16 ст. да іх належалі тыя ж Гародня, Наваградак і іншыя этнічна беларускія землі.

Ні на крок не саступаючы з пазіцыі **балцкай** дзяржавы, Ахманьскі сцвярджаў, што "факт залічэння Мінска, Чорнай Русі і Браслаўля да Літвы можна тлумачыць толькі ранні́м (найпазней пры Міндоўгу – загінуў у 1263 г.) і цесным з'яднаннем з летувіскай дзяржавай, поўнай ліквідацыяй іх адметнасці, якую пазней захавалі, бо былі ўключаныя ў 14 ст. іншыя рускія землі, як Полацк, Віцебск, Кіеў, існуючыя на прынцыпе асобных абласцей"[210]. І яшчэ важная выснова: "Межы "Lithuania Propria", якія ўдаецца акрэсліць на падставе крыніц 15–16 ст., несумненна, адпавядаюць межам летувіскай дзяржавы (усталяваным пры Міндоўгу), якая стала ядром будучага Вялікага Княства Літоўскага"[211].

Адна з галоўных тэзаў Ахманьскага – аб "поўнай ліквідацыі адметнасці" Чорнай Русі і іншых усходнеславянскіх земляў супярэчыць фактам, паколькі ў сапраўднасці "адметнасць" трацілі этнічна балцкія землі ў складзе Літвы (сам аўтар у той жа працы напісаў пра прасоўванне этнічнай мяжы далей углыб летувіскай тэрыторыі)[212]. Працэс беларусізацыі балтаў у гістарычнай Літве фіксаваўся даследчыкамі яшчэ

209 Ochmański J. Litewska granica... S. 73.
210 Ochmański J. Litewska granica... S. 73.
211 Ochmański J. Litewska granica... S. 73.
212 Краўцэвіч А. Мяжа, якой не было. С. 283.

ў сярэдзіне 20 ст.[213] Бліжэйшыя аналогіі таксама сведчаць не на карысць тэзы Ахманьскага. Нямецкія каланісты, падпарадкаваўшы культурна і палітычна прыбалтыйскія плямёны, захавалі мясцовыя назвы: Лівонія і Прусія.

## 4.5.3. Лакалізацыя Гістарычнай Літвы Міхаілам Спірыдонавым

Вялікую дэталёвую працу па лакалізацыі гістарычнай Літвы, а таксама Русі на 16 ст. правёў беларускі гісторык Міхал Спірыдонаў (Дадаткі: карта 3). Даследчык сканцэнтраваў увагу на самай складанай праблеме – размежаванні Літвы і Русі. Для акрэслення межаў названых рэгіёнаў ён выкарыстаў пісьмовыя крыніцы, якія прама ці ўскосна сведчаць пра месцазнаходжанне канкрэтнага населенага пункта на Русі або на Літве. Метад не новы, але ў даным выпадку прыведзены ў дзеянне вельмі скрупулёзна. Як адзначыў сам Спірыдонаў, яго "лакалізацыя названых рэгіёнаў істотна адрозніваецца ад адпаведных уяўленняў, змешчаных у гістарыяграфіі, як дастаткова пераканаўчай аргументацыяй, так і адносна высокімі канкрэтнасцю і выразнасцю"[214]. У сапраўднасці так яно і ёсць. У сумеснай з Вячаславам Насевічам працы, прысвечанай лакалізацыі Русі ў 16 ст., указаны 122 населеныя пункты, размешчаныя на Русі, што даволі дакладна акрэслівае месцазнаходжанне апошняй. Даследчыкі прыйшлі да высновы, што змяшчэнне мяжы адбывалася з захаду на ўсход, а "Русь – то назва аднаго

213 Гл., напрыклад: Brückner A. Polacy a Litwini. Język i literatura // Polska i Litwa w dziejowym stosunku. Warszawa-Lublin-Łódź-Kraków 1914. S.347-348, 362-363; Гринблат М.Я. К вопросу об участии литовцев в этногенезе белорусов // Вопросы этнической истории народов Прибалтики. Труды Прибалтийской объединенной комплексной экспедиции. Москва, 1959. Т. 1. С. 530, 543; Климчук Ф.Д. К истории распространения белорусских говоров... С. 214-221.
214 Спиридонов М.Ф. "Литва" и "Русь" в Беларуси в 16 в. // Наш Радавод. Гродна, 1996. Ч. 7. С. 208-209.

з некалькіх рэгіёнаў на тэрыторыі ВКЛ – побач з Літвой, Жамойцю, а таксама Валынню, Кіеўшчынай, Падляшшам, Падоллем і Палессем”[215]. У іншай працы Міхал Спірыдонаў даў апісанне прыблізнай заходняй мяжы Русі паводле населеных пунктаў: Ажунічы, Камень Завелейскі, Сялец, Шэметава, Смілавічы, Мацеевічы, Суцін, Глуск (Дубровіцкі), Скрыгалава, Мазыр і інш.[216]

З дапамогай таго ж аналітычнага метаду Спірыдонаў лакалізаваў і саму Літву. Высновы даследчыка выглядаюць пераканаўча: “Выкладзеныя даныя дазваляюць сцвярджаць, што ў 16 ст. сучаснікі адносілі да Літвы перш за ўсё этнічна летувіскія Віленскі, Вількамірскі, Ковенскі, Троцкі і Упіцкі паветы, а таксама поўнасцю ці часткова “беларускія” паветы ВКЛ: Браслаўскі, Віленскі, Ваўкавыскі, Гарадзенскі, Лідскі, заходнюю частку Мінскага, большую частку Наваградскага, амаль увесь Ашмянскі і Слонімскі”. Мяжу між Літвой і Руссю “ў найбольш агульным выглядзе”, на думку Спірыдонава, можна правесці па 28 мерыдыяну ад Грынвіча[217].

Можна прывесці яшчэ назіранне даследчыка аб неадназначнай лакалізацыі сучаснікамі памежных паселішчаў і важную выснову, што “гістарычныя рэгіёны ВКЛ істотна не супадалі ні з этнічнымі тэрыторыямі насяляўшых яго розных этнасаў, ні з адміністрацыйна-тэрытарыяльнымі адзінкамі ВКЛ”[218].

## 4.5.4. Крытыка сумніўных версій

Такім чынам можна канстатаваць: выснова Любаўскага аб існаванні “ўласна Літвы” – ядра ВКЛ – з балта-ўсходнеславянскім насельніцтвам пацвярджаецца навейшымі

215 Насевіч В., Спірыдонаў М. “Русь” у складзе Вялікага княства Літоўскага ў XVI ст. С. 4-27.
216 Спиридонов М.Ф. “Литва” и “Русь”... С. 207.
217 Спиридонов М.Ф. “Литва” и “Русь”... С. 208
218 Спиридонов М.Ф. “Литва” и “Русь”... С. 208.

даследаваннямі. Апошнія значна ўдакладнілі прапанаваныя даследчыкам яшчэ ў 19 ст. межы гэтага хароніма. У гістарыяграфіі прынята таксама, што названы харонім з біэтнічным напаўненнем існаваў ужо ў часы Міндоўга – у сярэдзіне 13 ст.

Аднак яшчэ і сёння ў літаратуры часам паўтараецца тэза аб летувіскай каланізацыі Навагрúдчыны і Гарадзеншчыны ў часы ўтварэння ВКЛ. Ніякіх пацверджанняў гэтаму няма ні ў пісьмовых, ні ў археалагічных крыніцах. Падставай для названай тэзы служыць пастулат аб балцкіх пачатках ВКЛ. Факты, якія супярэчаць гэтаму пастулату, на жаль, ігнаруюцца, у тым ліку той, што сёння гэтыя рэгіёны беларускія.

Да таго ж шэрагу сумніўных версій належаць меркаванні аб неверагодна вялікай колькасці насельніцтва на балцкіх землях у параўнанні з усходнеславянскімі (Якубоўскі) ці незвычайнай шматлікасці летувіскага баярства (Лаўмяньскі).

Не могучы пазбавіцца ад стэрэатыпу балцкасці дзяржавы, даследчыкі часта механічна пераносяць сітуацыю 20 ст., менавіта формулу Летува = Аўкштота + Жамойць, на сярэднявечча, ігнаруючы пры гэтым грунтоўна даказаную біэтнічнасць гістарычнай Літвы – ядра ВКЛ.

З аднаго боку, ясна, што Літва ў 15–16 ст. складалася з усходнеславянскай і балцкай частак і не ўключала Жамойць. З другога – паказаная вышэй формула, якая ўяўляе сабой механічны перанос існуючай сёння сітуацыі на сярэднявечча, традыцыйна паўтараецца ў гістарыяграфіі суседніх краінаў (летувіскай, расейскай і часткова ў польскай)[219].

Для яе абгрунтавання часам звяртаюцца да сведчання вялікага князя Вітаўта, змешчанага ў яго лісце да германскага імператара Жыгімонта Люксембургскага. Працытуем ліст, датаваны 11 сакавіка 1420 г., з нагоды яго важнасці: “Вы выказаліся і прынялі пастанову наконт Жамойці, якая ёсць

219 гл., напрыклад: Zajączkowski S. Dzieje Litwy pogańskiej. Lwów, 1930. S. 13; Łowmiański H. Geografia polityczna Bałtów ... S. 59; Ochmański J. Historia Litwy. S. 15.

наша спадчына і наша ўласнасць, як законная спадчына ад прадзедаў і дзядоў нашых, якою валодаем і цяпер, ды **якая таксама ёсць і заўсёды была адзінай з Літвой, бо адна і тая самая мова і адныя і тыя ж людзі.** Але дзеля таго, што Жамойць ляжыць ніжэй за Літву, яна і называецца Жамойцю, што азначае **па-літоўску ніжэйшая зямля. А на Жамойці Літву называюць Аўкштотай** (выдзелена мною – *А.К.*), што значыць вышэйшая зямля ў параўнанні з самой Жамойцю. Аднак на Жамойці людзі з даўніх часоў называюць сябе літоўцамі і ніколі жамойтамі, а таму з гэтае прычыны ў нашым тытуле мы ніколі не пішам сябе з Жамойці, бо ўсё ёсць адно: і людзі і зямля"[220]. Наконт апошняга сцвярджэння заўважана, што тут Вітаўт дапусціў недакладнасць, бо назву Жамойці ў сваім тытуле ён ужываў, як, напрыклад, у акце з 1417 г. аб заснаванні на Жамойці Медніцкага епіскапату. Ёсць сведчанні таксама аб трактаванні Вітаўтам жамойтаў як асобнага этнасу[221].

Цытаваны вышэй ліст з'яўляецца дыпламатычным дакументам, створаным для дасягнення канкрэтных палітычных мэтаў, і таму не можа лічыцца сведчаннем незацікаўленага назіральніка. Тым больш, што ў лісце, як бачым, маюцца сцвярджэнні, не адпавядаючыя рэальнасці і паўстаўшыя, верагодна, са свядомай волі аўтара дакумента. Вялікі князь Вітаўт грунтаваў сваю аргументацыю на праўдзівай этнічнай блізасці Аўкштоты і Жамойці, замоўчваючы той факт, што Літва ў той час ужо была славянізаванай. У лісце вялікага князя, несумненна, ведаўшага сапраўдны стан рэчаў, няма сцвярджэння, што Літва складаецца з Жамойці і Аўкштоты. Сказана толькі: "А на Жамойці Літву называюць Аўкштотай". Пад апошняй разумеецца, несумненна, балцкая – паўночная частка хароніма "Літва".

220 Codex epistolaris Vitoldi (1376-1430) /Ed. A.Prochaska. Cracoviae, 1882. N. 861.

221 Урбан П. Да пытання этнічнай прыналежнасці... С. 29-30.

## 4.5.5. "Завілейская Літва"

У 16 ст. з'явіўся яшчэ цікавы харонім, вывучэннем якога дэталёва займаўся Збыслаў Вайткавяк. Менавіта гэты гісторык выдзеліў харонім "Завілейская Літва", які размяшчаўся ў паўночнай частцы Віленскага ваяводства (Дадаткі: карта 3). Даследчык высветліў, што гэты тэрмін з'явіўся ў вялікакняскай канцылярыі на пачатку 16 ст. і "быў прыпісаны рэгіёну, адміністрацыйна-тэрытарыяльная асаблівасць якога ўжо тады была заўважана"[222].

З прыведзеных даследчыкам дакументальных сведчанняў вынікае, што для акрэслення паўночнай часткі Віленскага ваяводства ў дзяржаўнай дакументацыі ўжывалася спецыяльная назва – "Завілейская старана", "Завілле". Тэрмін гэты выкарыстоўваўся адначасова і ва ўзаемасувязі з назвай "Ашмянская старана", якая абазначала паўднёвую частку Віленскага ваяводства. За пункт адліку прымалася сталічная Вільня.

Фармулёўку "Завілейская Літва" ("Litwa Zawilejska") Збыслаў Вайткавяк падобна пераняў ад Мацея Стрыйкоўскага. Апошні з дапамогай гэтай назвы адрозніваў землі на поўнач ад Віліі ад "Павілейскай Літвы" ("Litwa Powilejska"), размешчанай на поўдзень ад гэтай ракі[223].

Вайткавяк прыйшоў да высновы, што падставу для рэгіянальнай адметнасці гэтай тэрыторыі стварылі тапаграфічныя асаблівасці, менавіта спецыфіка тэрыторыі, выдзеленай воднай артэрыяй. Паняцце "Завілле" праз ужыванне ў вялікакняскай канцылярыі стала імем уласным. Даследчык адзначыў палітычна-этнічнае значэнне названага паняцця ў гістарыяграфіі 16 ст., што магло абапірацца на сляды сапраўднай асаблівасці Завілля ў больш ранні перыяд.

222 Wojtkowiak Z. Litwa Zawilejska w XV i pierwszej połowie XVI w. Poznań, 1980. S. 16; 2-е выданне: Lithuania Transwilniensis saec. XIV-XVI. Podziały Litwy północnej w późnim średniowieczu. Poznań, 2005.
223 Stryjkowski M. Kronika... T.1. S. 240, 244, 247, 248.

Вайткавяк ідэнтыфікуе “Ашмянскую старану” з Руссю і ў асцярожнай форме высоўвае тэзу аб Віліі як этнічнай граніцы між Літвой (“старана Завілейская”) і Руссю (“старана Ашмянская”)[224]. Асцярожнасць у дадзеным выпадку апраўданая, бо Ашмяны ў 16 ст., несумненна, знаходзіліся ў Літве, а не на Русі. Тым не менш назіранне даследчыка аб Віліі як магчымай этнічнай мяжы заслугоўвае ўвагі. Відавочна, раку Вілію ў яе сярэднім цячэнні можна прызнаць, са значнай доляй умоўнасці, за мяжу між дзвюма этнічна адрознымі часткамі хароніма “Літва” (уласна Літва). “Старана Завілейская” (за выключэннем Браслаўшчыны) – пераважна балцкая (Аўкштота), “старана Ашмянская” – пераважна ўсходнеславянская.

Тут дарэчы будзе сведчанне сучасніка – Стрыйкоўскага. У геаграфічных рэканструкцыях гэтага аўтара з 16 ст. выразна прыкметна разуменне “Літвы Павілейскай” як усходнеславянскай тэрыторыі, а “Літвы Завілейскай” як балцкай. Першая ў Стрыйкоўскага цесна звязана з “Наваградкам” і “Руссю”, другая – з Жамойцю.[225] У заключэнні свайго даследавання Вайткавяк адзначае, што “Завілле” ў 16 ст. не выдзяляецца сярод іншых тэрыторый спецыфічнымі геаграфічнымі, гаспадарчымі ці адміністрацыйнымі прыкметамі.[226]

Усё вышэйсказанае дазваляе прыйсці да высновы, што тэрміны “Завілейская старана” і “Ашмянская старана”, нават з улікам іх пэўнай этнічнай спецыфікі, нельга паставіць на адзін узровень з назвамі “Жамойць”, “Літва”, “Падляшша”, “Русь” і г.д. Адметнасць першых двух тэрмінаў у тым, што гэтыя тэрытарыяльныя назвы паўсталі ў

224 Wojtkowiak Z. Litwa Zawilejska ... S. 12, 16.
225 Stryjkowski M. Kronika... T. 1. S. 240, 244, 247, 248; гл. таксама: Хроника Быховца // ПСРЛ. Т.32. С. 151: “Witolt... y wsiu żomoyt kazal chrystyty z wery pohanskoie u weru chrystyianskuiu, y wsiu zemlu Zawelskuiu ochrestyl”; Там жа. Хроника Литовская и Жмойтская. С.17: “Потым, гды в Литвъ люду великая личба розмножилася, почали переходити ръку Вилию в Завилийскую землю.”
226 Wojtkowiak Z. Litwa Zawilejska ... S. 126.

рамках дзяржаўна-адміністрацыйнай адзінкі, але не сталі часткай адміністрацыйнага падзелу.



## 4.5.6. Літва і Аўкштота

Механічны перанос сучаснага разумення Літвы як Летувы (Літва = Аўкштота + Жамойць) на сярэднявечча выклікае блытаніну ва ўзаемаадносінах паняццяў "Літва" і "Аўкштота". Гісторыкі не могуць пагадзіць між сабой балцкую Аўкштоту і балта-славянскую Літву, патлумачыць, дзе яны размяшчаліся і што сабой абазначалі. Выходзіла так, што Літва адначасова была часткай Аўкштоты (Літоўская зямля) і ў той жа час уключала ў сябе Аўкштоту разам з Жамойцю.

Аналагічныя цяжкасці маюць археолагі. Напрыклад, Рэгіна Ваўкайтэ-Кулікаўскіене ў адной працы паказала на карце (пачатак 2 тыс. н.э.) тэрыторыі жамойтаў і аўкштайтаў, аб'ядноўваючы іх агульнай назвай "літоўцы". На другой карце, храналагічна сумешчанай з першай (9–12 ст.), аўкштайтаў ужо няма, паказаны толькі жамойты і літоўцы. У Адольфаса Таўтавічуса на адной карце (6–12 ст.) прысутнічае ўся тройка (літоўцы, жамойты і між імі аўкштайты), на другой (6–8 ст.) прамежкавая група названа "злітоўшчанымі пражамайтамі ці заходнімі аўкштайтамі"[227].

Падобнай блытаніны ў назвах балцкіх плямёнаў можна пазбегнуць, калі прыняць наступны тэзіс: **Аўкштота – назва, якой ад 2-й паловы 13 да 20 ст. на Жамойці абазначалася паўночная – балцкая частка хароніма "Літва".**

Можна меркаваць, што Літва ("уласна Літва", "Літоўская зямля") напачатку была паўднёвай, пагранічнай з усходнімі славянамі вобласцю Аўкштоты. Усходнія славяне, а за імі палякі і немцы пачалі называць імем гэтай пагранічнай балцкай зямлі суседнія ёй і этнічна блізкія тэрыторыі. Назва

227 Volkaité-Kulikauskiené R. Lietuviai 9-12 amžiais. Vilnius, 1970. P. 39; Lietuvių etnogenezé. P. 186, 130; Lietuvos TSR archeologijos atlasas. Kn. 3: Pilkapynai ir senkapiai.

"Аўкштота" выкарыстоўвалася на Жамойці, адкуль пра яе даведаліся нямецкія храністы з суседняй Прусіі. У ходзе славянскай каланізацыі, а потым працэсу ўтварэння ВКЛ назва "Літва" пашырылася на ўсю кантактную балта-славянскую зону, стаўшую ядром дзяржавы. Паколькі ў гэтае ядро ўвайшлі і астатнія землі Аўкштоты, назва "Літва" распаўсюдзілася таксама на іх.

Такім чынам Аўкштота стала часткай Літвы і захавалася як харонім у мове насельнікаў Жамойці. Вялікі князь Вітаўт пісаў: "А на Жамойці Літву называюць Аўкштотай". Лаўмяньскі заўважыў, што ўсходнеславянскія крыніцы ўвогуле не ведаюць назвы "Аўкштота"[228], можа быць таму, што ўсходнеславянскія землі межавалі непасрэдна з Літвой, а не з Жамойцю. Дадамо яшчэ, што паняцце "Аўкштота" не выкарыстоўвалася і ў дзяржаўных дакументах ВКЛ. Упершыню назва "Аўкштота" сустракаецца ў хроніках Тэўтонскага ордэна, меўшага агульную мяжу і пастаянныя кантакты з Жамойцю.

Пазней, у 16 ст., у вялікакняскай канцылярыі для абазначэння земляў на поўнач ад Віліі ўзнік тэрмін "Завілейская старана" (Завілле), ці (паводле Вайткавяка) "Літва Завілейская". У 19 – пачатку 20 ст. у ходзе фармавання (галоўным чынам на аснове Жамойці) новага этнасу – летувісаў, да "Завілейскай стараны" вярнулася жамойцкая назва "Аўкштота".

## Высновы

У навуковай літаратуры прынята: 1. Першапачаткова харонім "Літва" адносіўся да балцкай тэрыторыі. 2. У сярэдзіне 13–пачатку 20 ст. харонім "Літва" ("Літва ў вузкім сэнсе", "Літоўская зямля") складаўся з балцкай і ўсходнеславянскай этнічнай частак і не ўключаў Жамойць.



228 Łowmiański H. Geografia polityczna Bałtów ... S. 60.

Месцазнаходджанне Літвы на 16 ст. даволі дакладна вызначана апошнімі даследаваннямі Спірыдонава, а лакалізацыя пачатковай Літвы акрэслена толькі прыблізна (Дадаткі: карта 3).

У гістарыяграфіі неаднаразова выказвалася думка, што тэрытарыяльнае пашырэнне харонімa "Літва" адбылося праз далучэнне да яго суседніх усходнеславянскіх тэрыторый, якія цалкам страцілі сваю адметнасць і з сярэдзіны 13 ст. пачалі лічыцца Літвой[229]. Апошняя тэза ўяўляецца памылковай, бо, як добра вядома, у складзе Літвы адметнасць трацілі балцкія, а не ўсходнеславянскія землі (у пачатку 20 ст. мовазнаўцы зафіксавалі беларуска-летувіскую мяжу ажно на поўначы і паўночным захадзе ад Вільні).

Балцкая частка гістарычнай Літвы падвяргалася ўсходнеславянскай асіміляцыі. Дзяржаўныя ўлады ў ВКЛ яшчэ больш узмацнілі гэты працэс, хоць кіруючая дынастыя і частка вышэйшай арыстакратыі былі балцкага паходжання. На балцкай тэрыторыі ўстанаўлівалася сістэма кіравання па ўзору ўсходнеславянскіх земляў і ў якасці дзяржаўнай уводзілася русінская (старабеларуская) мова.

Пераўтварэнне пачатковай балцкай Літвы ў балта-славянскую, па ўсёй верагоднасці, праходзіла двума шляхамі: праз каланізацыйны рух усходніх славян на балцкія землі і праз дзейнасць у змешанай балта-славянскай зоне новай дзяржавы, узнікшай каля сярэдзіны 13 ст. – Вялікага Княства Літоўскага.

Харонім "Літва" перажыў само ВКЛ і працягваў існаваць у складзе Расейскай імперыі. Характэрны эпізод меў месца ў 1846 г. у паўднёвай, беларускай частцы гістарычнай Літвы, менавіта ў Ваўкавыску. На прапанову Расейскай акадэміі навук прысладць звесткі аб наяўнасці неславянскіх нацыянальных меншасцей, у тым ліку і летувісаў,

229 Halecki O. Litwa, Ruś i Żmudź ... S. 216; Pociecha W. Królowa Bona ... S. 1; Ochmański J. Litewska granica... S. 73.

ваўкавыскі земскі спраўнік паведаміў, што ў яго павеце пражывае 84 190 "літоўцаў праваслаўнага і каталіцкага веравызнанняў" (большасць насельніцтва павета). Мясцовы чыноўнік з тэрыторыі гістарычнай Літвы традыцыйна атаясаміў "літоўцаў" з тутэйшымі беларусамі[230]. Можна прывесці яшчэ дзесяткі падобных прыкладаў.

Канчаткова гэты харонім адышоў у гісторыю пасля 1-й усясветнай вайны, калі назву "Літва" (Lietuva) прыняў для сваёй дзяржавы новы балцкі этнас, сфармаваны на тэрыторыі Жамойці і Аўкштоты. Апошняя была часткай гістарычнай Літвы, найменш падвержанай славянскай асіміляцыі.

Тэрыторыя Гістарычнай Літвы захавала адметнасць і ў 20 ст., што дало падставы этнографам выдзеліць яе ў асобны гісторыка-этнаграфічны рэгіён Беларусі (Панямонне)[231]. Цікава, што Панямонне разам з Падняпроўем называецца рэгіёнам, адыграўшым рашаючую ролю ў фармаванні агульных рыс размоўнай беларускай мовы[232].

230 Токць С. Літоўскае насельніцтва ў Гродзенскай губерні ў 19 - пачатку 20 ст. // Весці Акадэміі нацыянальных меньшасцей: Нацыянальныя меньшасці на Беларусі і ў свеце. 1997. №1. С. 38.
231 Цітоў В.С. Народная спадчына Матэрыяльная культура ў лакальна-тыпалагічнай разнастайнасці. С. 258-279.
232 Пилипенко М.Ф. Возникновение Белоруссии: новая концепция. Мн., 1991. С. 90.

ТЭМА 5

# ДЗЕЯ. УЗНІКНЕННЕ ВКЛ (карта 4)

## 5.1. ПАЧАТКОВЫ ІМПУЛЬС ПРАЦЭСУ ДЗЯРЖАВАЎТВАРЭННЯ

Даследчыкі неаднаразова звярталі ўвагу на сувязь генезы ВКЛ са знешнепалітычнай сітуацыяй ва Усходняй Еўропе. Мясцовая панямонская палітычная сістэма знаходзілася ў стане дынамічнай раўнавагі да моманту, пакуль раўнавага не была парушаная звонку праз надзвычайныя знешнія пагрозы. Іх было дзве:

1. **З'яўленне і актыўная экспансія нямецкіх анклаваў ва Усходняй Прыбалтыцы ў канцы 12 – першых дзесяцігоддзях 13 ст. (у Інфлянтах і Прусіі).**

2. **Пагром паўднёвай і ўсходняй Русі мангола-татарамі ў 1238–1240 г.**

Немцы з пачатку 13 ст. трывала ўсталяваліся ў ніжнім цячэнні Дзвіны (Livland – Лівонія, або **Інфлянты**). Яны паспяхова спаборнічалі з Полацкам за дамінаванне ў ніжнім Падзвінні і паступова падпарадкоўвалі мясцовыя плямёны.

**Інфлянты (Лівонія).** Гістарычная краіна, заселеная балцкімі і фіна-ўгорскімі плямёнамі. Уключала тэрыторыі сённяшніх Латвіі і Эстоніі. Назва паходзіць ад спольшчанай нямецкай – Livland (краіна ліваў – фіна-ўгорскага племя). У сярэднявеччы Інф. былі аб'ектам беларускай (полацкай), скандынаўскай і нямецкай экспансіі. Нямецкая калонія тут паўстала ў канцы 12 – пачатку 13 ст. (у 1201 г. немцы заснавалі горад Рыгу). У 1202 г. для больш эфектыўнай калані-

зацыі краіны і хрысціянізацыі мясцовых паганцаў створаны рыцарскі ордэн мечаносцаў, вядомы як **Інфлянцкі ордэн.** Тэрыторыя Інф. была падзеленая паміж ордэнам, горадам Рыгай, рыжскім архібіскупствам і чатырма біскупствамі. Ордэн змагаўся з біскупамі за вярхоўную ўладу ў краіне, але ні адзін з бакоў не здабыў поўнай перавагі.

У сувязі з маскоўскай агрэсіяй магістр Інф. ордэна ў 1559–1561 г. прыняў пратэктарат ВКЛ, што выклікала Інфлянцкую вайну між Масковіяй і ВКЛ (ад 1569 г. разам з Польшчай у складзе Рэчы Паспалітай). У 17 ст. большую частку Інф. забрала Швецыя, у 1721 г. ад шведаў адабрала Расея.

Інфлянцкі (Лівонскі) ордэн заснаваны ў 1202 г. у Інфлянтах дзеля спраўнейшай барацьбы з мясцовымі язычнікамі. Рыцары І.о. насілі белыя плашчы з выявай чырвонага крыжа і меча (адсюль пашыраная назва “мечаносцы”). Атрымліваў адну трэць здабытых земляў у Інф. (астатнія даставаліся біскупам). У 1237 г. фармальна аб’яднаўся з Тэўтонскім ордэнам і стаў ягонай філіяй, але захоўваў значную самастойнасць. Падчас Інф-й. вайны 1558–82 г. ордэнская дзяржава перайшла пад пратэктарат ВКЛ (Віленскія дамовы 31.08.1559 і 28.11.1561).

Усё часцей інфлянцкія немцы ўступалі ў канфлікты з летапіснымі літоўцамі. Тыя прыходзілі ў рабаўнічыя паходы пад самую Рыгу. У 1205 г. рыжане разам з семігаламі разбілі буйны атрад літоўцаў, якія вярталіся з нападу на землі эстаў[233]. У 1236 г. інфлянцкія рыцары пацярпелі буйную паразу ад літоўцаў і семігалаў пад Шаўламі. Загінулі амаль усе рыцары-мечаносцы, у тым ліку іх магістр. У выніку распачалося антынямецкае паўстанне ў Семігаліі і Куроніі, а Ордэн мечаносцаў у 1237 г. стаў філіяй Тэўтонскага ордэна[234].

233 Генрих Латвийский. Хроника Ливонии. Москва, Ленинград, 1938. С. 73, 77 – 79.

234 Mantueffel T. Zarysy z dziejów krain dawnych inflanckich. Kraków, 2007. S. 27.

**Тэўтонскі ордэн** ад канца 20-х гадоў 13 ст. на працягу паўстагоддзя падпарадкоўваў Прусію, потым (ад 1283 г.) распачаў актыўную экспансію на Панямонне. На чатыры дзесяцігоддзі раней, у 1245 г., Ордэн атрымаў ад германскага імператара прывілей на валоданне будучымі тэрытарыяльнымі набыткамі ў Літве[235]. Хоць крыжацка-ліцвінская вайна яшчэ не распачалася, адгалоскі вайны ў Прусіі даходзілі і да Літвы, тут шукалі паратунку ад тэўтонаў прускія ўцекачы.

**Тэўтонскі ордэн.** Арганізацыя манахаў-рыцараў, створаная ў 12 ст. у Палесціне дзеля эфектыўнага змагання з мусульманамі. Папаўняўся амаль выключна немцамі. Пасля выгнання крыжаносцаў з Палесціны асноўную сядзібу перанёс у Прыбалтыку (Прусы). Пачаткі ордэнскай дзяржавы ў Прусах сягаюць у 1228 г., калі мазавецкі князь Конрад запрасіў іх дзеля дапамогі ў вайне з прускімі плямёнамі. Ордэн збудаваў у Прусах невялікую, але добра арганізаваную дзяржаву, якая пакарыла тубыльцаў, прыцягнула каланістаў з нямецкіх і суседніх польскіх, беларускіх і летувіскіх земляў.

У 13–14 ст. Ордэнская дзяржава паспяхова ваявала з ВКЛ і Польскім каралеўствам, пакуль не была разбітая пад Грунвальдам 15.07.1410 г. Параза ў вайне з Польшчай 1454–1466 г. прывяла да страты г.зв. Каралеўскіх Прусаў (увайшлі ў склад Польшчы); Ордэнская дзяржава (са сталіцай у Кёнігсбергу) стала леннікам Польскага каралеўства.

У 1525 г. гросмайстар Ордэна Альбрэхт Гогенцолерн секулярызаваў ордэнскую дзяржаву: прыняў лютэранства і абвясціў сябе свецкім уладаром – прускім герцагам; прынёс ленную прысягу польскаму каралю (ад таго часу ў польскай гістарыяграфіі Прускае герцагства называецца

235 Liv-, Est- und Curländisches Urkundenbuch, nebst Regesten /Ed. F.G.Bunge. Reval, 1853. Bd. 1 (1093–1300). N 185.

Княскімі Прусамі). У 1701 г. Прускае герцагства, аб’яднаўшыся з Брандэнбургам, стварыла Прускае каралеўства.

**Мангола-татары** зруйнавалі ўсю паўднёвую і ўсходнюю частку ўсходнеславянскага арэалу. Былі пакораныя існуючыя там дзяржавы, перасекліся традыцыйныя гандлёвыя шляхі. Пагроза з паўднёвага ўсходу пастаянна адчувалася і на Панямонні. Усведамленне неабходнасці яднання дзеля абароны мусіла праявіцца найвыразней пасля 1240–1241 г., калі мангола-татарская небяспека стала блізкай рэальнасцю. Мангольскія войскі спустошылі Паўднёвую Русь, захапілі Кіеў. Пад удар трапіла таксама беларускае Падняпроўе, у тым ліку Гомельшчына і, магчыма, Магілёўшчына[236], а таксама Берасцейшчына. Як паведаміў летапіс, ля Бярэсця галіцка-валынскія князі Даніла і Васілька “не возмогоста ити в поле, смрада ради множьства избъеных”[237].

Перад фактам знешніх пагрозаў **наступнай ступенню эвалюцыі балта-славянскага сімбіёзу на Панямонні стала стварэнне дзяржаўнай арганізацыі дзеля абароны сваёй жыццёвай прасторы (новая дзяржава атрымала назву Вялікае Княства Літоўскае).**

Менавіта ваенная пагроза звонку справакавала пачатак працэсу дзяржаваўтварэння. Іншымі словамі, панямонская палітычная сістэма атрымала штуршок, імпульс звонку. Выглядае цалкам лагічным, што на чале наваствoранай арганізацыі стаў мацнейшы, правераны ў баях і паходах ваенны правадыр. Яго этнічнае паходжанне істотнага значэння не мела, асабліва ў рэгіёне, дзе два этнасы вякамі жылі ўперамешку.

Паводле тэрміналогіі, уведзенай англельскім гісторыкам Арнольдам Тойнбі, гісторыя ставіць перад людскімі супольнасцямі выклік, на які неабходна знайсці адказ.

236 Макушников О.А. Гомель с древнейших времён до конца 18 в. Историко-краеведческий очерк. Гомель, 2010. С. 67; Марзалюк І.А. Магілёў у 12 – 18 стст. Людзі і рэчы. Магілёў-Мінск, 1998. С. 18.
237 ПСРЛ. Т. 2. 1908. Стб. 788.

Канцэпцыю **Выкліку – Адказу** Тойнбі выкарыстаў у даследаванні генезісу цывілізацый[238]. У сваёй глабальнай па ахопе працы Тойнбі звярнуўся і да нашага прыкладу з 13 ст., менавіта нападу на землі Русі азіяцкіх качэўнікаў: “Гэты нечаканы ціск, які пачаўся ў 1237 г. знакамітым паходам на Русь мангольскага хана Батыя, аказаўся вельмі моцным і працяглым. Гэты выпадак яшчэ раз даводзіць, што, чым мацнейшы выклік, тым больш арыгінальны і стваральны адказ”[239].

Калі нейкая цывілізацыя (супольнасць) не здолее знайсці адказу на выклік, то, верагодна, яна трапіць у крызіс або нават у заняпад (напрыклад, паўднёваамерыканскія або бліжэйшыя да нас лакальныя супольнасці яцвягаў і прусаў у Прыбалтыцы).

Нас найбольш цікавяць панямонскія **ўнутрысістэмныя працэсы, якія ў гістарычнай літаратуры выступаюць пад назвай “генезіс ВКЛ”.** Ведаючы вытокі знешняга штуршка (Выкліку гісторыі), заканамерна паставіць наступнае пытанне: што было самым пачаткам, адпраўным пунктам новага ўнутрысістэмнага працэсу? Ці канкрэтней, што парушыла дынамічную раўнавагу на Панямонні і прывяло мясцовую палітычную сістэму ў рух?

Аналіз наяўных пісьмовых звестак у комплексе з данымі археалогіі і лінгвістыкі дазваляе адказаць на гэтыя пытанні наступным чынам: **пачаткам ВКЛ стаў палітычны саюз двух галоўных рэгіянальных сілаў – усходнеславянскіх гарадоў-дзяржаў з некаторымі найбольш моцнымі правадырамі балцкіх плямёнаў.** Больш канкрэтна – **пачаткам Вялікага Княства Літоўскага быў саюз важнейшага горада рэгіёна – Навагрудка, з мацнейшым з суседніх кунігасаў Міндоўгам.** (Дадаткі: карта 4)

238 Тойнби А. Дж. Постижение истории. Москва, 1991. С. 108.
239 Тойнби А. Дж. Постижение истории. С. 140.

Менавіта гэты саюз парушыў дынамічную раўнавагу сілаў на Панямонні, даў саюзнікам перавагу і пры адпаведных знешніх абставінах паклаў пачатак працэсу дзяржаваўтварэння. Калі род Міндоўга перарваўся, аналагічны саюз Наваградак стварыў з іншым моцным правадыром – Трайдэнам.

У дэфініцыі названага саюза не ўжыты тэрмін “беларуска-летувіскі”, бо на той час не існавалі беларускі і летувіскі народы ў сучасным іх разуменні. Аднак несумненная эвалюцыйная сувязь яго ўдзельнікаў – балтаў – з сённяшнімі летувісамі, а ўсходніх славян – з беларусамі, дазваляе акрэсліць яго, з пункту гледжання сённяшняга дня, як беларуска-летувіскі, а дзяржаву на момант яе ўтварэння – як беларуска-летувіскую.

Абодва этнасы зрабілі свой унёсак у будову дзяржавы. На чале яе стаў князь балцкага паходжання, балты складалі значную частку насельніцтва. Разам з тым, у гэтай саюзнай балцка-славянскай дзяржаве відочная перавага славянскага чынніку як больш моцнага матэрыяльна і больш развітага цывілізацыйна. У 13 ст. летувісы, у адрозненне ад беларусаў, былі язычнікамі, не мелі пісьмовасці, вопыту дзяржаўнай арганізацыі, не стваралі гарады і мураваную архітэктуру. Таму новая дзяржава кшталтавалася на ўсходнеславянскі капыл. Галоўнай яе апорай былі ўсходнеславянскія (беларускія) гарады; пры стварэнні ВКЛ выкарыстоўваліся мясцовыя ўзоры ўсходнеславянскай дзяржаўнасці, а старабеларуская мова стала афіцыйнай. Пануючая дынастыя балцкага паходжання прыняла назву дзяржавы па славянскім падабенстве – “княства”, племянная балцкая арыстакратыя стала часткай феадальнага класа – баяраў (у летувіскай мове нават не ўзнік уласны тэрмін для абазначэння ваенна-служылага саслоўя,

а быў прыняты беларускі – баяры – bajorai); урадавай мовай стала старабеларуская і г.д.

Выснова: **ВКЛ з самага пачатку было біэтнічнай (балта-ўсходнеславянскай) дзяржавай з дамінаваннем усходнеславянскага элемента.**

## 5.2. САЮЗ НАВАГРАДКА З МІНДОЎГАМ – ПАЧАТАК ВКЛ (Дадаткі: карта 4)

Мангола-татарская пагроза з паўднёвага ўсходу і крыжацкая – з поўначы і паўночнага захаду – прыспешыла арганізацыю новай дзяржавы са сталіцай у Навагрудку. У якасці арганізацыйнага ўзору яна прыняла мясцовыя дзяржаўныя арганізмы (Гарадзенскае і Навагрудскае княствы), а афіцыйнай мовай – беларускую (старабеларускую).

Пачаткам новай дзяржавы (ВКЛ) на Панямонні стаў прыход на княжанне ў Наваградак балцкага князя Міндоўга каля 1248 г. Са сціслай інфармацыі, змешчанай у **Галіцка-Валынскім летапісе** (найважнейшая крыніца), вядома, што каля 1248 г. Міндоўг сілай забраў уладанні ў сваіх пляменнікаў Таўцівіла ды Эрдзівіла ў Літоўскай зямлі (знаходзілася на правых прытоках Нёмана).

Пляменнікі ўцяклі ў Галіцка-Валынскае княства, тамтэйшыя князі, браты Даніла і Васілька Раманавічы, насуперак просьбе Міндоўга прынялі іх і ў 1249/50 г. выправіліся супраць яго ў паход на Наваградак[240]. Гэты запіс у асноўнай крыніцы па пачатковай гісторыі ВКЛ – першы зафіксаваны выпадак атаясамлення (г.зн. саюза) Міндоўга з Наваградкам[241].[*] З яго вынікае, што **саюз Наваградка і Міндоўга аформіўся каля 1248 г., і гэтую дату можна лічыць пачаткам ВКЛ.**

240 ПСРЛ. Т. 2. 1908. Стб. 815–816.
241 Акрамя таго, гэта першае сведчанне пашырэння харoніма “Літва” на славянскія землі. Летапісец піша пра Літоўскую зямлю і беларускія гарады Панямоння як пра адзінае цэлае.

[*]Галіцка-Валынскі летапіс:

“Въ то же лѣто* изгна Миндогъ сыновца своего Тевтевила и Едивида, пославшю ему на войну ею со уемъ своимъ (пославшому на войну со воемъ своими на войну) со Выконтомъ (со выконотомъ), на Русь воевать ко Смоленьску, и рече: «што кто пріемлеть, собѣдержить (одръжить (одержить))» враждбою бо за ворожьство съ ними Литву заня (занѣ), поимана (повина) бѣ вся земля Литовьская и бесчисленое имѣніе ихъ, притрено (притрано) бѣ богатьство ихъ; и посла на нѣ вои своѣ, хотя убити я. Онѣма же увѣдавшима, и бѣжаста ко князю Данилу и Василкови, и прїѣхаша во Володимерь. Миндогови же приславшю слы (послы) своя, река: «не чини има милости;» не послушавшима има Данилови и Василкови, зане сестра бѣ ею за Даниломъ. Потомъ же Данило сгада съ братомъ си, и посла въ Ляхы ко княземъ Лядьскымъ, река: яко время есть хрестьяномъ на поганѣѣ (на поганыа(я)), яко сами имѣють рать межи собою;» Ляхове же обѣщашася, нъ не исполниша (и не исполниша). Данилу же и Василку пославшима Выкыньта во Ятвязѣ и во Жемоитѣ (и в жемоить (и во жмоть)), ко Нѣмцемъ въ Ригу: и Викинть же убѣди я серебромъ и дарми многими Ятвязѣ и полъ Жемоити. Нѣмцемъ же (онѣмъ же) отвѣщавшимъ Данилу, яко «тебе дѣля миръ створимъ со Выкынтомъ, зане братью нашу многу погуби;» обѣщашажеся Нѣ мци братья ити на помощь Тевтивилу. Данило же и Василко поидоста къ Новугороду**. Данилъ же и Василко, братъ его, розгадавъ со сыномъ, брата си посла на Волковыескъ, а сына на Услонимъ (на слонимъ), а самъ идее ко Здитову: и поимаша грады многы и взвратишася въ домы.”

(у дужках – варыянты напісання ў іншых спісах летапісу).

Ипатьевская летопись [у:] Полное собрание русских летописей. Т.2. Санкт-Петербург, 1843. С. 187; Санкт-Петербург, 1908. Стб. 815–816.

**Каментары:** *У летапісе пададзена недакладная дата – 1251 г. Паводле М. Грушэўскага, падзея мела месца, верагодна, у 1248 г.: Грушевський М. Хронольогія подій Галицько-Волинської літописи. С. 35, 67.

**Вельмі важнае сведчанне крыніцы, бо паказвае на саюз Навагрудка з Міндоўгам. Той заняў "Літоўскую зямлю", у адказ галіцка-валынскія князі пайшлі вайной на Міндоўга, а канкрэтна – на Навагрудак і іншыя беларускія гарады Панямоння.



Невядома дакладна, якім чынам Міндоўг усталяваўся ў Навагрудку. Ад адказу на гэтае, здавалася б, не самае важнае пытанне, залежыць агульная інтэрпрэтацыя далейшай гісторыі ВКЛ: ацэнка этнічнага характару дзяржавы, узаемаадносінаў між літоўцамі (летувісамі) і русінамі (беларусамі), урэшце, вызначэнне ролі ВКЛ у фармаванні беларускага і летувіскага народаў.

Паводле бліжэйшых аналогій (у крыніцах апісаныя факты прыходу іншых князёў балцкага паходжання на сталы ўсходнеславянскіх гарадоў-княстваў: Даўмонта ў Пскоў – 1265 г., Таўцівіла ў Полацак – між 1258–1262 г.) можна меркаваць, што мела месца запрашэнне Міндоўга на наваградскі стол ў якасці служылага князя. Адбылося гэта каля 1248 г. (да гэтага года адносіцца першае сведчанне летапісу пра існаванне саюзу Навагрудка з Міндоўгам)[242].

Пісьмовыя крыніцы не зафіксавалі фармальны акт гэтага саюзу, гэтаксама, як і час яго ўтварэння. Вельмі верагодна, што па прычыне адсутнасці традыцыі складання падобных дакументаў, названы акт увогуле не быў аформлены пісьмова. Яшчэ ў 14 і пачатку 15 ст. пісаны дакумент у ВКЛ выкарыстоўваўся амаль выключна пры міжнародных кантактах. Вельмі рэдка вялікія князі карысталіся ім у адносінах

242 Краўцэвіч А. Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага. С. 131 – 132.

з прадстаўнікамі сваёй дынастыі[243]. На жаль, не захаваліся тагачасныя ўласна панямонскія і полацкія летапісы.

Тым не менш, наяўныя хронікі, летапісы і актавыя матэрыялы выразна адлюстравалі дзейнасць наваградска-літоўскага саюзу, паколькі гэтая дзейнасць выходзіла далёка за рамкі рэгіянальных маштабаў.

Па шэрагу летапісных звестак можна вывесці, што ў саюзе з Наваградчынай была не ўся Аўкштота і нават не ўся Літоўская зямля, а толькі яе частка, падуладная Міндоўгу, а пазней, у 70-х гадах – літоўскае ўладанне Трайдэна.

Пачатковая плошча дзяржавы складала каля 30–33 тыс. кв. км., а на канец 13 ст. –  каля 90 тыс.

Нам невядома, хто быў ініцыятарам, у чыёй галаве саспела рашэнне як адказ на надзённыя патрэбы і трывогі часу. Ці сам Міндоўг прыслаў да наваградчанаў прапанову злучыць свае сілы, ці наваградскія моцныя людзі, усвядоміўшы раптоўны абрыў усіх багатых гандлёвых сувязяў на паўднёвым усходзе, паслухаўшы ўцекачоў, паслалі запрашэнне мацнейшаму з суседніх кунігасаў да сябе на княжанне.

На Панямонні ў той час склаліся спрыяльныя ўмовы для ўзнікнення новай дзяржаўнасці. Гэтая зямля не была спустошаная татарамі і некалькі дзясяткаў гадоў ёй не пагражала сур'ёзная знешняя небяспека. Манголы ў пачатку 40-х гадоў 13 ст. шчасліва прайшлі ўзбоч па паўднёвай Русі далей у Еўропу[*].

[*] Вясной 1241 г. мангольскія войскі на чале з Бату-ханам рушылі ў Еўропу трыма карпусамі. Галоўныя сілы прайшлі праз карпацкі перавал і напалі на Венгрыю. Другая частка арміі ўдарыла на Сяміграддзе з боку Малдовы. Трэці корпус пайшоў на Польшчу, каб не дапусціць адтуль падмогі

243 Pietkiewicz K. Wielkie Księstwo Litewskie pod rządami Aleksandra Jagiellończyka. Studia nad dziejami państwa i społeczeństwa na przełomie XV i XVI wieka. Poznań, 1995. S. 13.

венграм. Спаліўшы Кракаў, Сандомір, Аполе і Ўроцлаў, манголы сутыкнуліся ў бітве пад Легніцай з сіламі ўроцлаўска-кракаўскага князя Генрыка Пабожнага, узмоцненымі вайсковымі аддзеламі з Германіі. 9 красавіка 1241 г. польскае войска было разгромленае, князь Генрык загінуў, а мангольскі корпус пайшоў праз Маравы ў Венгрыю на злучэнне з асноўнымі сіламі.

Галоўны корпус манголаў 11 красавіка разграміў войска венгерскага караля Бэлы IV, які ўцёк за Дунай. Гэтая буйная рака да зімы стрымлівала пераможцаў. Бэла IV дарэмна стараўся аб дапамозе ад іншых еўрапейскіх дзяржаў. Зімой манголы перайшлі Дунай па лёдзе, занялі рэшту Венгрыі, у пагоні за венгерскім каралём дайшлі да Далмацыі, а той схаваўся на адным з астравоў Адрыятычнага мора.

Вясной 1242 г. манголы нечакана пакінулі Венгрыю, па прычынах да канца не вядомых. Звычайна прымаецца, што Бату-хана змусіла вярнуцца ў стэп смерць вялікага хана Угедэя і праблема выбараў новага ўладара мангольскай імперыі.

Zientara B. Historia powszechna Średniowiecza. Warszawa, 2008. S. 278–279.

Тэўтонскі ордэн ажно да пачатку 80-х гадоў быў заняты цяжкай заваёвай прускіх земляў. Нямецкая калонія ў Інфлянтах змагалася больш з Полацкам, Віцебскам, Ноўгарадскай ды Пскоўскай купецкімі рэспублікамі.

Гісторыя падаравала Літве трохі часу (каля чатырох дзесяцігоддзяў), неабходнага для арганізацыі дзяржавы (фармулёўкі адказу на Выклік гісторыі) ды пераадолення непазбежных у такіх справах унутраных праблемаў і канфліктаў.

* * *

Комплекснае вывучэнне гістарычных крыніц прыводзіць да наступных высноваў адносна стварэння ВКЛ:

– ВКЛ узнікла ў сярэдзіне 13 ст. у балта-славянскай кантактнай зоне (басейн Верхняга і Сярэдняга Нёмана – "уласна Літва").

– Штуршком да пачатку працэсу дзяржаваўтварэння стала знешняя пагроза з боку Залатой Арды і Тэўтонскага ордэна (найперш, яго інфлянцкай філіі).

– Існаванне раннефеадальнага балцкага дзяржаўнага ўтварэння (саюза ці канфедэрацыі) – папярэдніка ВКЛ нельга лічыць даказаным, яно, па ўсёй верагоднасці, – міф.

– Пачаткам ВКЛ стаў утвораны каля 1248 г. саюз усходнеславянскага горада Наваградка з балцкім нобілем Міндоўгам.

– ВКЛ з самага пачатку было біэтнічнай балта-ўсходнеславянскай дзяржавай з дамінаваннем усходнеславянскага элемента[244].



244 Краўцэвіч А. Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага. С. 160.

# ТЭМА 6.

# БАРАЦЬБА ЗА ВЫЖЫВАННЕ

## 6.1. ВАЙНА З ГАЛІЦКА-ВАЛЫНСКІМ КНЯСТВАМ

### 6.1.1. Першая вайна (1248–1254 г.)

З’яўленне новага дзяржаватворчага цэнтра выклікала натуральную негатыўную рэакцыю галоўных гульцоў рэгіянальнай палітычнай сцэны. Сярод іх наймацнейшым быў паўднёвы сусед – Галіцка-Валынская дзяржава. Выгнаныя са сваіх уладанняў у Літве пляменнікі Міндоўга накіраваліся менавіта туды, дзе папрасілі вайсковай дапамогі. Тамтэйшы ўладар Даніла Раманавіч распачаў энергічныя дзеянні, скіраваныя на захаванне сваіх уплываў на Панямонні. Як вопытны дзяржаўны дзеяч ён выдатна разумеў важнасць панямонскіх падзеяў і небяспеку, якую яны неслі для яго краіны. Таму князь Даніла зрабіў захады, каб задушыць новую дзяржаву ў самым зародку. Насуперак прамой просьбе свайго даўняга саюзніка Міндоўга ён прыняў і збройна падтрымаў ягоных пляменнікаў. Такім чынам былі разарваныя прыязныя адносіны з Міндоўгам, якія складваліся на працягу некалькіх дзясяткаў гадоў (вядомыя факты ўзаемнай вайсковай дапамогі ў 1219, 1238, 1245 г.)[245] Больш за тое, Даніла Раманавіч стварыў супраць новай дзяржавы (паводле фармулёўкі летапісу – супраць Міндоўга) шырокую вайсковую кааліцыю. У яе склад, акрамя Галіцка-Валынскага княства (з дапаможнымі палавецкімі атрадамі), увайшлі: яцвяжскія і жамойцкія кунігасы (“и Викинть же убѣди я серебромъ и дарми многими Ятвязѣ и полъ Жемоити”) і Інфлянцкі ордэн. Новы дзяржаўны асяродак

245 Краўцэвіч А.К. Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага. С. 131.

быў атачоны ворагамі амаль з усіх бакоў, за выключэннем усходу, дзе ляжала традыцыйна мірная Полацкая зямля (Менскае княства).

Ужо праз некалькі месяцаў у 1249/1250 г. адбыўся першы ваенны паход кааліцыянтаў супраць Міндоўга, канкрэтнай мэтай якога быў Наваградак. Летапісны запіс пра гэты паход з'яўляецца першым у гісторыі дакументальна зафіксаваным сведчаннем саюза паміж Наваградкам і Міндоўгам (пачатак ВКЛ). Удар наносіўся па славянскай частцы дзяржавы Міндоўга – гарадах Наваградку, Слоніму, Ваўкавыску, Здзітаву. Узначалілі паход асабіста галоўныя галіцка-валынскія князі – браты Даніла і Васілька Рамановічы. Названы запіс з'яўляецца таксама першай вядомай згадкай у пісьмовых крыніцах панямонскіх гарадоў: Наваградка, Ваўкавыска, Слоніма, Здзітава[246].

Паводле тагачаснай ваеннай тактыкі, баявыя дзеянні праводзіліся як серыя паходаў на тэрыторыю варожай дзяржавы з мэтай здабыцця гарадоў і замкаў, разгрому ворага ў палявой бітве, апусташэння варожай тэрыторыі, захопу палону (мірнае насельніцтва, якое выводзілі ў сваю краіну).

Наступны паход супраць Літвы ў 1250 г. праходзіў ужо з двух процілеглых кірункаў пры ўдзеле інфлянцкіх рыцараў. З поўдня рушыла галіцка-валынскае войска пад камандай Таўцівіла, падмацаванае палавецкім атрадам. З поўначы войска Інфлянцкага ордэна вёў праз Нальшаны на **замак (burg – паводле Старэйшай рыфмаванай інфлянцкай хронікі)** Міндоўга магістр Андрэй фон Сцірланд. Дэталі выправы невядомыя. Маюцца звесткі, што пасля заканчэння паходу Таўцівіл накіраваўся ў Рыгу, дзе быў прыняты з пашанай і хрысціўся ў каталіцтва.

246 Пазнейшая за час напісання летапісу ўстаўка даты паходу – 1252/1253 – недакладная; хоць удакладненне М. Грушэўскага (1249/1250 г.) было зроблена ў пач. 20 ст., у беларускай і расейскай гістарыяграфіі памылковая дата выступала амаль да канца 20 ст.

Першая вайна ВКЛ, справакаваная самім фактам узнікнення дзяржавы, стала для яе цяжкім выпрабаваннем. Справа магла скончыцца ліквідацыяй дзяржаватворчага асяродка і трывалым падпарадкаваннем Панямоння Галіцка-Валынскаму княству. Уратавацца гаспадарству ўдалося дзякуючы нестандартнаму дыпламатычнаму ходу, які дапамог пераўтварыць аднаго з ворагаў у саюзніка. Міндоўг выкарыстаў ідэалагічную матывацыю дзейнасці нямецкіх ордэнаў у Прыбалтыцы – хрышчэнне мясцовых язычнікаў. Ён выслаў пасольства да магістра Інфлянцкага ордэна, якое ад імя вялікага князя дэкларавала яго гатоўнасць прыняць разам з падданымі хрысціянства па каталіцкім абрадзе.

Хрышчэнне першага гаспадара ВКЛ адбылося ў пачатку 1251 г. Калі ў тым годзе войскі кааліцыі на чале з Таўцівілам у складзе галіцка-валынскіх, палавецкіх, жамойцкіх (ад князя Вікінта) і яцвяжскіх аддзелаў узялі ў аблогу Міндоўга ў ягоным замку, то інфлянцкае войска змагалася ўжо на ліцвінскім баку. Аблога закончылася беспаспяхова, а Міндоўг у адказ арганізаваў паход на замак Вікінта ў Жамойці.

Найбольш зацята Панямонне было атакаванае з боку Галіцка-Валынскага княства. У 1251–1252 г. браты Раманавічы з полаўцамі зноў рушылі на Наваградак. Па дарозе яны прыпыніліся ў Пінску і змусілі да ўдзелу ў паходзе мясцовых князёў. Паход гэты выглядаў хутчэй як рабаўнічы набег, валыняне разлічвалі з'явіцца на Панямонні нечакана, але дзесьці на мяжы Піншчыны і Наваградчыны сутыкнуліся з ліцвінскім дазорам (ля возера З'ята). Прайшоўшы ў пагоні за ім хуткім маршам праз балоты да ракі Шчары, галіцка-валынскія воі правялі ваенны савет. Войска не хацела ісці далей, бо ў Наваградку ўжо было вядома аб яго прыходзе. Аднак Данілу Раманавічу ўдалося дамагчыся працягу паходу[247].[*]

247 ПСРЛ. Т. 2. 1908. Стб. 819.

Грушевський М. Хронольогія подій Галіцько-Волинської літописи // Записки Наукового Товариства імени Шевченка. Львів, 1901. Т. 41. С. 1–72.

Гудавичюс Э. “Литва Миндовга” // Проблемы этногенеза и этнической истории балтов. Вильнюс, 1985. С. 219-227.

Гудавичюс Э. История Литвы с древнейших времен до 1569 г. Т. 1. Москва, 2005.

Гудавичюс Э. По поводу так называемой “диархии” в Великом княжестве Литовском // Feodalisms Baltijas regiona. Riga, 1985. L. 35–44.

Гуревич А.Я., Харитонович Д.Э. История средних веков. Москва, 1995.

Гуревич Ф.Д. Детинец и окольный город древнерусского Новогрудка в свете археологических работ 1956–1977 гг. // Советская археология. 1980. № 4. С. 87–101.

Гуревич Ф.Д. Древние города Белорусского Понеманья. Мн., 1982.

Гуревич Ф.Д. Древний Новогрудок (посад – окольный город), Ленинград 1981.

Гуревич Ф.Д. Древности Белорусского Понеманья. Москва-Ленинград, 1962.

Гуревич Ф.Д. Об этническом составе населения древнего Новогрудка // Acta Baltico-Slavica. Białystok, 1969. R. VI. S. 219–222.

Гурэвіч Ф.Д. Летапісны Новгородок (Старажытнарускі Наваградак). Санкт-Пецярбург, 2003.

Доўнар-Запольскі М.В. Гісторыя Беларусі. Мн., 1994.

Дубоніс А. Каралеўства Міндоўга // Arche. 9(84). Кастрычнік 2009. С. 9–19.

Дубоніс А. Шварн Данілавіч і папяровыя ілюзіі праваслаўнай Літвы [у:] Silva rerum nova: Штудыі ў гонар 70-годдзя Георгія Я. Галенчанкі. Вільня – Мінск, 2009. С. 96–104.

Дубонис А. Две модели литовской экспансии на Руси (XIII – начало XIV века). ОвладениеПолоцком и Новогрудком // Исторический вестник. 2014. Т. 7(154). С. 54-85.

Еллинек Г. Общее учение о государстве / Вступительная статья докт. юрид. наук, проф. И. Ю. Козлихина. Санкт-Петербург, 2004; Еллинек Г. Право современного государства. Т. 1. Общее учение о государстве. Санкт-Петербург, 1903; гл. таксама: Jellinek G. Ogólna nauka o państwe. Warszawa, 1921.

Ермаловіч М. Старажытная Беларусь: Віленскі перыяд. Мн., 1994.

Ермаловіч М.І. Беларуская дзяржава Вялікае княства Літоўскае. Мн., 2000.

Ермаловіч М.І. Па слядах аднаго міфа. Мн., 1991.

Ермаловіч М.І. Старажытная Беларусь: Полацкі і новагародскі перыяды. Мн., 1990.

Жлутка А. Да пытання аб месцы каранацыі Міндоўга (Міндава) і сядзібе першага біскупа Літвы [у:] Навагрудчына ў гістарычна-культурнай спадчыне Еўропы (да 600-годдзя Грунвальдскай бітвы). Мн., 2010. С. 97–101.

Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Брэсцкая вобласць. Мн., 1984.

Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Віцебская вобласць. Мн., 1985.

Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Гродзенская вобласць. Мн., 1986.

Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Мінская вобласць. Мн., 1987. Кн. 1,2.

Зверуго Я.Г. Археологические работы в Слониме // Беларускія старажытнасці. Мн., 1972. С. 248–289.

Зверуго Я.Г. Верхнее Понеманье в 9–13 вв. Мн., 1989.

Зверуго Я.Г. Древний Волковыск. Мн., 1975.

Звяруга Я.Г. Беларускае Павілле ў жалезным веку і раннім сярэднявякоўі /Матэрыялы па археалогіі Беларусі. Вып. 10. Мн., 2005.

История Литовской ССР с древнейших времен до наших дней. Вильнюс, 1978.

Каргер М.К. Раскопки церкви Бориса и Глеба в Новогрудке // КСИА. 1977. Вып. 150. С. 79–85.

Катонова Е.М. Данные гидронимии о балто-славянских контактах на севере Белоруссии // Материалы. Этнолингвистические балто-славянские контакты в настоящем и прошлом. Москва, 1978.

Кахаоўскі Г.А. Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў 16-19 стст. Мн., 1984.

Климчук Ф.Д. К истории распространения белорусских говоров в юго-восточной Литве // Балто-славянские исследования. 1980. Москва, 1981. С. 214–221.

Косман М. Pompa funebris у Вільні да часу падзелаў Рэчы Паспалітай [у:] Косман М. З гісторыі і культуры Вялікага Княства Літоўскага. Мн., 2010. С. 303–359.

Кравцевич А. Литва Миндовга. Территория и этнос [в:] Литва эпохи Миндовга и ее соседи. Материалы междунар. конф. в Москве. Москва, 2003. С. 24–27.

Кравцевич А., Смоленчук А., Токть С. Белорусы: нация Пограничья. Вильнюс, 2011.

Краўцэвіч А. Гістарычная Літва і этнагенез беларусаў [у:] Міжнародныя Купалаўскія чытанні: Матэрыялы навуковай канферэнцыі. Гродна, 1999. С. 19–23.

Краўцэвіч А. Гісторыя Вялікага Княства Літоўскага. 1248–1377 г. Гародня-Уроцлаў, 2015.

Краўцэвіч А. Да праблемы генезісу Вялікага Княства Літоўскага // Беларускі Гістарычны Агляд. Мн., 1998. Т. 5. Сшытак 2(9). С. 448–454.

Краўцэвіч А. Да праблемы ўтварэння Вялікага княства Літоўскага // Białoruskie Zeszyty Historyczne. Białystok, 1996. № 1(5). S. 5–22.

Краўцэвіч А. Да праблемы этнічнай ідэнтыфікацыі Вялікага Княства Літоўскага // Białoruskie Zeszyty Historyczne. Białystok, 2003. № 19. S. 212–218.

Краўцэвіч А. Дыскусія ці сварка? Пра магчымасць дыялогу паміж беларускімі і летувіскімі гісторыкамі // Гістарычны Альманах. Гародня, 2001. Т. 5. С. 168–172.

Краўцэвіч А. Каранацыя Міндаўга: месца ў прасторы і часе. // Rocznik Centrum Studiów Białoruskich=Гадавік Цэнтра Беларускіх Студыяў. Варшава, 2017. № 3. С. 114–120.

Краўцэвіч А. Міндаўг – Mindauh: Пачатак гаспадарства: нарыс. Мн., 2005.

Краўцэвіч А. Мяжа, якой не было // Rocznik Centrum Studiów Białoruskich= Гадавік Цэнтра Беларускіх Студыяў. Варшава, 2021. № 7. С. 280–287.

Краўцэвіч А. Папяровы імперыялізм, або ці была Літва ў XIVст. "паганскай імперыяй"? Рэцэнзія: Роўэл С.К. Уздым Літвы: Паганская імперыя ў Цэнтральнай і Ўсходняй Еўропе 1295 - 1345 г.; пераклаў з англ. А.Мікус. Мінск: Медысонт 2015. – 424 с. // Rocznik Centrum Studiów Białoruskich=Гадавік Цэнтра Беларускіх Студыяў. Варшава, 2020. № 6. S. 236– 246.

Краўцэвіч А. Праблема лакалізацыі сярэднявечнай Літвы // Białoruskie Zeszyty Historyczne. Białystok, 1997. № 8. S. 5–30.

Краўцэвіч А. Праблема ўтварэння Вялікага Княства Літоўскага [w:] History, Culture and Language of Lithuania. Proceedings of the international Lithuanian conference. Poznań, 17–19 september 1998. Poznań, 2000. S. 109–116.

Краўцэвіч А. Працэс балта-славянскіх кантактаў на Панямонні і ўтварэнне Вялікага Княства Літоўскага // Białoruskie Zeszyty Historyczne. Białystok, 1998. № 9. S. 5–25.

Краўцэвіч А. Раннесярэднявечныя гарадзенцы (11–13 ст.) [у:] Гарадзенскі соцыум 2013. Гісторыя і памяць. 15–20 ст. /пад рэд. А.К.Краўцэвіча і А.Ф.Смалянчука. Гародня, 2014. С. 9–15.

Краўцэвіч А. Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага. Беласток, 2008; папярэднія выданні: 1-е выд. Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага. Мінск, 1998. – 208 с. (2-е, дапоўненае выд.: Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага. Rozprawy i monografie Wydziału Ekonomicznego UMCS Filia w Rzeszowie. n. 17. Rzeszów, 2000. – 238 с.; польскае дапоўненае выданне: Powstanie Wielkiego Księstwa Litewskiego. Białystok: Wydawnictwo Wyższej Szkoły Ekonomicznej w Białymstoku, 2003. – 191s.; 4-е выд.: Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага. Беласток: Вышэйшая Школа Публічнай адміністрацыі ім. Станіслава Сташыца, 2008 – 196 с.)

Краўцэвіч А. Тэрміны “Літва” і “Летува” ў сучаснай беларускай гістарыяграфіі // Гістарычны Альманах. Гародня, 2003. Т. 9. С. 104–107.

Краўцэвіч А. Этнас, рэлігія і палітыка ў раннесярэднявечных гарадах Панямоння [у:] Гарадзенскі соцыум. Чалавек у прасторы горада. 15–20 ст.: матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі (Гародня 7–8 лістапада 2014 г.) / пад рэд. А.Ф.Смаленчука і А.К.Краўцэвіча. Мн., 2015. С. 11–17.

Краўцэвіч А.К. Аб часе ўтварэння Вялікага Княства Літоўскага // Краязнаўчыя запіскі. Гродна, 1997. Вып. 4. С. 86–90.

Краўцэвіч А.К. Адказ М.Ф.Спірыдонаву // Гістарычны Альманах. Гародня, 1999. Вып. 2. С. 103–106.

Краўцэвіч А.К. Айчына Адама Міцкевіча. Гісторыка-культурная ідэнтыфікацыя Літвы [у:] Літаратура, мова, культура, этнас у святле гісторыі і сучаснасці: Матэрыялы “круглага стала” і міжнар. канф. Гродна, 1999. С. 40–44.

Краўцэвіч А.К. Асноўныя храналагічныя рубяжы этнічнай гісторыі Беларусі // Гістарычны Альманах. Гародня, 2002. Т. 7. С. 175–180.

Краўцэвіч А.К. Балта-славянскія кантакты на Панямонні і ўтварэнне Вялікага Княства Літоўскага [у:] Труды VI Международного Конгресса славянской археологии. Т. 3. Этногенез и этнокультурные контакты славян. Москва, 1997. С. 129–137.

Краўцэвіч А.К. Балта-славянскія кантакты на Панямонні ў другім тысячагоддзі н.э. // Весці Міжнароднай акадэміі вывучэння нацыянальных меньшасцей. 1997. № 1. С. 10–13.

Краўцэвіч А.К. Вялікае княства Літоўскае ў этнагенезе беларусаў [у:] Актуальныя праблемы гісторыі Беларусі: стан, здабыткі і супярэчнасці, перспектывы развіцця: Матэрыялы рэспубл. навук. канф.: У 4 ч. Ч. 1. Гродна, 2003. С. 181–184.

Краўцэвіч А.К. Гарады і замкі Беларускага Панямоння 14–18 стст.: планіроўка, культурны слой. Мн., 1991.

Краўцэвіч А.К. Да праблемы генезісу Вялікага Княства Літоўскага. Даклад А.К.Краўцэвіча на пасяджэнні савета па абароне дысертацый 4 снежня 1998 г. // Гістарычны Альманах. Гародня, 1999. Вып. 2. С. 87–98.

Краўцэвіч А.К. Да праблемы сярэднявечных міжэтнічных кантактаў на Панямонні // Наш Радавод. Гродна, 1992. Кн. 4. С. 234–237.

Краўцэвіч А.К. Комплекс зброі і рыштунку 13 ст. з-пад Гродна // З глыбі вякоў. Гісторыка-культуралагічны зборнік. Мн., 1992. С. 40–46.

Краўцэвіч А.К. Наваградак і ўтварэнне Вялікага Княства Літоўскага // Навагрудскія чытанні. Мн., 1996. Вып. 4. С. 12–17.

Краўцэвіч А.К. Фарміраванне канцэпцыі генезісу Вялікага Княства Літоўскага ў польскай гістарыяграфіі // Беларускі гістарычны часопіс. 1998. № 1. С. 47–54.

Кулаков В.И. Земля пруссов и "прусские земли" // Балто-славянские исследования 1985 г. Москва, 1987. С. 95-101.

Кулаков В.И. Пруссы (V-XIII вв.). Москва, 1994.

Кушнярэвіч А.М. Культавае дойлідства Беларусі XIII–XVI стст.: Гіст. і архіт.-археал. дасслед. Мн., 1993.

Ле Гофф Ж. Цивилизация средневекового Запада. Москва, 1992.

Леонтович Ф.И. Очерки по истории литовско-русского права. Санкт-Петербург, 1894.

Лингвистический энциклопедический словарь. Москва, 1990.

Лихачев Д.С. Русские летописи. Москва-Ленинград, 1947.

Лухтан А. Кернаве в свете письменных и археологических источников // Археология и история Пскова и Псковской земли. Псков, 1985. С. 49–50.

Лухтан А., Ушинскас В. К проблеме становления Литовской земли в свете археологических данных // Древности Литвы и Белоруссии. Вильнюс, 1988. С. 89-104.

Лухтан А., Ушинскас В. Территория "Литовской земли" во второй половине I– начале II тыс. н. э. // Археология и история Пскова и Псковской земли. Псков, 1986. С. 40–42.

Любавский М. К. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. Москва, 1910.

Любавский М. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута. Москва, 1893.

Макушников О.А. Гомель с древнейших времён до конца 18 в. Историко-краеведческий очерк. Гомель, 2010.

Марзалюк І.А. Магілёў у 12–18 стст. Людзі і рэчы. Магілёў-Мінск, 1998.

Мугуревич Э. Хроника Генриха о народностях в Прибалтике в конце 12-начале 13 вв. // Vakarµ baltai: etnogenezé ir etniné istorija. Vilnius, 1997. P. 253-263.

Народная культура Беларусі: Энцыкл. даведнік. Мн., 2002.

Насевіч В. Да пытання аб нацыянальным характары Вялікага княства Літоўскага // Гістарычная навука і гістарычная адукацыя ў Рэспубліцы Беларусь (новыя канцэпцыі і падыходы): Усебеларуская канферэнцыя гісторыкаў. Мінск, 3-5 лютага. Мн., 1993. С. 55-58.

Насевіч В. Дзейнасць першых вялікіх князёў літоўскіх і рускіх [у:] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 2: Беларусь у перыяд Вялікага Княства Літоўскага. Мн., 2008. С. 73–87.

Насевіч В. Л. Да пытання пра нацыянальны характар Вялікага княства Літоўскага [у:] Усебеларуская канферэнцыя гісторыкаў: Гістарычная навука і гістарычная адукацыя ў Рэспубліцы Беларусь (новыя канцэпцыі і новыя падыходы). Мінск, 3–5 лютага 1993 года. Тэзісы дакладаў і паведамленняў. Ч. 1. Мн., 1993. С. 55–58.

Насевіч В. Роля беларускіх зямель ва ўтварэнні і ўмацаванні ВКЛ [у:] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 2: Беларусь у перыяд Вялікага Княства Літоўскага. Мн., 2008. С. 87–96.

Насевіч В., Спірыдонаў М. “Русь” у складзе Вялікага княства Літоўскага ў XVI ст. // З глыбі вякоў: Наш край. Мн., 1996. Вып. 1. С. 4–27.

Насевіч В.Л. Пачаткі Вялікага княства Літоўскага: Падзеі і асобы. Мн., 1993.

Насевіч В.Л. Працэс утварэння Вялікага княства Літоўскага (13-14 стст.) // Актуальныя пытанні гісторыі Беларусі ад старажытных часоў да нашых дзён. Мн., 1992. С. 54-63.

Насонов А.Н. История русского летописания 11 – начала 18 века. Москва, 1969.

Непокупный А.П. Лингвогеографические связи литовских и белорусских форм названий г. Дятлово и его окрестностей // Балто-славянские исследования. Москва, 1974. С. 144-154.

Новейший философский словарь /Сост. А.А.Грицанов. Мн., 1998.

Носевич В. Проблемы образования Великого княжества Литовского: обзор белорусской историографии // Lietuvos istorijos studijos, 2008. Т. 22, стр. 39–57.

Охотникова В.И. Повесть о Довмонте (Исследование и тексты). Ленинград, 1985.

Павлова К.В. Население Верхнего Понеманья по материалам курганных могильников окрестностей Новогрудка // Древнерусское государство и славяне. Мн., 1983. С. 45-47.

Павлова К.В. Погребальные памятники окрестностей Новогрудка // КСИА. 1981. Вып. 166. С. 78–84.

Пашуто В. Т. Образование Литовского государства. Москва, 1959.

Пилипенко М.Ф. Возникновение Белоруссии: новая концепция. Мн., 1991.

Пичета В. История Литовского государства до Люблинской унии. Вильно, 1921.

Піваварчык С. Беларускае Панямонне ў раннім сярэднявеччы // Białoruskie Zeszyty Historyczne. Białystok, 1996. № 2(6). S. 5-21.

Піваварчык С. Да этнічных працэсаў на Панямонні ў раннім сярэднявеччы // Białoruskie Zeszyty Historyczne. Białystok, 1999. N 11. С. 235–245.

Пічэта У. Гісторыя Беларусі. Масква-Ленінград, 1924. Ч.1.

Раппопорт П.А. Древнерусская архитектура. Санкт-Петербург, 1993.

Седов В.В. Балты и славяне в древности по данным археологии // Из древнейшей истории балтских народов по данным археологии и антропологии. Рига, 1980. С. 14-21.

Седов В.В. Курганы ятвягов // Советская археология. 1964. № 4. С. 36–51.

Седов В.В. Литовские племена // Финно-угры и балты в эпоху средневековья. Москва, 1987.

Седов В.В. Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья. Москва, 1970.

Соболь В.Е. О хронологии культурного слоя Минска позднефеодального периода [в:] Древнерусское государство и славяне. Мн., 1983. С. 75–76.

Спиридонов М.Ф. “Литва” и “Русь” в Беларуси в 16 в. // Наш Радавод. Гродна, 1996. Ч. 7. С. 206–211.

Судник Т.М. Диалекты литовско-славянского пограничья. Москва, 1975.

Ткачев М.А. Замки Беларуси. Мн., 2002.

Тойнби А. Дж. Постижение истории. Москва, 1991.

Токць С. Літоўскае насельніцтва ў Гродзенскай губерні ў 19 - пачатку 20 ст. // Весці Акадэміі нацыянальных меньшасцей: Нацыянальныя меньшасці на Беларусі і ў свеце. 1997. № 1. С. 37-39.

Трусов О.А. Памятники монументального зодчества Белоруссии IX–XVII вв. Мн., 1988.

Улащик Н.Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. Москва, 1985.

Урбан П. Да пытання этнічнай прыналежнасці старажытных ліцьвіноў. Мн., 1994.

Фядосік, В.А. Палемон Пантыйскі і легенда аб Палемоне ў летапісанні Вялікага княства Літоўскага // Российские и славянские исследования: науч. сб. Вып. 9. / редкол.: А.П. Сальков, О.А. Яновский (отв. редакторы) [и др.]. Мн., 2014. С. 219–229.

Холев С.Б. Физико-географические условия Верхнего Понеманья в прошлом по данным топонимики [в:] Топонимика на службе географии. Москва, 1979. С. 31–37.

Цемушаў В.М. Таропецкая воласць // Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. У 2 т. Т. 2. Мн., 2006. С. 659–660.

Цітоў В.С. Народная спадчына: Матэрыяльная культура ў лакальна-тыпалагічнай разнастайнасці. Мн., 1994.

Штыхаў Г. Полацкае княства [у:] Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: Т. 5. Мн., 1999. С. 525–526.
Штыхаў Г.В. Крывічы: Па матэрыялах раскопак курганоў у Паўночнай Беларусі. Мн., 1992.
Этнаграфія Беларусі: Энцыклапедыя. Мн., 1989.
Янин В.Л. Новгород и Литва. Пограничные ситуации 13–15 веков. Москва, 1998.

# ХРАНАЛОГІЯ ГІСТОРЫІ ВКЛ ДА ПАЧАТКУ ГАСПАДАРАННЯ ГЕДЫМІНА

1009 г. – першае ўпамінанне ў пісьмовых крыніцах Літвы (у “Annales Quedlinburgenses”).
1201 г. – заснаванне немцамі Рыгі.
1202 г. – стварэнне Ордэна мечаносцаў (Інфлянцкага).
1219 г. – мірная дамова групы літоўскіх князёў з галіцка-валынскімі.
1228 г. – пачатак Ордэнскай дзяржавы ў Прусах.
1237 г. – далучэнне Інфлянцкага ордэна да Тэўтонскага.
1238 – 1240 г. – пагром паўднёвай і ўсходняй Русі мангола-татарамі.
1241 – 1242 г. – паход мангола-татараў на чале з Бату-ханам у Польшчу і Венгрыю.
**каля 1248 г. – пачатак ВКЛ** (Міндоўг у саюзе з Наваградкам захапіў уладанні пляменнікаў у Літоўскай зямлі).
**1248 – 1263 г. – гаспадаранне Міндоўга:**
1248 – 1264 г. – змаганне ВКЛ з Галіцка-Валынскім княствам: (1248 – 1254 г. – першая вайна; 1254 – 1258 г. – залежнасць ад Галіцка-Валынскага княства; 1258 – 1263 г. – аднаўленне і ўмацаванне незалежнасці ВКЛ).

1249/50 г. – паход галіцка-валынскіх князёў супраць Міндоўга на Наваградак (першае сведчанне саюзу Наваградка з Міндоўгам).

1254 г. – мірная дамова ВКЛ з Галіцка-Валынскім княствам.

1256 – 1257 г. – спроба паломніцтва Войшалка на Афон.

1251 – 1260 г. – Саюз ВКЛ з Лівонскім ордэнам.

1251 г., пачатак – хрышчэнне Міндоўга ў каталіцтва.

1253 г., ліпень – каранацыя Міндоўга.

1258 г. – татарска-галіцка-валынскі паход на Літву.

1259 г. – татары змусілі галіцка-валынскіх князёў разбурыць умацаванні вакол гарадоў.

між 1258 і 1262 г. – Таўцівіл стаў полацкім князем.

1260 г. – параза ордэнскага войска ад жамойтаў ля возера Дурбе.

1260 – 1274 г. – паўстанне прусаў супраць Тэўтонскага ордэна.

1262 г. – ліцвінскі паход у Мазовію на Яздава (будучая Варшава).

1262 г. – мірная дамова ВКЛ з Вялікім Ноўгарадам.

**1263 – 1264 г. – гаспадаранне Траняты:**

1263 г. – паход ліцвінаў у Мазовію.

1263 г. – забойства Транятам полацкага князя Таўцівіла.

1263 г. – князь Гердзень у дамове з Рыгай выступае сюзерэнам Полацка.

**1264 – 1267 г. – гаспадаранне Войшалка ў дуумвіраце са Шварнам:**

1264 г. – Войшалк, падтрыманы Пінскам і Наваградкам, займае вялікакняскі пасад.

1264 – 1270 г. – Саюз ВКЛ з Галіцка-Валынскай дзяржавай.

1265 г. – паход Войшалка на Дзяволтву і Нальшаны.

1265 г. – русінска-ліцвінскі паход у Малапольшчу.

каля 1265 г. – сведчанне пра залежнасць Полацкай і Віцебскай земляў ад ВКЛ у грамаце-дамове Полацка з Рыгай.

1266, 1267 г. – паходы ліцвінаў у Мазовію.

1266 – 1299 г. – Даўмонт (Цімафей) княжыў у Пскове.

**1267 – 1270 г. – гаспадаранне Шварна Данілавіча.**

1269 г. – паход ліцвінаў у Куявы.

**1270 – 1282 г. – гаспадаранне Трайдэна:**

1271, 1273, 1277, 1280, 1282 г. – паходы ліцвінаў у Сілезію, Польшчу, Мазовію.

1270 – 1274 г. – вайна ВКЛ з Інфлянцкім ордэнам.

1275 – 1277 г. – вайна ВКЛ з Галіцка-Валынскім княствам.

(1275 г. – напад гарадзенцаў на Драгічын над Бугам;

канец 1275 г. – паход татарскіх і галіцка-валынскіх войскаў у Літву, знішчэнне вакольнага горада ў Наваградку;

канец, зіма 1277 г. – паход татараў і галіцка-валынскіх войскаў у Літву на Гародню).

1275 – 1276 г. – пабудова інфлянцкімі рыцарамі замка Дзюнабург (сённяшні Даўгаўпілс).

1277 – 1282 г. – аднаўленне вайны ВКЛ з Інфлянцкім ордэнам.

1279 г. – параза інфлянцкіх рыцараў і датчанаў падчас паходу на Літву.

1279 г. – шлюб плоцкага князя Баляслава II з дачкой Трайдэна Гаўдэмундай.

1279 – 1290 г. – паўстанне семігалаў супраць Інфлянцкага ордэна.

**1282 – 1292 г. – “цёмныя гады”:**

1282 – 1287, 1290 г. – паходы ліцвінаў у Польшчу і Мазовію.

1283 г. – пачатак збройнай экспансіі Ордэнскай дзяржавы ў Прусах супраць Літвы.

1284 г. – першы паход прускіх крыжакоў на Гародню.

1285 г. – першая збройная сутычка ліцвінаў з маскавітамі (паход ліцвінаў на вобласць цверскага біскупа, удзел маскоўскай дружыны ў адбіцці нападу).

1289 г. – літоўскія князі Будзікід і Будзівід перадалі валынскаму князю Мсціславу Уладзіміравічу горад Ваўкавыск.

1289 г. – пабудова крыжацкага замка Рагнеты ў Прусах.

**1292 – 1295 г. – гаспадаранне Пукувера:**

1292 г. – паход ліцвінаў на Брэст-Куяўскі; першая ўзгадка ў крыніцах Пукувера і Віценя.

1294 г. – паход ліцвінаў пад началам Віценя на Ленчыцы.

**1295 – 1315 г. – гаспадаранне Віценя:**

1295, 1296, 1302, 1305, 1306 г. – паходы ліцвінаў на польскія землі.

1298 г. – саюз ВКЛ з горадам Рыгай супраць Інфлянцкага ордэна.

1300 г. – заснаванне праваслаўнай Літоўскай метраполіі.

1308 г. – захоп Тэўтонскім ордэнам часткі Памор'я з Гданьскам.

1309 г. – перанос рэзідэнцыі хохмайстраў Тэўтонскага ордэна з Венецыі ў Мальбарк.

канец 13 – пачатак 14 ст. – пачатак будаўніцтва мураваных замкаў у Літве.

1309 г. – паход ліцвінаў пад началам сына Віценя ў Інфлянты.

1314 г. – няўдалы паход прускіх крыжакоў на Наваградак.

**1316 – 1341 г. – гаспадаранне Гедыміна**

# ДАДАТКІ

## Дадатак І. Дакументы Міндоўга

| № | Назва дакумента | Датыроўка | Аўтэнтычнасць (паводле Караля Малечыньскага) | Публікацыя |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Дазвол рыжскім купцам на бязмытны гандаль у Літве | 1253 г. | Усе прыкметы аўтэнтычнасці, але не мае агульных рыс з астатнімі дакументамі | Bunge*N 243, Жлутка*** №1 |
| 2 | Дараванне Лів. Ордэну земляў у Жамойці | 1253 г., ліпень | Аўтэнтычны | Bunge N 252, Жлутка №2 |
| 3 | Дараванне земляў літоўскаму біскупу Хрысціяну | 1254 г. | Аўтэнтычны | Bunge N 263, Жлутка №3 |
| 4 | Дараванне Лів. ордэну зямлі Селоніі | 1255, кастр. | Аўтэнтычны | Bunge N 286, Жлутка №4 |
| 5 | Ліст да папы з просьбай зацвердзіць дараванне Селоніі | 1255, кастр | Аўтэнтычны | Bunge N 287, Жлутка №5 |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 6 | Паўторнае дараванне Лів. ордэну земляў у Жамойці | 1257 | Фальсіфікат | Codex** diplom. Lit.N 8, Жлутка №6 |
| 7 | Дараванне ордэну ўсёй Жамойці | 1257 | Фальсіфікат | Bunge N 294, Жлутка №7 |
| 8 | Дараванне ордэну Дайноўскай зямлі, Скаловіі і Жамойці | 1259, 7 жніўня | Аўтэнтычны | Bunge N 342, Жлутка №8 |
| 9 | Дараванне Літвы ордэну ў выпадку безпатомнай смерці Міндоўга | 1260, сярэдз. чэрв. | Фальсіфікат | Bunge N 354, Жлутка №9 |
| 10 | a, b Паўторнае дараванне Селоніі з апісаннем яе межаў | 1261, 7 жніўня | Фальсіфікат | Bunge N 363, 10a, 10b |

* Bunge: Liv-, Est- uhd Curländisches Urkundenbuch, nebst Regesten /Ed. F.G.Bunge. Bd.1 (1093-1300). Reval, 1853.

** Codex diplomaticus Lithuaniae. /Ed. E.Raczyński Vratislaviae, 1845.

*** Міндаў, кароль Літовіі, у дакументах і сьведчаньнях. Уклад. пер. на бел. мову, камент. А Жлуткі. Мн. 2005.

# ДАДАТАК 2.
## Артыкул “Дыскусія ці сварка?”

Публікацыя: Краўцэвіч Аляксандар. Дыскусія ці сварка? Пра магчымасць дыялогу паміж беларускімі і летувіскімі гісторыкамі // Гістарычны Альманах. Гародня, 2001. Т. 5. С. 168 – 172.

## Дыскусія ці сварка? Пра магчымасць дыялогу паміж беларускімі і летувіскімі гісторыкамі

Рэцэнзія Артураса Дубоніса на маю манаграфію “Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага” ў “Гістарычным Альманаху” надрукавана ў перакладзе з англамоўнай версіі, якая з’яўляецца трохі зменёнай формай летувіскага арыгіналу. У арыгінале рэцэнзыйны артыкул называецца “Навейшы тупік беларускай гістарыяграфіі” і пачынаецца сказам: “Найноўшая беларуская канцэпцыя стварэння Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ) абвешаная ўсімі найгоршымі атрыбутамі нацыяналізму”[1]; і г.д.

Ужо першыя заўвагі рэцэнзента выклікаюць недаўменне. Напрыклад, ён нагадвае пра перанос Міколам Ермаловічам гістарычнай Літвы да верхняга і сярэдняга Нёмана і сцвярджае, што “Краўцэвічу спадабаліся гэтыя высновы”. Аднак менавіта лакалізацыя Літвы 12-13 ст. Ермаловічам выклікала найбольшую крытыку з майго боку (с. 118-121[2]) Гэтая лакалізацыя, на маю думку, памылковая і з’яўляецца адной з найслабейшых частак ягонай працы (с.62).

Дубоніс адразу прыпісвае мне палітызацыю даследавання ці жаданне даказаць нейкія зараней зададзеныя

1 Dubonis, Artūras. Naujosios baltarusių istoriografijos aklavietė // Mūsų praeitis. Vilnius. 1999. T. 6. P. 207-213.
2 Усе спасылкі і цытаты з маёй кнігі прыводзяцца па яе апошняму выданню: Краўцэвіч А.К. Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага. Жэшаў, 2000.

тэзы. Такую метадалогію лічу недапушчальнай у навуковай працы, яна больш падыходзіць да публіцыстыкі. Маё даследаванне будавалася па агульнапрынятаму прынцыпу: спачатку вывучэнне крыніцаў і гістарыяграфіі, а потым – высновы на падставе сабранай і апрацаванай інфармацыі. Найперш, пасля некалькіх гадоў вывучэння крыніцаў і існуючай гістарыяграфіі генезы ВКЛ, стала зразумела, што практычна ўсе рэканструкцыі гэтага працэсу - то варыянты адной і той жа версіі, падставай якой з'яўляецца аксіёма пра **балта-славянскую канфрантацыю** на тэрыторыі Панямоння. Дзве галоўныя тэзы гэтай версіі:

1. **Узнікненне раннефеадальнай летувіскай дзяржавы ў выніку эвалюцыі летувіскага грамадства.**
2. **Пераўтварэнне гэтай дзяржавы ў ВКЛ праз заваёву (далучэнне) суседніх усходнеславянскіх (рускіх) земляў.**

Не аспрэчваючы гэтых маіх высноваў, Дубоніс сцвярджае, што я ўжываю выраз "афіцыйная савецкая", "савецка-летувіская канцэпцыя" "каб паставіць пад сумненне даставернасць канцэпцыі этнічнай літоўскай дзяржавы". Але ж застаецца фактам, што апошні варыянт летувісацэнтрысцкай канцэпцыі генезы ВКЛ (дарэчы, адрозны ад традыцыйнага расейскага) быў распрацаваны савецкім (па месцу жыхарства і ўжыванай метадалогіі) гісторыкам Уладзімірам Пашутам і прысутнічаў ва ўсіх афіцыйных савецкіх падручніках, а сёння надалей выступае ў летувіскіх працах. Тое, што рэцэнзент у выразе "савецка-летувіская канцэпцыя" бачыць негатыўны сэнс, не падважвае тэрміналагічную дакладнасць такога акрэслення. Гэтаксама каму-небудзь можа не спадабацца выраз "беларусацэнтрысцкая канцэпцыя Ермаловіча". Гэтая версія ўтварэння ВКЛ, здавалася б, процілеглая балтацэнтрысцкай, таксама грунтуецца на тэзе-аксіёме **балта-славянскай канфрантацыі** і адрозніваецца толькі вызначэннем пераможцы.

Галоўным штуршком да ўзнікнення маёй працы сталі вынікі пасляваенных комплексных даследаванняў працэсу балта-славянскіх кантактаў, праведзеныя мовазнаўцамі, археолагамі і этнолагамі, якія абверглі тэзіс пра спрадвечную балта-славянскую канфрантацыю на тэрыторыі пачатковага ядра дзяржавы. Гэтыя даследаванні, прадстаўленыя дзясяткамі манаграфій і сотнямі артыкулаў, сцвярджаюць, што балта-славянскія кантакты на тэрыторыі Панямоння, як і на ўсёй Беларусі, мелі мірны характар. Адсюль вынікае выснова, што рэканструкцыі генезы ВКЛ, угрунтаваныя на тэзе канфрантацыі, з'яўляюцца недакладнымі і патрабуюць перагляду. Мая праца стала спробай такога перагляду і распрацоўкі новай рэканструкцыі генезісу ВКЛ, адпаведнай сучаснаму стану гістарычных ведаў. Не настойваю на яе дасканаласці і завершанасці, але не магу пагадзіцца з катэгарычна выказанай у рэцэнзіі Дубоніса адмовай самой неабходнасці распрацоўкі новай канцэпцыі.

Можна спрачацца наконт інтэрпрэтацыі шмат якіх звестак, невыразна пададзеных у крыніцах, але нельга адмаўляць відавочных фактаў ці браць з крыніцаў тое, чаго ў іх няма. Напрыклад, цытуючы летапіс пра жорсткасць Вайшэлка падчас пачатку кіравання ў Наваградку, рэцэнзент дадае ад сябе, што гэта адбывалася пасля заваёвы ім Наваградка. Між тым у летапісе няма ні слова пра гэтую заваёву. Такое "дапаўненне" крыніцы не з'яўляецца навуковым і не робіць гонару яго аўтару.

Яшчэ прыклад. У маёй кнізе выказваецца дапушчэнне, што Міндоўг, стараючыся перад папай аб каранацыі свайго пераемніка (імя ягонае крыніцы не падаюць), не меў на ўвазе Вайшэлка, бо той быў манахам. Рэцэнзент успрымае гэтае дапушчэнне-меркаванне як даказаны факт і сцвярджае, што гэты "факт" наносіць удар па маіх высновах.

На элементарнай памылцы грунтуюцца сцверджанні рэцэнзента пра "пастку" для аўтара кнігі, звязаную з ваеннай актывізацыяй летапісных літоўцаў у 1180-я гады. Маўляў, літоўцы пачынаюць атакаваць Панямонне, што супярэчыць тэзе Краўцэвіча пра існуючы тут балта-славянскі сімбіёз. Элементарнасць памылкі заключаецца ў тым, што рэцэнзент не робіць розніцы паміж асобнымі землямі летапіснай Русі і ўсе іх лічыць агульным палітычным арганізмам. Між тым, усе зафіксаваныя крыніцамі напады літоўцаў на землі Русі ні аднаго разу не датычылі тэрыторыі Панямоння. (Дарэчы, пры ўсім старанні я не знайшоў звестак пра літоўскія напады і на іншыя беларускія землі.) Рэцэнзент таксама не называе ніводнага такога факту, а ўжывае недазволены прыём: прыводзіць маё выказванне пра тое, што успышка ваяўнічасці літоўскіх плямёнаў не парушыла стабільнасці панямонскай сістэмы, але апускае ягоны працяг, менавіта: "ваяўнічы рух балтаў быў накіраваны за межы сваёй панямонскай сістэмы" (с. 129, другое выданне – с. 135).

Рэцэнзент сцвярджае, што пасля раскопак, праведзеных Фрыдай Гурэвіч, шэраг беларускіх аўтараў пачаў перабольшваць важнасць Наваградскага краю. Аднак гэтую важнасць цяжка перабольшыць, бо большых і багацейшых гарадоў на ўсім Панямонні ў 13 ст. ад пачаткаў і да вусця Нёмана не было. Таксама пасля буйных раскопак у панямонскіх гарадах сучаснай Беларусі стала несумненным іх усходнеславянская (беларуская) прыналежнасць. Што датычыць Вільні, то не толькі археалагічныя раскопкі Галубовічаў, але і пісьмовыя крыніцы 14 ст. сведчаць пра беларускае насельніцтва ў гэтым горадзе[3].

Мае сцвярджэнні пра сімбіёз балцкіх і славянскіх насельнікаў Панямоння і пра большую шчыльнасць балцкага насельніцтва на поўначы, а славянскага – на поўдні кан-

3 Краўцэвіч А.К. Стварэнне... С. 96.

тактнай зоны, не з'яўляюцца супярэчлівымі, як сцвярджае рэцэнзент, паколькі тэрмін "сімбіёз" не азначае раўнамернае перамешванне. Рэцэнзент убачыў на карце лінеарную балта-славянскую этнічную мяжу, але не звярнуў увагі на неаднаразовае падкрэсліванне ў кнізе меркавання майго і іншых даследчыкаў пра адсутнасць такой мяжы і што ўсе межы паказаныя на мапах – ўмоўныя. Напрыклад, знакамітая лінія Сафарэвіча, то "мяжа адноснай **перавагі** назваў на *–ішкі*. Мяжа па канфесійнаму крытэрыю паказвае **перавагу** адной канфесіі над другой"[4].

Рэцэнзент сцвярджае, што я не прызнаю сучасныя заходнія беларускія землі старымі этнічнымі летувіскімі тэрыторыямі. Цэлы раздзел у маёй працы прысвечаны працэсу балта-славянскіх кантактаў на тэрыторыі сучаснай Беларусі, які паводле археалагічных і лінгвістычных даследаванняў распачаўся каля 6 ст. н.э. Мяжа паміж балтамі і славянамі праходзіла ў той час прыблізна па рацэ Прыпяці, што не раз адзначаецца ў маёй працы. Іншая рэч, што ўсіх балтаў, якія жылі тут ў сярэднявеччы не выпадае называць летувісамі, як усіх тагачасных русінаў – насельнікаў Кіеўскай Русі, нельга называць расейцамі. На сучасных заходніх землях Беларусі жылі пераважна яцвяжскія, а не літоўскія плямёны.

Тут будзе дарэчы заўвага наконт ўжывання ў маёй працы терміну "летувісы" і "Летува" ў адносінах да сучаснага народу і краіны замест "літоўцы" і "Літва". Пасля прачытання рэцэнзіі Артураса Дубоніса я яшчэ раз пераканаўся ў апраўданасці такой розніцы тэрмінаў, якая дапамагае дакладна аддзяліць розныя па тэрытарыяльнаму і этнічнаму напаўненню паняцці **гістарычнай Літвы** і **сучаснай Летувы** і такім чынам перадухіліць спекуляцыі на атаясамленні гэтых паняццяў. Дарэчы, рэцэнзент цалкам абыходзіць адну з найважнейшых праблемаў - лакалізацыю і этнічную



4 Краўцэвіч А.К. Стварэнне... С. 90.

характарыстыку Літвы – ядра, цэнтральнай вобласці ВКЛ. Сёння ў гістарыяграфіі няма спрэчак адносна яе абсягу: то Наваградчына, Віленшчына і Гарадзеншчына, г.зн. большую частку **гістарычнай Літвы** – цэнтра і ядра дзяржавы, складалі этнічна беларускія землі. У сваёй кнізе я паказваю працэс замацавання за гэтай тэрыторыяй назвы "Літва" (с. 104-128). Прывядзенне нейкіх адасобленых прыкладаў, як тое робіць рэцэнзент адносна крывічскага Наваградка ў 1314 г. з Хронікі Прусіі Дзюсбурга, ніякім чынам не праясняе справу. Напрыклад, у іншай прускай хроніцы - Віганда з Марбурга пад 1383 г. згадваецца Вільня як "рускі горад".

Не згодны, што мае разважанні ўскладняюцца хрышчэннем Міндоўга ў каталіцтва (дарэчы ў маёй працы не ўжываецца выраз "лацінская ерась" – гэта словатвор рэцэнзента). Наступнікі Міндоўга, пачынаючы ад Гедыміна, не раз дэкларавалі жаданне прыняцця каталіцтва, якраз у часы найбольшай напругі вайны з Тэўтонскім ордэнам, каб пазбавіць апошняга ідэалагічнай падставы для агрэсіі супраць ВКЛ. Аднак сутнасці дзяржаўнай арганізацыі падобныя дэкларацыі, а пасля і рэальнае хрышчэнне Ягайлам апошніх у Еўропе язычнікаў не змянялі, як і не змянілі ў ВКЛ афіцыйную старабеларускую мову на летувіскую. Дарэчы, Артурас Дубоніс адносіцца да тых летувіскіх гісторыкаў, якія пазбягаюць ужывання тэрміну "старабеларуская мова" і называе яе "заходнерускай"[5].

Месцамі ўражвае адназначнасць і хуткасць выказаных рэцэнзентам ацэнак, якія з-за гэтага не выглядаюць пераканаўча. Напрыклад, гістарыяграфічны агляд у маёй працы не займае амаль яе палову, як сцвярджае Дубоніс, а трохі больш пятай часткі. Падобны ж прыклад паразронай хуткасці высноваў – акрэсленне маёй асобы як

5 Дубонис Артурас. Литовская Метрика. Книги № 1 и № 25 // Новости Литовской Метрики. Вильнюс, 1999. № 3. С. 7.

"сур'ёзнага археолага" толькі па загалоўках артыкулаў у бібліяграфіі.

Знаёмства нават з прыгладжаным, прызначаным для паказу шырокаму свету, варыянтам рэцэнзіі пакідае цяжкае ўражанне найперш па прычыне яе агрэсіўнасці. Да таго ж відавочны нізкі ўзровень культуры навуковай дыскусіі, менавіта, некарэктнае цытаванне рэцэнзуемай працы, прыпісванне аўтару матывацыі, думак, меркаванняў, высноваў, якіх ён у працы не выказваў, часам яўнае элементарнае неразуменне тэксту кнігі (магчыма, па прычыне цяжкасцяў з беларускай мовай). Усё гэта, па-першае, выводзіць даную рэцэнзію яўна ніжэй за дапушчальны ўзровень навуковай дыскусіі; па-другое, адбівае ахвоту ў падобнай дыскусіі ўдзельнічаць. Аднак, публікацыя рэцэнзіі Дубоніса на Беларусі (гэтаксама як і адказ на яе) бачыцца патрэбнай па некалькіх прычынах. Па-першае, погляды Дубоніса як і форма іх выказвання не з'яўляюцца індывідуальнай адметнасцю гэтага аўтара, а характэрныя і для іншых летувіскіх гісторыкаў, у чым я пераканаўся падчас дыскусіяў з імі на міжнародных навуковых канферэнцыях. Таму можна казаць пра іх тыповасць у Дубоніса. Па-другое, погляды гэтыя слаба вядомыя на Беларусі па прычыне штучнага раздзялення нашых гістарыяграфіяў яшчэ ад савецкіх часоў і моўнага бар'еру (неяк у Навуковай Бібліятэцы НАН Беларусі я не змог знайсці слоўніка летувіскай мовы, бо яго там ўвогуле не было. Прынамсі тут заўвага Дубоніса цалкам справядлівая – я дрэнна ведаю летувіскую мову, патрэбныя тэксты чытаю са слоўнікам і з цяжкасцю.) Па-трэцяе, беларускія і летувіскія гісторыкі асуджаныя на наладжванне дыялогу па праблемах вывучэння нашага агульнага мінулага, хоць бы з той прычыны, што мы ўсё-такі бліжэйшыя суседзі.

Сёння відавочна, што нашыя летувіскія калегі (прынамсі, пэўная іх частка) такога дыялогу не хочуць. На пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя, калі на Беларусі праходзілі працэсы дэмакратызацыі і адбудовы незалежнасці, гісторыкі Летувы ішлі насустрач гэтаму дыялогу. Пра тое сведчылі тыя сумесныя “круглыя сталы” (у Менску і Гервятах), вынікі якіх у канцы 90-х Дубоніс здзекліва параўнаў з дырэктывамі Камуністычнай партыі.

Сённяшняя страта цікавасці да размовы з беларускімі калегамі выклікана, падобна, міжнароднай ізаляцыяй Беларусі і яе аддаленнем ад Еўропы. Тым не менш, рэжым Лукашэнкі не вечны, а гістарычная навука застанецца. Перакананы, чым хутчэй лаянка, якая чуецца з боку на-

# ДАДАТАК 3.

## Рэцэнзія на кнігу Роўэл С.К. “Уздым Літвы: Паганская імперыя...”

Публікацыя: Краўцэвіч А. Рэцэнзія: С. К. Роўэл. Уздым Літвы: Паганская імперыя ў Цэнтральнай і Ўсходняй Еўропе, 1295 -1345 г.; пераклаў з англ. А.Мікус. Мінск: Медысонт 2015. – 424 с. // Гадавік Цэнтра Беларускіх Студыяў. Варшава, № 6. 2020. С. 236 – 246.

## Папяровы імперыялізм, або ці была Літва ў XIV ст. “паганскай імперыяй”?

(рэц.: С.К. Роўэл. Уздым Літвы: Паганская імперыя ў Цэнтральнай і Ўсходняй Еўропе, 1295 - 1345 г.; пераклаў з англ. А.Мікус. Мн.: Медысонт 2015. – 424 с.)

Кніга ангельска-летувіскага[1] аўтара доктара філасофіі Стэфана Крыстафера Роўэла (Rowell, Stephen Christopher) прысвечана Вялікаму Княству Літоўскаму (далей ВКЛ) пад кіраваннем першых пакаленняў дынастыі Гедымінавічаў, якая пачалася з таямнічага Пукувера ў апошнім дзесяцігоддзі XIII ст. Першае выданне працы з’явілася ў 1994 г. на ангельскай мове ў Кембрыджы, праз год пасля пераезду аўтара на працу ў Летуву. Акрамя паўтору ангельскага выдання (у 2014 г.), кніга выйшла на летувіскай мове ў 2001 г.[2], а ў 2015 г. менскае выдавецтва “Медысонт” выдрукавала пераклад ангельскага выдання 1994 г. на беларускую мову.

Адказным за выпуск пазначаны Алесь Пашкевіч, які ў інтэрв’ю для радыё “Рацыя” паведаміў пра выданне працы Роўэла па-беларуску часопісам “Архэ”. Аднак у выходных даных кнігі “Архэ” ніяк не абазначана і можна толькі

1 Аўтар рэцэнзіі ўжывае назвы Летува і летувісы там, дзе маецца на ўвазе сучасная краіна і яе народ з адпаведнымі назвамі Lietuva і lietuviai.
2 Rowell S. C. Iš viduramžių ūkų kylanti Lietuva : pagonių imperija Rytų ir Vidurio Europoje, 1295–1345. Vilnius, 2001.

здагадвацца, па якой прычыне. А.Пашкевіч адзначыў, што праца С.Роўэла вытрымала чатыры выданні па-ангельску (мне ўдалося знайсці звесткі толькі пра два) і ацэньвае яе наступным чынам: *"І гэта адно з найлепшых даследванняў пачатковага перыяду гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. У гэтым даследванні паказваецца, як Вялікае Княства Літоўскае ўпершыню набывала вагу на міжнароднай арэне."* [3] У гэтым выказванні крыецца недакладнасць, бо праца Роўэла прысвечаная не пачатковаму перыяду гісторыі ВКЛ – у 1295 г. дзяржава мела за сабой каля паўстагоддзя; маецца таксама пэўная нязгоднасць з назвай кнігі, бо дзяржаву, якая *"упершыню набывала вагу на міжнароднай арэне"* наўрад ці можна залічыць да імперыяў.

Выклікае здзіўленне першы сказ кнігі ва Ўступе: "*6 верасня 1991 г. бальшавіцкі рэжым у Маскве...*" Акрэсліць прэзідэнтуру Барыса Ельцына як "бальшавіцкі рэжым", будзе мякка кажучы, перабольшваннем.

Ва Ўступе аўтар спасылаецца на дзве кнігі польскіх гісторыкаў[4], якія на яго думку, *"не адрозніваюцца тэндэнцыйнасцю"* (с. 7). Можна пагадзіцца з такой ацэнкай працы Аскара Халецкага, але другая аўтарства Ежы Ахманьскага, прынамсі раздзелы прысвечаныя ВКЛ у XIII – XIV ст., аб'ектыўнымі, на маю думку, назваць не выпадае.

Ва Ўступе маюцца некалькі спрэчных і недакладных выказванняў. Так, у 1386 г., калі Ягайла жаніўся з польскай каралевай, ВКЛ не мела яшчэ выхаду да Чорнага мора; пры Гедыміне не было яшчэ Вялікага Княства Маскоўскага, ягоны сучаснік маскоўскі князь Іван Данілавіч (Каліта) меў тытул вялікага князя ўладзімірскага.

С. Роўэл канстатуе адсутнасць *"падрабязнага выкладу гісторыі паганскай Літвы"* на якой-небудзь заходнееўрапей-

3 https://www.racyja.com/kultura/uzdym-litvy-stefana-k-rouela-vyjshau-p/

4 Halecki O. The borderlands of western civilisation: A history of East Central Europe. New York, 1952; Ochmański J. Historia Litwy. 2 wyd. Wrocław-Warszawa-Kraków-Gdańsk-Łódź, 1982.

скай мове і дэкларуе запаўненне гэтага прагалу ў навуцы сваёй працай. Аднак мэта даследавання ў фармулёўцы аўтара выглядае не зусім па-навуковаму: *“У працы будзе зроблена спроба абвергнуць той несправядлівы заходні погляд на гісторыю Усходняй і Цэнтральнай Еўропы, паводле якога з-за няведання змяншаюцца ўнёскі славян і балтаў у еўрапейскую культуру”* (с. 8). Доказ/абвяржэнне нейкай тэзы ці погляду як адпачатковая мэта працы – характэрная рыса не навуковага даследавання, а публіцыстыкі.

Не адразу атрымліваецца зразумець дэкларацыю аўтара асвятляць падзеі *“з розных бакоў і найперш з боку Вільні, а не Варшавы, Масквы ці Караляўца, разглядаючы Вялікае Княства Літоўскае як цалкам самастойны суб’ект, а не ў перспектыве тэрытарыяльнай экспансіі тэўтонцаў, палякаў ці рускіх”* (с. 8). Упамінанне ў пераліку Караляўца нібыта сведчыць, што аўтар гаворыць пра Вільню часоў ВКЛ, але па ходу справы высвятляецца, што ён мае на ўвазе сталіцу сучаснай монаэтнічнай дзяржавы – Рэспублікі Летува, якой Вільня стала толькі ў 20 ст. (у гэтай рэцэнзіі дзеля адрознення сучаснай краіны і яе народа ад гістарычнай Літвы і ліцвінаў выкарыстоўваюцца тэрміны “летувісы” і “Летува”).

С. Роўэл абраў для даследавання цікавы і важны перыяд у гісторыі ВКЛ, сапраўды пераломны этап, калі яно з невялікай рэгіянальнай у маштабах Беларусі дзяржавы пачало вырастаць на адну з галоўных сілаў ва Ўсходняй Еўропе. Храналагічныя рамкі, выдзеленыя аўтарам, таксама зразумелыя: пачатковая 1295 г. – прыблізная дата пачатку кіравання ў Літве Віценя – другога прадстаўніка новай дынастыі (называнай дынастыяй Гедыміна, а ў польскай традыцыі – Ягелонскай); заключная 1345 г. – прыход да ўлады дуумвірату Альгерд-Кейстут.

Што праўда, пра імперскі характар дзяржавы ці, прынамсі, пра палітыку блізкую да імперскай можна казаць ад часоў дуумвірату Альгерд-Кейстут, бо менавіта гэтыя гаспадары вывелі ВКЛ на пазіцыю наймацнейшай дзяржавы Усходняй Еўропы, пацясніўшы Залатую Арду. Але пра гэта трохі пазней.

Гаспадаранне Віценя (каля 1295 – 1315 г.) завяршыла першы перыяд гісторыі дзяржавы, калі яна ў змаганні з суседзямі сілай зброі і дыпламатыі даводзіла сваё права на існаванне, а кіраванне Гедыміна (1316 – 1341 г.) прывяло да першага істотнага павелічэння дзяржаўнай тэрыторыі праз аб'яднанне ў ВКЛ амаль усіх гістарычных земляў Беларусі.

Кніга складаецца з 10 раздзелаў, дапоўненая двума дадаткамі, спісам крыніцаў (у тым ліку рукапісных), бібліяграфіяй, генеалагічнымі табліцамі, паказнікам і інш. неад'емнымі атрыбутамі сучаснага навуковага выдання. Спіс ілюстрацый (рысункаў, мапаў, табліцаў) нетрадыцыйна размешчаны ў пачатку кнігі перад уступам, пры спісе рысункаў няма ўказання нумароў старонак, на якіх яны знаходзяцца. Спіс скаротаў, мапы і табліцы, размешчаныя таксама нетрадыцыйна ў пачатку кнігі, адразу пасля ўступу.

Крыніцы разглядаюцца ў Раздзеле 2, а трэці "Уводзіны ў літоўскую эканамічную і палітычную гісторыю да 1315 г." (апошняга года гаспадарання Віценя) названы ва Ўступе *"агульнай характарыстыкай паганскай дзяржавы".* (с. 9). Наступныя раздзелы апавядаюць: пра экспансію Літвы (4-ты), "Палітычны аспект паганскага культу" (5-ты), "Літоўская мітраполія" (6-ты), "Пагане, мір і папа (1322 – 1324 гг.) (8-ы)", "Бязлітасная *realpolitik*", "1339 – 1345 гг.: канцы і пачаткі" (9-ты), і "Чыннікі фармавання Вялікага Княства" (10-ты, апошні), які выконвае ролю заканчэння-падсумавання.

Дадаткі названыя: "Рускія крыніцы пра падзенне Кіева, 1322 – 1323 гг., (дакладней, фрагменты крыніц з XVI – XVII ст.) і "Спіс праваслаўных іерархаў, 1283 – 1461 гг." (менавіта, спіс мітрапалітаў).

Ва Ўступе аўтар тлумачыць ужыванне *"назвы Русь у дачыненні да населенага ўсходнімі славянамі краю"*: *"Гэта бяскрыўдны ўмоўны тэрмін, якім абазначаецца абсяг супольнай палітычнай, рэлігійнай і літаратурнай культуры да часоў уздыму велікарусаў (г.зн. маскавітаў) над братнімі русінамі Беларусі ды Украіны"* (с. 9). Насамрэч у трактоўцы С.Роўэла гэты тэрмін зусім не бяскрыўдны, бо прыкрывае практычна поўную адсутнасць у ягонай працы беларусаў і украінцаў, якіх аўтар прадстаўляе як русінаў – аб'ектаў экспансіі язычнікаў-летувісаў.

Сярод краінаў, адкуль паходзяць важнейшыя крыніцы, выкарыстаныя даследчыкам, ёсць Нідэрланды, Францыя, Расія, але няма Украіны і Беларусі (с. 58). Між тым галоўнай крыніцай па ранняй гісторыі ВКЛ з'яўляецца ўкраінскі Галіцка-Валынскі летапіс, а высока ацэненыя аўтарам уласныя летапісы ВКЛ створаныя на старабеларускай мове.

У тэксце трапляецца даволі шмат фактычных памылак і недакладнасцей. Напрыклад, зямгалы не жылі па суседству з Прусіяй (с. 41), а суседнічалі з Полаччынай. Ліда не была значным горадам у XIII ст (с. 104) яе развіццё пачалося з вёскі пасля пабудовы замка ў XIV ст.[5] Гародня не знаходзілася ў 5 км ад Прусіі (с. 119). Недакладна, што Наваградак *"асабліва хутка пачаў расці пасля 1316 г."*. Наадварот, пасля пагрому 1275 г. перыяд росквіту горада скончыўся, заняпала жыццё на галоўным пасадзе – вакольным горадзе[6].

5 Краўцэвіч А.К. Гарады і замкі Беларускага Панямоння 14 – 18 стст.: планіроўка, культурны слой. Мн., 1991. С. 99 – 101.

6 Гуревич Ф.Д. Древний Новогрудок (посад – окольный город). Ленинград, 1981. С. 157.

Моцна недакладнае сцвярджэнне: *“у Полацку ў XIV ст. было пабудавана гэтулькі манастыроў і цэркваў, колькі за тры ранейшыя стагоддзі”* (с. 222). Росквіт полацкага дойлідства прыпаў на XII ст., мураванае будаўніцтва ў горадзе спынілася ў XIII ст., і не вялося ў XIV ст. (як і па ўсёй Еўропе па прычыне вялікага дэмаграфічнага крызісу, выкліканага пандэміяй “Чорнай смерці”).

Гедымін не займаў Галіцка-Валынскую зямлю каля 1323 г. (с. 257), там да 1340 г. кіраваў уласны князь Юры-Баляслаў, пра што далей узгадвае сам аўтар (с. 269).

Даволі арыгінальна выглядае атаясамленне вялікакняскай улады ў ВКЛ у XIII ст. не з адной асобай і нават не з пяццю “старэйшымі” князямі, а з пяццю родамі: *“Роды, да якіх належалі гэтыя князі – Жывібунд, браты Даўят і Вілікайла і сыны Рынгаўда, – прадстаўлялі вялікакняскую ўладу”* (с. 84).

Насуперак меркаванню С.Роўэла (с. 42), каланісты ў Ордэнскай дзяржаве імкнуліся сяліцца як мага далей ад небяспечнай ліцвінскай мяжы, уздоўж якой заставаліся незаселеныя пусткі з-за пастаяннай ваеннай небяспекі.

Хан Залатой Арды даваў ярлык на кіраванне Вялікім княствам Уладзімірскім не абавязкова старэйшаму з Рурыкавічаў (с. 49), а сама Залатая Арда ў 40-я гады 14 ст. яшчэ не была мусульманскай краінай, іслам засвойвалі адно вярхі яе грамадства[7].

Невядома, што за *“некаторыя вобласці Польшчы”* былі далучаныя да Літвы праз шлюбы (с. 130). Выклікае пытанні план-рэканструкцыя Вільні 1342 г. нібыта ўзяты з працы Ежы Ахманьскага (с. 105, спасылка на выданне 1982 г.). У пазнейшым пашыраным выданні “Гісторыі Літвы” такі план адсутнічае, ёсць план-рэканструкцыя горада на 1390 г.[8]

7 Федоров-Давыдов Г.А. Общественный строй Золотой Орды. Москва, 1973. С. 107, 103.
8 Ochmański J. Historia Litwy. S. 62.

С.Роўэл сцвярджае, што *"Паводле дакументаў Тэўтонскага ордэна, Міндоўг пабудаваў катэдру ў Вільні; апошнім часам былі адкапаныя, як мяркуюць, падмуркі гэтай бажніцы"* (с. 106). Спасылкі на дакументы не прыводзяцца, а адкрытыя археолагамі фрагменты падмуркаў не могуць быць дакладна датаваныя. Інтэрпрэтацыя іх як парэшткаў катэдры Міндаўга выклікае вялікія сумненні. Вядомы даследчык ВКЛ прафесар Анджэй Рахуба лічыць, што сцвярджэнне найноўшай летувіскай гістарыяграфіі пра каранацыю Міндоўга ў віленскай катэдры абапіраецца *"на мала пераканаўчых доказах"* і папулярызуецца па палітычных прычынах[9]. Заявіўшы пра будову ў Вільні каталіцкага храма Міндаўгам (с. 68), далей аўтар піша аб *"магчымым заснаванні Гедымінам першага храма ў Вільні"* (с. 75).

Гедымін не аддаваў сваім сынам Яўнуту і Кейстуту Жамойць (с. 330), гэтая зямля ўвогуле не ўпамінаецца ў ягоным тастаменце[10] (бо яшчэ не належала да ВКЛ).

У працы неаднойчы сустракаюцца ўзаемаспрэчныя і ўзаемавыключальныя выказванні. Напрыклад, сцвярджэнне пра імкненне вялікіх князёў парадніцца з арыстакратамі важных памежных зонаў (с. 95) супярэчыць выснове, што вялікія князі, як маглі перашкаджалі арыстакратам праз шлюбы ўключацца ў кіроўную дынастыю (с. 96).

Гедымін наўрад ці *"...ухваляў саперніцтва, што расколвала яго сыноў на два галоўныя лагеры."* (с. 101).

Ліцвінскіх князёўнаў, якія выйшлі замуж за хрысціянаў, аўтар у адным месцы называе *"пагрозлівай пятай калонай у Польшчы і на Русі"* (с. 153), а ў другім сцвярджае, што Гедымінаўны за мяжой *"горача прымалі новую рэлігію і пазней былі слынныя сваёй пабожнасцю і апекаваннем царквы"* (с. 348).

9 Rachuba Andrzej, Kiaupienė Jūratė, Kiaupa Zigmantas. Historia Litwy. Dwugłos polsko-litewski. Warszawa, 2009. S. 14.
10 Полное собрание русских летописей. Москва, 1980. Т. 35. С. 132 – 133.

Выразная нязгоднасць можа крыцца ў двух суседніх сказах: *"Калі прыблізна ў 1250 г. літоўскія ваяры першы раз занялі Полацк і Наваградак, мясцовым жыхарам вельмі рупіла, якую веру вызнаюць заваёўнікі. Яны ўжо ведалі літоўцаў, бо абодва народы зналіся з пачатку 11 ст."* (с. 156) Цяжка ўявіць, каб беларусы на працягу двух з паловай стагоддзяў кантактаў з летувісамі, нічога не даведаліся пра іх рэлігію.

Вось яшчэ лагічная нязгоднасць – аўтар сцвярджае слабасць пазіцый абедзвюх галін Тэўтонскага ордэна – лівонскай і прускай у 1322 г. (с. 233), далей апавядае пра атакі крыжакоў на ВКЛ, а Гедымін у тым жа годзе спадзяецца *"прапановамі міру нейтралізаваць магутнасць крыжакоў, якую ён не змог адолець ніякімі іншымі высілкамі"* (с. 238).

Часам такія супярэчнасці выглядаюць як аксюмаран: *"Імкнучыся захаваць адзінства ў Вялікім Княстве ён* (Гедымін – А.К.) *падзяліў дзяржаву паміж сямю сваімі сынамі"* (с. 329).

Некаторыя аўтарскія высновы не пацвярджаюцца доказамі ці аргументамі, напрыклад, пра Вільню як месца спачынку князёў прынамсі з 13 ст. (с. 170); пра пабудову язычнікамі гарадоў пры шляхах, каб бараніць купцоў (с. 344, ніводнага прыкладу такой будовы не прыводзіцца).

Не выпадае казаць пра *"працэс урбанізацыі ў Літве Гедымінавічаў"* (с. 117), бо па-першае, гэты тэрмін медыявісты ўжываюць амаль выключна адносна густанаселеных сярэднявечных Нідэрландаў і Паўночнай Італіі; па-другое, у этнічных летувіскіх землях гарады закладваліся ў выніку усходнеславянскай (беларускай) каланізацыі, гэтаксама як латышскія і эстонскія праз каланізацыю немцаў і датчанаў.

С.Роўэл прыхільны версіі пра пераважна збройнае далучэнне да Летувы беларускіх і украінскіх земляў (называе іх заходнерускімі і Паўднёва-Заходняй Руссю): *"новыя землі далучаліся да Літвы часцей праз вайну, чым праз шлюбны*

*ложак"* (с. 125). *"Тэорыя, нібыта Літва пашыралася з добрай волі рускіх князёў, гэта рускія хітрыкі, такія ж старыя, як Іван Грозны"* (с. 130).

Між тым, аўтар не прывёў ніводнага прыкладу захопу ці хоць бы нападу летувісаў на які-небудзь беларускі горад. Пра такія выпадкі крыніцы маўчаць, таму адносна буйнейшага і важнейшага ў краіне горада Полацка даследчык канстатуе: *"абставіны літоўскіх уварванняў застаюцца няяснымі"* (с. 51). Наадварот, крыніцы неаднакроць інфармуюць пра мірны прыход (праз запрашэнне) літоўскіх князёў ва ўсходнеславянскія гарады, як у выпадку шлюбаў Альгерда і Любарта, адпаведна, з віцебскай і валынскай княжнамі[11]. Але для С.Роўэла гэтыя шлюбы анэксія: *"Спадчына Альгерда (Віцебск) і Любарта (Уладзімір) была набытая ў змаганні, і гэтыя князі забяспечылі сабе лаяльнасць праз шлюб"* (с. 119).

Праз усю працу прасочваецца аўтарскі "даследчы метад", які палягае на тым, каб ўсе важныя, але цьмяныя, дрэнна асветленыя крыніцамі падзеі і здарэнні, запісваць на карысць летувісаў. Напрыклад, няма прамых доказаў, што Гедымін заняў Кіеўскую зямлю, па ўскосных можна меркаваць толькі, што меў там уплывы. Так лічыць большасць гісторыкаў, аднак аўтар прызнае за гістарычны факт пазнейшую летапісную легенду пра заняцце Кіева Гедымінам. Няма дакладных звестак пра абставіны гібелі двух апошніх галіцка-валынскіх князёў – у Роўэла яны сталі ахвярамі летувіскай экспансіі (с. 38; хоць ёсць ускоснае сведчанне пра смерць ад татараў).

Неаднаразова, дзеля прызнання дакладнасці той або іншай інфармацыі крыніцы, аўтар прыводзіць даволі нетрадыцыйныя аргументы, кшталту *"Нельга назваць неверагодным меркаванне, што…."* (с. 88). Для доказу заняцця



11 Краўцэвіч А. Гісторыя Вялікага Княства Літоўскага (1248 – 1377 г.). Гародня-Уроцлаў, 2015. С. 97.

Кіева і Валыні Гедымінам, а не Альгердам, як лічаць спецыялісты, аўтар прыцягвае позьнія крыніцы – з XVI – XVII ст., і зноў пускае ў ход сваю адметную аргументацыю: “*Калі падысці да паведамлення Л2* (адна з рэдакцый хронікі ВКЛ – А.К.) *без сумневу ў яго аўтэнтычнасці і ў верагоднасці апісаных там падзей, то яно выглядае праўдзівым*” (с. 143). Для гісторыкаў, якія з універсітэцкай лавы прывучаныя крытычна ставіцца да любой крыніцы, такі “метад” крыніцазнаўства выглядае дзіўнавата.

Пра гісторыкаў С.Роўэл часам выказваецца іранічна і не заўсёды карэктна, ужываючы такія выразы як *“гісторыкі горача кідаюцца на шыю Пятру Дусбургу і аўтарам літоўскіх хронік XV і XVI ст.”* (с. 71); *“Навукоўцы часта забываюць відавочны факт, што дакументы пішуцца не для іх патрэб”* (с. 69). Гісторыкі памыляюцца наконт мірнага характару летувіскай экспансіі з-за недахопу інфармацыі, таму ў іх *“Ціхія плачыператварыліся ў воклічы радасці”* (с. 153) і г.д.

Нажаль, у тэксце кнігі прасочваецца яшчэ адзін сумніўны метад, уласцівы некаторым летувіскім працам па ранняй гісторыі ВКЛ. Яго сутнасць у тым, што спачатку выказваецца нейкая гіпотэза ці інтэрпрэтацыя як адна з верагодных версіяў, а пазней яна падаецца ўжо як гістарычны факт, на якім будуюцца новыя версіі (напрыклад, с. 138 – 140). Гэта датычыць меркаванняў пра верагоднасць пабудовы бажніцы ў Вільні Міндаўгам, пераўтварэння яе ў паганскае свяцілішча Гедымінам, заняцця Валыні гэтым вялікім князем і інш.

З тэксту працы і бібліяграфіі відная добрая знаёмасць аўтара з увогуле нешматлікай заходнееўрапейскай гістарыяграфіяй ВКЛ і значна горшая з польскай і ўсходнеславянскай. Магчыма, па гэтай прычыне ацэнкі С.Роўэлам палітычнай сітуацыі ў рэгіёне адрозніваюцца ад агульнапрынятых. Напрыклад, недакладнае сцвярджэнне,

што Літва пасля 1327 г. станавілася асноўным сапернікам Масквы за дамінаванне на Русі замест Цверы (с. 152). Насамрэч, Масква і Цвер сапернічалі за дамінаванне толькі ў Паўночна-Усходняй Русі – будучай Расіі, а ВКЛ пашырала свае ўплывы яшчэ і на Украіну. С.Роўэл нідзе на згадвае пра ўласна Літву (Lithuania Propria) – пачатковае ядро і цэнтральную вобласць ВКЛ, якая складалася ў большасці з беларускіх земляў[12]. Гэты гістарычны факт, менавіта, ўзнікненне ВКЛ у пераважна усходнеславянскім/беларускім рэгіёне падважвае адпачатковую тэзу працы пра выключна летувіскі характар дзяржавы.

Меркаванне пра моц Польшчы пры Лакетку (с. 270) падаецца залішне аптымістычным, бо пры гэтым манарху Ордэнская дзяржава ў 1308 – 1309 г. забрала Гданьскае Памор'е, а толькі-толькі адноўленае Польскае каралеўства мела ў сваім складзе адно Малапольшчу і Вялікапольшчу. Наадварот, відная недаацэнка гістарычнага значэння заняцця Галіччыны наступнікам Лакетка Казімірам III, маўляў, той арганізаваў паход у 1340 г. каб *"абараніць палякаў-эмігрантаў ад разборак у Львове"* (с. 315).

С.Роўэл не ведае пра стратэгічнае значэнне паўночнай часткі Смаленшчыны з гарадамі Асечан і Расна (с. 298), адкуль пачынаюцца ўсе галоўныя рэкі Усходняй Еўропы: Днепр, Волга, Заходняя Дзвіна, Ловаць і якую, па меркаванні дасведчанага спецыяліста, ВКЛ заняло яшчэ на рубяжы XIII і XIV ст.[13] (вось, здавалася б, доказ імперскасці Літвы).

Па меры знаёмства з працай становіцца ўсё больш відавочным як прынятыя ад пачатку тэарэтычныя выкладкі С.Роўэла натыкаюцца на "супраціў матэрыялу", менавіта

12 Ochmański J. Litewska granica etniczna na wschodzie od epoki plemiennej do XVI wieku. Poznań, 1981. S. 73; Насевіч В., Спірыдонаў М. "Русь" у складзе Вялікага княства Літоўскага ў XVI ст. // З глыбі вякоў: Наш край. Мн., 1996. Вып. 1. С. 4 – 27.

13 Янин В.Л. Новгород и Литва. Пограничные ситуации 13 – 15 веков. Москва, 1998. С. 52 – 53; Краўцэвіч А. Гісторыя Вялікага Княства Літоўскага... С. 80 – 81.

канфрантуюць з ягоным уласным выкладам гістарычных фактаў. Гэта датычыцца практычна ўсіх галоўных аўтарскіх пастулатаў як: заваёвы летувісамі беларускіх земляў (па С.Роўэлу заходнерускіх), летувіскага характару ВКЛ, сталічнасці Вільні ад пачатку дзяржавы і інш. тэзаў, якія складаюць важную частку дзяржаўнай ідэалогіі сучаснай Рэспублікі Летува.

Асабліва цікава, часам забаўна назіраць, як аўтар уласным тэкстам абвяргае галоўную ідэю, вынесеную ў назву кнігі – "паганская імперыя" у адносінах да сярэднявечнай Летувы. Насуперак сцверджанню паганскасці ВКЛ у загалоўку кнігі, праз увесь яе тэкст праходзяць доказы адваротнага, менавіта, маргінальнасці паганства ў гэтай дзяржаве. Вялікія князі літоўскія ніяк не дбаюць пра ўмацаванне паганскай рэлігіі ў нібыта "паганскай імперыі", Віцень і Гедымін не пашыраюць паганства, а моцна ангажаваныя ў справы хрысціянства: дэкларуюць прыняцце каталіцтва, клапоцяцца пра праваслаўную царкву, ствараюць і падтрымліваюць Літоўскую праваслаўную мітраполію. На пячатцы Гедыміна вялікі князь *"сядзіць і трымае ў руцэ дыядэму, хрысціянскі сімвал каралеўскай улады"* (с. 68). Надпіс на ёй інфармуе, што Гедымін кароль ліцвінаў і русінаў (с. 98).

С.Роўэл адвяргае нават існаванне ўпарадкаванага агульнадзяржаўнага паганскага культу і сцвярджае яго рэгіянальную разнастайнасць (с. 70 – 72). Праўда, у іншым месцы працы прыпісвае вялікаму князю Гедыміну функцыю вярхоўнага паганскага жраца (с. 94, 177). Гэта надзвычай рэдкая ў гістарыяграфіі спроба прадставіць ВКЛ тэакратычнай дзяржавай.

Гедымін не будуе паганскія святыні ў далучаных землях, а ўзводзіць хрысціянскія ў Літве (с. 173). Сцвярджэнне, што ў Вільні бажніцу, пастаўленую Міндаўгам, Гедымін прыста-

саваў пад паганскае свяцілішча (с. 171) ніяк не пацвярджаецца ні ў першай частцы (будова Міндаўга), ні ў другой.

С.Роўэл не прыводзіць ніводнага прыкладу, каб у шлюбах язычніцкіх княжычаў і княжнаў з хрысціянамі, нехта прымаў паганства, усе пераходзяць у хрысціянства. Усюды, дзе сутыкаюцца хрысціянства з язычніцтвам, апошняе саступае першаму – такая агульная тэндэнцыя праз стагоддзі. Вялікі князь аднаўляў літоўскую праваслаўную мітраполію і адначасова выказваў гатоўнасць дапамагчы каталіцтву пашырацца на тэрыторыі Вялікага Княства (с. 337). Асабліва красамоўна і канфрантацыйна з загалоўкам гучыць наступная фраза з тэксту кнігі: *"У перыяд панавання Гедыміна канчаткова замацаваўся шматэтнічны і шматрэлігійны характар Вялікага Княства Літоўскага"*(с. 338).

На маю думку, С.Роўэлу не ўдалося аргументаваць тэзу, што ідэя Уладзіміра Антановіча пра няздольнасць Летувы ў пачатку 14 ст. стварыць імперыю *"на працягу апошніх васьмі дзесяцігоддзяў была абвергнутая навукоўцамі"* (с. 148). Не ўдалося таксама даказаць імперскасць ВКЛ пры Віцені і Гедыміне. Паводле С.Роўэла, Гедымін балансаваў паміж Усходам і Захадам (с. 271), звычайна намагаўся пазбегнуць вырашальнай бітвы (с. 290); ён прыціснуты вайной і эканамічнай дэпрэсіяй (с. 306), імкнецца дасягнуць міру з Ордэнскай дзяржавай і г.д. Дамова Гедыміна з Лівоніяй у 1338 г. вымагала *"згоды Полацкага епіскапа, князя і горада Полацка"* (с. 222) і г.д. Праявы імперыяльнай палітыкі нідзе не заўважныя.

Калі шукаць паганскую імперыю ва Ўсходняй Еўропе ў першыя дзесяцігоддзі XIV ст., то такой была Залатая Арда, якая істотна ўплывала на суседнія краіны, кіравала непасрэдна ці праз мясцовых князёў украінскімі і расейскімі землямі, умешвалася ў справы іншых краінаў – Малдовы, Польшчы, Венгрыі, таго ж ВКЛ (хан у расійскіх летапісах

тытулуецца імператарам – кесарам). Ад сярэдзіны XIV ст. набывае імперыяльны характар палітыка Асманскай Турцыі, якая ўварвалася на еўрапейскі кантынент і распаўсюджвала іслам.

ВКЛ пад кіраваннем Гедыміна вырасла ў моцнага гульца на рэгіянальнай палітычнай арэне, але не імперыяльных памераў. Пра пэўную імперскасць Літвы можна казаць толькі ад часоў дуумвірату Альгерд-Кейстут, менавіта пасля бітвы на Сініх Водах ў 1362 г. – першай перамогі над татарамі на іх тэрыторыі.

Увогуле, ацэньваць кнігу С.Роўэла як навуковую працу даволі складана. Па яе прачытанні складваецца ўражанне, што пры наяўнасці навуковага апарату (спасылак, указальніка, бібліяграфіі і інш.) яна не з'яўляецца цалкам навуковай. Больш выглядае на твор патрыятычнай летувіскай публіцыстыкі, калі не прапаганды, апублікаваны пад шыльдай аднаго са старэйшых універсітэтаў Еўропы.

Праца С.Роўэла аб'ектыўна антыбеларуская (таму выклікае здзіўленне ўдзел у гэтай справе рэдакцыі часопісу "Архэ").

Магчыма, як адпаведную характарыстыку рэцэнзаванай кнігі можна прыняць адну цытату з яе: *"Гісторыкі асабліва любяць уціскаць жыццё ў нейкія рамкі, каб стварыць магчымасць для імпазантных тэорый"* (с. 163).

# ДАДАТАК Ч.

## Дыскусія А.Краўцэвіча з В.Насевічам і М.Спірыдонавым

Першае выданне кнігі А.Краўцэвіча “Стварэнне ВКЛ”, у якой прадстаўленая біэтнічная канцэпцыя генезісу дзяржавы, выклікала дыскусію падчас абароны яе ў якасці доктарскай дысертацыі (Інстытут гісторыі НАН Беларусі, 4.12.1998) і ў навуковай перыёдыцы. У Вільні выйшла рэцэнзія Артураса Дубоніса, у якой канцэпцыі генезы ВКЛ, змешчанай у названай кнізе прыпісваюцца “усе найгоршыя атрыбуты нацыяналізму” (зразумела, беларускага – *А.К.*)[1]. Гэтая і іншыя падобныя ацэнкі ў рэцэнзента не падмацоўваюцца навуковымі аргументамі, таму дыскутаваць у такой танальнасці, напэўна, няма сэнсу.

Крытычныя заўвагі падчас абароны выказалі Вячаслаў Насевіч і Міхал Спірыдонаў, якія потым апублікавалі свае тэксты ў часопісах, а аўтар выступіў з адказамі[2]. В.Насевіч не пагадзіўся з групаваннем поглядаў розных даследчыкаў у адну канцэпцыю, наракаў на непавагу аўтара да папярэднікаў (у тым ліку В.Насевіча), закідваў яму “свядомае стварэнне міфа”[3]. Аднак урэшце высветлілася, што ў рэцэнзента з аўтарам “Няма сутнасных разыходжанняў” (так В. Насевіч назваў сваю апошнюю публікацыю з гэтай дыскусіі).

1 Dubonis A., Naujosios baltarusių istoriografijos aklaviete [у:] Musų praetis. Vilnius. T. 6. P. 207 – 213.

2 Насевіч В. Пытанняў больш чым адказаў // Беларускі гістарычны агляд. Менск, 1998. Т. 5. Сш. 1(8). С. 210 – 226. https://www.belhistory.eu/archives/346; Краўцэвіч А. Да праблемы генезісу ВКЛ // Беларускі гістарычны агляд. Менск, 1998. Т. 5. Сш. 2(9). С. 448 – 454. https://www.belhistory.eu/archives/438; Насевіч В. Няма сутнасных разыходжанняў // Там жа. С. 455 – 456. https://www.belhistory.eu/archives/436; Выступленне М.Ф.Спірыдонава // Гістарычны Альманах. Гародня, 1999. Т. 2. С. 98 – 102; Краўцэвіч А. Адказ М.Ф.Спірыдонаву // Там жа. С. 103 -106.

3 Пратакол паседжання Савета па абароне дысертацый на атрыманне вучонай ступені доктара навук пры Інстытуце гісторыі НАН Беларусі ад 4 снежня 1998 г. С. 13 -17.

З энергічнай крытыкай аўтарскай канцэпцыі выступіў М.Спірыдонаў. Адметнасцю навуковай творчасці гэтага даследчыка з'яўляецца вернасць поглядам, засвоеным са школьнай лавы, нават калі яны знаходзяцца ў спрэчнасці з вынікамі ягонай асабістай навуковай працы. Асабліва выразна гэта відаць на прыкладзе з лакалізацыяй гістарычнай Літвы. М.Спірыдонаў даволі грунтоўна паказаў яе біэтнічнасць, прычым з перавагай этнічна беларускіх земляў, аднак усіх баяраў з гэтай Літвы 16 ст., ён у духу "лепшых" традыцый савецкай гістарыяграфіі лічыць этнічнымі летувісамі. Як непрыймальныя для навуковай дыскусіі можна ацаніць выказаныя М.Спірыдонавым абвінавачванні ў стварэнні міфа як адпачатковай задачы маёй працы. Для такіх высноваў патрэбны важкія аргументы, якіх у рэцэнзента не было.

## Дыскусія А. Краўцэвіча з Міхаілам Спірыдонавым[4]

**Публікацыя:**

**Да праблемы генезісу Вялікага Княства Літоўскага // Гістарычны Альманах. Гародня, 1999. Вып. 2. С. 87 – 106.)** Прадмова А.Краўцэвіча да публікацыі дыскусіі ў Гістарычным Альманаху (с. 87 – 88); Даклад А.К.Краўцэвіча на пасяджэнні савета па абароне дысертацый 4 снежня 1998 г. (с.88 – 98); Выступ М.Ф. Спірыдонава (с. 98 – 102); Адказ М.Ф. Спірыдонаву (с. 103 – 106)

**Да праблемы генезісу Вялікага Княства Літоўскага**

У сённяшнія дні, пасля аднаўлення незалежнасці краіны, беларуская гістарычная навука перажывае складаны этап станаўлення ўласнай нацыянальнай школы. Адметнасцю гэтага працэсу з'яўляецца тое, што ён праходзіць у неспры-

4 публікуецца не толькі адказ аўтара, але, як выключэнне, таксама выступ М.Спірыдонава.

яльных умовах крызісу маладой беларускай дзяржаўнасці. Цяперашняя ўлада імкнецца змусіць гісторыкаў да абслугі ідэалагічных патрэбаў пануючага антыбеларускага па сваёй сутнасці рэжыму. Сярод гісторыкаў пазначыўся выразны падзел на тых, якія разглядаюць Беларусь як суб'ект уласнай гісторыі і тых, хто працуе на замову ўлады. Сітуацыя ўскладняецца тым, што абсалютная большасць гісторыкаў-прафесіяналаў працуе ў дзяржаўных установах і так або інакш ад улады залежыць. Акрамя таго ўсе мы родам з Савецкага Саюза. Спадчына савецкіх часоў дае пра сябе знаць мноствам састарэлых метадалагічных і ацэначных стэрэатыпаў, якімі перагружана гістарычная свядомасць беларускай нацыі.

Дыскусійныя матэрыялы, змешчаныя ў гэтым нумары, датычацца адной з ключавых праблемаў беларускай гісторыі, менавіта, утварэння ВКЛ. Яны звязаныя з палемікай, якая распачалася вакол працы Аляксандра Краўцэвіча "Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага" пад час абароны яе ў якасці доктарскай дысертацыі (афіцыйная назва дысертацыі "Вялікае Княства Літоўскае ў другой палове 13-пачатку 14 ст.: Генезіс дзяржавы па пісьмовых і археалагічных крыніцах") у Інстытуце гісторыі НАН Беларусі 4 снежня 1998 г.

Акрамя трох афіцыйных апанентаў (двое з іх ацанілі працу станоўча – Станіслаў Александровіч з Універсітэта імя Мікалая Каперніка ў Торуні і Язэп Юхо з БДУ, адзін - Леанід Побаль з Інстытута гісторыі НАН Беларусі - адмоўна) выступілі яшчэ сем знаных гісторыкаў і археолагаў: Міхал Спірыдонаў, Леў Казлоў, Вячаслаў Насевіч, Юрась Бохан, Георгі Штыхаў, Пётр Лысенка, Уладзімір Палуян. Адны з іх падтрымалі станоўчую ацэнку працы (Л.Казлоў, Ю.Бохан, Г.Штыхаў), астатнія выступілі з рэзкай крытыкай.

Дыскусія працягнулася на старонках часопіса “Беларускі гістарычны агляд”, дзе В.Насевіч апублікаваў крытычную рэцэнзію на названую працу (БГА, т. 5, сш. 1(8), с. 210-226), тэкст якой блізкі па зместу ягонаму выступу пад час абароны. У наступным нумары БГА быў змешчаны адказ А.Краўцэвіча і заключная рэпліка В.Насевіча (БГА, т. 5, сш. 2(9), с. 448-454 і 455-456).

Вядомы спецыяліст па гісторыі Беларусі часоў ВКЛ М.Спірыдонаў згадзіўся прадоўжыць дыскусію ў нашым часопісе і перадаў у рэдакцыю пісьмовы тэкст свайго выступу 4 снежня 1998 г. у Інстытуце гісторыі. Нам выдаецца, што змест, аргументацыя апанентаў і сам характар спрэчкі па праблеме пачаткаў беларуска-літоўскага гаспадарства з’яўляецца ў нейкім сэнсе адлюстраваннем актуальнага становішча беларускай гістарычнай навукі.

Матэрыялы пададзены ў наступным парадку: спачатку змешчаны тэкст дакладу дысертанта на абароне, якія ўяўляе сабой сціслы рэферат манаграфіі, потым выступ-рэцэнзія М.Спірыдонава (з захаваннем аўтарскага стылю і арфаграфіі) і адказ на яе, падрыхтаваны А.Краўцэвічам.

## Даклад А.К.Краўцэвіча на пасяджэнні савета па абароне дысертацый 4 снежня 1998 г.

На сённяшні дзень у свеце вядомыя дзве канцэпцыі ўтварэння ВКЛ. Першая, якую можна назваць яшчэ агульнапрынятай, сягае сваімі вытокамі ў легендарную частку беларуска-літоўскіх летапісаў 16 ст. Гэтая легенда, канчаткова аформленая ў першых дзесяцігоддзях 16 ст. апавядае пра рымскае паходжанне кіруючай у ВКЛ дынастыі, прадстаўнікі якой прыбылі да Нёмана з Рыма

і пачалі кіраваць у Літве. Пазней яны занялі апустошаныя татарамі рускія землі, адбудавалі на іх гарады і паспяхова абаранілі ад татараў.

Навуковае афармленне названая канцэпцыя атрымала ў апошнія дзесяцігоддзі 19 ст. у працах расейскіх і польскіх даследчыкаў Уладзіміра Антановіча, Юлюша Ляткоўскага, Мацея Любаўскага і інш. Распрацаваная і дэталізаваная польскімі гісторыкамі ў міжваенны перыяд, найперш у працах Генрыка Пашкевіча і Генрыка Лаўмяньскага, гэтая канцэпцыя (т. зв. балцкая) была мадыфікаваная ў 50-я гады савецкім расейскім гісторыкам Уладзімірам Пашутам і дажыла да нашага часу, перацярпеўшы нязначныя змены.

Знамянальнай рысай гэтай канцэпцыі з'яўляецца стабільнасць яе галоўнай тэзы. Большасць гісторыкаў канца 20 ст. як і іх калегі з канца 19 ст. бачаць **утварэнне ВКЛ як вынік унутранага развіцця балцкага этнаса пад назвай "летувісы".** Паводле сённяшняга варыянта гэтай версіі, у канцы 12 - першых дзесяцігоддзях 13 ст. утварылася раннелетувіская дзяржава (саюз ці канфедэрацыя земляў), якая сфармавалася незалежна (ці амаль незалежна) ад славянскіх суседзяў на тэрыторыі, населенай балцкімі плямёнамі. Цэнтрам дзяржавы вызначана адна з балцкіх земляў, меўшая назву "Літва". Апошняя ў агульных рысах лакалізуецца па сярэдняму цячэнню Віліі, дзе з 4 па 13 ст. існавала культура усходнелітоўскіх курганоў. У першай палове - сярэдзіне 13 ст. гэтая дзяржава (саюз ці канфедэрацыя) шляхам заваёвы (далучэння) суседніх усходнеславянскіх земляў ператварылася ў ВКЛ.

Канцэпцыя гэтая з'яўляецца інтэрнацыянальным навуковым прадуктам, вынікам шматгадовай працы расейскіх, польскіх, нямецкіх, летувіскіх даследчыкаў. Многія з прац замежных гісторыкаў, гэтаксама як і выданні некаторых пісьмовых крыніц да нядаўняга часу былі практычна неда-

ступны беларускім даследчыкам. Вывучыць гэтыя працы і прасачыць фармаванне агульнай канцэпцыі мне ўдалося дзякуючы магчымасці выезду ў лепшыя бібліятэкі Польшчы, найперш у бібліятэку Ягелонскага універсітэта ў Кракаве. За магчымасць такой працы на працягу амаль паўтара гадоў выказваю тут шчырую ўдзячнасць польскім калегам.

Другую версію ў канцы 80-х гадоў 20 ст. прапанаваў Мікола Ермаловіч. Гэты даследчык лічыць, што ўтварэнне ВКЛ адбылося па ініцыятыве ўсходнеславянскіх (беларускіх) феадалаў з Наваградка. Яны запрасілі на наваградскі стол літоўскага князя-перабежчыка Міндаўга, пацярпеўшага паражэнне ў міжусобнай барацьбе і вымушанага ўцякаць у Наваградак (у апошняй працы гісторык гаворыць пра паходжанне Міндаўга з роду полацкіх князёў). Атрымаўшы грошы і войска, Міндаўг заваяваў і падпарадкаваў Наваградку Літву - востраў балцкага насельніцтва ў беларускім абшары, размешчаны прыблізна паміж Наваградкам і Менскам. Такім чынам паводле Ермаловіча летапісная Літва з'яўляецца гістарычнай вобласцю Беларусі, а ВКЛ ад пачатку было беларускай дзяржавай.

На сённяшні дзень першая версія распаўсюджана па ўсім свеце, а канцэпцыя Ермаловіча набыла пэўную папулярнасць на Беларусі. На першы погляд гэтыя дзве канструкцыі здаюцца кардынальна процілеглымі, аднак на самой справе яны маюць шмат агульных рысаў. Па-першае, у іх падобная храналагічная (13 ст.) і геаграфічная (басейн Нёмана) лакалізацыя працэсу дзяржаваўтварэння. Па-другое, пачатак уласна ВКЛ звязваецца з адной і той жа гістарычнай асобай - Міндаўгам (адзінае выключэнне - Пашкевіч). Па-трэцяе, абедзве канцэпцыі маюць выразную ідэалагічную афарбоўку, якая бачна ў імкненні давесці канкрэтную этнічную прыналежнасць дзяржавы (летувіскую ці беларускую) з самага яе пачатку. Тут на-

відавоку механічны перанос на сярэднявечча канцэпцыі дзяржавы, уласцівай новаму і навейшаму часу, менавіта разуменне дзяржавы як механізма рэалізацыі нацыянальных інтарэсаў. Па-чацвёртае, у абедзьвюх версіях прысутнічае **тэза аб балта-славянскай канфрантацыі на тэрыторыі Панямоння.** Менавіта гэтая апошняя тэза з'яўляецца іх асновай, падмуркам. Таму ўтварэнне ВКЛ падаецца як вынік перамогі аднаго з супернікаў у шматвекавым "змаганні за тэрыторыі" (акрэсленне Ахманьскага).

Аднак менавіта гэтая падмуркавая тэза знаходзіцца ў супярэчнасці з вынікамі дэталёвых спецыяльных даследаванняў археолагаў і мовазнаўцаў, якія звяртаюць увагу на пераважна мірны характар балта-славянскіх адносін на тэрыторыі Беларусі. Галоўнай ідэяй маёй працы стала вывучэнне праблемы ўтварэння ВКЛ праз яго ўзаемасувязь з буйнейшай гістарычнай з'явай на Панямонні - працэсам балта-славянскіх кантактаў. Рэалізацыя гэтай ідэі стала магчымай дзякуючы таму, што за апошнія паўстагоддзя навукоўцы (археолагі, лінгвісты, этнографы) сабралі агромністую колькасць матэрыялаў і стварылі нават асобную галіну гістарыяграфіі па гэтаму працэсу (варта прыгадаць маскоўскія зборнікі "Балто-славянския исследования"). Сумненняў адносна сувязі гэтых двух працэсаў не ўзнікала, бо абедзве гэтыя буйныя гістарычныя з'явы звязаны з арганізацыяй жыццядзейнасці буйных чалавечых супольнасцей і ў пэўны момант яны супалі ў часе і прасторы.

Адной з падстаў для ўзнікнення тэзы канфрантацыі стаў рэальны факт актывізацыі ваенна-рабаўнічай дзейнасці летапісных літоўцаў, пачынаючы ад 80-х гадоў 12 ст. Аб'ектамі рабаўнічых нападаў сталі далёкія і блізкія суседзі літоўцаў. Пісьмовыя крыніцы (усходнеславянскія летапісы, польскія і нямецкія хронікі) зафіксавалі дзясяткі

рабаўнічых паходаў літоўцаў амаль ва ўсіх кірунках: на польскія, галіцка-валынскія, чарнігаўскія, смаленскія, ноўгарадскія, пскоўскія землі, на Лівонію і землі эстаў. У той жа час да Аўкштоты і Жамойці амаль з усіх бакоў прылягалі "мірныя" тэрыторыі. Яны складаліся як з балцкіх (Яцвягія, Прусія), так і бліжэйшых усходнеславянскіх земляў: Наваградчына, Гарадзеншчына, Полацкая і Турава-Пінская землі. Даследчыкам не ўдалося знайсці прамых ці ўскосных вартых даверу сведчанняў пра напады летапісных літоўцаў на Наваградак, Гародню, Ваўкавыск, Менск, Полацк і іншыя гарады будучай Беларусі. І, наадварот, маюцца прамыя сведчанні крыніц пра полацка-літоўскае, пінска-літоўскае, наваградска-літоўскае супрацоўніцтва. У 1198 і 1258 г. палачане разам з літоўцамі хадзілі паходам на Смаленшчыну. У 1238 г. у паходзе на Мазовію бралі ўдзел Міндаўг і Ізяслаў Наваградскі. У 1245 г. пінскі князь патаемна папярэджвае літоўскі атрад пра надыход валынскага войска. У 1265 г. Пінск і Наваградак узброенай рукой падтрымліваюць Вайшэлка у навядзенні парадку ў Літоўскай зямлі. Апісаныя крыніцамі выпадкі прыходу балцкіх князёў на сталы усходнеславянскіх гарадоў адбыліся мірным шляхам праз запрашэнне (напрыклад, Таўцівіл у Полацку ці Даўмонт у Пскове).

Другой падставай для ўзнікнення тэзы пра балта-славянскую канфрантацыю на Панямонні сталі палітычныя рэаліі канца 19 - пачатку 20 ст., калі ствараліся першыя навуковыя працы па генезе ВКЛ. Гістарыяграфія ВКЛ у гэты час фармавалася ва ўмовах бурнага развіцця нацыянальных рухаў і барацьбы за ўтварэнне нацыянальных дзяржаў. Гісторыкі канца 19-20 ст. аналізавалі сітуацыю 13 ст., зыходзячы з рэалій сваёй эпохі. З гэтай, напэўна, прычыны Панямонне 13 ст. уяўлялася ім арэнай барацьбы між двумя буйнымі этнічнымі групамі. Імператыў

ідэі міжэтнічнай барацьбы задаў накірунак развіцця ўсёй гістарыяграфіі ВКЛ.

Аднак у пасляваенныя дзесяцігоддзі даследаванні археолагаў, мовазнаўцаў, этнографаў паказалі, што сярэднявечныя балта-славянскія ўзаемаадносіны на Панямонні (як і па ўсёй тэрыторыі сучаснай Беларусі) мелі характар не варожы, а мірны.

Кантакт між балтамі і славянамі на тэрыторыі Верхняга і Сярэдняга Панямоння (гістарычнае ядро ВКЛ) распачаўся ў другой палове 1 тыс. н.э. Ён стаў часткай буйнога працэсу балта-славянскага ўзаемадзеяння (працягласцю ў паўтара тысячагоддзя), ахапіўшага тэрыторыю сучаснай Беларусі і прылеглыя раёны суседніх дзяржаў. Сутнасцю працэсу было пранікненне славян на землі, занятыя балтамі і асіміляцыя апошніх. Важнейшай яго адметнасцю даследчыкі бачаць **мірны характар балта-славянскіх узаемаадносін.**

На Панямонні названы працэс актывізаваўся ў канцы 10 - пачатку 11 ст. (на Паддзвінні і Падняпроўі ён у гэты час быў ужо блізкі да завяршэння) і працягваўся ўсё 2 тыс. Паміж этнічнымі масівамі не было лінеарнай мяжы, існавала вялікая кантактная зона, размешчаная прыблізна ў прасторы між Менскам і Вільняй. На гэта выразна паказвае картаграфаванне выяўленых археалагічных помнікаў, інтэрпрэтаваных археолагамі як балцкія ці славянскія.

Славяне і балты тут жылі ўперамешку, больш-менш кампактнымі “плямамі”. Гарады ў гэтай зоне: Гародня, Навагрэдак, Ваўкавыск, Слонім, Здзітаў, падобна і Вільня былі ўсходнеславянскімі, але з’яўляліся гандлёва-рамеснымі і адміністрацыйнымі цэнтрамі для ўсёй балта-славянскай ваколіцы. Доўгатэрміновае суіснаванне прыводзіла да паступовай асіміляцыі балцкага насельніцтва славянскім, якое ў сваю чаргу пераймала ад тубыльцаў многія элемен-

ты матэрыяльнай і духоўнай культуры. Гэтая кантактная зона стала месцам нараджэння ВКЛ, ядром і цэнтральнай вобласцю дзяржавы. Яе назва "Літва" захоўвалася да канца 19 - пачатку 20 ст. Цікава, што да сярэдзіны 16 ст. (да Люблінскай вуніі) працэс русізацыі (беларусізацыі) ахопліваў усе сацыяльныя слаі балтаў, ад сялянства да магнатэрыі і кіруючай дынастыі.

Важнай часткай праблемы генезы ВКЛ з'яўляецца лакалізацыя гістарычнай Літвы. Даследчыкі не выпрацавалі ўзгодненага падыходу да вырашэння гэтай праблемы і прапаноўваюць розныя варыянты такой лакалізацыі. Генрык Лаўмяньскі ў 30-я гады, а ў сённяшні час Эдвардас Гудавічус бачаць Літоўскую зямлю на поўнач ад Гародні, летувіскія археолагі называюць Літвой (11-12 ст.) усю тэрыторыю Аўкштоты. Мікола Ермаловіч прапанаваў уласную лакалізацыю Літвы паміж Менскам, Наваградкам і Слонімам. Прычым ніхто з тых даследчыкаў не тлумачыць якім чынам ў 14-16 стст. паняцце Літвы ахоплівала як этнічна беларускія так і этнічна балцкія землі, менавіта Наваградчыну, Гарадзеншчыну, Віленшчыну і частку Меншчыны. Такі склад гістарычнай Літвы агульнапрыняты, ён быў вызначаны яшчэ Любаўскім і некалькі гадоў назад дэталёва правераны і пацверджаны Спірыдонавым.

Між тым аказалася магчымым праз параўнанне пісьмовых і археалагічных даных прапанаваць лакалізацыю пачатковай Літвы, якая не супярэчыць вядомым гістарычным даным і адпавядае меркаванню, выказанаму Любаўскім яшчэ ў канцы 19 ст.: у агульных рысах сярэдняе цячэнне Віліі. Разам з тым праз прыняцце ідэі іерархічна-храналагічнай эвалюцыі тэрміна "Літва" можна зразумець як адбывалася развіццё гэтага тэрміна ва ўсіх яго значэннях. Тэрмін "Літва" ў ходзе свайго развіцця набыў тры сэнсавыя значэнні: 1. палітонім, ці абазначэнне ўсёй дзяржавы

- ВКЛ. 2. харонім, ці “Літва ў вузкім сэнсе” (тэрмін уведзены Любаўскім) - гістарычны цэнтр дзяржавы. 3. Літва ў сэнсе этнаграфічным (этнаграфічна балцкім).

У пісьмовых крыніцах 10-12 стст. (усходнеславянскіх летапісах, нямецкіх хроніках) тэрмін Літва выступае як назва пагранічнай з усходнімі славянамі балцкай вобласці і як агульная назва некалькіх роднасных балцкіх земляў. З сярэдзіны-другой паловы ў выніку ўтварэння ВКЛ на першае месца ў пісьмовых крыніцах выступае харонім, ці “Літва” як назва пачатковай тэрыторыі, цэнтра дзяржавы (тэрыторыі са змешаным балта-славянскім насельніцтвам: Наваградчына, Гарадзеншчына, Віленшчына, частка Меншчыны). Адначасова на другім плане, як сведчаць крыніцы, існавала ўсведамленне і балцкаэтнічнага напаўнення тэрміна (мова, свядомасць этнічнай блізасці часткі Літвы да Жамойці). Толькі ў 20 ст. пасля ўтварэння балцкай дзяржавы, прыняўшай назву Літва (Lietuva) на першае месца зноў выступіла этнічна-балцкае значэнне тэрміна і аб Літве на Гарадзеншчыне нам напамінаюць зараз толькі этнаграфічныя матэрыялы ды сведчанні рускіх падарожнікаў 19 ст.

Даказаны мірны характар балта-славянскіх адносін ставіць пад сумненне асноўную падмуркавую тэзу традыцыйнай канцэпцыі генезы ВКЛ, а таксама яе люстранога адбітку - версіі Ермаловіча. Даказанне тэзы мірных балта-славянскіх кантактаў дазваляе вытлумачыць існаванне шэрагу гістарычных фактаў, якія былі даўно вядомыя гісторыкам, аднак ігнараваліся як не адпаведныя традыцыйнай канцэпцыі генезы ВКЛ. Напрыклад, стала ясна, чаму гістарычнае ядро дзяржавы (харонім “Літва”: Віленшчына, Наваградчына, Гарадзеншчына і частка Меншчыны) складалася як з этнічна балцкіх так і ўсходнеславянскіх земляў. Стала зразумелым, чаму ніводная пісьмовая крыні-

ца не зафіксавала выпадкаў ваенных канфліктаў паміж летувіскімі і беларускімі насельнікамі Панямоння. У святле высноў археолагаў і лінгвістаў маўчанне пісьмовых крыніц пра балта-славянскія канфлікты на Панямонні выглядае сапраўды красамоўным.

Другім трывалым стэрэатыпам гістарыяграфіі генезы ВКЛ з'яўляецца этнічны імператыў у матывацыі дзейнасці арганізатараў ВКЛ. Ад пачатку прымаецца, што Міндаўг і яго наступнікі мелі мэтай стварыць дзяржаву абавязкова этнічна балцкую ці этнічна славянскую. Аднак шматлікія гістарычныя аналагі і само далейшае развіццё ВКЛ паказваюць памылковасць такога падыходу. Арганізатары ВКЛ будавалі дзяржаву ў біэтнічным балта-славянскім рэгіёне, карыстаючыся даступнымі матэрыяламі і сродкамі. Кіруючая дынастыя хоць і мела балцкае паходжанне, тым не меньш не спрабавала спыніць працэс асіміляцыі балтаў усходнімі славянамі, а, наадварот, спрыяла яму, прыняўшы ўсходнеславянскую сістэму дзяржаўнай арганізацыі і старабеларускую мову ў якасці дзяржаўнай. На першым і найбольш складаным этапе пабудовы дзяржавы самымі надзейнымі саюзнікамі балта Міндаўга і яго сына Вайшэлка аказаліся славянскія гарады Панямоння (таксама Пінск збройнай рукой падтрымаў Вайшэлка), а этнічна блізкія жамойты, яцвягі і некаторыя аўкштоцкія кунігасы ваююць супраць Міндаўга на баку славянскай Галіцка-Валынскай дзяржавы.

Урэшце даводзіцца прызнаць, што супярэчнасці між т.зв. "канфрантацыйнымі" версіямі генезы ВКЛ (традыцыйнай летувацэнтрысцкай і беларусацэнтрысцкай Ермаловіча) у межах названых канцэпцый вырашыць немагчыма. Таму непазбежнай уяўляецца адмова ад іх.

Важнай часткай традыцыйнай канцэпцыі з'яўляецца тэза пра ўтварэнне яшчэ ў канцы 12 - пачатку 13 ст. па-

пярэдніцы ВКЛ - раннефеадальнай летувіскай дзяржавы. Аднак пра названую дзяржаву (саюз ці канфедэрацыю летувіскіх земляў) нічога невядома. Пісьмовыя крыніцы не захавалі звестак пра яе. Дзе была яе сталіца? Якая сістэма адміністрацыйнага падзелу, сістэма кіравання, права, падаткаабкладанне і г.д.? Калі такая дзяржава існавала і мела ўласную сістэму кіравання, чаму ў ВКЛ была прынята сістэма іншая - усходнеславянская? Пра гэтую таямнічую дзяржаву нічога не ведаў такі надзейны аўтар як Генрых Латвійскі, які пісаў сваю "Хроніку Лівоніі" каля 1227 г. Даследчыкі заўважылі, што літоўскіх правадыроў храніст называе гэтаксама як галоўных людзей іншых мясцовых плямёнаў - "князямі і старэйшынамі літоўцаў" ("princeps ac seniores"), а ў той жа час рускіх князёў тытулуе каралямі ("reges, regulus"), ставячы іх на адзін узровень з каралямі Даніі і Швецыі. Полацкага і Ноўгарадскага князя часам называе magnus rex.

Князі, пералічаныя ў дамове з Валынню 1219 г., невядомыя Генрыху Латвійскаму. Генрых у сваю чаргу паведамляе пра магутнага літоўскага кунігаса Даугерутэ, аб якім нічога не ведае Галіцка-Валынскі летапіс. Яшчэ ў сярэдзіне 40-х гадоў 13 ст. адныя кунігасы ваююць з Валынню (Айўшна Рушкавіч, Лонькогвен), другі - Міндаўг выступае як яе актыўны саюзнік - дасылае туды ваенную дапамогу.

Надзейна ўстаноўлены толькі факт сацыяльнай дыферэнцыяцыі балцкіх плямёнаў, у тым ліку літоўцаў. Яе паскарала ваенна-рабаўнічая дзейнасць. Асобныя ўдачлівыя правадыры - арганізатары рабаўнічых паходаў засяроджвалі ў сваіх руках значныя матэрыяльныя багацці. Выдзяляецца праслойка т.зв. нобіляў, што падцвярджаюць археалагічныя матэрыялы. Аднак з'яўленне племянной арыстакратыі яшчэ не доказ існавання дзяржавы.

Падобна, тэза пра раннефеадальную балцкую дзяржаву - даніна савецкім ідэалагічным стэрэатыпам, унесеным у гістарыяграфію генезы ВКЛ Уладзімірам Пашутам. Манфрэд Хэльман у крытычным артыкуле на працы Пашуты заўважыў, што апошняму ад пачатку патрэбна было давесці, што летувісы перажылі тыя ж фазы развіцця, якія савецкая гістарыяграфія лічыла абавязковымі для ўсіх іншых еўрапейскіх народаў.

Адной з задач маёй працы стала распрацоўка версіі дзяржаваўтварэння, якая не пярэчыць вядомым сённяшняй навуцы гістарычных фактам. У 13 ст. на момант пачатку генезы ВКЛ на Панямонні ўсходнія славяне і балты мелі ўжо больш чым двухвекавы вопыт мірнага супрацоўніцтва. У рэгіёне ўсталявалася адносна стабільная этна-культурна-палітычная сістэма, спецыфікай якой была яе біэтнічная аснова. Дынамічная раўнавага ў сістэме трымалася на мірным суіснаванні ўсходнеславянскіх гарадоў-дзяржаў і балцкіх тэрытарыяльна-племянных аб'яднанняў. Панямонская сістэма магла існаваць яшчэ доўгі час у працэсе паступовай эвалюцыі, аднак надзвычайныя падзеі сярэдзіны 13 ст. зрабілі гэты шлях немагчымым. Мангола-татарскае нашэсце разбурыла палітычную сістэму Русі і стварыла рэальную пагрозу існаванню рэгіянальнай сістэмы ў Панямонні. Другой рэальнай пагрозай з паўночнага і заходняга кірункаў стаў Тэўтонскі ордэн.

У такіх умовах наступнай ступенню балта-славянскага сімбіёзу на Панямонні стала стварэнне арганізацыі для абароны сваёй жыццёвай прасторы. Для нас важна высветліць, што было адпраўным пунктам працэсу, унутрысістэмным штуршком, паклаўшым пачатак працэсу ўтварэння дзяржавы. Аналіз наяўных пісьмовых крыніц, дапоўнены вынікамі археалагічных і лінгвістычных даследаванняў дазваляе адказаць на гэтае пытанне наступным

чынам: **пачаткам ВКЛ стаў палітычны саюз двух галоўных рэгіянальных сіл - усходнеславянскіх гарадоў-дзяржаў з некаторымі найбольш моцнымі правадырамі балцкіх плямёнаў.** Яшчэ больш канкрэтна - саюз важнейшага горада рэгіёна - Наваградка з мацнейшым з суседніх кунігасаў Міндаўгам. Гэты саюз парушыў дынамічную раўнавагу сілаў на Панямонні, даў саюзнікам перавагу і пры адпаведных знешніх абставінах паклаў пачатак працэсу дзяржаваўтварэння.

Уяўляецца магчымым акрэсліць прыблізную дату стварэння саюза. Вядома, што галіцка-валынскія князі ад 1219 г. знаходзіліся ў прыязных адносінах з Міндаўгам (сведчанні 1238 г., 1245 г.). Калі ў 1248 г. Міндаўг просіць Раманавічаў не прымаць уцёкшых ад яго на Валынь пляменнікаў, то ён звяртаецца да сваіх сталых саюзнікаў. Аднак Раманавічы ідуць на парыў даўняга (амаль 30 гадоў) міра, падтрымліваюць выгнанцаў, ствараюць супраць Міндаўга магутную кааліцыю ў складзе Лівонскага ордэна, жмудзінаў, яцвягаў і распачынаюць вайну. І вось у 1249/50 г. галіцка-валынскія князі ідуць у паход **супраць Міндаўга на Наваградак**. Такім чынам прыходзім да высновы, што гэты паход у Літву на Наваградак - першая фіксаваная звестка пра балта-славянскі палітычны саюз. Першай рэальнай праявай гэтага саюза, першым крокам да стварэння новай дзяржавы, верагодна, была аперацыя, праведзеная пад кіраўніцтвам Міндаўга, у выніку якой, па словах летапісца, “поимана бъ вся земля Литовьская”. Час правядзення гэтай акцыі - **1248 г. прапануецца прыняць за пачатак утварэння ВКЛ.**

Такім чынам у выніку праведзеных даследаванняў аўтар прыйшоў да наступных высноў, якія і прапаноўваюцца да абароны:

1. Утварэнне ВКЛ праходзіла ў цеснай узаемасувязі з развіццём буйнейшай гістарычнай з’явы на Панямонні другой

паловы 1 - 2 тыс. н.э. - працэсам балта-славянскіх кантактаў. Даследаванні археолагаў, лінгвістаў, этнографаў даказалі агульны **мірны** а не **варожы** характар кантактаў між балтамі і ўсходнімі славянамі і такім чынам сцвердзілі недакладнасць існуючых канцэпцый утварэння ВКЛ (як "балцкай" так і М.Ермаловіча), паколькі апошнія заснаваны на тэзісе балта-славянскай канфрантацыі.

2. Першасным тэрытарыяльным ядром ВКЛ стала балта-славянская кантактная зона, менавіта басейн Верхняга і Сярэдняга Нёмана (харонім "Літва").

3. Тры значэнні тэрміну "Літва" (палітонім, харонім, этнонім) прайшлі ў 2 тыс. н.э. складаную іерархічна-храналагічную эвалюцыю. З утварэннем ВКЛ у 13 ст. на першае месца выступае харонім "Літва", якім абазначалася цэнтральная вобласць дзяржавы, утвораная як з усходнеславянскіх так і балцкіх тэрыторый. Этнічнае значэнне названага тэрміна ў гэты час адступае на другі план.

4. Утварэнне ВКЛ у кантактнай зоне між балцкім і славянскім этнічнымі масівамі не спыніла і не змяніла ходу працэсу балта-славянскіх кантактаў, сутнасцю якога было пранікненне ўсходніх славян на землі, занятыя балтамі і паступовая асіміляцыя апошніх.

5. Існаванне папярэдніка ВКЛ ў выглядзе монаэтнічнага балцкага раннефеадальнага дзяржаўнага ўтварэння (саюз ці канфедэрацыя летувіскіх земляў) - нельга лічыць даказаным.

6. Асновай ВКЛ стаў палітычны саюз двух важнейшых сіл рэгіёна: усходнеславянскіх гарадоў-дзяржаў і найбольш значных правадыроў мясцовых балцкіх плямёнаў, створаны на аснове векавога вопыту балта-славянскага супрацоўніцтва на Панямонні. Штуршком да ўзнікнення названага саюзу паслужыла знешняя небяспека з боку мангола-татараў і Тэўтонскага ордэна. Першым праяўлен-

нем саюзу было пагадненне ўсходнеславянскага горада-дзяржавы Наваградка з балцкім нобілем Міндаўгам, якое афармілася каля 1248 г.

4 снежня 1998 г. А.К.Краўцэвіч

## Выступ Спірыдонава

Шаноўныя члены савета!
Паважаныя калегі!

У адрозненне ад шаноўных афіцыйных апанентаў я не лічу сябе спецыялістам па гісторыі Вялікага Княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага і далей (ВКЛ) 13 ст. Аднак, даследуючы больш 30 гадоў розныя праблемы гісторыі ВКЛ 14-16 стст., дазволім сабе выказаць некалькі меркаванняў аб некаторых прынцыповых палажэннях дадзенай дысертацыі. Але паколькі водгукі афіцыйных апанентаў маюць пераважна панегірычны характар, мы спынімся галоўным чынам на яе істотных недахопах. Як гаворыцца, “Платон мне друг, але ісціна даражэй!”.

У 1992 г. паважаны А.К.Краўцэвіч у артыкуле “Патрабуецца міф” (ЛіМ. 17.04.1992) заклікаў гісторыкаў “для масавага спажывання” неадкладна стварыць папулярны варыянт нацыянальнай канцэпцыі гісторыі Беларусі, ці міф. І як, бясспрэчна смелы гісторык адразу ж узяўся за справу - распрацоўку новай канцэпцыі генезісу ВКЛ. Як вядома, дадзеная праблема - найбольш важная і складаная навуковая праблема гісторыі не толькі Беларусі.

Агульнае і галоўнае наша ўражанне: дысертацыя з’яўляецца больш-менш прафесійнай, але вельмі тэндэнцыйнай усходнеславянскай (беларускай) у значнай ступені кампіляцыяй папярэдніх даследаванняў пачатковай гісторыі ВКЛ. З усіх частак дадзенай працы карыснымі для гісторыкаў уяўляюцца асвятленне пытання аб эвалюцыі

тэрміна “Літва” (с. 72-73, 97-119 рукапісу), агляд асноўных падзей 13 ст. у Верхнім Панямонні (с. 131-163), а таксама слушная крытыка асноўных прынцыповых меркаванняў папулярызатара пачатковай гісторыі Беларусі пісьменніка М.Ермаловіча аб месцазнаходжанні “Старажытнай Літвы” (с. 60, 111-113), аб заваяванні беларусамі Літвы і стварэнні такім чынам беларускай дзяржавы - ВКЛ (с. 66). Аб іх бяздоказнасці яшчэ ў 1985 г. пісаў М.М.Улашчык (Беларускі гістарычны агляд. 1996. Т.3. Сш.1. С. 100-101).

На жаль, большасць прынцыповых палажэнняў дысертацыі, на наш погляд, не з’яўляюцца ні арыгінальнымі, ні пераканаўча абгрунтаванымі. Спынімся на некаторых з іх.

1. Аўтар неаднаразова падкрэслівае свой тэзіс аб мірным характары міжэтнічных кантактаў (с. 7, 8, 14, 24, 30, 32, 92-97), які служыць падмуркам яго новай канцэпцыі генезісу ВКЛ. Галоўнай падставай такога меркавання ён лічыць адсутнасць у крыніцах звестак аб ваенных канфліктах у 13 ст. паміж усходнеславянскім насельніцтвам Навагародчыны і літоўцамі. Магчыма, што яны - з’ява папярэдняга перыяду, не знайшоўшая канкрэтнага адлюстравання ў тагачасных крыніцах. Аднак дастаткова нагадаць звесткі “Слова аб палку Ігаравым”, Джаванні Плана Карпіні, “Слова аб пагібелі Рускай зямлі”, храніста Генрыха Латвійскага і іншых крыніц аб жаху, які наводзілі ваенныя паходы літоўскіх дружын на суседзяў. Дарэчы, Аляксандр Канстанцінавіч ігнаруе падлікі такіх паходаў у 1201 - 1236 гг. вядомага польскага гісторыка Е.Ахманьскага: 4 - на Польшчу, 14 - на Русь, 22 - на Латвію (Historia Litwy. Wyd. 3. 1990. S. 44). Ігнаруе аўтар і меркаванне Ю.А.Заяца аб разбурэнні Заслаўля ў сярэдзіне 13 ст. у сувязі менавіта з захопам яго літоўцамі (Заславль в эпоху феодализма. 1995. С. 118). Як вядома, большая частка тэрытарыяльных набыткаў ВКЛ у 14 ст. - вынік ваенных захопаў. Добра вядома таксама і агульная

заканамернасць: у Еўропе ўсе аднаэтнічныя і рознаэтнічныя адзіныя дзяржавы ствараліся ці пераважна, ці толькі ваенным шляхам.

Наогул у сярэднявеччы амаль усе праблемы вырашаліся звычайна шляхам насілля, але не абавязкова толькі зброяй. Варта таксама дадаць, што, ігнаруючы факты літоўска-"рускай" канфрантацыі ўнутры ВКЛ у далейшым, якіх больш чым хапала, аўтар ігнаруе гістарычную перспектыву, а тым самым і сапраўдны характар узаемаадносін розных этнасаў у ВКЛ. Аднак яны супярэчаць тэндэнцыйнай канцэпцыі аўтара, таму, ён лічыць, іх не было: нібыта такая канфрантацыя - толькі адзін са стэрэатыпаў ідэалагічнага характару "расейска-савецкай гістарыяграфіі".

Прыняць на веру па сутнасці бяздоказную няпэўную гіпотэзу Аляксандра Канстанцінавіча аб толькі мірным шляху стварэння ВКЛ, значыць адкрыць раней невядомы ў гісторыі новы шлях утварэння адзінай рознаэтнічнай дзяржавы, якой з самага пачатку было ВКЛ.

2. Адным з асноўных метадалагічных прыёмаў крытыкі папярэднікаў аўтар абраў звычайна дэкларатыўнае або прымітыўна абгрунтаванае аб'яўленне тых поглядаў, што супярэчаць яго канцэпцыі, няпэўнымі ("сумніўнымі").

Напрыклад, крытыкуючы абгрунтаваны вывад класіка літуаністыкі выдатнага польскага гісторыка Г.Лаўмяньскага аб колькаснай перавазе літоўскага баярства над "рускім", Краўцэвіч абапіраецца на адпаведныя, не вельмі карэктныя падлікі А.П.Грыцкевічам феадалаў толькі Беларусі, г.зн. "беларускіх" паветаў ВКЛ, але чамусьці без Полацкага ваяводства, па даных перапісу войска 1528 г. Аднак тэндэнцыйна замест 78,5% феадалаў-"беларусаў" (1634 з усіх 2083), аўтар дысертацыі знайшоў, што "беларуская шляхта складала 80% усёй шляхты ..." ВКЛ (с. 44-45). Па больш поўных і дакладных падліках В.С.Мянжынскага, артыкула

якога, дарэчы, няма ў спісах літаратуры ні машынапісу дысертацыі, ні ў амаль адэкватнай ёй кнізе, у 1528 г. шляхта этнічнай Літвы (4722 феадала) складала 46,4 %, а Беларусі (2562 феадала) толькі 25,2 % усіх 10178 феадалаў ВКЛ (Менжинский В.С. Структура феодального землевладения в Великом княжестве Литовском (По материалам Переписи войска 1528 г.) // История СССР. 1987. № 3. С. 168 і інш.). У дадзеным выпадку "сур'ёзны сумніў" аўтара таксама вельмі шкодзіць навуковай вартасці яго дысертацыі.

3. Характарызуючы адпаведныя погляды класіка літуаністыкі выдатнага рускага гісторыка М.К.Любаўскага (с. 36-38), аўтар, як гэта не дзіўна, не заўважыў таго, што ён, па сутнасці ў галоўным з'яўляецца яго эпігонам, хаця і карыстаецца сучаснай тэрміналогіяй (с. 39). Бо "Літоўска-Рускую дзяржаву" Любаўскага на больш познім этапе развіцця ВКЛ сёння можна назваць і "Літоўска-Беларуска-Украінска-Рускай", або "квадрыэтнічнай", бо ў той час і беларусы і украінцы афіцыйна лічыліся толькі асаблівымі часткамі рускіх. Толькі ў адрозненне ад Любаўскага ВКЛ у Краўцэвіча ў пачатку яго ўзнікнення не "квадрыэтнічная", а "біэтнічная балта-славянская дзяржава з дамінаваннем усходнеславянскга элемента" (с. 166).

4. Аўтар аб'яўляе ненавуковым "стэрэатыпам" меркаванні папярэднікаў аб літоўскім характары ВКЛ, спрабуючы абгрунтаваць гэты тэзіс, у прыватнасці, тым, што нібыта "… невядома ніводнага факта, які б сведчыў, што дзяржаўная ўлада ў ВКЛ забяспечвала панаванне літоўцаў над русінамі" (с. 48). Аднак такія факты вядомы. Дастаткова нагадаць рэлігійную палітыку вялікіх князёў літоўскіх да і асабліва пасля заключэння Крэўскай уніі 1385 г.

5. Аўтар, крытыкуючы погляд У.Пашуты на ВКЛ як літоўскую дзяржаву (с. 50 - 53), на жаль, не адзначыў яго вельмі канструктыўную ідэю сінтэзу грамадскіх інстытутаў літоўцаў

і “рускіх”. Як нам падаецца, нягледзячы на іншы тэрмін (“сімбіёз” с 130), які ўжывае Краўцэвіч, абодва тэрміна маюць на ўвазе адно і тое ж: узаемакарыснае ўзаемадзеянне вярхоў розных этнасаў.

6. Краўцэвіч упамінае аб “рэзка адмоўнай”, але на наш погляд, грунтоўнай рэцэнзіі вядомага літоўскага гісторыка Э.Гудавічуса на асноўную працу М.І.Ермаловіча. Аднак, на жаль, го цалкам слушнае абвяржэнне канцэпцыі заваявання Літвы беларусамі ён зусім не раскрывае (с. 60).

7. На нашу думку, безпадстаўнымі прэтэнзіямі на прыярытэт і тэндэнцыйнасцю абумоўлены і нігілізм Краўцэвіча (с. 60 - 62, 65) да навуковай, хаця і без спасылак на крыніцы, працы вядомага даследчыка гісторыі сярэднявечнай Беларусі В.Л.Насевіча “Пачаткі Вялікага княства Літоўскага”: Падзеі і асобы” (Мінск, 1993). Насевіч нетэндэнцыйна і нетрадыцыйна прафесійна асвятліў працэс стварэння ВКЛ, шмат у чым істотным апярэдзіўшы асноўныя “адкрыцці” дысертанта.

Знаёмства з усімі іншымі часткамі дадзенай дысертацыі дазваляе сцвярджаць, што навукова абгрунтаваных прынцыпова новых палажэнняў у ёй няма. Усюды кідаецца ў вочы упартае жаданне аўтара тэндэнцыйна ігнараваць адны факты і трактаваць іншыя ў зададзеным беларускім накірунку і выдаваць гэта за навуковыя адкрыцці.

У машынапісу дадзенай дысертацыі, акрамя адзначаных некаторых недахопаў прынцыповага характару, маюцца шматлікія паўторы думкі, моўныя навацыі, ігнараванне гістарычных і сучасных форм напісання геаграфічных назваў і іншыя адхіленні ад агульнапрынятых норм.

Такім чынам, на наш погляд, важная навуковая праблема на належным навуковым узроўні не вырашана. Аднак чарговы міф - няпэўная нацыянальная канцэпцыя стварэння ВКЛ створаны: веліч мінулага Беларусі адроджана! Паколькі

такія міфы пэўным колам грамадства патрабуюцца, сёння можна будзе павіншаваць яго аўтара з прысуджэннем вучонай ступені доктара гістарычных навук. Калі гэта адбудзецца, то новы Дзяржаўны гімн Беларусі можа загучаць у адпаведнасці з новым міфам: “Мы, беларусы, з братняй Летувою...”.

Я шчыра жадаю паважанаму А.К.Краўцэвічу сапраўды навуковых дасягненняў у далейшай творчай працы!

4.12.1998.

М.Ф.Спірыдонаў, старшы навуковы супрацоўнік Аддзела спецыяльных гістарычных навук Інстытута гісторыі НАН Беларусі, кандыдат гістарычных навук

## Адказ М.Ф.Спірыдонаву

Тэкст выступу М. Спірыдонава, перададзены ў рэдакцыю “ГА”, фактычна з’яўляецца рэцэнзіяй на маю кнігу “Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага”. У ім выразна выдзяляюцца два кантэксты: навуковы і ідэалагічны. Напачатку адкажу на аргументацыю навуковага характару. М.Спірыдонаў не проста крытыкуе, а фактычна адвяргае ўсе асноўныя высновы маёй працы, згрупаваўшы свае аргументы ў сямі пунктах. Паспрабуем разгледзець іх па парадку.

1. Апанент настойвае на варожым характары сярэднявечных балта-славянскіх кантактаў на Панямонні і як доказ прыводзіць прыклады, якія не маюць дачынення да Панямоння. Плана Карпіні пісаў пра літоўскія набегі на Кіеўскую зямлю, Генрых Латвійскі - на Лівонію, “Словы...” не гавораць пра бітвы на Панямонні, 14 паходаў на Русь, вылічаных Е.Ахманьскім, таксама не тычаць Панямоння, а меркаванне Ю.Заяца адносіцца да Заслаўя і пакуль застаецца толькі меркаваннем, а не фактам.

Відавочна, што апанент знаходзіцца пад уплывам ідэі "спрадвечнага адзінства Русі", якая з'яўляецца прадуктам расейскай імперскай ідэалогіі. Таму для яго напад старажытных літоўцаў на нейкую частку Русі з'яўляецца варожым актам і для іншых рускіх тэрыторый. Як прафесіянал М.Ф. не можа не ведаць, што рускага адзінства ў тыя часы (12-15 ст. і пазней) не было. Мела месца разуменне культурнай агульнасці, але не існавала адзінства палітычнага. Пскоў змагаўся з Вялікім Ноўгарадам у саюзе з немцамі, палачане прапускалі літоўцаў рабаваць Смаленскую зямлю (і пры нагодзе самыя да іх далучаліся). Масквічы рэзаліся з разанцамі і цверычамі, іхнія князі наводзілі на землі суседзяў-суайчыннікаў татараў і самыя ішлі разам з паганымі забіваць рускіх.

А чым апанент можа абвергнуць высновы лінгвістаў і археолагаў пра агульны мірны характар балта-славянскіх адносінаў на Беларусі? Гэта застаецца невядомым, бо ён гэтыя высновы, заснаваныя на агромністым корпусе эмпірычнага матэрыялу, проста ігнаруе. Сцвярджаючы, што "фактаў літоўска-рускай" (маецца на ўвазе, напэўна - "беларускай" - А.К.) канфрантацыі унутры ВКЛ... больш чым хапала", М.Спірыдонаў не прыводзіць ні аднаго канкрэтнага прыклада. Мне такія факты невядомыя.

2. Апанент настойвае на тэзе пра колькасную перавагу летувіскага баярства над беларускім у 16 ст. Дзіўна, што пры гэтым прафесіянал узроўню М.Спірыдонава дапускае такія элементарныя недакладнасці ў спасылках на працы, непасрэдна звязаныя з аб'ектам яго даследаванняў. Спецыяльна прагледзеўшы яшчэ раз артыкулы А.Грыцкевіча і В.Мянжынскага, я пераканаўся, што мая спасылка на высновы А.Грыцкевіча дакладная ("80 % беларускай шляхты"[5]). У артыкуле В.Мянжынскага разглядаецца

5 Грицкевич, А.П. Распределение магнацких и шляхетских владений в Белоруссии по их величине и этнической принадлежности владельцев (XVI в.) // Вопросы истории. Межвед. сборник. Мн., 1978. Вып. 5. С. 94.

маёмасны падзел між феадаламі і ўвогуле няма мовы пра этнічны склад шляхты ВКЛ (таму гэтая праца і адсутнічае ў маім спісе літаратуры).

Яшчэ большае здзіўленне выклікае тое, што М.Спірыдонаў супярэчыць уласным высновам са сваёй жа спецыяльнай працы пра межы Літвы і Русі. Цытую: “Выкладзеныя даныя дазваляюць сцвярджаць, што ў 16 ст. сучаснікі адносілі да Літвы перш за ўсё этнічна летувіскія Віленскі, Вількамірскі, Ковенскі, Троцкі і Упіцкі паветы, а таксама поўнасцю ці часткова “беларускія” паветы ВКЛ: Браслаўскі, Віленскі, Ваўкавыскі, Гарадзенскі, Лідскі, заходнюю частку Менскага, большую частку Наваградскага, амаль увесь Ашмянскі і Слонімскі”[6]. Такім чынам вынікае, што на думку М.Спірыдонава, большую частку Літвы ў 16 ст. складалі этнічна беларускія землі. Аднак пры падліках колькасці баярства ў тым самым 16 ст. той жа аўтар чамусьці ўсіх баяраў з Літвы лічыць этнічнымі летувісамі.

Навідавоку цікавы прыклад дэфармацыі навуковага мыслення, калі ўкладзены ў галаву са школьнай парты стэрэатып (што сярэднявечная Літва і сённяшняя Летува - адно і тое ж, менавіта, Аўкштота + Жамойць) падаўляе ў гісторыка ўласныя мысліўныя канструкцыі, пабудаваныя на аснове навуковага аналізу. Гэта той выпадак, калі два ўзроўні свядомасці існуюць аўтаномна, а пераход ад аднаго да другога адбываецца па прынцыпу дзеяння рэле.

3. Не зразумелы папрок у эпігонстве з прац Мацея Любаўскага. Праўда, апанент сам дэзавуіруе яго ў апошнім сказе абзаца. Сапраўды, у маёй працы гаворка ідзе найперш пра этнічны характар ВКЛ на пачатку яго існавання, а не на “больш познім этапе развіцця”. Вялікі знаўца Вялікага Княства як і большасць яго калегаў лічыў, што балцкі князь Міндаўг захапіў беларускія землі, адсюль яго

6 Спиридонов, М.Ф. “Литва” и “Русь” в Беларуси в 16 в. // Наш Радавод. Гродна, 1996. Ч. 7. С. 208.

паняцце “летувіска-руская дзяржава” істотна розніцца ад маёй тэзы пра “ад самых пачаткаў біэтнічную дзяржаву з дамінаваннем усходнеславянскага элементу”.

4. Паважаны апанент прытрымліваецца даўняй тэзы расейскай, а потым савецкай гістарыяграфіі пра панаванне летувісаў над русінамі. У якасці аргумента ён апелюе да “рэлігійнай палітыкі вялікіх князёў літоўскіх да і асабліва пасля Крэўскай вуніі 1385 г.” Як вядома, вялікія князі стварылі пэўныя палітычныя прывілеі для каталікоў перад прадстаўнікамі іншых канфесій (у тым ліку праваслаўных), але не для летувісаў перад беларусамі. Дастаткова нагадаць, што гэтая дыскрымінацыя датычылася балтаў-праваслаўных вельмі высокага паходжання, якімі былі многія князі Гедымінавічы. Зноў навідавоку стэрэатып мыслення, менавіта прыняцце веравызнання за крытэрый вызначэння этнічнай прыналежнасці. Дзвесце гадоў як усходнія так і заходнія каланізатары ўкладвалі нам у галовы: “беларусаў няма, ёсць каталікі-палякі і праваслаўныя-рускія”. Як бачым на прыкладзе нават беларускага (?) гісторыка-прафесіянала, поспеху яны дасягнулі значнага.

5. Паводле У.Пашуты “сінтэз” грамадскіх інстытутаў Беларусі і Летувы адбыўся пасля заваёвы Беларусі летувіскай дзяржавай. У маёй жа працы тэрмін “балцка-славянкі сімбіёз” ужыты як сутнасная характарыстыка пачаткаў біэтнічнай дзяржавы (без усялякай заваёвы). Розніца ўяўляецца відавочнай.

6. Меркаванне М.Спірыдонава пра грунтоўнасць рэцэнзіі Э.Гудавічуса на працу М.Ермаловіча з’яўляецца асабістай думкай апанента, якую я не падзяляю. Рэцэнзія вельмі рэзкая і будуецца яна ў асноўным на аксіёмах летувіскай гістарыяграфіі, якія цяжка назваць агульнапрынятымі. Напрыклад, Э.Гудавічус перакананы, што Летува авалодала

беларускімі землямі, што сярэднявечная Літва адпавядае сённяшняй Летуве і г.д.

7. Працу В.Насевіча “Пачаткі Вялікага княства Літоўскага: Падзеі і асобы” сам яе аўтар назваў не навуковай, а навукова-папулярнай. У ёй шмат цікавых думак, палітычныя выдарэнні ў Панямонні падаюцца на шырокім фоне міжнародных падзеяў. Тым не менш, аўтар гэтай працы блытаецца ў важнейшых крыніцах па генезісу ВКЛ, часам супярэчыць сам сабе ў асноўных высновах (дэталёва пра гэта я пісаў у БГА, т. 5, сш. 2(9), с. 448-454). Таму ўзнікаюць пэўныя сумненні ў прафесійным падыходзе Насевіча да праблемы генезы ВКЛ.

Другая частка водгуку М.Спірыдонава ці другі кантэкст рэцэнзіі не ўмяшчаецца ў рамкі навуковай дыскусіі. Апанент пачынае і заканчвае свой выступ сцвярджэннем, што задачай маёй працы ад пачатку было стварэнне “міфа - ці нацыянальнай канцэпцыі гісторыі Беларусі”, “адраджэнне велічы мінулага Беларусі”. Пад час абароны дысертацыі тое ж абвінавачванне ў “свядомым стварэнні міфа” неаднаразова паўтарыў у сваім выступе В.Насевіч[7]. Абодва апаненты ў якасці доказу прыводзілі мой артыкул “Патрабуецца міф” (ЛіМ. 17.04.1992). Паколькі з моманту гэтай публікацыі прайшло некалькі гадоў, варта нагадаць пра яе змест (*артыкул публікуецца ў раздзеле “Праблемы беларускай гістарычнай навукі”- Рэд.*). Гаворка ў артыкуле ішла пра неабходнасць тэрміновай распрацоўкі “агульнай схемы папулярнага варыянта канцэпцыі нацыянальнай гісторыі” і ўвядзенне яе ў сістэму асветы незалежнай беларускай дзяржавы да таго часу, пакуль гісторыкі не распрацуюць “акадэмічную” канцэпцыю. Праблема выкладання гісторыі Беларусі ў той час сапраўды паўстала вельмі востра, пра што сведчыць тая паспешлівасць

7 Пратакол пасяджэння савета па абароне дысертацый на атрыманне вучонай ступені доктара навук пры Інстытуце гісторыі НАН Беларусі ад 4 снежня 1998 г. С. 13-17.

шых паўночных суседзяў, пяройдзе ў спакойную размову, тым хутчэй і больш выйграе навука, прычым не толькі яна. з якой літаральна за паўгода ствараліся новыя школьныя падручнікі 1993 г.

Выснова пра "свядомае стварэнне міфа" можа мець месца ў навуковай рэцэнзіі толькі пры ўмове прывядзення важкіх таму доказаў. Нажаль, ні ў выступе М.Спірыдонава, ні ў рэцэнзіі В.Насевіча мне не ўдалося знайсці прамой сувязі між крытыкай навуковага характару і гэтым сур'ёзным абвінавачваннем. Цікава, што В.Насевіч, атрымаўшы адказ на сваю эмацыйную рэцэнзію ў БГА, тут жа (і ўжо намнога спакайней) адклікаецца: "Няма сутнасных разыходжанняў".

Хачу запэўніць паважанага Міхаіла Фёдаравіча, што я не ставіў сваёй мэтай стварэнне міфа і доказ велічы мінулага Беларусі. Перакананы аднак, што да сваёй гісторыі належыць адносіцца з пачуццём уласнай годнасці і не разумею, чаму Вы лічыце патрэбным яе таптаць. Каланіяльная гісторыя Беларусі - гэта тая спадчына савецкай гістарычнай школы, ад якой мы мусім пазбавіцца, калі хочам застацца гісторыкамі свайго народу.

# ДАДАТАК 5.

## Рэцэнзія на кнігу М. Ермаловіча "Беларуская дзяржава Вялікае Княства Літоўскае"

**Публікацыя:** Краўцэвіч А. Па слядах Міколы Ермаловіча // Гістарычны Альманах. Гародня. 2000. Т. 3. С. 137 – 143; па-польску: (rec.) Ермаловіч М. Беларуская дзяржава Вялікае княства Літоўскае. Мінск, 2000 // Biuletyn Historii Pogranicza. Białystok, 2001. Nr. 2. S. 99 – 104.

## Па слядах Міколы Ермаловіча

Некалькі дзясяткаў гадоў свайго незвычайнага жыцця Мікола Ермаловіч, Мікола Іванавіч, як называлі яго ў адраджэнцкіх колах, аддаў гістарычнай працы. Гістарычнай як у сэнсе аб'екту даследавання так і па ўплыву на сучаснае беларускае грамадства.

У беларускім аддзеле Нацыянальнай бібліятэкі толькі новыя чытачы напачатку дзівіліся на нізка пахіленага над кнігамі чалавека ў акулярах-біноклях, а потым хутка прывыкалі да яго амаль штодзённай прысутнасці на сваім сталым месцы за сталом чытальнай залы.

Доўгія гады маўчання, перарываныя рэдкімі невялікімі публікацыямі, рукапіс кнігі ў хаджэнні па руках нешматлікай нацыянальнай інтэлігенцыі і, урэшце, прарыў напярэдадні вяртання Беларуссю незалежнасці. Гарбачоўская "адліга" паспрыяла выданню ў 1989 г. кнігі жыцця "Па слядах аднаго міфа" даволі вялікім накладам у 6 тыс. асобнікаў. Потым выданне другой працы "Старажытная Беларусь: Полацкі і новагародскі перыяды" (1990 г.), перавыданне першай у 1991 г. (11 тыс. асобнікаў) па прычыне вялікага попыту, Дзяржаўная прэмія ўжо незалежнай Рэспублікі

Беларусь (1992 г.), выданне наступнай кнігі: “Старажытная Беларусь: Віленскі перыяд (1994 г.) ”. Далей зноў праца без перапынку, без паслабленняў і падрыхтоўка кнігі, якая аказалася апошняй і пабачыла свет ужо пасля трагічнай гібелі Міколы Іванавіча.

Гэтая кніга храналагічна ахоплівае ўвесь перыяд існавання ВКЛ ад 13 да канца 18 ст., але цалкам новыя ў ёй толькі два апошнія раздзелы: “Крэўскі перыяд (1385 - 1569)” і “Перыяд Рэчы Паспалітай (1569 - 1795)”. Першыя два, роўныя па аб’ёму двум астатнім, складаюцца з пералічаных вышэй кнігаў, цалкам ці часткова уключаных у новую працу. Першы раздзел “Навагародскі перыяд (1246 - 1316)” уяўляе сабой тэкст кнігі “Па слядах аднаго міфа” (перанесены цалкам з нязначнымі зменамі і ўстаўкамі) і апошнія два параграфы з кнігі “Старажытная Беларусь: Полацкі і навагародскі перыяды”, менавіта, “Час Трайдзеня”, “Заняпад Новагародка і новае ўзвышэнне Полацка”. Другі раздзел новай працы - “Віленскі перыяд: (1316 - 1385)” складзены з кнігі “Старажытная Беларусь: Віленскі перыяд”.

Новыя раздзелы гэтай кнігі стылёва дапасаваныя да ранейшых і праца атрымалася структурна цэласнай, вытрыманай у адзіным асаблівым аўтарскім стылі. Можна адзначыць адну кампазіцыйную, менавіта, храналагічную нераўнамернасць - аднолькавыя па аб’ёму тэксты прысвечаны моцна адрозным па велічыні перыядам - першыя два разделы (агулам 209 стар.) апавядаюць пра адрэзак часу ў 140 гадоў, астатнія два (216 стар.) характарызуюць перыяд працягласцю ў чатыры стагоддзі.

У тэксце кнігі сустракаюцца фактычныя недакладнасці, стылёвыя пагрэшнасці, якія часткова можна вытлумачыць незавершанасцю ягонай апрацоўкі аўтарам. Выдаўцы занадта беражліва аднесліся да тэксту, пастараўшыся перадаць яго як мага дакладней і тым самым месцамі

зашкодзілі якасці выдання. Так, Прусія не была "ў канцы 12 ст. канчаткова заваяваная немцамі...", бо гэта адбылося на стагоддзе пазней (стар. 63; на стар. 430 сказана яшчэ больш недакладна: "балцкае насельніцтва прусаў было асімілявана крыжакамі ў 11 - 12 стст."). На стар. 130-131 недакладна інтэрпрэтуецца інфармацыя з артыкула Уладзіміра і Алены Галубовічаў пра заснаванне Вільні. Гэтыя даследчыкі не пісалі пра знішчэнне крывічамі балцкага паселішча, а прыйшлі да высновы, што крывічы заснавалі сваё паселішча на месцы балцкага, існаваўшага тут раней, магчыма, на некалькі стагоддзяў[1].

Войшалк заваёўваў Літву не ў 1268 г. (стар. 140), а ў 1265 г. Нельга называць лівонцамі толькі рыцараў лівонскай філіі Тэўтонскага ордэна (стар. 159 - 161), бо насельнікаў Лівоніі было значна больш. Даўно вядома, што на Грунвальдскім полі войска ВКЛ не ўцякала ад крыжакоў (стар. 251), а выканала манеўр "уяўнае адступленне". Пётр I не стаў расейскім імператарам у 1700 ці 1701 г., як гэта сцвярджаецца на стар. 403, імператарскі тытул цар прыняў у 1721 г., пасля перамогі ў Паўночнай вайне.

Пасля аналізу аўтарскіх зменаў і ўставак у тэксты першых раздзелаў становіцца зразумелым, што за дзесяцігоддзе, мінулае пасля выдання першай кнігі, Мікола Іванавіч ні на ёту не змяніў сваіх ранейшых поглядаў на генезу ВКЛ, ні на крок не адступіў у акрэсленні межаў старажытнай Літвы. Без зменаў паўтараюцца ранейшыя тэзы пра Літву як балцкі востраў сярод беларускіх земляў; пра літоўскага князя-ізгоя Міндаўга, які атрымаўшы ад Наваградка грошы і войска, заваяваў для гэтага горада-дзяржавы сваю радзіму   Літву; пра паходжанне Міндаўга з роду полацкіх князёў і г.д.

1 Голубович, В., Голубович, Е. Кривой город - Вильно // Краткие сообщения Института истории материальной культуры АН СССР, Москва-Ленинград, 1945. Вып. XI. С. 124.

У адказ на крытыку ягонай лакалізацыі Літвы, аўтар толькі паўтарыў ранейшыя аргументы і адверг усе крытычныя заўвагі (гл. стар. 27, 32-33). Таму ў яго па-ранейшаму засталося нявытлумачаным, адкуль узялася тая моц і якім чынам такі выразны след у гісторыі некалькіх народаў мог быць пакінуты адносна невялікай забалочанай тэрыторыяй, на якой да таго ж не было ніводнага горада[2].

У адной з дыскусійных уставак, прысвечаных гэтай праблеме, адбылося пагаршэнне ранейшага тэксту, менавіта, інтэрпрэтацыі летапіснага паведамлення пра паход галіцка-валынскага войска супраць Міндаўга ў 1251/52 г. (а не 1253 г. - А.К.). У першым варыянце (з кнігі “Па слядах аднаго міфа”, Мінск, 1991. С. 22) цытуецца летапісны тэкст: “И послаша сторожу Литва на озеро Зьяте и гнаше через болото до реки Щарье” і ўдакладняецца, што “старожа” звычайна высылалася для аховы межаў краіны. Новая пашыраная інтэрпрэтацыя сцвярджае, што не валыняне пагналіся за ліцвінамі (“старожа” імчала на Панямонне каб папярэдзіць яго жыхароў пра надыход ворага), а наадварот, ліцвінскі вартавы пагранічны атрад - “старожа”... гнаў галіцка-валынскае войска (узмоцненае яшчэ атрадамі полаўцаў і пінчукоў) да ракі Шчары, дзе чакала галоўнае літоўскае войска[3] (стар. 27). Не слабая ж была варта! Але ж не, як сцвярджаецца далей, галіцка-валынскія войскі, перамогшы Літву, назаўтра паланілі ўсю Наваградскую зямлю (стар. 27-28). Такая інтэрпрэтацыя супярэчыць не толькі здароваму сэнсу, але не згаджаецца з далейшымі сведчаннямі крыніцы. Летапісец паведамляе, што не дагнаўшы старожу, галіцка-валынскія

2 Крытыка лакалізацыі старажытнай Літвы Ермаловічам і ягонай канцэпцыі генезы ВКЛ змешчана ў маіх спецыяльных працах, таму не буду тут паўтарацца. Гл.: Краўцэвіч, А.К. Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага. Мінск, 1998; ён жа. Праблема лакалізацыі сярэднявечнай Літвы // Białoruskie Zeszyty Historyczne. Białystok, 1997. № 8. S. 5-30.

3 Тое, што гэтая інтэрпрэтацыя не вынік нейкай памылкі ці непаразумення сведчыць яе паўтор на стар. 73.

воіны не хацелі ісці далей, бо быў страчаны фактар нечаканасці - “весть уже есть на нас”[4].

На стар. 68 ёсць і добрая фактычная папраўка старога тэксту, менавіта, удакладняецца памылковая дата з летапісу (замест недакладнага 1252 г. 1248 г.). Па ўсёй верагоднасці Мікола Іванавіч прыняў да ведама інфармацыю аўтара гэтых радкоў пра выпраўленні датаў Галіцка-Валынскага летапісу, зробленыя Міхайлам Грушэўскім яшчэ ў пачатку стагоддзя[5]. Аднак выпраўленні Грушэўскага тычацца літаральна ўсіх датаў, пададзеных у названым летапісе, а ў тэксце рэцэнзуемай кнігі папраўленая толькі гэтая адна. Магчыма, Мікола Іванавіч проста не паспеў выправіць іншыя, але да чаго ж тады былі рэдактары і рэцэнзенты-прафесары? Як можна было дапусціць змяшчэнне на стар. 416 пад выглядам выявы караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага партрэту зусім іншай асобы? Чаму на стар. 397 апавядаецца пра вайну Рэчы Паспалітай з Турцыяй, а заключаная мірная дамова аказваецца замірэннем з Масквой? Чаму не выправіць такую фразу: “Магчыма, што Андрэй ужо тады прыняў мірскі чын і ў выніку гэтага атрымаў імя Ануфрый”? (стар. 243). Чаму ў адным месцы напісана, што ў Гедыміна было тры дачкі, а ў другім пяць (стар. 156 і 164) і г.д.

Адной з важнейшых прыкметаў прафесійнага навуковага тэксту ёсць адсутнасць супярэчнасцяў у высновах ягонага аўтара. Такая прыкмета далёка не заўжды прысутнічае ў рэцэнзуемым тэксце. Напрыклад, шмат сілаў і імпэту патрачана аўтарам на доказ размяшчэння летапіснай Літвы 12-13 ст. між Наваградкам, Менскам і Слонімам (стар. 25-42), а ў іншым месцы кнігі (стар. 134) той жа аўтар залічвае да

4 Полное собрание русских летописей. Санкт-Петербург, 1843. Т. 2. С. 188.

5 Грушевський, М. Хронольогія подій Галіцько-Волинської літописи // Записки Наукового Товариства імени Шевченка. Львів, 1901. Т. 41. С. 1-72.

Літвы 12 ст. Вільню, размешчаную ў добрых паўтары сотні кіламетраў далей на поўнач.

Наконт віленскага перыяду гісторыі ВКЛ (1316 - 1385 г.) у адным месцы сцвярджаецца, што пры Гедыміне дзяржава апынулася ў трохкутніку варожых сіл і гэта стала прычынай далейшага заняпаду, а на стар. 210 - нешта іншае: “Як бачна з разгледжанага, віленскі перыяд быў асабліва спрыяльны і плённы ў нашай гісторыі”.

Першыя два раздзелы атрымалі свае назвы ад тагачасных сталічных гарадоў. Трэці, выдзелены аўтарам перыяд, называецца “Крэўскім”. Тлумачэнне такой назве прыводзіцца дзіўнаватае: “Аднак у нашай гісторыі склаліся такія абставіны, калі ў яе далейшым развіцці сталі мець рашаючае значэнне не паасобныя гарады і іх землі, як было раней, а асабліва важныя падзеі” (стар. 219). Сэнс гэтага выразу (па ўсёй бачнасці канцэптуальнага) для мяне так і застаўся незразумелым. Не змог зразумець таксама высновы, якая датычыць агульнай характарыстыкі дзяржавы: “Менавіта галоўнай асаблівасцю ВКЛ і з’яўляецца перавага ў ім знешніх абставін над унутранымі, што і зразумела” (стар. 303).

Па ўсяму тэксту трапляюцца абагульняючыя меркаванні і высновы, якія ўражваюць сваёй арыгінальнасцю і багаццем уяўлення іх аўтара. Напрыклад, на стар. 135-136 абгрунтоўваецца паходжанне вялікіх князёў літоўскіх ад полацкай княскай лініі, менавіта ад Давіла і Маўкольда Расціславічаў. Нетрадыцыйнасць і нетыповасць для полацкай дынастыі іх імёнаў “трохі здзіўляюць” аўтара, але толькі трохі, бо адразу знаходзіцца тлумачэнне: “Аднак не выключана, што сапраўдныя іх імёны былі зменены з мэтаю скрыць іх полацкае паходжанне”. Далей сцвярджаецца: “Такім чынам, Міндаўг і Войшалк таксама паходзілі ад полацкай дынастыі”, але ўжо не тлумачыцца, чаму і ад

каго хавалі свае сапраўдныя полацкія імёны гэтыя вялікія князі, гэтаксама як, напрыклад, Віцень, Трайдэн, Гедымін.

На стар. 150-151 даводзіцца, што Гедымін быў праваслаўным хрысціянінам, а праз дзве старонкі цытуецца ягонае выказванне: "Няхай хрысціяне шануюць бога свайго па-свойму, рускія па-свойму, палякі па-свойму, а мы шануем бога па нашаму звычаю" (стар. 153). Аказваецца, што праваслаўны Гедымін "у тактычных мэтах" перад язычнікамі называў сябе іхнім адзінаверцам (стар. 172) і хоць летапіс апісвае пахаванне вялікага князя па язычніцкаму абраду (спаленне на высокай гары), апісанне гэтае "найверагодней, ... трэба лічыць адным са шматлікіх домыслаў М.Стрыйкоўскага" (стар. 163). Гэтаксама і сын Гедыміна Кейстут, напэўна, генетычна пераняўшы ад бацькі рысы ягонага характару: "Найверагодней, ... вымушаны быў выступаць у двух абліччах: перад праваслаўнымі - як праваслаўны, перад язычнікамі як язычнік" (стар. 209). Цікава, а як ён выкручваўся падчас сумеснага збору хрысціянаў і язычнікаў, што мела месца, напрыклад, у ваенным паходзе?

Удзел Кейстута і Вітаўта ва ўсходніх паходах Альгерда, аказваецца: "... паказвае, наколькі дамінавалі ў дзяржаве яе беларускія інтарэсы, калі дзеля іх адцягваліся сілы з захаду, дзе была найбольшая знешняя пагроза" (стар. 187). Узнікае пытанне, ці паходы на захад (у якіх, дарэчы, удзельнічаў Альгерд) ужо былі не ў беларускіх інтарэсах і Гародня, размешчаная на заходняй мяжы, то ўжо не Беларусь?

Падобных нечаканых высноваў, якія сведчаць пра багацце аўтарскай фантазіі, у кнізе шмат. Напрыклад, што Крэўская унія была "найперш на карысць Маскве" (стар. 254 і 275). Ці на стар. 259, даводзіцца, што праваслаўны Свідрыгайла хоць перайшоў у каталіцтва, "аднак, па-ра-

нейшаму быў адданы сваёй народнасці і веры”. Або яшчэ: “З заключэннем Люблінскай уніі ў 1569 г. закончыўся ў нашай гісторыі перыяд уній...” (стар. 331). Здаецца, наадварот, толькі пачаўся перыяд рэальнай уніі.

Нечакана тлумачацца абставіны заняцця вялікакняскага пасаду сынам Гедыміна Яўнутам. Аказваецца, Яўнут стаў вялікім князем выпадкова, бо быў малы і жыў пры бацьку. Калі той нечакана загінуў, не змогшы прызначыць свайго пераемніка, “... ім з прычыны такой выпадковасці стаў Яўнут” (стар. 166). Гэта хіба самае арыгінальнае з усіх вядомых тлумачэнне спосабу пераемнасці становішча гаспадара адной з буйнейшых еўрапейскіх дзяржаваў.

Даследчыкам гісторыі Пскова, напэўна, будзе цікава даведацца, што ў гэтым горадзе “... князь незалежна ад таго быў хрышчоным ці не узыходзячы на пасад, павінен быў усенародна хрысціцца” (стар. 170).

Выклікае пярэчанне выразна негатыўная ацэнка ролі палякаў у нашай гісторыі, што часам выглядае як палонафобія. На стар. 324 сцвярджаецца, што пасля Люблінскай вуніі “польскія ўлады ... галоўны удар скіравалі супроць усяго беларускага”, “пануючыя вярхі” Польшчы праводзілі палітыку “...прыніжэння нашага народа, ахайвання яго культуры ...” (стар. 360). Каталіцызм у ВКЛ то польская экспансія (стар. 351, 354-355, 399-400).

Напэўна, саюз з Польшчай прынёс Беларусі не толькі страты але і немалыя выгоды. Сам аўтар у іншым месцы выказаўся пра Люблінскую вунію як меньшае зло ў параўнанні з аб’яднаннем з Масквой (стар. 335).

Дзеля справядлівасці трэба зазначыць, што побач з вышэй названымі, мякка кажучы, спрэчнымі высновамі сустракаюцца і такія, з якімі нельга не пагадзіцца, напрыклад, пра мірнае суіснаванне хрысціянства і язычніцтва, пра уніяцкую веру як нацыянальную рэлігію беларусаў і інш.

Калі казаць пра цэласнае ўражанне ад кнігі, то яно аказалася падобным да рэакцыі маіх равеснікаў гісторыкаў у веку каля сарака гадоў. Яе надзвычай складана рэцэнзаваць. Амаль на кожную старонку трэба пісаць столькі ці нават болей тэксту выпраўленняў, паправак, удакладненняў, дапаўненняў. Пры гэтым даводзіцца прызнаць, што кніга не ўкладаецца ў рэчышча традыцыйнай навукі па той простай прычыне, што яна там не прысутнічае.

Адметнасцю кнігі з'яўляецца харызма яе аўтара, сіла пераканання ў сваёй рацыі, якой прасякнутая кожная старонка і якой дыхае амаль кожны радок. Можна сабе ўявіць як гэта дзейнічае на чытача, свядомасць якога не абцяжарана грузам прачытанай спецыяльнай літаратуры па гісторыі беларуска-літоўскага гаспадарства. А літаратуры такой так мала на Беларусі і, адпаведна, так шмат не абцяжараных ёй галоваў! Ужо ўбачыўшы на вокладцы прозвішча Міколы Іванавіча, чытач ведае, што кніга будзе не проста беларускапатрыятычнай, а беларусацэнтрысцкай. Асаблівы чытач Міколы Іванавіча лёгка даруе яму тыя недакладнасці і супярэчнасці, якія заўважаны ў гэтай рэцэнзіі.

Даведачны апарат, пададзены ў выглядзе спасылак на іншыя працы, мне здаецца не толькі лішнім, а нават шкодным для гэтай кнігі, бо з прычыны ягонай надзвычайнай беднасці становіцца зразумелым, што аўтар проста не ў курсе навуковай гістарыяграфіі ВКЛ.

Прафесійнаму гісторыку не прыйдзе нават у галаву думка пра магчымасць напісання гісторыі ВКЛ без вывучэння ў першую чаргу спецыяльнай польскай гістарыяграфіі. Можна не прымаць тамтэйшыя ацэнкі гістарычных падзеяў і фактаў, але ігнараваць польскую гістарыяграфію зусім то ўжо не навука. Немагчыма стварыць тэкст пра ВКЛ хоць трохі падобны да навуковага, не ведаючы прац, напры-

клад, Юлюша Ляткоўскага, Аскара Халецкага, Станіслава Кутжэбы, Генрыка Пашкевіча, Генрыка Лаўмяньскага, Станіслава Заянчкоўскага, Людвіка Калянкоўскага, Юлюша Бардаха, Станіслава Александровіча, Гжэгажа Блашчыка, Кшыштафа Пяткевіча і многіх іншых. Нельга пісаць навуковыя працы па гісторыі ВКЛ, ігнаруючы таксама летувіскую і нямецкую гістарыяграфію. А ў нашай кнізе для стварэння апошняга раздзелу (пра Рэч Паспалітую), мяркуючы па спасылках, не спатрэбілася ніводная праца, напісаная лацінскім алфавітам.

Гэтаксама цяжка абыйсціся і без навейшай расейскай і беларускай гістарыяграфіі. Напрыклад, аналізуючы паняцце “гістарычная Літва” (напомню, што гэты аналіз важнейшая частка канцэпцыі Міколы Іванавіча), нельга мінуць спецыяльных артыкулаў Міхала Спірыдонава, якіх, у адрозненне ад прац польскіх аўтараў, не трэба шукаць за мяжой. Спасылак на гэтыя артыкулы няма ў даведачным апараце рэцэнзуемай кнігі.

Усе выказаныя заўвагі не азначаюць поўнага адмаўлення ці непрыймання працы Міколы Ермаловіча. Галоўнай мэтай рэцэнзіі было акрэсленне сапраўднага жанру апошняй кнігі беларускага Карамзіна. Лічу, што яна мае права на існаванне гэтаксама як і іншыя падобныя творы. Хоць бы з той прычыны, што кнігі Міколы Ермаловіча знаходзяць свайго чытача. Напэўна, гэта сведчыць пра запатрабаванне на літаратуру такога кшталту ў Беларусі, прынамсі ў пэўны перыяд і на пэўным этапе фармавання нацыянальнай сістэмы гістарычнай асветы.

# Дадатак 6. Артыкул "Каранацыя Міндаўга..."

**Публікацыя:** Краўцэвіч Аляксандр. Каранацыя Міндаўга: месца ў прасторы і часе. Karanacyja Mindauga: mesca u prastory i czasie // Rocznik Centrum Studiów Białoruskich. Гадавік Цэнтра Беларускіх Студыяў. Варшава, 2017. № 3. С. 114 – 120.

## Каранацыя Міндаўга: месца ў прасторы і часе

Першы гаспадар Вялікага Княства Літоўскага быў, несумненна, асобай моцнай і яскравай. Пра тое сведчаць не толькі факты ягонай біяграфіі, але і пільная ўвага, з якой сучаснікі за гэтай біяграфіяй сачылі. Пры агульным, часам безнадзейным, недахопе крыніцаў з XIII ст., звестак пра жыццё і дзейнасць Міндаўга захавалася больш, чым пра ўсіх наступных вялікіх князёў з другой паловы гэтага стагоддзя.

Напэўна, увагу сучаснікаў прыцягвала найперш значнасць падзеі - паўставанне новай дзяржавы. Адсюль і ўвага да асобы, якая аказалася ў самым віры працэсу дзяржаваўтварэння. Міндаўг, несумненна надаваўся для выканання гэтай гістарычнай задачы. Ад самага першага ўпамінання пра яго ў Галіцка-Валынскім летапісе пад 1219 г. да самай смерці ў 1263 г. на працягу 45 гадоў ён увесь час знаходзіўся ў цэнтры панямонскіх падзеяў і заўжды на першых ролях. Ужо ў той самай першай летапіснай згадцы – апісанні дамовы групы літоўскіх князёў у колькасці 21 чалавека з Галіцка-Валынскім княствам, Міндаўг пазначаны як адзін з пяці мацнейшых ("старэйшых" паводле

летапісца)[1]. Гэта значыць, што ў іерархіі свайго племяні ён ужо з маладых гадоў займаў высокае становішча, напэўна прынятае ў спадчыну ад бацькі, пра якога Старэйшая рыфмаваная хроніка паведамляе, што ён быў вялікім правадыром “konig groz”[2].

Пачатак працэсу ўтварэння ВКЛ прыпадае на канец 40-х гадоў 13 ст., г.зн. на гэты час Міндаўг ужо меў як мінімум 30 гадоў вопыту палітычнай і вайсковай дзейнасці. А вопыт быў не абы які. Князь у племяні, якое знаходзіцца на стадыі ваеннай дэмакратыі, гэта ў першую чаргу вайсковы правадыр, арганізатар няспынных рабаўнічых нападаў на землі варожых плямёнаў і дзяржаваў. У такой надзвычай небяспечнай справе (напрыклад, ноўгарадскі князь Аляксандар Яраслававіч Неўскі ў 1245 г. толькі ў двух сутычках пад Тарапцом забіў 8, а потым яшчэ некалькі літоўскіх князёў[3]) выжывалі адно самыя моцныя, разумныя ды ўдачлівыя. Міндаўг, несумненна, да такіх належаў.

Наш герой умеў праводзіць нестандартныя і маштабныя дзеянні: як саюз з Наваградкам, разлажэнне варожай кааліцыі знутры подкупам ды зменай свайго веравызнання, дараванне лівонскім рыцарам земляў, якімі не валодаў, прыняцце каралеўскай кароны ад рымскага папы і г.д.

Адным з такіх нестандартных хадоў пачынальніка ВКЛ было ўвядзенне яго ў годнасць “караля Літвы” з санкцыі і па даручэнню папы рымскага ў пачатку ліпеня 1253 г.

Да асноўных праблемаў, звязаных з каранацыяй, належыць вызначэнне **месца**, дзе адбывалася працэдура, а таксама **гістарычнае значэнне** гэтага акту для ВКЛ, Летувы, Беларусі і ўсёй Усходняй Еўропы.

Першая праблема значная не сама па сабе (не так ужо і важна ў якім менавіта горадзе і саборы была праведзена

1 Полное собрание русских летописей (далей ПСРЛ). Т. 2. Стб. 735-736.
2 Livländische Reimchronik \Her. von Leo Meyer. Padeborn, 1876. S. 146-147. V. 6383-6385.
3 Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов. Под ред. и с пред. А.Н.Насонова. Москва, 1950. С. 79, 304.

цэрымонія), а ў сувязі з праблемай першай сталіцы дзяржавы. Калі акт хрышчэння, а потым працэдура каранацыі, мелі месца ў Наваградку (як лічыць шмат хто з гісторыкаў), то гэтыя факты, здаецца, працуюць як доказы сталічнасці гэтага горада. Але тое можа быць прадметам дыскусіі, бо, напрыклад, у той самы год такую ж працэдуру правёў Даніла Раманавіч Галіцкі, аднак зрабіў гэта не ў сваёй сталіцы, а ў правінцыйным Драгічыне.

Дакладнага ўказання месца каранацыі ў блізкіх па часу стварэння крыніцах не захавалася. Як бы па іроніі гісторыі, навочны сведка працэдуры – францішканскі ці дамініканскі манах, аўтар "Апісання земляў"[4], створанага між 1255 і 1260 г., забыўся назваць месца дзеі. Вызначаць гэтае месца даводзіцца па ўскосных даных.

Даследчыкі на аснове аналізу крыніцаў прыходзяць да розных высноваў. Адной з такіх ускосных крыніцаў з'яўляецца дакумент-дараванне земляў у Жамойці Міндаўгам Інфлянцкаму ордэну з 1253 г. У ім змешчаны выраз "*Datum in Lettowia in curia nostra*[5]" ("дадзена ў Летовіі на нашым двары"). Прыняўшы, што гаворка ідзе не пра краіну, а канкрэтнае паселішча – рэзідэнцыю Міндаўга, некаторыя гісторыкі пачалі удакладняць яго месцазнаходжанне. Яшчэ ў пачатку 20 ст. была высунутая гіпотэза пра рэзідэнцыю Міндаўга ў паселішчы Латава на тэрыторыі сучаснай Летувы, якую падтрымалі некаторыя сучасныя летувіскія гісторыкі[6]. Беларускі даследчык Алесь Жлутка прапанаваў на гэтую ролю вёску Літоўку ў 4 км ад Наваградка[7].

4 Чамярыцкі В., Жлутка А. Першая згадка пра Белую Русь – 13 ст.? [у:] Адраджэнне: Гіст. Альманах. Мн., 1995. Вып. 1. С. 143-152.
5 Міндаў, кароль Літовіі, у дакумэнтах і сьведчаньнях = Mindowe, rex Lithowiae in litteris et testimoniis, Уклад., пер. на бел. мову, камэнт. А.Жлуткі. Мн., 2005. Дак. I. 2. С. 24-26.
6 Вольтер Э.А. Город Мендовга или где искать Летовию 13 века? Санкт-Петербург, 1910; Baranauskas T., Zabiela G. Mindaugo dvaras Latava [у:] Lietuvos istorijos metraštis 1997 metai. Vilnius, 1998. P. 21-40; Баранаўскас Т. Месца каранацыі Міндоўга // Спадчына. 2002. № 5-6. С. 26-31.
7 Жлутка А. Да пытання аб месцы каранацыі Міндоўга (Міндава) і сядзібе першага біскупа Літвы [у:] Навагрудчына ў гістарычна-культурнай спадчыне Еўропы (да 600-годдзя Грунвальдскай бітвы). Мн., 2010. С. 98 – 99.

Іншыя летувіскія даследчыкі мяркуюць пра месца каранацыя Міндаўга ў Вільні, нібыта дзеля яе быў спецыяльна збудаваны касцёл[8]. Гэтая версія абапіраецца на знаходку падмуркаў нейкага будынку пад сучасным катэдральным саборам. Мураваная пабудова з каменным падмуркам мае памеры 22,6 на 22,6 м, і сцены таўшчынёй 1,6 – 1,7 м[9]. Нажаль, вызначыць дату каменнага падмурка практычна немагчыма (калі сярод камянёў няма пракладак з цэглы), таму гэтая версія гісторыкамі іншых краінаў ставіцца пад сумнеў. Больш верагодная прывязка знойдзеных падмуркаў да касцёла, збудаванага па загаду вялікага князя Гедыміна ў першыя дзесяцігоддзі 14 ст., пра які вядома з пісьмовых крыніцаў[10].

Пра Наваградак як месца каранацыі Міндаўга паведамляецца ў наратыўных творах 16 – 17 ст. Гэтыя звесткі ў Беларусі прааналізавалі Алесь Жлутка і Алег Дзярновіч. Апошні прапаноўвае размежаваць паняцці – рэзідэнцыя Міндаўга – месца каранацыі – сталіца[11], але аргументаў на карысць гэтай высновы не прыводзіць. Між іншым, незразумела, як раздзяліць паняцці: “рэзідэнцыя Міндаўга” і “сталіца”, калі ў сярэднявеччы гэтыя паняцці былі тоеснымі.

Абодва даследчыкі канстатавалі, што як Мацей Стрыйкоўскі[12] у 16 ст. так і Альберт Віюк-Каяловіч[13] у 17 ст., а яшчэ Густынскі летапіс[14] 17 ст. называюць месцам каранацыі

8 Kiaupa Z., Kiaupienė J., Kuncevičius A. Lietuvos istorija iki 1795 metu. Vilnius 2000. S. 61; Гудавичюс Э. История Литвы с древнейших времен до 1569 года. Москва, 2005. С. 55.

9 Лухтан А., Ушинскас В. К проблеме становления Литовской земли в свете археологических данных [у:] Древности Литвы и Белоруссии. Вильнюс, 1988. С. 102.

10 Gedimino laiškai - Послания Гедимина. Vilnius, 1966, пасланне 4. P. 36 – 47.

11 Дзярнович О. У истоков дискуссии: история споров о месте коронации Миндовга в 1253 г. [у:] Навагрудчына ў гістарычна-культурнай спадчыне Еўропы (да 600-годдзя Грунвальдскай бітвы). Мн., 2010. С. 105.

12 Stryjkowski M. Kronika Polska, Litewska, Żmodzka i wszystkiej Rusi / M. Stryjkowski. Warszawa, 1846. T. 1-2. S.289.

13 Historiae Litvanae pars prior… Auctore P. A. W. Koialowicz Soc. Jesu., Dantisci, 1650. P. 97.

14 ПСРЛ. Санкт-Петербург, 2003. Т. 40. С. 3.

Наваградак. Стрыйкоўскі ў больш ранніх творах бачыў у гэтай ролі Кернава, але пазней у галоўнай сваёй працы "*Кронікі...*" адназначна схіліўся да Наваградка. Праз аналіз асноўных крыніц XVI – XVII ст., паведаміўшых пра каранацыю ў Наваградку, А. Жлутка прыйшоў да высновы пра іх самастойнасць, адсутнасць між імі кампілятыўнай сувязі, што прызнаў дадатковым аргументам на карысць Наваградка як месца каранацыі[15]. Даследчык звярнуў увагу на яшчэ адну крыніцу 16 ст. – польскамоўную "*Хроніку Прускіх майстраў*" Марціна Мурыніуса, якая таксама называе Наваградак[16].

Кандыдатура Наваградка, як месца каранацыі першага і апошняга караля Літвы з'яўляецца галоўнай па некалькіх прычынах:

Па-першае, ў XIII ст. гэта быў найбуйнейшы і найбагацейшы горад Панямоння[17].

Па-другое, Міндаўг з гэтым местам быў звязаны, нашмат больш, чым з іншымі панямонскімі гарадамі: Гародняй, Вільняй, Ваўкавыскам, Слонімам (жамойты і аукштайты на той час гарадоў яшчэ не мелі).

15 Жлутка А. Толькі Стрыйкоўскі? (наратыўныя крыніцы пра каранацыю ў Наваградку [у:] Людзі і ўлада Навагрудчыны: гісторыя ўзаемадзеяння (да 500-годдзя надання Навагрудку прывілея на магдэбургскае права). Мн., 2013. С. 56, 58 – 62.

16 Murinius Marcin. Kronika mistrzów Pruskich. Olsztyn, 1989. S. 81: „Za panowania Bolesława Wstydliwego w Polszczę Konrad Poppe z Osterlingu Roku Pańskiego 1252 na mistrzostwo jest wybrany. Za czasu jego i Henryka mistrza iflantskiego Mendog książę litewski się okrzcił i wiele Zakonowi braciej iflantskiej nadał, potem o koronę do papieża Innocencyjusa IV prosząc posłał, ktorej mu też papież (widząc to być sobie na rękę) nie zbraniał. Posłał przeto brata Henryka prowincyjała polskiego, armakańskiego przed tym biskupa, a na ten czas chełmskiego w Prusiech legata swego do Mendoga, ktory z arcybiskupem rygeńskim, z Krzyżakami pruskimi i iflantskimi do Nowogrodka Litewskiego przyjachawszy, z ramienia papieskiego i cesarskiego Mendoga na krolestwo litewskie koronował".

17 Гуревич Ф.Д. Древний Новогрудок. Ленинград, 1981; Гурэвіч Ф.Д. Летапісны Наваградак, Санкт-Пецярбург – Наваградак, 2003; Краўцэвіч А.К. Наваградак і ўтварэнне Вялікага Княства Літоўскага [у:] Навагрудскія чытанні. Мн., 1996. Вып. 4. С. 16.

Па-трэцяе, у Наваградку меўся адпаведны хрысціянскі храм – мураваная царква XII ст. святых Барыса і Глеба на гарадскім пасадзе.

Па-чацвёртае, на гэты горад паказваюць пазнейшыя крыніцы, якія абапіраліся на больш ранніх і фармаваліся незалежна адна ад другой.

Адсюль дамінаванне ў гістарыяграфіі меркавання, што Міндаўг каранаваўся ў Наваградку. Перакананне, што хрышчэнне Міндаўга ў 1251 г., а праз два гады каранацыя праходзілі ў Наваградку, прысутнічае не толькі ў беларускай гістарыяграфіі, але, напрыклад, ў асяродку польскіх гісторыкаў. Прывяду цытаты з твораў вядомых польскіх даследчыкаў ВКЛ Ежы Ахманьскага, Марцэлі Космана і Анджэя Рахубы. Першы ў сваёй "Гісторыі Літвы" выказаўся наступным чынам: *"Mendog zdołał utwierdzić swe panowanie w Litwie i za staraniem krzyżackim w Rzymie u papieża Innocentego IV uwieńczył swój sukces uroczystą koronacją na króla Litwy w Nowogródku na przełomie czerwca i lipca 1253 r."*[18].

Марцэлі Косман: *"Nic, jak dotąd, nie podważa poglądu o Nowogródku na sąsiedniej Rusi Czarnej jako miejscu chrztu i koronacji tego władcy (Міндаўга – А.К.)"*[19].

*Анджэй Рахуба: "Jak ważne były jednak w jego (Міндаўга – А.К.) powiekszającym się wieloetnicznym państwie nowe ziemie, świadczy fakt koronowania na króla latem 1253 r. (raczej 29 czerwca niż 6 lipca) w Nowogródku, gdzie posiadał rezydencję. Wybór tego miasta na miejsce koronacji wydaje się zastanawiajacy i symboliczny. Najnowsza historiografia litewska kwestionuje przekaz o Nowogródku jako miejscu koronacji, uznając, iż odbyła się ona w katedrze wileńskiej,*

18 Ochmański J. Historia Litwy. Wrocław-Warszawa-Kraków, 1990. S. 48.
19 Kosman M. Pompa funebris w Wilnie doby przedrozbiorowej // Lituano-Slavica Posnaniensia. Studia Historica. 1994. VI. S. 131.

*co jednak oparte jest na mało przekonywających dowodach, a forsowane raczej ze względów politycznych”*[20].

Даволі дакладна рэканструяваны сам ход каранацыі. Аўтар рэканструкцыі летувіскі гісторык Зянонас Івінскіс звярнуў увагу на тую акалічнасць, што падобныя працэдуры, санкцыянаваныя рымскай курыяй, былі аднолькавымі па ўсёй Еўропе і апісанні многіх з іх захаваліся. Выкарыстаўшы блізкія па часу звесткі пра каранацыі іншых еўрапейскіх манархаў, З.Івінскіс апісаў працэдуру ўвядзення Міндаўга ў годнасць караля Літвы. Пасля ўзвядзення манарха на трон адбылося яго памазанне асвечаным алеем, потым убранне ў цэрыманіяльны строй (каранацыйныя сандалі, белыя шаты), уручэнне меча, фібулы для каралеўскай мантыі, пярсцёнка і інш.[21]

Ацаніць гістарычнае значэнне факту каранацыі Міндаўга можна толькі праз высвятленне кантэксту падзеяў, з ім звязаных. І хрышчэнне і каранацыя Міндаўга адбываліся падчас першай, таму, напэўна, самай важнай ў гісторыі ВКЛ вайны. У 1249 - 1254 г. нованароджаная дзяржава вяла вайну на выжыванне з Галіцка-Валынскім княствам і яго-нымі саюзнікамі: Лівонскім ордэнам, Ятвяззю і “паловай Жамойці”[22]. Землі ўдзельнікаў кааліцыі ахоплівалі ВКЛ амаль з усіх бакоў, толькі на паўночным усходзе знаходзілася традыцыйна саюзная з ВКЛ Полацкая зямля.

Каб уратаваць дзяржаву і сябе самога Міндаўг зрабіў нестандартны палітычны ход – звярнуўся да магістра Лівонскага ордэна з просьбай хрысьціць яго ў каталіцтва. Галоўнай задачай Ордэна, паводле статуту было хрышчэнне язычнікаў, таму браты-рыцары выказалі згоду і з ворагаў Міндаўга ператварыліся ў ягоных саюзнікаў.

20 Rachuba Andrzej. Historia Litwy [w:] Andrzej Rachuba, Jūratė Kiaupienė, Zigmantas Kiaupa, Historia Litwy. Dwugłos polsko-litewski. Warszawa, 2009. S. 14.
21 Ivinskis Z. Mindaugas und seine Krone // Zeitschrift für Ostforschung. 3. Jahrgang 1954. Heft 3. S. 360-386.
22 ПСРЛ. Москва, 1962. Т. 2. Стб. 815-816.

Дзяржава Міндаўга была ўратаваная. Пакуль лівонцы мелі сілу, гаспадар падтрымліваў з імі добрыя адносіны, выдаваў даравальныя прывілеі на розныя землі. Але калі ў 1260 г. рыцары пацярпелі цяжкую паразу ад жамойтаў, Міндаўг забыўся як пра сваё хрышчэнне так і пра каралеўскі тытул.

З дзеянняў Міндаўга вынікае, што першы гаспадар ВКЛ трактаваў справу хрышчэння і каранацыі інструментальна, як тактычныя хады ў сваёй знешняй палітыцы. Дарэчы, тое ж можна сказаць пра суседа-суперніка Міндаўга – Данілу Раманавіча, які прыняў карону ад папы таксама з тактычных меркаванняў, спадзеючыся на дапамогу Захаду ў барацьбе з татарамі[23]. Абодва манархі былі моцна заангажаваныя ва ўсходнееўрапейскія справы і пакуль не бачылі патрэбы ўваходу сваіх дзяржаваў у палітычную сістэму Заходняй Еўропы.

Каралеўства Літва аказалася эпізодам у гісторыі беларуска-літоўскага гаспадарства. Аднак хрышчэнне і каранацыя Міндаўга запачаткавалі дзьве трывалыя традыцыі ў знешняй палітыцы ВКЛ. Першую з іх дакладней можна акрэсліць як традыцыйны дыпламатычны прыём, менавіта дэкларацыі вялікіх князёў літоўскіх пра намер прыняцця хрысціянства ў самыя напружаныя моманты барацьбы з Тэўтонскім ордэнам[24]. Рабілася гэта заўжды з той самай мэтай – аслабіць мілітарны націск Ордэна на сваю дзяржаву.

Другая традыцыя – пачатак палітычнай арыентацыі ВКЛ на заходнееўрапейскую цывілізацыю. Усведамленне непазбежнасці такой арыентацыі фармавалася даволі марудна. Толькі больш чым праз стагоддзе вялікі князь Ягайла прыняў і ажыццявіў адпаведнае палітычнае рашэнне, галоўнай праявай якога было хрышчэнне па лацінскаму

23 Грушевський М. Історія України-Руси. Київ, 1993. Т. 3. С. 72.
24 Chodynicki K. Próby zaprowadzenia chrześcijaństwa na Litwie przed r. 1386 // Przegląd Historyczny. 1914. T. 18. S. 215-239.

абраду яго самога і паганскай часткі дзяржавы і ўвядзенне дзяржаўнай пратэкцыі каталіцызму. Прайшло яшчэ шэсць вякоў і сёння мы можам сцвярджаць, што гэтае рашэнне аказалася адным з найважнейшых ва ўсёй гісторыі ВКЛ і народаў, якія яго насялялі.

Важна таксама, як гэтую традыцыю шануюць сённяшнія спадкаемцы ВКЛ. Узор у гэтым сэнсе падаюць летувісы, якія трактуюць факт каранацыі Міндаўга як адну з важнейшых падзеяў у сваёй гісторыі. Каранацыя Міндаўга нібыта завяршыла стварэнне летувіскай дзяржавы, бо такім чынам яна была прызнаная тагачасным светам. Гучаць прапановы нават зрабіць дзень каранацыі – 6 ліпеня, дзяржаўным святам сучаснай летувіскай рэспублікі[25].

**Рэзюмэ**

Праблема акрэслення месца каранацыі Міндаўга ў 1253 г. звязана з вызначэннем месцазнаходжання яго сталіцы і ўплывае на агульную этнічную характарыстыку ВКЛ. Адсюль відочнае імкненне, напрыклад, летувіскіх гісторыкаў знайсці гэтае месца на тэрыторыі сучаснай Летувы.

Аднак большасць гісторыкаў розных нацыянальнасцяў лічаць месцам хрышчэння ў 1251 г., а праз два гады – каранацыі Міндаўга горад Наваградак – першую сталіцу дзяржавы. Яны абапіраюцца на звестках аўтараў XVI – XVII ст. і інфармацыі крыніцаў XIII ст. пра агульную ролю Наваградка ў стварэнні ВКЛ.

25 Bumblauskas A. Wielkie Księstwo Litewskie. Wspólna historia, podzielona pamięć. Warszawa, 2013. S. 55 – 56.

# ДАДАТАК 7.

## Артыкул "Працэс балта-славянскіх кантактаў на Панямонні і ўтварэнне ВКЛ"

**Публікацыя:** Краўцэвіч А. Працэс балта-славянскіх кантактаў на Панямонні і ўтварэнне Вялікага Княства Літоўскага // Białoruskie Zeszyty Historyczne. Białystok, 1998. № 9. S. 5-25.

## Працэс балта-славянскіх кантактаў на Панямонні і ўтварэнне Вялікага Княства Літоўскага

Месца нараджэння Вялікага Княства Літоўскага (далей ВКЛ) знаходзіцца ў Верхнім і Сярэднім Панямонні – на тэрыторыі, якая задоўга да пачаткаў гэтай дзяржавы стала месцам сустрэчы і ажыўленага кантакту двух буйных этнічных масіваў – балцкага і ўсходнеславянскага.

Праблема балта-славянскіх кантактаў на землях Беларусі на першы погляд можа падацца далёкай ад тэмы генезісу ВКЛ. Гэтыя працэсы цяжка параўноўваць па параметрах як храналагічных, так і геаграфічных. Першы толькі на Панямонні працягваўся больш тысячагоддзя, другі заняў гістарычна нязначны адрэзак часу – у некалькі дзесяткаў гадоў[1]. Аднак тая акалічнасць, што два працэсы, звязаныя з арганізацыяй жыццядзейнасці буйных чалавечых супольнасцей у пэўны гістарычны момант супалі ў часе і прасторы, пераканаўча сведчыць аб іх узаемасувязі. Балта-славянскі кантакт аказаўся самай значнай гістарычнай з'явай на Панямонні за апошнія паўтары тысячагоддзя. Адсюль вынікае непазбежнасць яго ўплыву на працэс стварэння і фармавання ВКЛ.



1 Быў настолькі паспяховым, што створаная ім дзяржава перарасла тэрытарыяльна не толькі Панямонне, але і ўсю зону балта-славянскага кантакту.

На сённяшні дзень узаемасувязь названых працэсаў даследавана далёка няпоўна. Як яны развіваліся і які менавіта ўплыў меў першы на другі і наадварот? Каб адказаць на гэтыя пытанні, мусім найперш высветліць ход працэсу міжэтнічных кантактаў да пачатку генезісу ВКЛ і пасля заканчэння апошняга. Не менш важна таксама акрэсліцца з вызначэннем пачатковага цэнтра, ядра дзяржавы, разабрацца, як паўстала і як эвалюцыянавала паняцце Літвы гістарычнай, якую яшчэ называюць услед за першым даследчыкам гэтай праблемы Матвеем Любаўскім „уласна Літоўскай зямлёй” ці „вялікім княствам у цесным сэнсе”[2].

Працэс балта-славянскіх кантактаў на Панямонні з-за яго геаграфічнага маштабу, храналагічнай працягласці, уплыву на жыццё тутэйшых чалавечых супольнасцей можна адназначна ацаніць як буйнейшую гістарычную з’яву ў рэгіёне на працягу ўсяго 2 тыс. н.э. У сваю чаргу названыя кантакты з’яўляліся часткай яшчэ больш разлеглага ў часе і прасторы працэсу балта-славянскага ўзаемадзеяння, распачатага каля трэцяй чвэрці 1 тыс. н.э. і ахапіўшага ўсю тэрыторыю сучаснай Беларусі, а таксама прылеглыя раёны Летувы, Латвіі і Украіны. Сучасная навука лічыць названы працэс важным чыннікам этнагенезу беларусаў[3].

Галоўным зместам працэсу быў каланізацыйны рух славян (той іх часткі, якая пазней стала ўсходнімі славянамі) на землі, занятыя балтамі, кантакт з тубыльцамі, асіміляцыя апошніх і, як вынік, кардынальная змена этнічна-культурнай сітуацыі ў зоне кантакту. Балта-славянскае ўзаемадзеянне разгортвалася нераўнамерна як у храналагічным, так

2 Артыкул на гэтую тэму гл.: Краўцэвіч А. Праблема лакалізацыі сярэднявечнай Літвы // Białoruskie Zeszyty Historyczne. 1997. № 8. С. 5-30.
3 Седов В. В. Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья. Москва, 1970. С. 162- 192; ён жа, Балты и славяне в древности по данным археологии // Из древнейшей истории балтских народов по данным археологии и антропологии. Рига, 1980. С. 20; Этнаграфія Беларусі: Энцыклапедыя. Мн., 1989. С. 59-60; Зверуго Я. Г. Верхнее Понеманье в 9-13 вв. Мн., 1989. С. 15-17; Штыхаў Г. В. Крывічы: Па матэрыялах раскопак курганоў у Паўночнай Беларусі. Мн., 1992. С. 106-107.

і геаграфічным вымярэнні. Напачатку (ад 6-7 ст. н.э.) яго актыўным участкам было Верхняе Падняпроўе і Падзвінне. Славянізацыя мясцовага балцкага насельніцтва тут была ў асноўным завершана ўжо ў 12-13 ст.[4] У басейне Нёмана названы працэс актывізаваўся ў канцы 10 ст. і працягваўся да пачатку – сярэдзіны 20 ст.

Да з'яўлення славянаў на Панямонні гэты рэгіён быў часткай арэалу балцкай культуры штрыхаванай керамікі (7-6 ст. да н.э. – 4- 5 ст. н.э.), якая займала тэрыторыю сярэдняй Беларусі і ўсходняй Летувы. На змену гэтай культуры прыходзіць банцараўская культура (6-8 ст. н.э.). Лічыцца, што яна склалася ў выніку змяшання прышлых носьбітаў культуры тыпу Абідні з плямёнамі культур днепрадзвінскай і штрыхаванай керамікі. Банцараўская культура займала Верхняе Падняпроўе, Верхняе Панямонне, Верхняе і Сярэдняе Падзвінне. Большасць даследчыкаў (Пётр Траццякоў, Яўген Шміт, Валянцін Сядоў, Ірына Русанава, Аляксей Мітрафанаў) лічыць яе балцкай. Назвы плямёнаў, стварыўшых гэтую культуру засталіся невядомымі, паколькі яны былі асіміляваны славянамі яшчэ да з'яўлення першых усходнеславянскіх пісьмовых твораў – летапісаў.

Таксама на аснове культуры штрыхаванай керамікі ўзнікла культура ўсходнелітоўскіх курганоў (4-12 ст.), помнікі якой размешчаны ва ўсходняй і паўднёва-усходняй Летуве і паўночна-заходняй Беларусі (ад сярэдняга цячэння Нёмана на захадзе да возера Свір на ўсходзе). Лічыцца, што гэтыя пахавальныя помнікі пакінуты ўсходнелетувіскімі плямёнамі, менавіта аўкштайтамі.

Культура доўгіх курганоў Паўночнай Беларусі (другая палова 1 тыс н.э.) займала Беларускае Падзвінне і Верхняе Падняпроўе. Помнікі гэтай культуры сустракаюцца таксама і ў нашым рэгіёне, менавіта ў вярхоўях Віліі і Нё-



4 Седов В. В. Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья. С. 191, 162; Зверуго Я. Г. Верхнее Понеманье... С. 4-15.

мана. Яна сфарміравалася на аснове аднаго з варыянтаў банцараўскай культуры ў выніку рассялення славянаў і асіміляцыі імі мясцовага балцкага і угра-фінскага насельніцтва. Культура атаясамліваецца археолагамі з полацкімі крывічамі. Георгій Штыхаў лічыць, „што ў доўгіх курганах пахаваны славянізаваныя балты ці славяне з моцным уплывам матэрыяльнай культуры балтаў”[5].

Як ужо ўпаміналася, разгортванне працэсу балта-славянскага ўзаемадзеяння на Панямонні пачалося значна пазней, чым у Падняпроўі і Падзвінні. У 1 – пачатку 2 тыс. н.э. Верхняе і Сярэдняе Панямонне, сярэдняе цячэнне Заходняга Буга займала культура каменных курганоў, якая атаясамляецца з яцвягамі. У каменных курганах 11-13 ст. сустракаюцца рэчы як балцкіх так і славянскіх тыпаў, што лічыцца сведчаннем славянізацыі балцкіх плямёнаў.

Вынікам эвалюцыі каменных курганоў сталі каменныя магілы 10-17 ст. (размешчаныя на Беларускім Панямонні), у інвентары якіх выразна адлюстраваўся працэс разгортвання балта-славянскіх кантактаў.

На момант пачатку генезісу ВКЛ (каля сярэдзіны 13 ст.) балтаславянскія кантакты на Панямонні мелі ўжо сваю шматвяковую гісторыю. Для дасягнення мэтаў нашага даследавання, відавочна, патрэбна сканцэнтравацца на двух важных аспектах названага працэсу, менавіта, **эвалюцыі балта-славянскай мяжы і характару ўзаемаадносін між прышэльцамі і тубыльцамі.**

З’яўленне славянскіх паселішчаў у басейне Нёмана адбылося, паводле меркавання даследчыкаў, дзесьці ў другой палове 1 тыс. н.э.[6] Археолагі лічаць, што ў гэты час названы рэгіён быў заняты рэдкімі і нешматлікімі балцкімі паселішчамі. Каланізацыйны рух славян у пачатковай фазе не вызначаўся актыўнасцю і балта-славянскую этнічную

5 Археалогія і нумізматыка Беларусі: Энцыклапедыя. Мн., 1993. С. 230.
6 Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья. Москва – Ленинград, 1962. С. 144.

мяжу ў 6 ст. даследчыкі акрэсліваюць прыблізна па лініі Прыпяці[7].

Наступным пасля Прыпяці важным міжэтнічным рубяжом на пачатку 2 тыс. стала лінія водападзелу між Дняпром і Нёманам. Звяртае на сябе ўвагу цікавая акалічнасць, якую цяжка назваць выпадковай: усе без выключэння акрэсленыя даследчыкамі варыянты межаў (на розныя этапы) характарызуюцца ў сваім галоўным кірунку паралельнасцю да лініі гэтага водападзелу. Лічыцца, што славяне ішлі па рэках, у даным выпадку ўверх па прытоках Прыпяці. Відавочна, рубеж водападзелу на нейкі час стаў натуральным бар'ерам, свайго роду стартавай лініяй перад пачаткам новага этапу славянскага руху, распачатага, па ўсёй верагоднасці, у канцы 10 ст. Пры тэндэнцыі славянскага руху да раўнамернасці не дзіўна, што пазней кантактная балта-славянская зона развівалася паралельна лініі водападзелу.

Актывізацыя славянскага, дакладней, ужо ўсходнеславянскага, каланізацыйнага руху на Панямонне зафіксавана прыблізна з канца 10 – пачатку 11 ст. Менавіта ў гэты час усходнімі славянамі былі заснаваны асноўныя гарады рэгіёна, захаваўшыя сваё значэнне да сённяшняга дня: Навaградак, Гародня, Ваўкавыск, Слонім, падобна і Вільня. Адной з верагодных прычын названай актыўнасці можна лічыць прымусовую хрысціянізацыю ўсходніх славян, якая была праведзена якраз у канцы 10 ст. Гвалтоўная замена карэннага светапогляду чалавека познеродавага грамадства магла прывесці да адтоку часткі незадаволенага насельніцтва ў разведаную ўжо панямонскую вобласць[8]. На карысць гэтага меркавання сведчыць зафіксаванае

7 Зверуго Я. Г. Славяне и балты в междуречье Верхнего Днепра и Среднего Немана // Проблемы этнической истории балтов. Рига, 1985. С. 67; Непокупный А. П. Балто-северославянские языковые связи. Киев, 1976. С. 63 (карта).

8 Краўцэвіч А. К. Гарады і замкі Беларускага Панямоння 14-18 ст.ст.: Планіроўка, культурны слой. Мн., 1991. С. 60- 61.

археолагамі ў Наваградку і іншых гарадах Панямоння даволі позняе (2-я палова – канец 11 ст.) з'яўленне прадметаў хрысціянскага культу[9].

На Панямонні сустрэліся некалькі каланізацыйных плыняў – крывіцкая – з усходу, дрыгавіцкая і валынская – з паўднёвага ўсходу і поўдня. З паўднёвага захаду да Панямоння даходзілі і мазавецкія каланісты. Этнаграфічная экспедыцыя АН Беларусі ў 1954 г. вызначыла, на думку яе кіраўніка Міхала Грынблата, зону сутыкнення між крывіцкай і дрыгавіцкай плынямі. Месца сустрэчы акрэслена на паўночны ўсход ад Гародні па лініі Радунь – Воранава – Ашмяны – Астравец і ўяўляе сабой паласу змешаных гаворак, пераходную ад паўднёва-заходняй да паўночна-ўсходняй групы беларускіх гаворак[10]. На Панямонні славяне сустрэліся з яцвягамі (у вобласці левых прытокаў Нёмана[11]) і аўкштайтамі (культура ўсходнелітоўскіх курганоў у басейне Віліі).

Актывізацыя славянскай каланізацыі Панямоння ў канцы 10 ст. значна змяніла этнічную сітуацыю ў рэгіёне. Лічыцца, што на час утварэння Кіеўскай дзяржавы балта-славянская мяжа праходзіла прыблізна па лініі: воз. Асвейскае – Дзісна – Пліса – Будслаў – Заслаўе – Рубяжэвічы – Дзераўная – Беліца – Слонім – Ваўкавыск[12].

Для вырашэння надзвычай складанай праблемы эвалюцыі этнічнай мяжы даследчыкі выкарыстоўвалі розныя крытэрыі і матэрыялы: археалагічныя, тапанімічныя, антра-

9 Гуревич Ф. Д. Об этническом составе населения древнего Новогрудка // Acta Baltico-Slavica. Białystok, 1969. R. VI. S. 222: „у горадзе, дзе, безумоўна, большасць насельніцтва была славянскай, да канца 11 ст. няма ніякіх прыкмет хрысціянства. Магчыма, што прыхільнасць да язычніцтва таксама была адной з прычын, спрыяўшых з'яўленню тут насельніцтва, якое імкнулася пазбегнуць хрысціянізацыі"; гл. таксама: Гуревич, Ф. Д. Детинец и окольный город древнерусского Новогрудка в свете археологических работ 1956-1977 гг. // Советская археология. 1980. № 4. С. 88-89; Зверуго Я. Г. Верхнее Понеманье... С. 196.

10 Гринблат М. Я. Белорусы. Очерки происхождения и этнической истории. Мн., 1968. С. 90-91.

11 Седов В.В. Курганы ятвягов // Советская археология. 1964. № 4. С. 36-51.

12 Зверуго Я. Г. Верхнее Понеманье ... С. 15.

панамічныя, пісьмовыя, этнаграфічныя, у тым ліку звесткі аб канфесійным падзеле насельніцтва. Аднак усе гэтыя крытэрыі (акрамя этнаграфічных даследаванняў канца 19-20 ст.), па-першае, не здольныя паказаць дастаткова выразную лінеарную мяжу, па-другое, не даюць надзейных падстаў для яе датавання.

Для прыкладу разгледзім адзін з асноўных і шырока ўжываных крытэрыяў размежавання балтаў і ўсходніх славян – менавіта, па канфесійнай прыналежнасці насельніцтва (каталікі – летувісы, праваслаўныя – беларусы). Так, Ежы Ахманьскі, прааналізаваўшы межы перавагі каталіцызму (іх аўтары: Рэклус, Пакштас, Грынблат), прыняў, што мяжа каталіцызму на Віленшчыне ў канцы 18 ст. павінна цалкам адпавядаць арэалу летувіскай мовы ў ранейшую эпоху[13]. Географ Петрас Гаўчас следам за Ахманьскім лічыць, што „веравызнанне насельніцтва ў канцы 14 ст. (на час увядзення каталіцтва ў Літве. – А. К.) патрэбна лічыць асноўным паказчыкам, які адрозніваў летувісаў ад беларусаў”[14]. Аднак тут жа гэты аўтар удакладняе, што на момант хрышчэння летувісаў у каталіцтва (1387 г.) частка летувіскага насельніцтва на ўскраінах этнічнай тэрыторыі ўжо была праваслаўнай і такой засталася.

Узнікае яшчэ пытанне: дзе ўзяць даныя аб канфесійных падзелах на канец 14 ст.? П. Гаўчас, як і другія даследчыкі, выкарыстоўвае пры аналізе сітуацыі канца 14 ст. матэрыялы значна пазнейшыя, у даным выпадку запозненыя больш чым на паўтысячагоддзя, менавіта даныя перапісу 1921 г. з агаворкай, што за мінулыя вякі „адбыліся змены ў гэтым плане”. Такой агаворкі, на мой погляд, далёка не дастаткова. Змены, якія адбыліся за пяць вякоў, між 14 і 20

13 Ochmański J. Litewska granica etniczna na wschodzie od epoki plemiennej do XVI wieku. Poznań, 1981. S. 39-45.
14 Гаучас П. К вопросу о восточных и южных границах литовской этнической территории в средневековье // Балто-славянские исследования. Москва, 1988. С. 195-196.

ст. амаль не даследаваліся, але можна не сумнявацца, што яны былі значнымі.

У 1434 г. польскі тэолаг Мікалай Казлоўскі паведаміў сабору ў Базелі, што кароль Ягайла перавёў у каталіцтва шмат схізматыкаў-праваслаўных. Біскуп Якуб з Сенна дакладваў у 60-х гадах таго ж стагоддзя папе рымскаму Пію II, што Ягайла прывёў да каталіцкай веры не толькі летувісаў, але і значную частку русінаў, менавіта ў тых месцах, дзе апошнія жылі сярод летувісаў, або па суседству, у аддаленні ад праваслаўных парафій[15].

Можна ўпэўнена сцвярджаць, што ўжо ад 15 ст. мела месца тэндэнцыя да пераходу праваслаўных феадалаў рознага этнічнага паходжання (часта і іх сялян) у каталіцызм, па прычыне прывілеяванага становішча каталікоў у дзяржаве. Тэндэнцыя гэтая ўзмацнілася асабліва пасля Люблінскай уніі і пазней у часы контррэфармацыі. Адпаведныя прыклады з другой паловы 15 і пачатку 16 ст. прыводзіць Ахманьскі. У 1476 г. князь Аляксандр Гальшанскі надае касцёлу ў Лебедзеве (каля Маладзечна) уладанні і сялян, з якіх усе (14) маюць „рускія” імёны. Ахманьскі даказвае пры гэтым, што князь Гальшанскі (частка роду была праваслаўнай, частка – каталіцкай) фундуе касцёл з мэтай перахрышчэння праваслаўных у каталіцтва. Яшчэ прыклад. Гаспадарскі пісар Іван (Івашка) Сапега перайшоў з праваслаўя ў каталіцызм і ў 1501 г. атрымаў дазвол на фундацыю касцёла ў Іказні, каб у ім службу адпраўляў ксёндз паводле каталіцкага абраду для вернікаў, якімі будуць „tam Latini, quam Rutheni”[16].

Ніхто з даследчыкаў яшчэ не даказаў, што такія выпадкі былі выключэннем у краіне, дзе праваслаўны феадал, перайшоўшы ў „лацінскую веру”, аўтаматычна атрымліваў дадатковыя і даволі значныя правы і магчымасці для кар’е-

15 Fijałek J. Uchrześcijanienie Litwy przez Polskę i zachowanie w niej języka ludu. Kraków, 1914. S. 6, 13.
16 Ochmański J. Litewska granica etniczna. S. 38, 43.

ры. Асабліва рэальнымі такія магчымасці былі менавіта на Панямонні – галоўнай вобласці дзяржавы. Да Люблінскай уніі, калі пашыраецца паланізацыя шляхты ВКЛ, феадалы як каталіцкага, так і праваслаўнага веравызнання ва ўмовах дамінавання ўсходнеславянскай культуры стваралі даволі аднародную этнічна-культурную масу. З усяго вышэйсказанага напрошваецца выснова, што канфесійная прыналежнасць як крытэрый этнічнай ідэнтыфікацыі насельніцтва Верхняга і Сярэдняга Панямоння ў часы сярэднявечча выглядае, па меншай меры, сумніўна і патрабуе значнай карэкцыі.

Пэўную папраўку дазваляе ўнесці інфармацыя аб т.зв. старакаталіцкім насельніцтве, якое пражывае ў парафіях, заснаваных між 14 і канцом 16 ст. (прыняцце Брэсцкай царкоўнай уніі). Акрэсленая паводле гэтай папраўкі мяжа перавагі т.зв. старакаталіцкага насельніцтва можа быць прынята да ўвагі па той прычыне, што яна ў агульных рысах згаджаецца з мяжой, вызначанай на аснове даных тапанімікі. Гаворка ідзе аб т.зв. „лініі Сафарэвіча". Мовазнаўца Ян Сафарэвіч правёў яе на аснове картаграфавання перавагі айконімаў з суфіксам **-ішкі.** Устанавіўшы, што ў раёнах з летувіскім насельніцтвам колькасць такіх айконімаў складае ад 12 да 15%, даследчык акрэсліў паўднёва-ўсходнюю мяжу мясцовасцей, дзе такія назвы складаюць не менш як 4%. Прызнаўшы атрыманы вынік за мяжу ў „старэйшай фазе рассялення летувіскага насельніцтва", даследчык адзначыў яе яўнае супадзенне з мяжой між раёнамі з перавагай каталіцкага або праваслаўнага насельніцтва[17]. Працу Сафарэвіча дапоўніў Гаўчас, скарыстаўшы яшчэ айконімы з другімі летувіскімі суфіксамі, каранямі і канчаткамі.

Значнае супадзенне мяжы, акрэсленай па двух розных крытэрыях, нельга назваць выпадковым. Лінія Сафарэвіча,



17 Safarewicz J. Studia językoznawcze. Warszawa, 1967. S. 257-259.

па ўсёй верагоднасці, з'яўляецца вехай, якая зафіксавала нейкі этапны момант эвалюцыі этнічнай сітуацыі Панямоння. Паколькі яна ў асноўных рысах супадае з мяжой перавагі каталіцкага (старакаталіцкага – Грынблат) насельніцтва, то, ведаючы дату хрышчэння летувісаў (1387 г.), даследчыкі прызнаюць названую мяжу адпаведнай сітуацыі канца 14 ст. і больш ранейшых часоў. Блізкі да лініі Сафарэвіча кірунак мае этнічная балта-славянская мяжа 12-13 ст., прапанаваная Лаўмяньскім.

Варта адзначыць таксама значнае супадзенне яе з мяжой распаўсюджвання айконімаў, звязаных з яцвягамі (беларуская назва Ятвезь і яе летувіскі адпаведнік – Dajnava)[18]. Такія цяжкія для тлумачэння супадзенні сведчаць аб заблытанасці і складанасці сярэднявечнай этнічнай сітуацыі на Панямонні.

Для акрэслення мяжы на больш раннія часы выкарыстоўвалася размяшчэнне айконімаў Крывічы, Русакі, Рубяжэвічы. У аснове гэтага метаду ляжыць дапушчэнне, што Крывічы – перыферыйная назва ўсходнеславянскага арэала ў племянную эпоху, а Русакі – у часы Кіеўскай Русі. Апошнія, адпаведна, прынятыя за больш познія. Правёўшы мяжу паводле гэтага крытэрыю, Ахманьскі датаваў яе 7-8 ст. Надзейнасць падобнага метаду праверыць вельмі складана. Методыка Ахманьскага не дазваляе пазбавіцца некалькіх спрэчных момантаў. Напрыклад, чаму не выдзяляюцца айконімы, звязаныя з дрыгавічамі? Можа балты ў канцы 1 – пачатку 2 тыс. усіх усходніх славян называлі крывічамі (як славяне называлі ўсіх аўкштайтаў літоўцамі)? Як датаваць айконім Рубяжэвічы? Можа назва Русакі больш позняга паходжання і звязана з пазнейшымі (14-18 ст.) межамі гістарычных раёнаў ВКЛ: Русі, Літвы і Палесся? Такая сувязь

18 Непокупный А. П. Лингвогеографические связи литовских и белорусских форм названий г. Дятлово и его окрестностей // Балто-славянские исследования. Москва, 1974. С. 144-154; ён жа, Балто-северославянские языковые связи. Киев, 1976. С. 106-108.

выглядае даволі праўдападобнай у выпадку з этнонімам Літва, бо яшчэ ў 20 ст. палешукі называлі беларусаў на поўнач ад Пружан ліцвінамі.

Даследчыкі праводзяць свае лінеарныя межы, агаворваючы, або разумеючы апрыёры іх значную ўмоўнасць. Лінія Сафарэвіча – то мяжа адноснай **перавагі** назваў на -ішкі. Мяжа па канфесійнаму крытэрыю паказвае **перавагу** аднай канфесіі над другой. Акрэсленне прыблізнай мяжы паводле верагодных крытэрыяў яшчэ не дае магчымасці гэтую мяжу датаваць. Можна казаць толькі аб адноснай храналогіі, якая адлюстроўвае ўстойлівую і нязменную тэндэнцыю да перамяшчэння мяжы (кантактнай зоны) у кірунку на поўнач і паўночны захад, гэта значыць з тэрыторыі славянскай на балцкую.

Урэшце патрэбна прызнаць, што акрэсленне нават прыблізнай лінеарнай мяжы выглядае справай надзвычай складанай (калі не безнадзейнай) па дзвюх прычынах: па-першае, славянскі рух адбываўся пастаянна, па-другое, лінеарнай мяжы фактычна не існавала; між двума этнасамі мелася шырокая рухомая паласа – зона змешанага балта-славянскага насельніцтва.

Гэтыя акалічнасці мелі значны ўплыў на распрацоўкі Генрыка Лаўмяньскага, праведзеныя яшчэ ў 30-х гадах і пацверджаныя даследчыкам у 60-я гады. Лаўмяньскі прапанаваў разглядаць мяжу ў „двух аспектах": палітычным і этнічным. Палітычную мяжу даследчык лічыў з'явай надзвычай стабільнай (ад 7 да 19 ст. – ад племяннога ладу да межаў паветаў, а потым губерняў) і акрэсліваў яе кірунак на 12-13 ст. па гарадах: Гародня – Ваўкавыск – Слонім – Наваградак – Мінск – Заслаўе – Лагойск. Аднак, на думку гісторыка, дрыгавіцкае і крывіцкае насельніцтва вельмі рана пранікла на балцкую тэрыторыю і стварыла там свае энклавы, меўшыя тэндэнцыю да расшырэння

і асіміляцыі мясцовага насельніцтва. Тым не менш гэтая **паграчічная палаcа** („pasmo tego pogranicza”) заставалася ў складзе летувіскай племяннай арганізацыі. Згадзіўшыся ў асноўных рысах з такой характарыстыкай кантактнай зоны, дадам, што па сведчанню археалогіі і на тэрыторыі пералічаных вышэй усходнеславянскіх гарадоў-дзяржаў побач са славянамі жылі таксама і балты.

Мяжу „суцэльнага” балцкага насельніцтва Лаўмяньскі прапаноўвае прыблізна па пунктах (пакідаючы іх на балцкім баку): Мерач – Эйшышкі – Ашмяны – упоперак возера Свір – на поўнач да верхняй Дзісны[19]. Палітычную мяжу Лаўмяньскага ўдакладняў Ахманьскі. Ён заўважыў, што крывічы перайшлі Нёман каля Беліцы і крывіцка-летувіская мяжа праходзіла каля Ваўкавыска па рацэ Зэльвянцы[20]. Аднак у гэтай удакладненай мяжы на 12-13 ст. (гэтаксама як і ў лініі Лаўмяньскага) ёсць адзін сур’ёзны „прарыў”, менавіта – у кірунку на Вільню. Але аб гэтым трохі пазней.

Аб існаванні вялікай кантактнай зоны са змешаным балта-славянскім насельніцтвам на Панямонні сведчаць археолагі і лінгвісты[21]. Для вывучэння гэтай праблемы аўтар выкарыстаў вынікі археалагічных даследаванняў за апошнія 30 гадоў[22]. На карту Панямоння былі нанесены археалагічныя помнікі другой паловы 1 і першых стагоддзяў 2 тыс. н.э., этнічную прыналежнасць якіх, балцкую ці славянскую, даследчыкам удалося акрэсліць[23].

На карце відаць, што славянскія і балцкія помнікі размешчаны ўперамешку больш-менш шчыльнымі „плямамі”.

19 Łowmiański H. Początki Polski. Warszawa, 1967. T. 3. S. 81-82.
20 Ochmański J. Litewska granica... S. 32.
21 Зверуго Я. Г. Верхнее Понеманье... С. 15; Tyszkiewicz J. Proces sławizacji ziem dorzecza Niemna w 6-11 ww. // Przegląd Historyczny. 1973. T. 64. S. 20 (mapa 2); Климчук Ф. Д. К истории распространения белорусских говоров в юго-восточной Литве // Балто-славянские исследования. 1980. Москва, 1981. С. 214.
22 Краўцэвіч А. Да праблемы ўтварэння Вялікага Княства Літоўскага // Białoruskie Zeszyty Historyczne. Białystok, 1996. № 1 (5). S. 5-22.
23 Там жа, карта 1, 2 і дадатак; На картах амаль адсутнічаюць даныя з летувіскай тэрыторыі, паколькі летувіскія археолагі, як правіла, не акцэнтуюць увагі на этнічнай інтэрпрэтацыі археалагічных помнікаў.

На поўначы, бліжэй да балцкага масіву больш скупленыя балцкія, на поўдні адпаведна – славянскія помнікі. Усе гарады – усходнеславянскія, а вясковая ваколіца – як балцкая так і славянская. Славянскія помнікі маюць тэндэнцыю да размяшчэння ўздоўж рэк, балцкія – у міжрэччах. Асобны від помнікаў складаюць т.зв. каменныя магілы. Адны даследчыкі лічаць іх балцкімі, дакладней, яцвяжскімі[24], іншыя - помнікамі „старажытнарускага насельніцтва Чорнай Русі, насельніцтва, якое склалася ў выніку цеснага ўзаемадзеяння яцвягаў са славянамі"[25]. Больш дакладнае раздзяленне энклаваў балцкага або славянскага насельніцтва ў кантактнай зоне – справа вельмі складаная, яна патрабуе суцэльнага археалагічнага абследавання тэрыторыі зоны.

Такім чынам, можам вывесці, што ў 11-14 ст. у басейне Сярэдняга Нёмана лінеарнай этнічнай мяжы паміж балтамі і славянамі не было. Адпаведным рэальнаму стану рэчаў будзе казаць аб **кантактнай зоне**, ці паласе шырынёй каля сотні (у кірунку Вільні – больш) кіламетраў. Прапанаваныя даследчыкамі лінеарныя межы характарызуюцца вялікай ступенню ўмоўнасці і прыблізнасці. Яны з большай ці меншай дакладнасцю адлюстроўваюць толькі тэндэнцыю да перавагі на пэўных храналагічных этапах працэсу аднаго этнічнага элемента над другім у межах кантактнай зоны між двума этнічнымі масівамі. У кантактнай зоне балты і славяне жылі ўперамешку, больш-меньш кампактнымі „плямамі"[26]. Гарады ў гэтай зоне: Гародня, Наваградак, Ваўкавыск, Слонім, Здзітаў, Астрэя, Вевярэск, Вільня былі ўсходнеславянскімі, але абслугоўвалі ўсю балта-славян-

24 Квятковская А. В. Каменные могильники Беларуси 11-17 вв. Дыс. ... канд. гіст. навук. Мн., 1994.

25 Седов В. В. Литовские племена // Финно-угры и балты в эпоху средневековья. Москва, 1987. С. 417.

26 Краўцэвіч А. Да праблемы ўтварэння Вялікага Княства Літоўскага. С. 10. Акрэсленая ў гэтай публікацыі зона кантактаў занадта ўмоўная, тут яна ўдакладнена.

скую ваколіцу. Доўгатэрміновае суіснаванне прыводзіла да паступовай асіміляцыі балцкага насельніцтва славянскім, якое ў сваю чаргу пераймала ад тубыльцаў многія элементы матэрыяльнай і духоўнай культуры. Працэс узаемадзеяння добра відаць на характары матэрыяльнай культуры. Росквіт панямонскіх гарадоў у 12-13 ст. (багацце іх матэрыяльнай культуры ўразіла нават спецыялістаў-археолагаў) выклікана, на мой погляд, гэтым балта-славянскім супрацоўніцтвам.

І пасля 14 ст. эвалюцыя балта-славянскай кантактнай зоны працягвалася, захоўваючы свой характар і кірунак на паўночны захад. Вось выснова мовазнаўцы: „На працягу шэрагу стагоддзяў да самага пачатку 20 ст., а месцамі і пазней, адбывалася паступовае перамяшчэнне гэтай кантактнай зоны ў паўночна-заходнім кірунку. Па-першае, у прылеглых да яе раёнах летувіскае насельніцтва засвойвала беларускую мову і станавілася двухмоўным. Па-другое, у многіх месцах гэтай зоны летувіская мова паступова саступала свае пазіцыі беларускай”[27].

Можна заўважыць, што з канца 10 да пачатку 20 ст. эвалюцыя названай зоны адбывалася ў прасторы між Менскам і Вільняй. Мяжой гэтай тэрыторыі з усходнеславянскага боку быў у агульных рысах водападзел між Дняпром і Нёманам[28]. Паўночна-заходняй (балцкай) граніцай стала беларуска-летувіская моўна-этнічная мяжа пачатку – сярэдзіны 20 ст. Тэрыторыя, акрэсленая гэтымі межамі, з'яўляецца геаграфічнай прасторай працэсу балта-славянскага ўзаемадзеяння ў 2 тыс. н.э. Яна ж стала месцам нараджэння ВКЛ, ядром і цэнтральнай вобласцю гэтай дзяржавы. У 13 ст. за гэтай тэрыторыяй замацавалася назва „Літва”, якую яна ўтрымлівала да пачатку 20 ст.

27 Климчук Ф. Д. К истории распространения белорусских говоров... С. 214.

28 З лініяй водападзелу між Дняпром і Нёманам супадае таксама мяжа харонiма „Літва” 13-19 ст. і, урэшце, мяжа этнаграфічнай зоны беларусаў „Панямонне”.

Сёння этнографы выдзяляюць яе ў асобны гісторыка-этнаграфічны рэгіён (Панямонне)[29].

Другая буйная фаза балта-славянскага ўзаемадзеяння (15 – пачатак 20 ст.) праходзіла галоўным чынам на поўнач ад лініі Сафарэвіча. Мовазнаўца Лешэк Беднарчук зазначае: „чарговы этна-лінгва-культурны рубеж (назвы на **-ішкі**, прагістарычнае балцкае насельніцтва, перавага каталіцызму) усходнія славяне перакрочылі толькі ў часы гістарычныя, ахапіўшы ўрэшце ў 19 ст. амаль усю Віленшчыну"[30]. Дзея адбывалася ўжо ў полі зроку т.зв. пісьмовай гісторыі, што дало магчымасць лепш яе вывучыць. Асабліва гэта тычыцца 19 – пачатку 20 ст., калі далучаюцца „жывыя" этнаграфічныя матэрыялы, здабытыя непасрэдна на месцы дзеяння.

Асноўны характар працэсу заставаўся нязменным – славізацыя (беларусізацыя) тэрыторый, заселеных летувісамі (на якую пазней накладваецца паланізацыя і русіфікацыя). Можна казаць толькі аб змене формаў працэсу. Як выдаецца, лінія Сафарэвіча адлюстравала тэндэнцыю да запавольвання (ці перапынення на нейкі час) развіцця ўсходнеславянскай прысутнасці на Панямонні шляхам каланізацыйнага руху. Аднак запавольванне каланізацыйнай плыні ўсходнеславянскага насельніцтва не азначала спынення славянізацыі (беларусізацыі) рэгіёна на поўнач ад лініі Сафарэвіча.

Сваё тлумачэнне этнічных змен у Летуве, на якое і сёння спасылаюцца некаторыя даследчыкі, выказаў яшчэ ў першай палове 19 ст. Міхал Баліньскі. Вядомы краязнаўца вывеў, што беларускае насельніцтва прыйшло на этнічна летувіскія землі ў другой палове 17 ст., пасля „патопу" – вядомых войнаў, якія разам са стыхійнымі бедствамі

29 Цітоў В. С. Народная спадчына: Матэрыяльная культура ў лакальна-тыпалагічнай разнастайнасці. Мн., 1994. С. 251-279.

30 Bednarczuk L. Wokół etnogenezy Białorusinów // Acta Baltico-Slavica. 1984. T. 16. S. 46.

вынішчылі значную частку насельніцтва Летувы[31]. Выснова гэтая гучыць не вельмі пераканаўча хаця б па той прычыне, што тыя самыя войны і эпідэміі пагубілі не менш людзей і ў беларускай частцы ВКЛ. Пісьмовыя крыніцы не даюць падстаў сцвярджаць аб якім-небудзь значным міграцыйным руху ў гэтыя часы беларусаў (ці, напрыклад, палякаў) на абсяг летувіскага арэала.

Відавочна, узмацненне славянскай (беларускай) прысутнасці на Віленшчыне ў гэты час адбывалася на аснове ўжо наяўнага тут у 15 ст. усходнеславянскага насельніцтва і не ў апошнюю чаргу дзякуючы дамінаванню ў ВКЛ старабеларускай мовы і культуры. Беларускія энклавы, прасунутыя шырокім клінам уздоўж рэчышча Віліі, паступова пашыраліся (галоўным чынам праз асіміляцыю навакольнага балцкага насельніцтва), утварыўшы да пачатку 20 ст. суцэльны беларускамоўны абшар з летувіскімі астравамі ў аддаленні ад асноўных рэк і дарог. Урэшце на пачатку 20 ст. Аляксандр Брукнер канстатаваў: „сёння ў Віленскай губерні ў даўняй Аўкштоце агромністую перавагу маюць беларусы, летувісы складаюць там толькі дваццаць працэнтаў, а „гудаў" там амаль у тры разы болей"[32].

Аб раннім усходнеславянскім рассяленні на поўнач ад лініі Сафарэвіча ёсць сведчанні як археалагічныя – для 12-13 ст. так і пісьмовыя – ад 80-х гадоў 14 ст. Гэта датычыць у першую чаргу Вільні і яе ваколіц. Археалагічныя раскопкі на Верхнім віленскім замку (дзядзінцы) прывялі іх аўтараў Алену і Уладзіміра Галубовічаў да высновы, што тут на месцы балцкага паселішча (1 тыс. н.э.) пасля перапынку, магчыма ў некалькі стагоддзяў, з'явілася іншае паселішча – славянскае. Над культурным пластом першага паселішча (слой VI) у верхняй частцы слою V і ў слоі Vd даследчыкі

31 Baliński M., Lipiński T. Starożytna Polska pod względem historycznym, geograficznym i statystycznym. Warszawa, 1846. T. 3. S. 122.
32 Brückner A. Polacy a Litwini. Język i literatura // Polska i Litwa w dziejowym stosunku. Warszawa – Lublin – Łódź – Kraków, 1914. S. 362-363.

зафіксавалі амаль выключна кераміку, характэрную для славянскіх магільнікаў 11-13 ст.[33]

„Сляды новага паселішча, зусім іншага характару, чым першае, з'яўляюцца большай часткай у пачатку феадальнай эпохі і характарызуюцца інвентаром, тыповым для старажытнарускіх гарадзішчаў. Калі ўзнікла новае паселішча, дакладна сказаць немагчыма"[34].

Вільня 14 ст., дзякуючы свайму сталічнаму статусу, неаднаразова выступае ў тагачасных пісьмовых крыніцах. З Хронікі Віганда з Марбурга вядома аб існаванні тут у 1383 г. „civitas Rutenica"[35] (рускі горад). На рэканструкцыі тапаграфіі Вільні канца 14 ст. Ежы Ахманьскі паказвае ў два разы больш праваслаўных цэркваў (12), чым касцёлаў[36]. Можна меркаваць, што ў сталіцы ВКЛ у 15-16 ст. не толькі ў „рускім горадзе", але па ўсіх яго пасадах, у тым ліку і „ляцкім" (каталіцкім) канцы, дамінавала „руская" мова.

Па ўсёй верагоднасці, гэты горад быў заснаваны ўсходнімі славянамі, як і ўсе астатнія гарады ў рэгіёне: Гародня, Навагрудак і інш. Адрозненне толькі ў тым, што ён размяшчаўся на ўчастку крывіцкай каланізацыі. Характэрна таксама гідранімічная аналогія з беларускімі гарадамі – на месцы заснавання горада ў раку Вілію (па-летувіску – Нярыс) упадае рэчка назовам Вільня, гэтаксама як Палота ў Полацку, Гараднічанка ў Гародні, Случ у Слуцку, Менка ў Мінску і г.д.

У прывілеі 1387 г., якой вялікі князь Ягайла надаваў свайму брату Скіргайле шэраг зямельных уладанняў, ёсць цікавыя звесткі аб этнічным вобліку мясцовасцей у ваколіцах Вільні і ў Троцкім княстве, якое Ян Якубоўскі і Лаўмяньскі бачылі як этнічна балцкую тэрыторыю. Пералічаныя ў дакуменце імёны баяраў і назвы вёсак, размешчаных паблізу Вільні

33 Голубовичи В. и Е. Кривой город Вильно // Краткие сообщения Института истории материальной культуры АН СССР. Москва, 1945. Вып. 11. С. 124.
34 Там жа. С. 125.
35 Scriptores rerum Prussikarum. Leipzig, 1863. Bd. 2. S. 623.
36 Ochmański J. Historia Litwy. S. 62 (mapa).

і Трокаў (на поўдзень і паўднёвы ўсход), носяць выразны ўсходнеславянскі характар: „в Солчніцах і ў той воласці, тое сяло Іванава, што Андрэй дзяржаў Барысавіч" (Салечнікі – каля 40 км ад Вільні), „на Вацэ сяло, што Барыс дзяржаў" (10-20 км ад Вільні). Сёлы „Лебядзеўскай воласткі" ў ваколіцы Крэва (каля 90 км ад Вільні) таксама маюць выразна русінскія назвы: „Дзьмітрыева сяло", „Груздовіца", „Анцыпарава сяло і Скалубіна і Тургенева сяло"[37].

Аб моўна-этнічнай сітуацыі ў Літве 15-16 ст. ёсць сведчанні сучаснікаў. У 1403 г. кіраўніцтва Тэўтонскага ордэна заяўляла, што на час прыняцця каталіцтва ў 1387 г. сярод летувіскага баярства была такая вялікая перавага рускай мовы, веры і звычаяў, што на аднаго літоўца-язычніка прыпадала можа сотня літоўцаў-русінаў. Нават з папраўкай на неаб'ектыўнасць гэтае сведчанне заслугоўвае ўвагі, асабліва ў святле іншых падобных паведамленняў[38]. Ян Длугаш пісаў, што літоўцы жывуць разам і ўперамешку з русінамі (gentis quoque Ruthenicae convictus et commixtio) і ў выніку кантактаў з імі страцілі шмат сваіх першасных рыс характару. У 1501 г. сакратар вялікага князя і каталіцкі святар Эразм Вітэліус (Цёлак) у прамове да папы рымскага Аляксандра VI засведчыў, што „літоўцы, стаўшы каталікамі, не страцілі ўласнай мовы (linquam propriam observant), але часцей ужываюць мову рускую, г.зн. беларускую, паколькі яна прыгажэйшая і лягчэйшая, а русінаў (г.зн. беларусаў, а не расіянаў-маскалёў) у Вялікім княстве Літоўскім амаль палова; да чужынцаў адносяцца з уласцівай ім прыроднай ветлівасцю і зычлівасцю"[39] (пераклад і каментары Яна Фіялка – А. К.). Заслугоўвае даверу таксама сведчанне Ераніма Пражскага, які быў каталіцкім місіянерам у Літве ў часы гаспадарання вялікага князя Вітаўта. Па яго

37 Jakubowski J. Opis Księstwa Trockiego z 1387 r. // Przegląd Historyczny. 1907. T. 5. Z. 1. S. 45.
38 Гл.: Урбан П. Пра нацыянальны характар Вялікага Княства Літоўскага й гістарычны тэрмін „Літва" // Запісы. Мюнхэн, 1964. Кн. 3. С. 35-89.
39 Fijałek J. Uchrześcijanienie Litwy... S. 17, 12-13.

справаздачы, мова народа Літвы прызнана славянскай, а літоўцы залічаны да славян[40].

Прынята ад самага пачатку ўсходнеславянскай мадэлі арганізацыі дзяржавы прывяло да дамінавання ў гістарычнай Літве ўсходнеславянскай (беларускай) культуры, хоць мяркуецца таксама аб ужыванні ў дзяржаўным жыцці літоўскай (летувіскай) мовы[41]. Даследчыкі звярнулі ўвагу на значнае супадзенне этнічнай мяжы беларусаў з дзяржаўнай мяжой ВКЛ[42]. Дзяржаўны статус старабеларускай мовы спрыяў беларусізацыі мясцовых балтаў. Мовазнавец Соф'я Кужова лічыць, што „ў летувіскай дзяржаве запанавала русінская мова, прычым не толькі як дзяржаўная і афіцыйная мова (як, напрыклад, латынь у сярэднявечнай Польшчы), але як мова хатняя і сямейная ў колах магнацкіх, а потым баярскіх"[43]. Да другой паловы 16 ст. працэс беларусізацыі ахопліваў усе сацыяльныя слаі балцкай часткі Літвы, ад сялян да вялікіх князёў. Цікава, што гэты працэс, галоўным чынам сярод сялянства, працягваўся і пасля страты беларускай культурай дамінуючай ролі ў выніку паланізацыі і русіфікацыі.

### Характар міжэтнічных узаемаадносін

Важнейшае значэнне як для характарыстыкі самога працэсу кантактаў, так і для аналізу генезісу ВКЛ мае высвятленне характару ўзаемаадносін прышэльцаў з тубыльцамі, менавіта, **варожымі яны былі ці мірнымі**? Ад адказу ў значнай ступені залежыць сутнасная ацэнка нашай галоўнай праблемы – генезісу ВКЛ.

Для сучасных археолагаў і лінгвістаў, якія займаліся вывучэннем працэсу балта-славянскіх кантактаў, адказ

40 Там жа. S. 50-52.
41 Jablonskis K. Lietuvių kultūra ir jos veikėjai. Vilnius, 1975. P. 36-46; Zinkevičius Z. Lietuvių antroponimika // Vilnius lietuvių asmenvardžiai XVII a. pradžioje. Vilnius, 1977. P. 24-33.
42 Седов В. В. Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья. С. 181; Bednarczuk L. Wokół etnogenezy Białorusinów. S. 47.
43 Kurzowa Z. O mowie Polaków na kresach wschodnich. Kraków, 1993. S. 17.

настолькі відавочны, што яны звычайна не канцэнтруюць на ім увагу. Калі ўсё-такі выказваюцца на гэтую тэму, то сцвярджаюць **мірны характар балта-славянскіх адносін**. Вось характэрнае выказванне археолага аб этнічнай сітуацыі ў Верхнім Панямонні ў 10-13 ст.: „Прыйшоўшыя сюды, славянскія плямёны знаходзіліся ў цесным кантакце з жыўшымі тут, відавочна, невялікімі групамі, балцкімі плямёнамі, узаемна ўзбагачаючы сваю матэрыяльную і духоўную культуру”[44].

Іншая справа гісторыкі, якія займаліся генезісам ВКЛ і звярталіся да працэсу балта-славянскіх кантактаў у пошуках даных для сваёй тэматыкі. Гэтыя экскурсы, як правіла, адзначаны выразным уплывам традыцыйнай канцэпцыі ўтварэння ВКЛ. Аналіз працэсу міжэтнічнага ўзаемадзеяння адбываўся шляхам пераносу на яго схем, уласцівых гэтай канцэпцыі. Так здарылася з акрэсленнем узаемаадносін між прышэльцамі-славянамі і тубыльцамі-балтамі. Фармаванне навукі аб генезісе ВКЛ адбывалася ў час бурнага развіцця нацыянальных рухаў і барацьбы за ўтварэнне нацыянальных дзяржаў. Дух свайго часу – атмасферу за сцвярджэнне ўласнай нацыянальнай годнасці – гісторыкі міжволі пераносілі на сярэднявечча і шукалі ў пачатках ВКЛ „барацьбы двух народных пачаткаў” (акрэсленне Уладзіміра Антановіча).

Імператыў ідэі міжэтнічнай барацьбы задаў накірунак развіцця ўсёй гістарыяграфіі ВКЛ. Гісторыкі падступалі да вывучэння генезісу ВКЛ з загадзя падрыхтаванай канцэптуальнай схемай, якая прадугледжвала абавязковы міжэтнічны канфлікт. Традыцыйная канцэпцыя генезісу ВКЛ грунтавалася на тэзе аб заваёве балтамі суседніх усходнеславянскіх земляў. Відавочна, па гэтай прычыне тэза аб балта-славянскай канфрантацыі стала лічыцца

44 Павлова К. В. Население Верхнего Понеманья по материалам курганных могильников окрестностей Новогрудка // Древнерусское государство и славяне. Мн., 1983. С. 47.

адпаведнай і для працэсу міжэтнічных кантактаў. У сваю чаргу пастулат аб адвечнай балта-славянскай варожасці стаў адным з галоўных блокаў у падмурку т.зв. балцкай канцэпцыі генезісу ВКЛ. Атрымалася замкнутае кола.

Гісторыя канфрантацыі падаецца наступным чынам: спачатку ўсходнія славяне перамагалі і цяснілі балтаў, потым па меры раздраблення і аслаблення Русі балты ў сваю чаргу перайшлі ў наступ. Пастулова балцкая экспансія з ваенна-рабаўнічай перарастае ў тэрытарыяльна-захопніцкую. Апошняя развівалася паралельна з фармаваннем балцкай (летувіскай) дзяржавы (польская версія) ці, узмацніўшыся ў выніку паўстання названай дзяржавы, прывяла да пераўтварэння яе ў ВКЛ (савецка-летувіскі варыянт канцэпцыі).

Найбольш характэрна такі падыход праявіўся ў працы Ахманьскага, прысвечанай балта-славянскай мяжы да 16 ст. Лейтматывам у адносінах між балтамі і ўсходнімі славянамі на працягу больш чым паўтысячагоддзя (7-13 ст.), паводле гэтага аўтара, з'яўлялася непарыўная канфрантацыя, а менавіта „змаганне за тэрыторыі". На думку даследчыка, гэта была не проста варожасць, а ўзброеная барацьба. На першым яе этапе – 7-9 ст. адбылося сутыкненне літоўцаў і крывічоў. Адносіны між імі ў 10-12 ст. характарызуюцца палітычнай перавагай Полацка. На трэцім этапе – другая палова 12 – сярэдзіна 13 ст. адбыўся „трыумф Летувы". „Паўстаўшая каля сярэдзіны 13 ст. летувіская дзяржава аб'яднала пад сваёй уладай усе этнічныя летувіскія землі і заняла таксама тэрыторыі, прылеглыя да карэннай Летувы і заселеныя русінамі. Летува вярталася ў свае старыя этнічныя межы з-пад рускай экспансіі"[45].

Вядома, што ў 12 ст. балцкія плямёны, акрэсленыя ў летапісах назвай „Літва", уступілі ў стадыю познеродавага грамадства – перыяд т.зв. ваеннай дэмакратыі, калі вайна



45 Ochmański J. Litewska granica... S. 24.

„вядзецца цяпер толькі дзеля рабаўніцтва, становіцца пастаянным промыслам"[46]. Пісьмовыя крыніцы (усходнеславянскія летапісы, польскія і нямецкія хронікі) зафіксавалі дзесяткі рабаўнічых паходаў літоўцаў амаль ва ўсіх кірунках: на польскія, галіцка-валынскія, чарнігаўскія, смаленскія, ноўгарадскія, пскоўскія землі, на Лівонію і землі эстаў. У той жа час да Аўкштоты і Жамойці амаль з усіх бакоў (з захаду, поўдня, усходу) прылягалі „мірныя" тэрыторыі. Яны складаліся як з балцкіх (Яцвягія, Прусія), так і бліжэйшых усходнеславянскіх земляў: Наваградчына, Гарадзеншчына, Полацкая і Турава-Пінская землі. Сярод шматлікіх апісанняў літоўскіх бясчынстваў, даследчыкам не ўдалося знайсці прамога ці вартага даверу ўскоснага сведчання аб нападзе летапісных літоўцаў на Навагрудак, Гародню, Ваўкавыск, Мінск, Полацк ці іншыя гарады будучай Беларусі. І, наадварот, маюцца прамыя сведчанні крыніц аб полацка-літоўскім, пінска-літоўскім, наваградска-літоўскім супрацоўніцтве. Апошняй акалічнасці даследчыкі або не прыдавалі значэння або ў азарце дыскусіі не заўважалі. Між тым яна ставіць пад сумненне саму аксіёму балта-славянскай канфрантацыі.

Канфрантацыйная версія прадугледжвае перарастанне рабаўнічых нападаў у тэрытарыяльныя захопы. Зноў жа гісторыкі не могуць прадставіць сведчанні такіх захопаў. Усе вядомыя выпадкі прыходу літоўскіх кунігасаў на княжанне ва ўсходнеславянскія гарады ў 13 ст. адбыліся праз запрашэнне.

Пскоўскі летапіс у паведамленні пра выгнанне з Пскова ў 1213 г. князя Уладзіміра Тарапецкага называе яго „літоўскім князем"[47]. Відавочна, гэты князь меў літоўскае паходжанне, быў прыняты ў Пскоў і хрышчаны ў праваслаўе.

46 Энгельс Ф. Происхождение сем ьи, частной собственности и государства // Маркс К., Энгельс Ф. Избр. соч.: В 9 т. Москва, 1987. Т. 6. С. 230.
47 Псковские летописи (под ред. А. Н. Насонова). Москва, 1955. Вып. 2. С. 77.

У 1248 г. папа піша ліст да „новаахрышчанага” князя Полацка (выказвалася думка, што адрасатам папы быў Таўцівіл[48]). „Новаахрышчаны” стан князя ўсходнеславянскага горада з'яўляецца доказам яго паганскага (балцкага) паходжання і адначасова сведчаннем мірнага прыходу на полацкі стол. Дэталёва апісана ў летапісах з'яўленне ў Пскове князя Даўмонта ў 1265 г.[49] У гэтым выпадку ніяк не выпадае казаць, што, уцёкшы ад помсты Вайшэлка выгнанец збройнай сілай прымусіў пскавічоў выклікнуць сябе князем. Для Пскова, як і для Полацка і іншых усходнеславянскіх гарадоў, не так важна было этнічнае паходжанне служылага князя, як яго ваенныя здольнасці ды вернасць дзяржаве. Даўмонт са сваім статусам выгнанца наўрад ці мог спадзявацца на лепшую кар'еру дзе-небудзь у іншым месцы. Не дзіўна, што гэты здольны вайсковы кіраўнік старанна даводзіў вернасць сваёй новай радзіме і найперш у баях са сваімі былымі этнічна блізкімі суайчыннікамі.

Ужо ўпаміналася, што мірны характар працэсу балта-славянскага ўзаемадзеяння (у тым ліку і яго панямонскай фазы) не выклікае сумненняў у большасці даследчыкаў[50]. Відавочна, маглі мець месца канфлікты прышэльцаў з тубыльцамі, асабліва на ранняй стадыі кантактаў, але асновай балта-славянскага ўзаемадзеяння было мірнае супрацоўніцтва. Аб гэтым яскрава сведчыць сам факт наяўнасці вялікай кантактнай зоны. Характару працэсу на Панямонні цалкам адпавядае вызначэнне лінгвістаў

48 Taube M. Russische uhd litauische Fürsten an der Düna zur Zeit Eroberung Livlands. (12. und 13. Jahrhundert) // Jahrbücher für Kultur und Geschichte der Slaven. N. F.. 1935, Band. 11. Heft ¾. S. 405-406.

49 Охотникова В. И. Повесть о Довмонте (исследования и тексты). Ленинград, 1985.

50 Зверуго Я. Г. Верхнее Понеманье ... С. 15; Седов В. В. Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья. С. 192; ён жа, Литовские племена. С. 417; Tyszkiewicz J. Proces slawizacji ziem dorzecza Niemna ... S. 6, 16-18, 20 (mapa 2); Катонова Е. М. Данные гидронимии о балто-славянских контактах на севере Белоруссии // Материалы. Этнолингвистические балто-славянские контакты в настоящем и прошлом. Москва, 1978. С. 85; Штыхаў Г. В. Крывічы. С. 95, 106.

Тапарова і Трубачова для Верхняга Падняпроўя: „Відавочна, славянскі рух адбываўся як натуральнае паступовае пранікненне з асіміляцыяй балтыйскага элемента ў розны час і ў розных частках гэтай тэрыторы”[51].

Вынікам супрацоўніцтва стала перамешванне прышлых славян з мясцовымі балтамі і ўтварэнне новай этнічнай агульнасці – беларусаў. Актыўным і культурна дамінуючым бокам былі ўсходнія славяне, і таму новы этнас стаў пераважна славянскім.

Пісьмовыя крыніцы, археалагічныя і лінгвістычныя матэрыялы не даюць падстаў для сцвярджэння, што ўзнікшая на Панямонні новая дзяржава – ВКЛ прыпыніла ці змяніла ход і характар працэсу балта-славянскіх кантактаў. Няма доказаў на тое, што ў выніку ўтварэння ВКЛ балты спынілі рух славян і пачалі па-новаму каланізаваць ужо асвоеныя славянамі тэрыторыі. Супярэчыць гэтаму таксама і пазнейшы нязменны характар самога працэсу кантактаў. Тэзіс Ахманьскага аб „вяртанні Летувы ў свае ранейшыя межы” можа быць расцэнена толькі як даніна традыцыйнаму, але тым не менш памылковаму стэрэатыпу балта-славянскай канфрантацыі.

Такім чынам, мы выйшлі на галоўную для нас праблему ўзаемасувязі працэсу балта-славянскіх кантактаў з генезісам ВКЛ. Тое, што ўзаемасувязь гэтая мела месца, сумненняў не выклікае. Па-першае, мы бачым, што паўстаўшая дзяржава не супярэчыла, а хутчэй адпавядала самой логіцы, дапамагала разгортванню працэсу кантактаў і сама фармавалася ў яго межах. Па-другое, працэс балта-славянскага ўзаемадзеяння на Панямонні са свайго боку значна паўплываў на генезіс ВКЛ.

На час утварэння гэтай дзяржавы балта-славянскае ўзаемадзеянне было буйнейшай гістарычнай з’явай

51 Топоров В. Н., Трубачев О. Н. Лингвистический анализ гидронимов Верхнего Поднепровья. Москва, 1962. С. 173.

у рэгіёне. Дзяржава ўзнікла ў балта-славянскай кантактнай зоне і з самага пачатку складалася як з тэрыторый славянізаваных, так і балцкіх. Шматвяковы вопыт і напрацаваныя формы арганізацыі сумеснага жыцця дапамаглі ў крытычны (па знешніх прычынах) момант арганізавацца для стварэння дзяржавы, якая мела на сабе выразны адбітак супрацоўніцтва двух этнасаў. Кіруючая дынастыя і частка арыстакратыі мелі балцкае паходжанне, сістэма дзяржаўнай арганізацыі, сістэма права, дзяржаўная мова і большасць насельніцтва – усходнеславянскае. Усё гэта дазваляе вывесці, што ўзнікненне ВКЛ можна лічыць у пэўным сэнсе часткай працэсу балта-славянскага ўзаемадзеяння.

Такім чынам, у заключэнне падсумуем:

– Міжэтнічныя кантакты на Панямонні былі часткай буйнога працэсу балта-славянскага ўзаемадзеяння (працяглacцю ў паўтары тысячагоддзя), ахапіўшага тэрыторыю сучаснай Беларусі і прылеглыя раёны суседніх краін. Сутнасцю працэсу было пранікненне славян на землі, занятыя балтамі, і асіміляцыя апошніх.

– На Панямонні названы працэс актывізаваўся ў канцы 10 – пачатку 11 ст. і працягваўся ўсё 2 тыс. н.э. У ім удаецца выдзеліць два буйныя этапы: канец 10-14 ст. і 15-20 ст. На першым этапе адбываўся актыўны каланізацыйны рух усходніх славян уздоўж рэчышчаў Нёмана і Віліі. Быў пераадолены рубеж водападзела Дняпра і Нёмана і заснаваны шэраг гарадоў. У 15 – першай палове 20 ст. павелічэнне ўсходнеславянскай (беларускай) прысутнасці адбывалася галоўным чынам за кошт пашырэння культурнага ўплыву на мясцовых балтаў. Беларусізацыя летувісаў (у асноўным сялянства) працягвалася і пасля страты беларускай культурай дамінуючай ролі ў рэгіёне на карысць польскай і расійскай культур.

– Лінеарнай мяжы між этнасамі не было, існавала вялікая кантактная зона, якая перамяшчалася ў паўночна-заходнім кірунку на прасторы прыблізна між Менскам і Вільняй.

– Важнейшай рысай балта-славянскіх кантактаў было мірнае супрацоўніцтва.

– Утварэнне ў кантактнай зоне ВКЛ не перапыніла і не змяніла характару працэсу, а, наадварот, спрыяла яго разгортванню праз прыняцце ўсходнеславянскай мадэлі дзяржаўнага будаўніцтва і старабеларускай мовы ў якасці дзяржаўнай. Адсюль сам генезіс ВКЛ можна разглядаць як праяву ці эпізод працэсу балта-славянскага ўзаемадзеяння. Сведчаннем гарманічнай узаемасувязі названых працэсаў з'яўляецца паспяховае развіццё ВКЛ, якое перарасло тэрытарыяльна не толькі Панямонне, але і ўсю зону балта-славянскага кантакту.

– Немалаважная дэталь: працэс беларусізацыі да сярэдзіны 16 ст. (да Люблінскай уніі) ахопліваў усе сацыяльныя слаі балтаў, ад сялянства да магнатэрыі і кіруючай дынастыі.

– Працэс моўнай асіміляцыі летувісаў беларусамі зафіксаваны даследчыкамі яшчэ ў 20 ст.[52]

– Шматвяковыя міжэтнічныя кантакты на Панямонні сталі часткай этнагенезу беларусаў.

52 Brückner A. Polacy a Litwini... S. 347-348, 362-363; Гринблат М. Я. К вопросу об участии литовцев в этногенезе белорусов // Вопросы этнической истории народов Прибалтики. Труды Прибалтийской объединенной комплексной экспедиции. Москва, 1959. Т. I. С. 530, 543.

# ДАДАТАК 8.

## Артыкул "Да праблемы этнічнай ідэнтыфікацыі ВКЛ"

**Публікацыя:** Краўцэвіч А. Да праблемы этнічнай ідэнтыфікацыі Вялікага Княства Літоўскага // Białoruskie Zeszyty Historyczne. Białystok, 2003. № 19. С. 212-218.

## Да праблемы этнічнай ідэнтыфікацыі Вялікага Княства Літоўскага

Этнічныя характарыстыкі Вялікага Княства Літоўскага (далей ВКЛ) нашмат часцей асвятляюцца ў працах гісторыка-публіцыстычнага характару, чым у навуковай гістарыяграфіі. Гісторыкі стараюцца не звязвацца з гэтай праблемай, напэўна, таму, што маюць свядомасць яе магутнага палітычна-ідэалагічнага кантэксту і асцерагаюцца ягонага ўплыву на свае навуковыя канструкцыі.

Ціск палітычнай ідэалогіі на навуковую гістарыяграфію ВКЛ зазначыўся ўжо з самых пачаткаў апошняй у 19 ст. Падчас русіфікацыі земляў былога ВКЛ, якая шырока разгарнулася пасля паўстання 1863   1864 г., адной з ейных ідэалагічных падпораў стала вышукванне рускіх каранёў у гісторыі гэтай дзяржавы. У расейскай гістарыяграфіі, у тым ліку навуковай, ВКЛ трактавалася як "літоўска-руская дзяржава". Менавіта такі тэрмін нязменна выступае ў назвах манаграфіяў вядомых расейскіх гісторыкаў Мацея Любаўскага, Хведара Леантовіча, Івана Лапы і інш. У гэтай назве слова "руская" разумелася як "расейская", паколькі ў Расейскай імперыі украінцы і беларусы не лічыліся самастойнымі народамі.

Канкурэнцыйная расейскай польская гістарыяграфія ў тым жа 19 ст. актыўна распрацоўвала і прапагандавала этнічна летувіскую характарыстыку ВКЛ, прадстаўляючы яго прадуктам эвалюцыі летувіскага родавага грамадства. У ходзе гэтай эвалюцыі нованароджаная дзяржава паралельна з фармаваннем унутранай структуры быццам бы ажыццявіла падпарадкаванне (захоп) вялікага абшару старажытнарускіх (у першую чаргу, беларускіх) земляў, увайшла ў унію з Польшчай і з цягам часу стала складной часткай апошняй.

У гэтых двух інтэрпрэтацыях выразна заўважна імкненне ўключыць ВКЛ у кантэкст уласнай – расейскай або польскай, гісторыі, што мела стаць доказам "законнага" валодання землямі былога Вялікага Княства ў навейшыя часы. У канцы 19 і пачатку 20 ст. здолелі сфармаваць свае погляды на ВКЛ летувіская і беларуская гістарыяграфіі. Летувіскія гісторыкі з ахвотай перанялі польскую інтэрпрэтацыю, беларусы ж удакладнілі расейскую версію і прадставілі ВКЛ як "беларуска-літоўскае гаспадарства". Таксама і ва украінскай гістарыяграфіі часам выказваліся (і выказваюцца зараз) погляды на ВКЛ як на украінскую дзяржаву.

Савецкая афіцыйная гістарыяграфія прыняла польскі варыянт этнічнай характарыстыкі ВКЛ (часам з агаворкамі, што то была дзяржава летувіскіх і беларускіх феадалаў), акцэнтуючы ўвагу на палітычным ды эканамічным прыгнёце беларусаў у гэтай дзяржаве і, такім чынам, апраўдваючы быццам бы вызвольнае далучэнне Беларусі да Расеі пры падзелах Рэчы Паспалітай.

У другой палове 80-х гадоў 20 ст. з новай этнічнай характарыстыкай ВКЛ выступіў Мікола Ермаловіч, які прадставіў яго як выключна беларускую дзяржаву. Працы гэтага аўтара даюць адзін з прыкладаў адкрытай і нават намерана

завостранай пастаноўкі праблемы этнічнай інтэрпрэтацыі ВКЛ. Катэгарычна адназначнае яе вырашэнне (напрыклад, апошняя кніга Ермаловіча так і называецца "Беларуская дзяржава – Вялікае Княства Літоўскае"), можна лічыць адной з прыкметаў публіцыстычнага характару твораў гэтага аўтара.

Усе тры названыя версіі застаюцца актуальнымі і ў нашыя дні. Этнічна летувіская інтэрпрэтацыя выступае ў большасці твораў польскіх гісторыкаў, непадзельна пануе сярод летувіскіх даследчыкаў, ейны савецкі варыянт адроджаны ў афіцыёзнай лукашэнкаўскай, а версія Ермаловіча прысутнічае ў суб'ектнай беларускай гістарыяграфіі. Найчасцей этнічная характарыстыка прадстаўленая не ў адкрытай форме, а ў кантэксце сінтэтычных і спецыяльных працаў па гісторыі ВКЛ і краінаў-спадкаемцаў гэтай дзяржавы.

Агульнай рысай названых этнічных інтэрпрэтацый з'яўляецца даволі распаўсюджаная памылка ў рэканструкцыі мінулага, а менавіта "мадэрнізацыя гісторыі". У нашым выпадку, па-першае, на сярэднявечную дзяржаўную арганізацыю пераносіцца сучаснае разуменне дзяржавы як механізму рэалізацыі нацыянальных інтарэсаў. Па-другое, пры аналізе дзейнасці сярэднявечных людзей ім міжвольна прыпісваецца веданне вынікаў гістарычнага працэсу ў новыя і найноўшыя часы. Адпаведна, дзеянні тагачасных людзей сучасныя гісторыкі матывуюць свядомым імкненнем дасягнуць той стан рэчаў, які выступае ў найноўшы час. У якасці характэрнага прыкладу можна прывесці міфалагему савецкай гістарыяграфіі пра імкненне працоўных беларускіх масаў у часы ВКЛ уз'яднацца з расейскім народам, каб разам змагацца супраць эксплуататараў і перамагчы ў Вялікай кастрычніцкай рэвалюцыі.

У ВКЛ у 16 ст. пад уплывам Рэнесансу здараліся спробы этнічнай ідэнтыфікацыі сваёй краіны як балцкай так

і русінскай (беларускай). Характэрнымі ў гэтым сэнсе былі выказванні наконт мовы. Напрыклад, Міхалон Літвін прызнаваў русінскую мову чужой і заклікаў "вярнуцца" да латыні. Адваротны прыклад – выказванне Льва Сапегі ў прадмове да Трэцяга Статуту: "... не обчым яким языком, але своим власным права списаные маем"[1]. Аднак гэтыя спробы датычылі невялікай часткі эліты і аказаліся нядоўгавечнымі. Актыўная паланізацыя шляхты і мяшчанства ВКЛ ў 17 – 18 ст. прывялі беларускую і летувіскую этнічныя супольнасці да страты эліты і ў навейшы час яны ўвайшлі як "сялянскія народы".

Менавіта сялянская ці **традыцыйная этнічная культура** стала асновай для развіцця нацыянальных рухаў летувісаў і беларусаў у 19 – 20 ст. Носьбіты гэтай культуры складалі абсалютную большасць насельніцтва Летувы і Беларусі аж да канца 60-х гадоў 20 ст. Менавіта на іх абуджэнне да ўласнага грамадска-дзяржаўнага жыцця былі скіраваныя высілкі нацыянальна свядомай інтэлігенцыі. Можна сцвярджаць, што калі б беларускія ды летувіскія сяляне аказаліся асіміляванымі (спаланізаванымі ці зрусіфікаванымі) то сёння не існавала б летувіскага і беларускага народаў. Найбліжэйшы прыклад таму – Прусія, дзе мясцовыя сяляне-балты канчаткова анямечыліся да 18 ст., а пруская самасвядомасць набыла не балцка-прускую а германа-прускую этнічную форму.

Калі мы хочам высветліць этнічны характар ВКЛ, то павінны вывучыць уплыў ягонай дзяржаўнай арганізацыі на традыцыйную сялянскую культуру летувісаў і беларусаў. Для гэтага найперш патрэбна адказаць на два пытанні:

1. **Быў гэты ўплыў свядомым ці праяўляўся аб'ектыўна?**
2. **Ці быў гэты ўплыў больш спрыяльным для аднаго і менш спрыяльным для другога этнасу?**

1 Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588: Тэксты. Давед. Камент. Мн., 1989. С. 48.

1. У гістарыяграфіі ВКЛ (асабліва ў яе польскай і летувіскай плынях) здаўна выступае традыцыя свядомага суб'ектнага ўздзеяння гэтай дзяржавы на ходу этнічных працэсаў на сваёй тэрыторыі. Як найбольш характэрнае можна прывесці выказванне Ежы Ахманьскага пра створаную летувіскім этнасам дзяржаву, якая не толькі затрымала тэрытарыяльную экспансію русінаў але вярнула страчаныя раней тэрыторыі: *"Powstałe przed połową 13 wieku państwo litewskie zjednoczyło pod swoją władzą wszystkie ziemie etnicznie litewskie i ogarnęło też ziemie etnicznie mieszane litewsko-ruskie oraz terytorium przyległe do rdziennej Litwy, zasiedlone przez Rusinów. Litwa wracała w swe stare granice etniczne sprzed ekspansji ruskiej." (Узнікшая каля сярэдзіны 13 ст. летувіская дзяржава аб'яднала пад сваёй уладай усе этнічныя летувіскія землі і ахапіла таксама этнічна змешаныя землі летувіска-рускія, а таксама тэрыторыі, прылеглыя да ўласна Летувы, заселеныя русінамі. Летува вярталася ў свае старыя перад рускай экспансіяй, этнічныя межы)"*[2].

Польская гістарыяграфія ў канцы 19 – пачатку 20 ст. прадставіла тэзіс пра ўратаванне палякамі летувісаў ад беларускай асыміляцыі праз прыняцце каталіцтва і дзяржаўную унію: *"W wieku 14 zdawało się, że ją (Litwę – A.K.) ruska kultura zaleje, ale proces ten przerwało przyjęcie katolicyzmu i zjednoczenie z Polską"* (У 14 ст. здавалася, што яе (Летуву – А.К.) зальe руская культура, але гэты працэс перарвала прыняцце каталіцызму і аб'яднанне з Польшчай)[3].

Падобныя меркаванні часам паўтараюцца і сёння. З такой ацэнкай можна спрачацца, бо, як паказаў далейшы ход падзеяў, па-першае, каталіцтва і унія ВКЛ з Польшчай не перашкаджала летувіскім сялянам пераходзіць на

2 Ochmański J. Litewska granica etnicyna na wschodzie od epoki plemiennej do XVI wieku. Poznań, 1981. S. 24.

3 Brückner A. Polacy a Litwini. Język i literatura // Polska i Litwa w dziejowym stosunku. Warszawa-Lublin-Łódź-Kraków 1914. S. 390.

беларускую мову; па-другое, напэўна не перашкаджала, а наадварот, паспрыяла хутчэйшай паланізацыі летувіскай шляхты. Прыняцце і пратэкцыю з боку дзяржавы каталіцтва выпадае ацаніць хутчэй як свядомы выбар і знакавую праяву арыентацыі краіны на заходнееўрапейскую цывілізацыю – наймацнейшую з усіх суседніх. Арыентацыя на моцнага і яго капіяванне – тыповы прыклад паводзінаў у гісторыі ўсіх народаў свету. У выпадку з ВКЛ прыняцце каталіцтва было выклікана ціскам з боку Тэўтонскага ордэну, афіцыйнай падставай існавання якога з'яўлялася пашырэнне хрысціянства ў ягонай каталіцкай версіі. Амаль усе вялікія князі літоўскія, пачынаючы ад Міндаўга, дэкляравалі (і часам выконвалі) прыняцце хрышчэння па каталіцкаму абраду[4] ў самыя напружаныя моманты ўзброенай барацьбы з Ордэнам, што паказвае на дыпламатычныя а не ідэалагічныя матывы гэтых дэкларацыяў.

По ўсёй верагоднасці, дзяржаўная арганізацыя ВКЛ не ўплывала свядома на этнічную сітуацыю ў краіне (прынамсі, мне не ўдалося знайсці гэтаму доказаў), а выкарыстоўвала для забеспячэння свайго функцыянавання больш прыдатную г.зн. больш развітую культуру з тых, што меліся ў наяўнасці. У сярэдзіне 13 ст., калі паўставала ВКЛ, летувіскі этнас быў пераважна нехрышчаны, не меў уласнай пісьмовасці, традыцый дзяржаўнага жыцця, не ўмеў будаваць гарады і ўзводзіць мураваную архітэктуру і колькасна складаў меншасць у дзяржаве. У такіх умовах пануючая дынастыя балцкага (магчыма, летувіскага) паходжання для абслугі дзяржаўнага жыцця (і ў жыцці прыватным таксама) натуральна прыняла старабеларускую культуру (афіцыйную мову, сістэму кіравання, права і г.д.). Цяжка сказаць, наколькі гэтая элітарная частка этнічнай культуры ўплывала на беларускую традыцыйную культуру, але

4 Chodynicki K. Próby zaprowadzenia chrześcijaństwa na Litwie przed 1386 r. // Przegląd Historyczny. 1918. T. 18. S. 215-319.

можна адназначна сцвярджаць, што першая не замінала развіццю другой.

2. Адказ на другое пытанне, пра большае ці меньшае спрыянне дзяржавы адной з традыцыйных культураў, можа быць сфармуляваны незалежна ад адказу на першае. Абстрагаванне ад праблемы свядомасці ці аб'ектыўнасці дзяржаўнага ўплыву на традыцыйныя культуры не перашкаджае вывучэнню наступстваў гэтага ўплыву.

Найважнейшым і хіба адзіным даступным нам крытэрыем у высвятленні тых наступстваў будуць змены (пашырэнне ці звужэнне) этнічных арэалаў беларусаў і летувісаў за час існавання ВКЛ. Ва ўмовах доўгачасовага блізкага суседства павелічэнне арэалу аднаго этнасу магчыма толькі коштам тэрыторыі другога. Прасачыўшы змены этнічнай мяжы паміж беларусамі і летувісамі ў часы існавання ВКЛ, мы можам высветліць, каму з іх больш паспрыяла паўтысячагадовае функцыянаванне дзяржавы. Адказ на гэтае пытанне будзе таксама этнічнай характарыстыкай ВКЛ і адначасова пакажа на першачарговае (а, можа, роўнае) права беларусаў або летувісаў на гістарычную спадчыну Вялікага Княства.

Змены беларуса-летувіскай этнічнай мяжы на працягу 2 тыс. н.э. добра вывучаныя ў выніку спецыяльных навуковых даследаванняў. Галоўным аб'ектам даследавання выступае якраз сялянская традыцыйная культура. На працягу паўстагоддзя пасля другой сусветнай вайны археолагі, мовазнаўцы, этнографы дэталёва вывучалі працэс балта-славянскіх (летувіска-беларускіх) кантактаў[5], якія па сваёй працягласці (сярэдзіна 1 – канец 2 тыс. н.э.) і геаграфічнаму ахопу (Беларусь і прылеглыя раёны Летувы, Польшчы, Украіны, Расеі і Латвіі) ацэньваецца як буйнейшая гістарычная з'ява рэгіёну. Сучасная навука



5 Акрамя шматлікіх кнігаў і артыкулаў, выпускаюцца спецыяльныя зборнікі: Балто-славянские исследования і Acta Baltico-Slavica.

лічыць, што вынікам гэтага працэсу стала ўтварэнне беларускага этнасу.

Навукоўцам ўдалося акрэсліць прыблізны кірунак балта-славянскай этнічнай мяжы ў 10 - 13 ст., 14 ст. і 19 ст., г.зн. напярэдадні ўзнікнення ВКЛ, у першыя этапы яго існавання і пасля ліквідацыі дзяржавы. У старажытнарускія часы этнічная мяжа праходзіла прыблізна па лініі: воз. Асвейскае – Дзісна – Пліса – Будслаў – Заслаўе – Рубяжэвічы – Дзераўная – Беліца – Слонім – Ваўкавыск[6]. У 14 ст. мяжа перасунулася з левага на правы бераг Нёмана і праходзіла прыблізна паралельна рэчышчу гэтай ракі – т.зв. “лінія Сафарэвіча”[7]. У 19 ст. беларуска-летувіскую этнічную мяжу этнолагі даследавалі “нажыва” і акрэслілі на поўнач ад Вільні[8]. Змены этнічнай мяжы паказваюць, што **на працягу існавання ВКЛ адбылося значнае пашырэнне этнічнага арэалу беларусаў коштам этнічна летувіскай тэрыторыі**.

Такім чынам прыходзім да высновы, што дзяржаўная арганізацыя ВКЛ аб’ектыўна аказалася больш спрыяльнай для традыцыйнай культуры беларусаў. Гэтую выснову дапаўняюць іншыя гістарычныя факты:

– Беларускія землі складалі асноўную частку дзяржавы і былі сабраныя ў адзіным дзяржаўным арганізме ўжо ў 14 ст., у той час як летувіскія землі поўнасцю ў складзе ВКЛ апынуліся на паўстагоддзя пазней (Жамойць).

– Літаратуры на беларускай мове ў часы ВКЛ было створана непараўнальна больш чым на мове летувіскай.

Сёння летувіскія калегі аспрэчваюць беларускасць афіцыйнай (дзяржаўнай) мовы ВКЛ у 13 – 17 ст., сцвярджаючы, што яна была штучнай канцылярскай. Аднак немагчыма аспрэчыць той факт, што лексічная аснова гэтай штучнай

6 Зверуго Я.Г. Верхнее Понеманье в 9 – 13 вв. Мн., 1989. С. 15.
7 Safarewicz J. Rozmieszczenie nazw na – iszki na pograniczu słowiańsko-litewskim [w:] Safarewicz J., Studia językoznawcze. Warszawa 1967. S. 257-259.
8 Rozwadowski J. Mapa językowego obszaru litewskiego // Polska i Litwa w dziejowym stosunku. Warszawa-Lublin-Łódz-Kraków, 1914. S. 335-339; Этнаграфія Беларусі: Энцыклапедыя. Мн., 1989. С. 549 – 550.

мовы (бо кожная афіцыйная ды судовая мова з’яўляецца штучнай) была беларускай, а не летувіскай. І ўся захаваная аграмадная актавая спадчына ВКЛ складае гістарычны патэнцыял у першую чаргу беларускай культуры яшчэ і таму, што ў большасці датычыць беларускіх земляў. Іншая справа, як гэты патэнцыял быў рэалізаваны ў найноўшай гісторыі, але тое ўжо не датычыць гісторыі ВКЛ.

Падсумаванне:

1. За два апошнія стагоддзі існавання ВКЛ беларусы і летувісы страцілі сацыяльную эліту і ўвайшлі ў навейшую гісторыю як “сялянскія” народы. Таму этнічная характарыстыка ВКЛ можа быць вызначана праз вывучэнне ўплыву гэтай дзяржавы на стан традыцыйнай сялянскай культуры беларусаў і летувісаў.

2. Уплыў дзяржавы на традыцыйныя этнічныя культуры не меў свядомага планавага характару, а адбываўся аб’ектыўна.

3. За час існавання ВКЛ этнічны арэал беларусаў значна павялічыўся коштам летувіскага.

4. Беларускія землі складалі асноўную частку тэрыторыі ВКЛ.

5. Агромністая дакументальна-пісьмовая спадчына ВКЛ, створаная на афіцыйнай старабеларускай мове, складае гістарычна-культурны патэнцыял у першую чаргу беларускага, а не летувіскага народу.

Выснова:

Функцыянаванне дзяржаўнай арганізацыі ВКЛ было больш спрыяльным для традыцыйнай беларускай чым традыцыйнай летувіскай культуры, таму з сучаснага пункту погляду ВКЛ было больш беларускай, чым летувіскай дзяржавай.

# ДАДАТАК 9.

## Дыскусія А.Краўцэвіча з Эльмантасам Мейлусам

(пераклад з польскай мовы)

**Публікацыя:** ліст у рэдакцыю часопіса “Biuletyn Historii Pogranicza” летувіскага гісторыка: Meilus Elmantas. Летува і летувісы // Biuletyn Historii Pogranicza. Białystok. 2022. №22. S. 110-111.

адказ А.Краўцэвіча: Aliaksandr Krautsevich. Odnośnie użycia pojęć Летува і летувісы w języku białoruskim // Biuletyn Historii Pogranicza. Białystok. 2022. №22. S. 112-113.

Аляксандр Краўцэвіч

## Адносна ўжывання паняццяў Летува і летувісы ў беларускай мове

Гісторык з Летувы Эльмантас Мейлус незадаволены з ужывання ў беларускай мове тэрмінаў Летува і летувісы адносна сучаснай *Летувы і летувісаў* і просіць пры чарговай публікацыі яго артыкула ў “Бюлетэні гісторыі памежжа” прысылаць яму для аўтарызацыі таксама тэкст рэзюмэ на беларускай мове. Ужыванне гэтых паняццяў беларусамі ў іх мове замест назваў Літва і літоўцы сп. Мейлус лічыць кур’ёзам і сцвярджае, што гэта *“тэрміны, якія дзіўна гучаць па-беларуску – Летува і летувісы”.* Адначасова гісторык-летувіс канстатуе: *“Я не з’яўляюся філолагам, тым больш знаўцам беларускай мовы (...)”*

Як беларус і гісторык хачу запэўніць, што ў гучанні гэтых тэрмінаў няма нічога дзіўнага. Лічу, што трохі ведаю беларускую мову, якая для мяне родная (між іншым, кірыліцай трэба пісаць *літоўцы*, а не літо**в**цы).

Наколькі мне вядома, гэты тэрмін пачалі ўжываць у пачатку XX ст. не беларусы, а палякі ў Летуве[1]. У сучаснай Беларусі гэтыя паняцці (Летува, летувісы) ужываюцца адносна сучаснага народу – паўночнага суседа беларусаў не толькі "псеўдагісторыкамі" (да якіх сп. Мейлус мяне залічвае), але шырокім колам аўтараў, у тым ліку ў энцыклапедычных выданнях.

У адчуванні беларусаў у названых паняццях няма нічога абразлівага для Летувы і летувісаў. Іх ужыванне мае мэтай не дапусціць маніпуляцыі стэрэатыпамі гістарычнай памяці, якая крыецца ў простым атаясамленні этнічнай Летувы з гістарычнай Літвой. У сапраўднасці Гістарычная Літва або Уласна Літва (Lithuania propria) – ядро і галоўная вобласць Вялікага Княства Літоўскага складаецца з Віленшчыны, Гарадзеншчыны, Наваградчыны і заходняй Меншчыны, г.зн. пераважна з этнічных беларускіх земляў[2]. Таксама Літвой і ліцвінамі/літоўцамі за мяжой называлі ўсіх жыхароў ВКЛ, сярод якіх этнічныя летувісы складалі нязначную меншасць.

Атаясамленне ў гістарыяграфіі назвы Літва ў гістарычным сэнсе з назвай сучаснай нацыянальнай дзяржавы паўночных суседзяў беларусаў аўтаматычна пераўтварае ВКЛ у нацыянальную летувіскую дзяржаву. У сапраўднасці летувісы ў ВКЛ складалі каля 10% жыхароў ад агулу насельніцтва, а летувіская мова не мела ніякага дзяржаўнага статусу і да XVI ст. не была мовай пісанай.

Хачу запэўніць рэдакцыю Бюлетэня, таксама сп. Эльмантаса Мейлуса, што ў адчуванні беларусаў названыя паняцці не маюць ніякага абразлівага сэнсу адносна летувісаў.

На жаль, у лісце сп. Мейлуса маюцца персанальныя закіды адносна маёй асобы, на якія вымушаны адказваць. Па-першае, стараюся не абмінаць актуальныя працы

1 Kamuntavičius Rūstis, Gudijos istorija. Baltarusijos istorija. Vilnius, 2022. P. 119.

2 Ochmański J. Litewska granica etniczna na wschodzie od epoki plemiennej do XVI wieku. Poznań, 1981. S. 73.

з вобласці маіх навуковых інтарэсаў, у тым ліку кнігу Стэфана Роўэла[3]; па-другое, не карыстаюся *Google translate* для перакладаў на беларускую мову, тым больш, з расейскай.

Паняцці *Летува* і *летувіскай* у памянутым рэзюмэ ўжываюцца выключна тады, калі мова пра сучасную Летуву і летувісаў.

Заклікаю да выкарыстання ў дыскусіі тых самых крытэрыяў для абодвух бакоў. Спадар Мейлус прыводзіць прыклад з ужываннем летувісамі адносна беларусаў тэрміну *гуды (gudai)*, які таксама можа быць (і часам ёсць) успрыманы як абразлівы. Але наколькі мне вядома, ніхто з беларусаў не пратэстуе супраць гэтага, бо мы лічым, што летувіская мова – прэрагатыва выключна летувісаў. Гэтаксама як беларуская – беларусаў.

3 Краўцэвіч А. Папяровы імперыялізм, або ці была Літва ў XIVст. "паганскай імперыяй"? Рэцэнзія: Роўэл С.К. Уздым Літвы: Паганская імперыя ў Цэнтральнай і Ўсходняй Еўропе 1295 - 1345 г.; пераклаў з англ. А.Мікус. Мінск: Медысонт 2015. – 424 с. // Rocznik Centrum Studiów Białoruskich=-Гадавік Цэнтра Беларускіх Студыяў. Варшава, 2020. № 6. S. 236– 246.

# ДАДАТАК 10.

## Рэцэнзія на кнігу Ахманьскі Е. “Літоўская этнічная мяжа на ўсходзе...”

**Публікацыя:** Краўцэвіч А. Мяжа, якой не было. Рэц.: Ахманьскі Ежы, Літоўская этнічная мяжа на ўсходзе ад племяннной эпохі да XVI стагодзьдзя // Arche, 2016, 2 (147). С. 13 – 96. // Rocznik Centrum Studiów Białoruskich. Гадавік Цэнтра Беларускіх Студыяў. Варшава, 2021. № 7. С. 280 – 287.

## Мяжа, якой не было

Рэдакцыя часопісу “Arche” у аб’ёмным нумары пад агульнай назвай *“Гісторыя старажытнага Наваградка”* апублікавала сярод іншага кнігу польскага гісторыка Ежы Ахманьскага “*Літоўская этнічная мяжа на ўсходзе ад племяннной эпохі да XVI стагодзьдзя*”, у перакладзе на беларускую мову.

Праца Е.Ахманьскага была выдадзена ў Польшчы ў 1981 г.[1] і цікава паглядзець на яе беларускае перавыданне, мінуўшы тры з паловай дзесяцігоддзі. Напэўна, найперш трэба адказаць на пытанне, чым невялікая кніга (84 старонкі) польскага гісторыка-літуаніста з пачатку 80-х гадоў XX ст. заслужыла ўвагу беларускіх выдаўцоў у другім дзесяцігоддзі XXI ст. Відавочна, важнасцю і цікавасцю праблемы балта-славянскіх кантактаў для сённяшняй Беларусі, якая працягвае шукаць свае карані.

Напрошваецца і другое, важнейшае пытанне: што дае гэтае перавыданне гістарычнай навуцы, бо за тры з паловай дзясяткі гадоў пры сучасным тэмпе жыцця яна, несумненна, пасунулася наперад? Пошуку адказу і прысвечаная

1 Ochmański J. Litewska granica etniczna na wschodzie od epoki plemiennej do XVI wieku, Poznań: Uniwersytet Adama Mickiewicza. 1981. 84 s. [Uniwersytet Adama Mickiewicza w Poznaniu. Seria Historia. Nr 96].

гэтая рэцэнзія. Акрамя іншага, беларускае выданне для мяне – нагода верыфікаваць уласныя ацэнкі працы Е.Ахманьскага, выказаныя яшчэ ў мінулым стагоддзі[2].

Тэхнічнае параўнанне беларускага тэксту з арыгіналам паказвае, што пераклад выкананы даволі старанна, беларусізаваная нават тапаніміка на прыкладзеных картах. Дакладна, амаль без зменаў перанесеная нумарацыя спасылак.

Праўда, здараюцца не зусім адпаведная перадача тэрмінаў і проста абдрукоўкі. Напрыклад, імя летувіскага[3] князя напісана недакладна – Будзівіл (с. 47). Трэба Будзівід – імя важнае для летувіскіх калегаў, якія лічаць гэтую асобу вялікім князем літоўскім, наступнікам Трайдэна.

Замак у Лоску, названы ў польскім арыгінале стражніцай (strażnica), не быў "вартавой вежай" (с. 30), а хутчэй заставай.

Выраз з польскага арыгіналу "Litwy ściślejszej" больш адпаведна перакладаць не "дакладнейшай Літвы" (с. 83), а "Літвы ў вузкім сэнсе". Паняцце „źródła językowe" па-беларуску больш адэкватна будзе гучаць не "моўныя" крыніцы (с. 24), а мовазнаўчыя або лінгвістычныя. Некаторыя важныя цытаты прывожу ва ўласным, больш дакладным, перакладзе з арыгіналу.

Е.Ахманьскі выбраў для даследавання частку (адзін ці некалькі этапаў), буйнейшай з'явы ў гісторыі Беларусі і Летувы – працэсу балта-славянскіх кантактаў, які працягваўся паўтара тысячагоддзі – ад VI да XXI ст. і з'яўляўся адначасова працэсам утварэння беларускага народа[4]. Выбар верхняй храналагічнай мяжы – канец XVI ст. даследчык

2 Краўцэвіч А.К. Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага. Мн.: Беларуская навука, 1998. С. 56, 104.
3 Тэрміны "Летува" і "летувіскі" тут ужываюцца адносна сучаснай краіны і яе народа, дзеля адрознення ад Гістарычнай Літвы і літоўцаў/ліцвінаў.
4 Гісторыя Беларусі: у 6 т. Т. 1. Старажытная Беларусь: ад першапачатковага засялення да сярэдзіны XIII ст. Мн., 2000. С. 324 – 325.

патлумачыў не зусім зразумела: ад таго часу *"… паходзяць дадатковыя крыніцы, а менавіта земскія інвентары, прыдатныя для кантролю вынікаў, атрыманых на іншай падставе*"(с. 14). Задачу даследавання Е.Ахманьскі акрэсліў як "*рэканструкцыя ўсходняй, найбольш зьменлівай літоўскай этнічнай мяжы ў як мага ранейшы гістарычны пэрыяд*", дзеля чаго дэклараваў комплекснае выкарыстанне разнастайных крыніц: гістарычных, археалагічных і лінгвістычных (с. 14).

Менавіта пастаянная зменлівасць і адсутнасць лінейнай этнічнай мяжы (насамрэч, існавала даволі шырокая кантактная зона) адлюстраваная ў назве гэтага рэцэнзійнага артыкула.

Е.Ахманьскі пачаў сваю працу з грунтоўнага апісання гісторыі даследавання "літоўска-рускай" этнічнай мяжы ў перыяд часу ад племянной эпохі да XVI ст. Ужо ў назве гэтага раздзелу, дакладней, у выразе "літоўска-рускай" праяўляецца характэрная рыса для ўсёй працы, менавіта, бачанне існавання летувісаў як народу ад племяннога ладу і "не бачанне" беларусаў да найноўшага часу. Яны выступаюць пад тэрмінам "русіны", "рускія" як частка ўсходнеславянскай супольнасці. І ў XVI ст. у Е.Ахманьскага беларусы – рускія, адпаведна і мова ў іх руская. (напрыклад, с. 65- 67).

Пастаяннае ўжыванне гэтага тэрміну адносна беларусаў увогуле ўласцівае польскай гістарыяграфіі, якая "не заўважае" існаванне беларускага этнасу ў Сярэднявеччы і ў Новым часе[5]. Прычына крыецца ў адсутнасці незалежнай беларускай дзяржавы ў міжваенны перыяд. Палякі і летувісы ў той час актыўна распрацоўвалі свае гістарычныя парадыгмы пры падтрымцы ўласных нацыянальных дзяржаў, беларусы ў БССР (гэтаксама і ў пасляваенны



5 Krawcewicz A. Relacje Białoruś – Wielkie Księstwo Litewskie w polskiej historiografii // Biuletyn Historii Pogranicza. 2007 №. 8. S. 17 – 22.

час да пачатку 90-х гадоў) не мелі магчымасці ствараць нацыянальную гістарыяграфію, ім навязвалі расейска-савецкую. Таму беларусы і Беларусь ігнараваліся, ды не разглядаліся як суб’ект уласнай гісторыі.

Узнікаюць цяжкасці і з разуменнем Е.Ахманьскім тэрміну “літоўцы”, бо акрамя атаясамлення яго з этнасам, які сёння мае саманазву *lietuviai* (летувісы, літоўцы) у працы можна сустрэць уласцівае для даўняй гістарыяграфіі (да сярэдзіны XIX ст.) ужыванне тэрміну “літоўцы” як адпаведніка сучаснаму паняццю “балты”. Так, на стар. 80 у Е.Ахманьскага літоўцамі з’яўляюцца таксама яцвягі.

Назва аднаго з наступных раздзелаў “*Барацьба Літвы з Руссю за палітычную мяжу да XIII ст.*” паказвае таксама на прысутнасць недакладнага, сфармаванага яшчэ ў XIX ст., гістарыяграфічнага стэрэатыпу агульнай ацэнкі сярэднявечных славяна-балцкіх міжэтнічных адносінаў як канфрантацыйных. У XIX ст. у атмасферы варожасці ўсіх да ўсіх у Цэнтральна-Усходняй Еўропе фармаваліся нацыяналізмы[6] і дух свайго часу гісторыкі часта пераносілі на даўнейшыя перыяды.

У час, калі пісалася праца Е.Ахманьскага, ужо існавала даволі значная гістарыяграфія працэсу балта-славянскіх кантактаў, якая, наадварот, сцвярджае ягоны агульны мірны, а не канфліктны характар[7]. Аднак у даследчыка менавіта **канфрантацыя/змаганне** ляжыць у аснове і праходзіць праз усю гісторыю адносінаў паміж летувісамі і беларусамі (русінамі, паводле Е.Ахманьскага). Прычым заўважна, што сам аўтар у гэтым уяўным змаганні заўзее за летувісаў.

Ведаючы вынікі працэсу кантактаў, Е.Ахманьскі не можа сцвердзіць канчатковую перамогу летувісаў над беларусамі “у змаганні за межы”, але пастаянна знаходзіць

6 Historia Europy Środkowo-Wschodniej T. 1. Lublin, 2000. S. 283.
7 Krawcewicz A. Powstanie Wielkiego Księstwa Litewskiego. Białystok, 2003. S. 88 – 93.

нагоды (нажаль, уяўныя), каб адзначыць хоць бы невялікі поспех першых.

Даследчык неаднакроць канстатуе непарыўнае пашырэнне беларускага (рускага) абшару коштам летувіскага: "*Трэба прыняць за гістарычную аксыёму зьяву няспыннага адступленьня літоўскага элемэнту на захад, г.зн. скарачэньня літоўскага моўнага абшару і пашырэньня рускага абшару. У пэрыяд, асьветлены ў пісьмовых крыніцах, г.зн. з XVI ст. па нашыя часы, не зафіксаваныя істотныя калянізацыйныя рухі літоўцаў на ўсходнім памежжы*" (с. 25). Вось яшчэ характэрная цытата: "*У ходзе шматвяковага працэсу рутэнізацыі і палянізацыі літоўскасьць на сваіх усходніх межах панесла вялізныя страты, у вялікай ступені незваротныя.* (с.14)

Е.Ахманьскі канстатуе, што на лініі Вільня – Менск летувіская мова цягам вякоў адступіла прынамсі на 150 км на захад. Пры гэтым у аўтара "*Вільня **апалячаная** раней за літоўскую вёску*" і ўжо ў XVIII ст. апынулася ў **славянскім** атачэнні (выдзяленні мае – А.К.). Пад эўфемізмам "славянскае атачэнне" крыецца беларускамоўнае сялянства (с. 14).

Е.Ахманьскі крытычна падыйшоў да вядомай працы Яна Якубоўскага з 1912 г.[8] пра міжэтнічныя адносіны, падтрымаў адныя высновы і не прыняў іншыя (с. 17 – 18). Як слушную ацэньвае выснову Якубоўскага пра шматвекавое адступленне летувіскай мовы і як памылковую – пра большасць карэнна летувіскага насельніцтва ў Вялікім Княстве Літоўскім 16 ст. у параўнанні з "рускім".

Разам з тым у працы Е.Ахманьскага можна сустрэць процілеглыя сцверджанні, напрыклад пра канчатковы "трыумф" Летувы ў выніку ўзнікнення Вялікага Княства Літоўскага: "*Барацьба Летувы з Руссю за палітычныя межы, якая працягвалася больш двух стагоддзяў, урэшце закончылася*



8 Jakubowski J. Studia nad stosunkami narodowościowymi na Litwie przed Unią lubelską. Warszawa, 1912.

*каля сярэдзіны XIII ст. трыумфам Летувы. Паўстаўшая каля сярэдзіны XIII ст. летувіская дзяржава, аб'яднала пад сваёй уладай усе этнічныя летувіскія землі і заняла таксама тэрыторыі, прылеглыя да карэннай Летувы і заселеныя русінамі. Летува вярталася ў свае старыя этнічныя межы, якія былі перад рускай экспансіяй*"[9]. Аднак, як аказалася, беларусізацыя летувісаў з утварэннем Вялікага Княства Літоўскага не спынілася і пасля даволі эмацыйнага выказвання пра перамогу Летувы Е.Ахманьскі зноў вяртаецца да будзённасці – апісання далейшага адступлення "*літоўскага элементу*" "*пад ціскам славянскага расьсялення*" (с. 35).

Ці яшчэ ў падсумаванні: "*Барацьба Літвы з Русьсю за палітычныя межы скончылася больш чым праз два стагодзьдзі змаганьняў посьпехам Літвы, якая ў першую чаргу ліквідавала неакрэплае і мала самастойнае Менскае княства разам зь меншымі княствамі – памежным Заслаўскім і Лагойскім, прымаючы іх пад сваё непасрэднае панаваньне ўжо на мяжы 12 – 13 стст…Такім чынам, у межах так званай уласна Літвы (Lithuania Propria) апынуліся амаль усе землі, населеныя літоўцамі, але адарваныя дагэтуль ад карэннай Літвы рускімі князямі*" (с. 95) У гэтых падсумаваннях недакладна амаль усё: і пра летувіскае панаванне, прынесенае з Уласна Літвы (яна тады ўжо не была этнічна летувіскай) і пра населеныя летувісамі землі (там заставаліся адно паасобныя летувіскія выспы).

Апрыёры канфрантацыйны падыход даследчыка да асвятлення гісторыі беларуска-летувіскіх адносінаў скажае сапраўдную карціну іх развіцця. Так, пасля сцвярджэння нібыта "трыумфу" Летувы ў сярэдзіне XIII ст. у чытача можа скласціся ўражанне, што прасоўванне беларускалетувіскай этнічнай мяжы на паўночны захад у гэты час было затрыманае. На самой справе ніякага заўважнага

9 Прывожу тут ўласны больш дакладны пераклад з арыгінала. У прыватнасці, у перакладзе "Архэ" апушчанае ключавое слова "урэшце" (ostatecznie). Ochmański J. Litewska granica... S. 24.

перапынку ў перамяшчэнні мяжы не было, а прыняцце старабеларускай мовы ў якасці дзяржаўнай для Вялікага Княства Літоўскага, несумненна яшчэ паспрыяла далейшай беларусізацыі летувіскага абшару.

Часам Е.Ахманьскі спрабаваў разгледзець розныя версіі развіцця беларуска-летувіскіх адносінаў падчас засялення Беларусі усходнімі славянамі, менавіта лёс г.зв. старалітоўскага насельніцтва, якое насяляла гэтыя землі да славян (с. 69). Ён назваў чатыры варыянты таго, што магло быць са "старалітоўскім насельніцтвам": 1) выцесненае на захад; 2) вынішчана фізічна; 3) патрапіла пад працяглую культурна-моўную асіміляцыю; 4) магло захаваць сваю этнічную адметнасць.

Аднак аргументацыя знайшлася толькі на карысць мірнай асіміляцыі: удзел балтаў у этнагенезе беларусаў, літуанізмы ў беларускай мове і г.д. Тым не меньш, Е.Ахманьскі не выключаў і гвалту: "*ці частка старалітоўскага насельніцтва пакінула свае паселішчы, адступаючы на захад пад ціскам славянскага расьсялення, або была зьнішчана, можа адказаць толькі археалёгія*"(с. 69). Не адказала, за мінулыя дзесяцігоддзі археалагічныя даследаванні, у тым ліку праведзеныя мною на Панямонні, не выявілі слядоў беларуска-летувіскай канфрантацыі.

Беларуска-летувіскае змаганне Е.Ахманьскі бачыў ужо ў IX – XI ст. на мяжы між Полацкай дзяржавай і Летувай (тады яшчэ кангламератам плямёнаў): "*...экспансія крывічоў на ўсходнія літоўскія землі ў IX – XI ст. ужо атрымала выразны характар тэрытарыяльнай заваёвы*" (с. 26).

Даследчык спрабаваў знайсці умацаваную "літоўска-рускую мяжу", менавіта, памежныя летувіскія замкі-гарадзішчы, пастаўленыя насупраць полацкіх, каб бараніць мяжу. "*Вартавым рускім паселішчам*" у X ст. назваў Менск на рацэ Менцы. Потым яго нібыта замяніла Заслаўе, далей

нейкі не лакалізаваны Гарадок на Бярэзіне, а "*Пэўнай супрацьвагай для Гарадка маглі быць літоўскія Бакшты...*" (с. 28), пра існаванне якіх у той час нічога невядома. У якасці летувіскай загароды "экспансіі Русі" беспадстаўна называюцца Лоск і Крэва (с. 28) і г.д. На лініі найбольшай актыўнасці Полацка ягонаму апорнаму пункту Браславу, на думку гісторыка, супрацьстаяла гарадзішча Мажулёніс на возеры Велёнай (с. 29) і г.д.

На некаторых адрэзках той нібыта ўмацаванай мяжы Е.Ахманьскі не змог знайсці нават уяўных летувіскіх адпаведнікаў беларускім замкам (с. 30) і тлумачыў гэта іх адсутнасцю, маўляў, не маглі летувісы стварыць суцэльную лінію абарончых замкаў, бо полацкі і кіеўскі націск быў надта магутным, а летувісы ў X – XII ст. яшчэ не мелі ўласнай дзяржавы (с. 31). Тым не менш, паводле Е.Ахманьскага ўжо пад канец XII ст. летувісы падпарадкавалі сабе Менскае княства (с. 34).

Падобныя нестыкоўкі ў працы трапляюцца пастаянна – прычына іх у супярэчнасці паміж прынятымі Е.Ахманьскім a priori тэзамі пра славяна-балцкую (беларуска-летувіскую) канфрантацыю, пра пачатковае Вялікае Княства Літоўскае як нацыянальную летувіскую дзяржаву і неаспрэчным фактам шматвекавой непарыўнай беларусізацыі балтаў.

Можна меркаваць, што сітуацыя ў крывічска-летувіскай памежнай зоне ў XII – XIII ст. была падобнай да гістарычнай Літвы ў Панямонні - усходнеславянскія (беларускія) гарады выконвалі функцыі адміністрацыйных і гаспадарчых цэнтраў змешанай балта-славянскай вясковай ваколіцы[10] Дзвюх ліній памежных замкаў насупраць не існавала, як не існавала і лінейнай мяжы, а была даволі шырокая кантактная зона[11].

10 Краўцэвіч А.К. Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага. Беласток 2008. С. 86.

11 Краўцэвіч А.К. Працэс балта-славянскіх кантактаў на Панямонні і ўтварэнне Вялікага Княства Літоўскага // Białoruskie Zeszyty Historyczne. Białystok, 1989. № 9. S. 13 – 15.

Е.Ахманьскі неправамерна лічыць этнічна летувіскімі гарады, названыя ў вядомым "*Спісе гарадоў рускіх дальніх і бліжніх*" "*А се Литовьскыи*", Крэва, Лоск, Гальшаны і Лебедзева (с. 29). Аўтар спісу, складзенага ў канцы XIV ст., бачыў іх часткай усходнеславянскай (рускай) прасторы ў складзе Вялікага Княства Літоўскага. Да літоўскіх сярод многіх іншых залічваў і Полацак і Віцебск[12]. Навуцы ўвогуле невядомая такая з'ява як сярэднявечны летувіскі горад, гэтаксама латышкі ці эстонскі. Гарады ў прыбалтыйскіх народаў узніклі ў выніку каланізацыі: у Латвіі нямецкай, у Эстоніі – нямецкай і дацкай, у Летуве – беларускай.

Археолагі сабралі агромністы аб'ём інфармацыі пра ўсходнеславянскія, у тым ліку беларускія, гарады, вылучылі дэфініцыю сярэднявечнага горада, менавіта крытэрыі адрознення яго ад сельскага паселішча, спецыфіку гарадской матэрыяльнай культуры ў параўнанні з вёскай[13]. У Летуве нічога падобнага няма.

Важная праблема не толькі ў вывучэнні працэсу балта-славянскіх кантактаў, але і гісторыі беларускай і летувіскай дзяржаўнасці – месцазнаходжанне Гістарычнай Літвы (Уласна Літвы, *Lithuania Propria*, Літвы ў вузкім сэнсе) як пачатковага ядра Вялікага Княства Літоўскага. Е.Ахманьскі высвятляе яе лакалізацыю па крыніцах XV - XVII ст. і экстрапаліруе на сярэдзіну XIII ст. і: "*Межы Lithuania Propria, якія можна акрэсьліць на падставе крыніц XV - XVII ст., несумненна адпавядаюць межам літоўскай дзяржавы (устаноўленым пры Міндоўгу), якая стала ядром будучага Вялікага Княства Літоўскага*" (с. 88 – 89). Тут можна пагадзіцца з усім акрамя двух слоў "літоўскай дзяржавы", таму што няма ніводнага факту пра яе этнічна летувіскі характар – гэта выдумка гістарыяграфіі XIX ст. Гэтаксама

12 Тихомиров М.Н. Список русских городов дальних и ближних // Исторические записки. Москва, 1952. Т. 40. С. 224.

13 Белорусская археология: Достижения археологов за годы Советской власти. Мн.: Наука и техника, 1987. С. 85.

недакладнае акрэсленне Е.Ахманьскім Гістарычнай Літвы як этнічна летувіскай тэрыторыі, археолагі даўно давялі, што гарады Наваградак, Гародня, Слонім і інш. былі ўсходнеславянскімі (беларускія), а вясковая ваколіца змешанай балта-славянскай[14].

Апісанне лакалізацыі гістарычнай Літвы ў Е.Ахманьскага пярэчанняў амаль не выклікае: "*Згодна з крыніцамі, уласна Літвой у XV – XVI стст. трэба прызнаць два этнічна літоўскія ваяводзтвы – Віленскае і Троцкае, Браслаў, Менск, Наваградак з так званай Чорнай Руссю (Ваўкавыск, Слонім, Камянец) і Горадню*" (с. 88) Але і тут у даследчыка не ўсё выйшла гладка. Для ілюстрацыі сваёй дэфініцыі даследчык прыклаў карту, на якой паказаныя іншыя межы Lithuania Propria: без Менска, Наваградка, Слоніма, Ваўкавыска, затое з Жамойцю. Акрамя гэтай прыкрай памылкі яўна не адпавядае рэальнасці акрэсленне Троцкага і Віленскага ваяводстваў як этнічна летувіскіх, паколькі ў XV – XVI ст. да іх належалі тыя ж Гародня, Наваградак і іншыя беларускія гарады.

Пасля Е.Ахманьскага праблемай лакалізацыі Гістарычнай Літвы, менавіта яе мяжой з Руссю, грунтоўна займаўся беларускі гісторык Міхал Спірыдонаў. Гэты даследчык не толькі ўдакладніў дэфініцыю Е.Ахманьскага, але на падставе скрупулёзнага вывучэння пісьмовых крыніцаў дакладна размежаваў асноўныя рэгіёны Вялікага Княства Літоўскага Літву і Русь. У прыватнасці, лакалізаваў 122 населеныя пункты, якія ў пісьмовых крыніцах узгадваюцца як размешчаныя на Русі, што дазволіла даследчыку вызначыць найбольш дакладную і поўную на сённяшні дзень лакалізацыю гістарычнай Літвы: "*Выкладзеныя даныя дазваляюць сцвярджаць, што ў 16 ст. сучаснікі адносілі да*

14 Краўцэвіч А.К. Працэс балта-славянскіх кантактаў на Панямонні…. С. 15. Бібліяграфія археалагічных даследаванняў гарадоў у: KraucevičA. Badania archeologiczne starożytnych miast Białorusi // Archaeologica Pragensia. Archeologický sbornik Muzea hlavního města Prahy. Praha, 2006. 18. S. 295 – 304.

*Літвы перш за ўсё этнічна летувіскія Віленскі, Вількамірскі, Ковенскі, Троцкі і Упіцкі паветы, а таксама поўнасцю ці часткова "беларускія" паветы ВКЛ: Браслаўскі, Віленскі, Ваўкавыскі, Гарадзенскі, Лідскі, заходнюю частку Мінскага, большую частку Наваградскага, амаль увесь Ашмянскі і Слонімскі*"[15].

Важнай і супярэчнай генеральнай ідэі працы Е.Ахманьскага пра славяна-балцкае змаганне за этнічную мяжу з'яўляецца выснова М.Спірыдонава падмацаваная дзесяцігоддзямі спецыяльных даследаванняў: "*гістарычныя рэгіёны ВКЛ істотна не супадалі ні з этнічнымі тэрыторыямі насяляўшых яго розных этнасаў, ні з адміністрацыйна-тэрытарыяльнымі адзінкамі ВКЛ*"[16].

Па сутнасці, праца Е.Ахманьскага – сцвярджэнне на падставе разнастайных крыніц даўняй прысутнасці балтаў (у Е.Ахманьскага – літоўцаў) на тэрыторыі Беларусі з акцэнтаваннем працяглага, да XX ст., захавання выспаў балцкага насельніцтва сярод беларускага этнічнага абшару. Гэтая прысутнасць навукоўцам даўно вядомая і нікім не аспрэчваецца. Укладам Е.Ахманьскага ў вывучэнне праблемы балта-славянскіх кантактаў з'яўляецца сістэматызацыя даных розных навуковых дысцыплін, крытычны аналіз і верыфікацыя даўнейшай гістарыяграфіі.

Разам з тым, аўтарам не заўсёды вытрыманы крытычны падыход, месцамі праявы асабістага летуанафільства зашкодзілі навуковай аб'ектыўнасці. Гэта праявілася ў сцвярджэнні пра векавое (з кантэксту вынікае, што часта збройнае) змаганне летувісаў з беларусамі за тэрыторыі, пра перамогі летувісаў у гэтым змаганні, у той час як навукова даказаны агульны мірны характар працэсу балта-славянскіх кантактаў. Сёння, прачытаўшы працу

15 Спиридонов М.Ф. "Литва" и "Русь" в Беларуси в 16 в. [у:] Наш Радавод. Гродна, 1996. Ч. 7. С. 208; Насевіч В., Спірыдонаў М. "Русь" у складзе Вялікага княства Літоўскага ў 16 ст. [у:] З глыбі вякоў. Наш край. Мн., 1996. Вып. 1. С. 4-27.

16 Спиридонов М.Ф. "Литва" и "Русь".... С. 208.

Е.Ахманьскага, староннi чалавек можа палiчыць, што ў часы, калi яна пiсалася (канец 70-х – пачатак 80-х XX ст.), Беларусь была яшчэ часткова занятая летувiскiм насельнiцтвам.

Не адпаведнае гiстарычнай рэальнасцi сцвярджэнне пра нацыянальную летувiскую дзяржаву ў сярэдзiне XIII ст., якая нiбыта затрымала славянскую каланiзацыю, гэтаксама як спроба прадставiць ядро Вялiкага Княства Лiтоўскага Гiстарычную Лiтву (*Lithuania Propria* - Уласна Лiтва-Лiтва ў вузкiм сэнсе), як выключна летувiскую этнiчную тэрыторыю.

Ранейшая мая ацэнка гэтай працы Е.Ахманьскага як памылкова ўгрунтаванай на генеральнай тэзе славяна-балцкай канфрантацыi, не змянiлася.

Беларуская публiкацыя даўняй працы Е.Ахманьскага шмат бы выйграла, пры навуковым да яе падыходзе. Менавiта, дапаўненнi/узбагачэннi каментарамi i хоць бы пералiкам публiкацый па тэме за мiнулыя тры з паловай дзесяцiгоддзi. Тым больш, што найбольш зроблена беларускiм даследчыкам. Перакананы, што польскiя цi летувiскiя выдаўцы не прамiнулi б акцэнтаваць дасягненнi свайго гiсторыка. У беларусаў здараецца iнакш. У вынiку атрымалася не прафесiйная публiкацыя помнiка гiстарыяграфii, а перадрукоўка састарэлай працы

# КАРТЫ

## Карта І. Славізацыя Беларусі



# Карта 2. Ваенныя паходы летапіснай Літвы ў 12–13 ст.



# Карта 3. Гістарычная Літва




**ВІЛЬНЯ** — сталіца ВКЛ
ПОЛАЦК — цэнтры ваяводстваў
Гародня — цэнтры паветаў
*Гомель* — іншыя населеныя пункты

граніца ВКЛ у 1569 г.
граніца ваяводстваў
сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

Гістарычная Літва («Уласна Літва»; «Літва ў вузкім сэнсе»; «Lithuaniae Propriae») па крыніцах XIV – XVI стст.
**РУСЬ** — назвы гістарычных рэгіёнаў
гарадзенска-мазавецкая мяжа па дамове 1358 г.
паўночная мяжа Літвы на XVI ст. (паводле З. Вайткавяка)
мяжа паміж Літвой і Руссю на XVI ст. (паводле М. Спірыдонава)
участкі мяжы, дакладна не вызначаныя

*аўтары Дз. Кізін, А. Краўцэвіч*

# Карта 4. Пачаткі Вялікага Княства Літоўскага



# ТЭСТЫ

## ТЭМА І. КРЫНІЦЫ

**Заўвага: могуць быць адзін ці два правільныя адказы**

**1. Як правяраюцца/верыфікуюцца звесткі пісьмовых крыніц**

| | | |
|---|---|---|
| a) | праз супастаўленне розных крыніц | |
| b) | метадамі іншых навук | |
| c) | праз характарыстыку асобы аўтара крыніцы | |

**2. Віды крыніц па пачатках ВКЛ?**

| | | |
|---|---|---|
| a) | пісьмовыя, археалагічныя | |
| b) | юрыдычныя, факталагічныя | |
| c) | мовазнаўчыя, этнаграфічныя | |

**3. Галоўная крыніца па генезе ВКЛ**

| | | |
|---|---|---|
| a) | беларуска-літоўскі летапіс | |
| b) | хронікі Тэўтонскага ордэна | |
| c) | галіцка-валынскі летапіс | |
| d) | ноўгарадскія і пскоўскія летапісы | |

**4. Віды пісьмовых крыніц па генезе ВКЛ**

| | | |
|---|---|---|
| a) | наратыўныя, актавыя | |
| b) | эпісталярый | |
| c) | літаратурныя | |

5. **Археалагічныя крыніцы**

| | | |
|---|---|---|
| a) | асвятляюць працэс балта-славянскіх кантактаў | |
| b) | асвятляюць этнічную сітуацыю на месцы дзяржаваўтварэння | |
| c) | высвятляюць датыроўку генезы ВКЛ | |

6. **Лінгвістычныя крыніцы**

| | | |
|---|---|---|
| a) | асвятляюць працэс балта-славянскіх кантактаў | |
| b) | асвятляюць геаграфію міжнароднага гандлю | |
| c) | асвятляюць этнічную сітуацыю на месцы дзяржаваўтварэння | |

7. **Этнаграфічныя матэрыялы**

| | | |
|---|---|---|
| a) | асвятляюць вынікі этнічных працэсаў у ВКЛ | |
| b) | асвятляюць рэлігійную сітуацыю ў ВКЛ | |
| c) | асвятляюць нацыянальны характар ВКЛ | |

8. **Хроніка Генрыха Латвійскага**

| | | |
|---|---|---|
| a) | узор рыцарскай паэзіі Інфлянцкага ордэна | |
| b) | асвятляе палітычную сітуацыю ў Балтыі і суседніх землях | |
| c) | пісалася святаром латгалаў у 20-я гады 13 ст. | |

9. **Дакументы Міндоўга**

| | | |
|---|---|---|
| a) | дагаворы з Вялікім Ноўгарадам і Псковам | |
| b) | прывілеі крыжакам, святарам і рыжанам | |
| c) | тастамент, дамова з Інфлянцкім ордэнам | |

**10. Дамова 1219 г.**

| | | |
|---|---|---|
| a) | групы літоўскіх князёў з галіцка-валынскімі | |
| b) | літоўскіх князёў з полацкімі | |
| c) | рыжанаў з літоўскімі князямі | |

# ТЭМА 2. ГІСТАРЫЯГРАФІЯ

**1. Пачаткі навуковай гістарыяграфіі генезы ВКЛ**

| | | |
|---|---|---|
| a) | у 19 ст. з манаграфіі Ю.Ляткоўскага | |
| b) | у беларуска-літоўскіх летапісах | |
| c) | у 19 ст. у дыскусіі між польскімі і расейскімі гісторыкамі | |

**2. Летувацэнтрычная канцэпцыя генезы ВКЛ**

| | | |
|---|---|---|
| a) | ініцыятыва летувісаў у стварэнні ВКЛ | |
| b) | заваёва/падпарадкаванне раннефеадальнай летувіскай дзяржавай суседніх беларускіх земляў | |
| c) | летувісы стварылі ВКЛ са сталіцай у Навагрaдку | |

**3. Беларусацэнтрычная канцэпцыя генезы ВКЛ**

| | | |
|---|---|---|
| a) | Міндоўг князь-уцякач у Навагрaдак | |
| b) | Міндоўг на службе Навагрaдка заваяваў сваю радзіму Літву | |
| c) | Літва – гістарычная вобласць у сённяшняй Летуве | |

**4. Агульныя палажэнні ў летувацэнтрычнай і беларусацэнтрычнай канцэпцыях генезы ВКЛ**

| | | |
|---|---|---|
| a) | Міндоўг заваяваў Наваградак | |
| b) | пачынальнікам дзяржавы быў Міндоўг | |
| c) | генеза ВКЛ адбывалася ў 13 ст. у Панямонні | |

**5. Розніцы між летувацэнтрычнай (1-я) і беларусацэнтрычнай (2-я) канцэпцыямі генезы ВКЛ**

| | | |
|---|---|---|
| a) | 1-я: пачынальнікам дзяржавы быў Міндоўг; 2-я: Наваградак | |
| b) | 1-я Літва заваявала Наваградак; 2-я Наваградак заваяваў Літву | |
| c) | 1-я ВКЛ пачыналася на Панямонні; 2-я – на Полаччыне | |

**6. Біэтнічная канцэпцыя генезы ВКЛ**

| | | |
|---|---|---|
| a) | ВКЛ – вынік саюзу Наваградка з Міндоўгам | |
| b) | ВКЛ – вынік мірнай дамовы 1219 г. паміж літоўскімі і галіцка-валынскімі князямі | |
| c) | ад балтаў дынастыя і вайсковыя дружыны, ад славян устрой, войска і грошы | |

**7. Першая сталіца ВКЛ у гістарыяграфіі**

| | | |
|---|---|---|
| a) | большасць даследчыкаў паказвае на Наваградак | |
| b) | дакладна не вызначана, дыскутуецца | |
| c) | даказана сталічнасць Вільні | |

**8. Гістарыяграфія працэсу балта-славянскіх кантактаў**

| | | |
|---|---|---|
| a) | сцвярджае шматвекавое змаганне за тэрыторыі | |
| b) | сцвярджае агульны мірны характар кантактаў | |
| c) | змаганне, у якім перамаглі балты-летувісы | |

**9. Канцэпцыя ВКЛ як “язычніцкай імперыі”**

| | | |
|---|---|---|
| a) | ВКЛ было дзяржавай язычнікаў-летувісаў | |
| b) | у ВКЛ ад пачатку было роўнапраўе язычнікаў і хрысціянаў | |
| c) | у ВКЛ дамінавала язычніцкая арыстакратыя | |

**10. Высновы Міколы Ермаловіча прынятыя іншымі гісторыкамі**

| | | |
|---|---|---|
| a) | летувіская заваёва Беларусі – міф, прыдуманы летувісамі | |
| b) | ВКЛ ад пачатку была беларускай дзяржавай | |
| c) | Гістарычная Літва – востраў бацкага насельніцтва ў беларускім абшары | |

# ТЭМА 3. ПЕРАДУМОВЫ. ПАНЯМОННЕ НАПЯРЭДАДНІ НОВАЙ ДЗЯРЖАВЫ

**1. Дэмаграфія Еўропы ў 13 ст.**

| | | |
|---|---|---|
| a) | вяршыня дэмаграфічнага ўздыму | |
| b) | востры дэмаграфічны крызіс | |
| c) | міграцыя-рассяленне заходнееўрапейцаў на ўсход і поўдзень | |

**2. Палітычная сітуацыя на Панямонні ў першай палове 13 ст.**

| | | |
|---|---|---|
| a) | узнікненне раннефеадальнай летувіскай дзяржавы | |
| b) | сімбіёз між беларускімі княствамі і балцкімі саюзамі плямёнаў | |
| c) | дзве галоўныя сілы: беларускія гарады-дзяржавы і група балцкіх кунігасаў | |

**3. Эканамічны і культурны ўзровень гарадоў Панямоння**

| | | |
|---|---|---|
| a) | не ніжэйшы за іншыя ўсходнеславянскія землі | |
| b) | эканамічная і культурная адсталасць | |
| c) | шырокія гандлёвыя сувязі, багатая матэрыяльная і духоўная культура | |

**4. Гарады ў Панямонні 13 ст.**

| | | |
|---|---|---|
| a) | цэнтры невялікіх беларускіх княстваў | |
| b) | Полацк, Друцк, Вільня, Браслаў | |
| c) | Асноўныя: Наваградак, Гародня, Ваўкавыск, Слонім | |

**5. Што такое “міжэтнічная кантактная зона” на Панямонні?**

| | | |
|---|---|---|
| a) | зона балта-славянскага змагання за тэрыторыі | |
| b) | шырокі пас да 200 км шырынёй між балтамі і славянамі з мяшаным насельніцтвам | |
| c) | нелінейная шырокая этнічная мяжа паміж балтамі і славянамі | |

**6. Характар балта-славянскіх кантактаў на Панямонні**

| | | |
|---|---|---|
| a) | канфрантацыйны | |
| b) | агулам мірны | |
| c) | супраца і сімбіёз | |

**7. Што такое “пояс бяспекі” летапісных літоўцаў?**

| | | |
|---|---|---|
| a) | землі вакол Літоўскай зямлі, на якія літоўцы не нападалі | |
| b) | беларускія землі ў саюзе з літоўцамі | |
| c) | пас заміраных з літоўцамі земляў вакол арэалу іх пражывання | |

**8. Хто каго заваяваў на Панямонні ў 13 ст.?**

| | | |
|---|---|---|
| a) | летувісы беларусаў | |
| b) | беларусы летувісаў | |
| c) | не было заваёвы, была супраца | |

**9. Галоўныя палітычныя сілы на Панямонні ў першай палове 13 ст.**

| | | |
|---|---|---|
| a) | вялікія князі кіеўскія | |
| b) | галіцка-валынскія князі | |
| c) | беларускія гарады-дзяржавы і група балцкіх ваенных правадыроў | |

**10. Дзяржаўныя арганізацыі на Панямонні ў першай палове 13 ст.**

| | | |
|---|---|---|
| a) | княствы Гарадзенскае, Наваградскае, Слонімскае, Ваўкавыскае | |
| b) | раннефеадальная летувіская дзяржава | |
| c) | саюз-канфедэрацыя летувіскіх плямёнаў | |

# ТЭМА 4. ЛАКАЛІЗАЦЫЯ ГІСТАРЫЧНАЙ ЛІТВЫ

**1. Значэнні тэрміна "Літва"**

| | | |
|---|---|---|
| a) | этнас, ядро ВКЛ, усё ВКЛ | |
| b) | назва племя, зямлі і сучаснай краіны | |
| c) | назва народа ад 10 ст. да сёння | |

**2. Лакалізацыя пачатковай Літвы**

| | | |
|---|---|---|
| a) | паміж Менскам, Наваградкам і Слонімам | |
| b) | межавала з Менскім і Наваградскім княствамі | |
| c) | паміж Вільняй і Коўнам | |

**3. Варыянты назвы "Літва" у часы ВКЛ**

| | | |
|---|---|---|
| a) | галоўная вобласць дзяржавы | |
| b) | балцкая частка ВКЛ | |
| c) | у іншых краінах называлі ВКЛ | |

**4. Лакалізацыя гістарычнай Літвы**

| | | |
|---|---|---|
| a) | Гарадзеншчына, Наваградчына, Віленшчына, заходняя Меншчына | |
| b) | сучасная Аўкштота | |
| c) | Аўкштота + Жамойць | |

**5. "Гістарычная Літва" у 19-20 ст.**

| | | |
|---|---|---|
| a) | Аўкштота і Жамойць | |
| b) | Віленшчына і Гарадзеншчына | |
| c) | землі былога ВКЛ у межах пасля Люблінскай уніі | |

**6. Тэрмін "Русь" у ВКЛ**

| | | |
|---|---|---|
| a) | рэгіён ВКЛ – былое Полацкае княства | |
| b) | Украіна | |
| c) | Галіцыя | |

**7. Чаму гісторыкі крытыкуюць лакалізацыю Літвы Ермаловічам**

| | | |
|---|---|---|
| a) | адсутнічаюць навуковыя доказы | |
| b) | па палітычных прычынах, найперш у Летуве | |
| c) | на месцы "Літвы Ермаловіча" шмат балот, лясоў і не было ніводнага горада | |

**8. Лакалізацыі Літвы летувіскімі гісторыкамі і археолагамі**

| | | |
|---|---|---|
| a) | выключна на тэрыторыі сучаснай Летувы | |
| b) | пераважна на тэрыторыі сучаснай Летувы | |

| | | |
|---|---|---|
| c) | складалася напалову з летувіскіх, напалову з беларускіх земляў | |

**9. Аўкштота ў сярэднявеччы**

| | | |
|---|---|---|
| a) | назва, невядомая славянам | |
| b) | назва Усходняй Летувы ў хроніках Тэўтонскага ордэна | |
| c) | назва сучаснай дзяржавы па-летувіску | |

**10. Лакалізацыя Літвы як галоўнай вобласці ВКЛ**

| | | |
|---|---|---|
| a) | Наваградчына, Гарадзеншчына, Віленшчына і заходняя частка Меншчыны, часта з самым Менскам | |
| b) | тэрыторыя сучаснай Летувы | |
| c) | сённяшняя Жамойць | |

# ТЭМА 5. ДЗЕЯ. УЗНІКНЕННЕ ВКЛ

**1. Пачатковы імпульс працэсу дзяржаваўтварэння**

| | | |
|---|---|---|
| a) | знешняя небяспека ад манголаў і крыжакоў | |
| b) | вайна з Галіцка-Валынскім княствам | |
| c) | усплёск мілітарнай актыўнасці племяні літва | |

**2. Беларусь і “Залатая Арда”**

| | | |
|---|---|---|
| a) | Беларусь не была заваяваная мангола-татарамі | |
| b) | Беларусь не плаціла даніну ханам | |
| c) | ханы былі сюзерэнамі беларускіх князёў | |

**3. Пачатак ВКЛ**

| | | |
|---|---|---|
| a) | заваёва Міндоўгам Наваградка | |
| b) | саюз Наваградка з Міндоўгам | |
| c) | Міндоўг заваяваў Літву як наваградскі служылы князь | |

**4. Верагодная дата стварэння ВКЛ**

| | | |
|---|---|---|
| a) | канец 12 – пачатак 13 ст. | |
| b) | каля 1235 г. | |
| c) | каля 1248 г. | |

**5. Этнічны характар дзяржавы**

| | | |
|---|---|---|
| a) | летувіскі | |
| b) | беларускі | |
| c) | біэтнічны беларуска-летувіскі | |

**6. Лівонскі (Інфлянцкі) ордэн**

| | | |
|---|---|---|
| a) | створаны ў 1202 г. як Ордэн мечаносцаў | |
| b) | дзейнічаў на латышскіх і эстонскіх землях, у 1237 г. стаў філіяй Тэўтонскага | |
| c) | быў сталым саюзнікам ВКЛ | |

**7. Канцэпцыя Выкліку-Адказу і ўзнікненне ВКЛ**

| | | |
|---|---|---|
| a) | Выклік – мангольская і крыжацкая небяспека, Адказ – стварэнне ВКЛ | |
| b) | Выклік – экспансія летувіскіх плямёнаў, Адказ – беларускія княствы стварылі з імі саюз | |

| | | |
|---|---|---|
| c) | Выклік – экспансія Масква, Адказ – саюз Літвы з Польшчай | |

**8. Уклад летувісаў у стварэнне ВКЛ**

| | | |
|---|---|---|
| a) | дынастыя, частка арыстакратыі, каля 15% насельніцтва дзяржавы | |
| b) | стварылі ВКЛ праз заваёву/падпарадкаванне беларускіх земляў | |
| c) | арганізацыя кіравання, дзяржаўная мова | |

**9. Уклад беларусаў у стварэнне ВКЛ**

| | | |
|---|---|---|
| a) | узоры дзяржаўнай арганізацыі, дзяржаўная мова | |
| b) | падпарадкоўваліся летувіскім князям на падставе дамовы | |
| c) | эканамічны патэнцыял, фінансы, большасць насельніцтва | |

**10. Раннефеадальная летувіская дзяржава**

| | | |
|---|---|---|
| a) | міф летувіскай гістарыяграфіі | |
| b) | не існавала, былі саюзы плямёнаў | |
| c) | узнікла на рубяжы 12 – 13 ст., перарасла ў ВКЛ | |

# ТЭМА 6. БАРАЦЬБА ЗА ВЫЖЫВАННЕ

**1. Першая вайна ВКЛ**

| | | |
|---|---|---|
| a) | з кааліцыяй Галіцка-Валынскага княства, Лівонскага ордэна, жамойцкіх князёў | |
| b) | з мангола-татарамі | |
| c) | з Тэўтонскім ордэнам | |

**2. Каралеўства Літва**

| | | |
|---|---|---|
| a) | не існавала | |
| b) | існавала каля 10 год | |
| c) | існавала паміж 1253 – 1260 г. | |

**3. Залежнасць ВКЛ ад Галіцка-Валынскай дзяржавы**

| | | |
|---|---|---|
| a) | некалькі гадоў пасля першай вайны 1248 – 1254 г. | |
| b) | на працягу другой паловы 13 ст. | |
| c) | ліквідаваная ў самым пачатку ВКЛ | |

**4. Полацкае княства і ВКЛ у часы Міндоўга**

| | | |
|---|---|---|
| a) | пад уплывам ВКЛ | |
| b) | незалежная дзяржава | |
| c) | у саюзе з ВКЛ | |

**5. Гарады Панямоння ў першай вайне ВКЛ**

| | | |
|---|---|---|
| a) | ваявалі на баку братоў-славян галічан і валынянаў | |
| b) | ваявалі на баку Міндоўга | |
| c) | захоўвалі нейтралітэт | |

**6. Дыпламатычная хітрасць у адносінах з Ордэнам**

| | | |
|---|---|---|
| a) | прапанова саюзу супраць Польшчы | |
| b) | абяцанка перадачы часткі тэрыторыі | |
| c) | спыненне вайны праз дэкларацыю хрышчэння | |

**7. Першы ўнутраны крызіс у ВКЛ**

| | | |
|---|---|---|
| a) | выклікаНы забойствам Міндоўга | |
| b) | канфлікт паміж наваградцамі і жамойтамі | |
| c) | міжусобная вайна за ўладу пасля забойства Міндоўга | |

**8. Хто стаў вялікім князем пасля забойства Міндоўга**

| | | |
|---|---|---|
| a) | Даўмонт | |
| b) | Войшлак | |
| c) | Транята | |

**9. Першы дуумвірат у ВКЛ**

| | | |
|---|---|---|
| a) | праваслаўныя князі Войшалк і Шварн | |
| b) | Транята і Даўмонт | |
| c) | Транята і Таўцівіл | |

**10. Лёс Даўмонта**

| | | |
|---|---|---|
| a) | забіты Міндоўгам | |
| b) | забіў Міндоўга, выехаў у Пскоў, стаў там князем | |
| c) | стаў суправіцелем Траняты пасля забойства Міндоўга | |

# ТЭМА 7. СТАБІЛІЗАЦЫЯ ДЗЯРЖАВЫ Ў ДРУГОЙ ПАЛОВЕ 13 СТ.

**1. Хто ўвёў герб “Пагоня”?**

| | | |
|---|---|---|
| a) | вялікі князь Міндоўг | |
| b) | вялікі князь Віцень | |
| c) | вялікі князь Трайдэн | |

**2. Веравызнанне Трайдэна**

| | | |
|---|---|---|
| a) | язычнік | |
| b) | праваслаўны хрысціянін | |
| c) | каталік | |

**3. Знешняя палітыка Трайдэна**

| | | |
|---|---|---|
| a) | паперамена ваяваў то з Лівонскім ордэнам, то з галіцка-валынскімі князямі | |
| b) | праводзіў актыўную наступальную палітыку, у тым ліку рабаванне польскіх земляў | |
| c) | усе высілкі на абарону краіны | |

**4. Вайна 1275-1277 г.**

| | | |
|---|---|---|
| a) | пачалася атакай ВКЛ на Драгічын | |
| b) | галіцка-валынскія князі атакавалі ВКЛ у саюзе з татарамі | |
| c) | галіцка-валынскае войска захапіла і разбурыла Гародню | |

**5. Хто быў гаспадаром ВКЛ у 1283 – 1292 г.**

| | | |
|---|---|---|
| a) | няма дакладных звестак | |
| b) | Бутэгейдэ | |
| c) | бацька Віценя і Гедыміна | |

**6. Пачатак вайны з Ордэнам**

| | | |
|---|---|---|
| a) | 1283 г. паводле ордэнскага храніста Дусбурга | |
| b) | атакай Ордэна на Гародню ў 1284 г. | |
| c) | нападам ліцвінаў на Прусы ў 1283 г. | |

**7. Прынцып вядзення войнаў у пачатку ВКЛ**

| | | |
|---|---|---|
| a) | не дапускаць вайны на два фронты | |
| b) | абарона ад Ордэна на захадзе і экспансія на ўсходзе | |
| c) | пастаянныя рабаўнічыя напады на Польшчу і Русь | |

**8. Плацдарм ВКЛ у паўночнай Смаленшчыне**

| | | |
|---|---|---|
| a) | ахопліваў тэрыторыю, з якой выцякалі буйнейшыя рэкі | |
| b) | забяспечваў кантроль на рачнымі шляхамі Усходняй Еўропы | |
| c) | месца канцэнтрацыі войскаў для войнаў з Масквой | |

**9. Дактрына знешняй палітыкі Віценя**

| | | |
|---|---|---|
| a) | вайна на захадзе, мір на усходзе | |
| b) | абарона ад Тэўтонскага ордэна, захаванне існуючага стану на Русі | |
| c) | наступальная адносна Прусіі і Польшчы | |

**10. Адносіны ВКЛ з польскімі княствамі**

| | | |
|---|---|---|
| a) | саюзныя з Мазовіяй, варожыя з іншымі | |
| b) | абарона ад ваеннай экспансіі Польшчы | |
| c) | рабаўнічыя паходы на блізкія і аддаленыя польскія землі | |

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Тэма 1** | | | | | | | | | |
| **1.** a,b | **2.** a,c | **3.** c | **4.** a,b | **5.** a,b | **6.** a,c | **7.** a,c | **8.** b,c | **9.** b | **10.** a |
| **Тэма 2** | | | | | | | | | |
| **1.** a,c | **2.** a,b | **3.** a,b | **4.** b,c | **5.** a,b | **6.** a,c | **7.** a,b | **8.** b | **9.** a,c | **10.** a |
| **Тэма 3** | | | | | | | | | |
| **1.** a,c | **2.** b,c | **3.** a,c | **4.** a,c | **5.** b,c | **6.** b,c | **7.** a,c | **8.** c | **9.** c | **10.** a |
| **Тэма 4** | | | | | | | | | |
| **1.** a,b | **2.** b | **3.** a,c | **4.** a | **5.** c | **6.** a | **7.** a,c | **8.** b | **9.** a,b | **10.** a |
| **Тэма 5** | | | | | | | | | |
| **1.** a | **2.** a,b | **3.** b | **4.** c | **5.** c | **6.** a,b | **7.** a | **8.** a | **9.** a,c | **10.** a,b |
| **Тэма 6** | | | | | | | | | |
| **1.** a | **2.** b,c | **3.** a | **4.** a,c | **5.** b | **6.** c | **7.** a,c | **8.** c | **9.** a | **10.** b |
| **Тэма 7** | | | | | | | | | |
| **1.** b | **2.**a | **3.** a,b | **4.** a,b | **5.** a | **6.** a,b | **7.** a | **8.** a,b | **9.** a,b | **10.** a,c |



## Аляксандр Канстанцінавіч Краўцэвіч

Доктар гістарычных навук, прафесар-візітатар Варшаўскага універсітэта. Нарадзіўся 13.09.1958 г.у в. Лупачы Мастоўскага раёна. Скончыў гістфак БДУ ў 1981 г., аспірантуру ў Маскве Інстытута археалогіі АН СССР (1984 г.), там жа ў Маскве абараніў кандыдацкую дысертацыю (1988 г.). Працаваў навуковым супрацоўнікам у НАН Беларусі, Інстытуце рэстаўрацыі, намеснікам Старшыні Дзяржаўнай інспекцыі аховы гістарычна-культурнай спадчыны, першым прарэктарам Гарадзенскага універсітэта. У 1995 – 1997 г. стажыраваўся ў Ягелонскім універсітэце (Кракаў). У 1998 г. абараніў доктарскую дысертацыю па тэме генезісу ВКЛ.

Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў (ад 2005 г.), лаўрэат Прэміі імя Францішка Багушэвіча (2013 г.), узнагароджаны медалём “100 год БНР” (2018 г.).

Як гісторык і літаратар выдаў больш за 15 навуковых і навукова-папулярных кніг.




ISBN 978-5-00076-061-1